## ЗЬМЕСТ

# INHALTSVERZEICHNIS

# TABLE OF CONTENTS

# Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны

Сымон Брага

Нястрымная актыўнасьць, няўседны непакой, рухавасьць, з частымі пераездамі й падарожжамі, — яскравыя, тыпова рэнэсансавыя прыкметы характару доктара Францішка Скарыны. Быў і жыў ён шмат дзе, дзеіў, як ведама, у важнейшых палітычна-культурных цэнтрах найменш сямёх краёў Эўропы — Літвы (Беларусі), Польшчы, Даніі, Італіі, Чэхіі, Прусіі, Маскоўшчыны. Дзеля гэтага, між іншым, і паўстаў не малы клопат пры раскрываньні фактаў ягонага геаграфічна так шматасяродкавага й на прасторы Эўропы гэтак шырака раськінутага, жыцьцяпісу. Гэта адна з важных прычынаў вялікае павольнасьці ў выяўленьні абставінаў жыцьця й дзейнасьці выдатнага Палачаніна, праца над чым, хоць трывае ўжо блізу два стагодзьдзі, дый усё яшчэ далёкая ад навет і прыблізнага яе завяршэньня.

З увагаю на прыпадаючыя ў 1965 годзе 425-я ўгодкі сьмерці доктара Францішка Скарыны — сяньня ведама, што памёр ён у 1540 годзе, — гэтта даецца кароткі гістарычны агляд ходу паступовае геаграфічнае лякалізацыі ягонага жыцьцяпісу. У працы прыводзяцца інфармацыі аб усіх існуючых публікацыях актаў і дакумэнтаў ды важнейшае навуковае літаратуры датычнае паасобных, зьвязаных зь біяграфіяй доктара Скарыны, асяродкаў. Яна абыймае ўсю ведамую ў гэтай галіне дакумэнтацыю, улучна з найнавейшай, выяўленай скарынаведнымі росшукамі апошніх год Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нядаўна выяўлены факт бытнасьці Францішка Скарыны ў Даніі, праўдападобная канфіската ягоных друкаў у Вроцлаве, справа магчымае сустрэчы доктара Скарыны з доктарам Марцінам Лютэрам у гадох 1532—1533 і некаторыя важныя іншыя пытаньні Скарынавае біяграфіі, гэтым кароткім рэфэратным нарысам ставяцца ў скарынаведнай літаратуры першы раз.

# 1

На зачатках навуковага зацікаўленьня асобаю выдатнага беларускага гуманісты й першадрукара, доктара Франьцішка Скарыны, пры канцы XVIII стагодзьдзя, калі веда аб ім яшчэ ня грунтавалася на актавых ці летапісных дадзеных, а абмяжоўвалася сьціплымі весткамі зачэрпнутымі зь ягоных-жа кнігаў, — ведамыя былі ўсяго тры асяродкі зьвязаныя зь яго жыцьцяпісам. Падаў іх сам Скарына ў прыпісках да выдадзеных ім кнігаў. На пачатку й пры канцы кажнае зь іх, а ў некаторых і між паасобнымі разьдзеламі тэксту, адцемліваецца, што паходзіць ён «із слаўнага града *Полацка»* ды што кніга «дакананая», «выцісьненая» й «выданая» «у вялікім Старым Месьце *Праскім»,* або, як гэта ёсьць у віленскіх выданьнях, «ва слаўным месьце *Віленскім»*. Дык пра Полацак, Вільню ды Прагу, як важныя апорныя пункты Скарынавае біяграфіі, было ведама з самага пачатку, як толькі цікавасьць да ягонай асобы й кніжнае спадчыны ў навуковай літаратуры зарадзілася.

Ды й тут паўстала няяснасьць: ня было пэўнасьці, пра якую гэта Прагу ідзе, бо ведамыя былі дзьве — чэская, і, насупраць Варшавы, на правым беразе Віслы, польская. Некаторыя першыя дасьледнікі Скарынавага жыцьцяпісу канца XVIII й пачатку XIX стагодзьдзяў проста не дапушчалі, каб была патрэба ехаць з Полацка аж да далёкае чэскае Прагі па тое, каб там выдаваць нікому ў Чэхіі незразумелыя й непатрэбныя, друкаваныя кірыліцай, кнігі, а пасьля іх ізноў везьці вялікі кусок дарогі на беларускія землі ды ў той самы Полацак. Выглядала гэта нелягічна, недарэчна, і, дзеля гэтага, непраўдападобна. Вось таму адзін зь першых дасьледнікаў Скарынавае выдавецкае спадчыны, І. Штрытэр, у сваім нарысе 1783 году аб Скарынавай Біблії й падаваў, што праскія Скарынавыя кнігі былі друкаваныя ў Празе, што пад Варшавай.[1]

Ды з думкаю аб варшаўскай Празе, як калысцы Скарынінскіх друкаў, не хацеў ніяк пагадзіцца тагачасны выдатны чэскі мовавед, ведамы «бацька» чэскае й усяе славянскае філялёгіі, Язэп Даброўскі. Даброўскаму, які быў уніклівым дасьледнікам, не давала супакою думка, што ўсё-ж можа Скарына друкаваў свае кнігі ня ў Празе польскай, як цьвердзіў Штрытэр, а ў Празе чэскай. Пытаньне гэтае намагаўся ён і выясьніць падчас свайго навуковага падарожжа па Швэцыі й Расеі, адбытага ў 1792 годзе з даручэньня Чэскага Навуковага Таварыства ў Празе. Карціла яму таксама вельмі пабачыць на свае вочы ўрэшце й самыя, вельмі рэдкія, Скарынавыя кнігі, пра існаваньне якіх ён чуў, а пра выгляд іх нешта ведаў толькі з вопісаў іншых. Публічныя й прыватныя бібліятэкі Прагі, як і ўсяе Чэхіі, тады ня мелі аніводнае кнігі Скарынавага друку. Толькі 75 год пасьлей, у годзе 1867, Бібліятэка Чэскага Народнага Музэю ў Празе дастала ў падарку ад ведамага расейскага славістага й выдатнага беларусаведа, прафэсара Пётры Бязсонава, адну біблійную кнігу Скарынавага праскага друку — Кнігу Сыраха.

---

[1] Штритер И. Описание перваго издания в печать и перевода на российский язык священной Библии в 1517-1519 годах. Опыт трудов вольнаго Российскаго собрания при Императорском Московском Университете. Ч. VI, Москва 1783, б. 193.

Хоць падчас свайго падарожжа па Расеі Язэп Даброўскі і ў Пецярбурзе, і ў Маскве Скарынавыя кнігі зь вялікаю ўвагай і павагай аглядаў і пералістваў, адылі канчатковага адказу на сваё пытаньне — у якой гэта Празе яны друкаваліся — у іх ён усё-ж не знайшоў. Падчас паваротнае дарогі з Расеі Даброўскі наведаў і Варшаву, каб самому зірнуць і на другую Прагу, Прагу падваршаўскую. Гэтта ўразіў яго ізноў факт, што пра доктара Скарыну ды ягоныя кнігі ў Варшаве ня толькі ніхто нічога ня ведаў, але навет і ня чуў, улучна з выдатным польскім кнігаведам, каралеўскім бібліятэкаром, былым дырэктарам Варшаўскае Публічнае Бібліятэкі, Янам Альбэртранды. Палажэньне было парадаксальнае: у канцы XVIII стагодзьдзя ані ў ваднэй зь дзьвёх Прагаў ня было й спаміну пра Скарынавыя друкі, хоць адна зь іх была напэўна месцам, дзе блізу тры стагодзьдзі перад гэтым на працягу цэлых трох год доктар Скарына выдаў 23 кнігі Бібліі свайго перакладу. Скарынавых кнігаў не знайшоў Даброўскі й у бібліятэках Кракава, куды, падарозе, ён таксама зазірнуў.

Хоць знайсьці Скарынавыя кнігі ў Польшчы Даброўскаму не паручыла, аднак, загадку пра Скарынавую Прагу, якая яго гэтак непакоіла. ён там усё-ж выясьніў. У Варшаве, найперш ад таго-ж Альбэртранды, ён даведаўся, што падваршаўская Прага ў Скарынавую пару была зусім малым, нікому шырэй няведамым пасёлкам. Калі Скарына ў сваіх кнігах піша, што «дакананыя» яны ды «выціснутыя» «ў слаўным, вялікім Старым Месьце Праскім», з гэтага ясна, што гутарка тут можа быць толькі пра Прагу чэскую, ды канкрэтна пра ведамую яе часьць — Старое Места. Гэтак Даброўскі разблытаў у канцы першае няяснае пытаньне ў галіне геаграфічнае лякалізацыі Скарынавага жыцьцяпісу. Як часта бывае, праўда аказалася на баку інтуіцыі, а не, — як выглядала, лёгікі й розуму. Аб выніках свайго навуковага падарожжа, аб пошуках Скарынавых друкаў ды пра ўдакладненьне месца выхаду ягоных праскіх кнігаў, Даброўскі паведаміў у 1795 годзе ў зборніку працаў чэскага Каралеўскага Навуковага Таварыства ў Празе.[2] Не зважаючы на гэта, некаторыя аўтары — для прыкладу А. Л. Шлёцэр,[3] Мітрапаліт Аўген,[4] Н. Грэч,[5] і ў першай чверці XVIII стагодзьдзя, як месца друку Скарынавых праскіх кнігаў, падавалі ўсё яшчэ Прагу падваршаўскую.

---

[2] Dobrowsky Josef. Literarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland. Neuere Abhandlungen der k. Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften. Prag 1795, б. 183. Справаздача з падарожжа была выдадзеная ў 1796 г. й асобнаю адбіткай.

[3] Schlözer August Ludwik. НЕСТОР. Russische Annalen in ihrer Slavonischen Grund Sprache... I. Teil. Göttingen 1802, б. 86. Кніга выйшла пазьней і ў расейскім перакладзе: Шлёцер Август Людвік. НЕСТОР. Русския летописи. Том I. Санктпетербург 1809, б. 134.

[4] (Евгений Митрополит). Франциск Скорина. Биография российских писателей. «Сын отечества», ч. 71, № 30. Санктпетербург 1821, б. 169.

[5] Гречь Николай. Опыт краткой истории русской литературы. Санктпетербург 1833, б. 68.

Пасьля ўдакладненьня месца выхаду Скарынавых праскіх выданьняў, на працягу больш паўстагодзьдзя жыцьцяпісныя ведамкі пра доктара Скарыну абмяжоўваюцца й далей тымі-ж трымя, зь ягоных-жа кнігаў ведамымі, асяродкамі: Полацкам, Вільняю, Прагай. Было гэтак аж да 1849 году, да часу, калі Язэп Мучкоўскі апублікаваў тэксты прамацыйных запісаў філязафічнага факультэту Кракаўскага Унівэрсытэту XVI стагодзьдзя.[6] Польскія дасьледнікі зразу-ж зацемілі, што сярод пералічаных у ўнівэрсытэцкіх запісах студэнтаў, якія ў 1506 годзе здабылі ступень бакаляўра, ёсьць і Fran. de Poloczko, Litphanus — «Франьцішак з Полацка, Ліцьвін». Пазьней, у ўпісной кнізе студэнтаў таго самага ўнівэрсытэту быў знойдзены й другі, два гады ранейшы, запіс, які сьцьвярджаў, што сярод новапрынятых у 1504 годзе на ўнівэрсытэт студэнтаў быў і Franciscus Luce de Ploczko 2 gr. — «Франьцішак, сын Лукаша з Полацка, 2 гр. (заплаціў 2 грошы ўпіснога)». Хоць актавыя тэксты з гэтым запісам былі выдадзеныя А. Хмелем толькі ў 1892 годзе,[7] аднак дасьледнікам Скарынавага жыцьця ведамы ён быў ужо й перад гэтым. Для прыкладу, П. Валадзіміраў пры пісаньні свае манаграфіі аб Скарыну, што выйшла ў 1888 годзе, меў тэкст гэтага запісу ад С. Л. Пташыцкага, які выпісаў яго з актавых кнігаў Кракаўскага ўнівэрсытэту.[8]

Не зважаючы на тое, што ў двух лякацічных актавых запісах Кракаўскага ўнівэрсытэту не пададзена навет і Скарынавае прозьвішча, а толькі ягонае імя, польскія дасьледнікі, — у першую чаргу гісторык літаратуры, М. Вішнеўскі, — адразу прызналі, што ідзе гэта не пра каго іншага, а якраз пра Франьцішка Скарыну. Пазьней трапнасьць гэтага дапушчэньня была пацьверджаная й усе сумлевы пастароненыя з адркыцьцём у 1892 годзе падуанскіх актавых запісаў аб Скарыну. У іх, побач прозьвішча «Скарына» стаяла тое самае імя «Франьцішак», тое-ж бацькава імя «Лукаш», ды было паўторанае й тое самае месца паходжаньня — Полацак. З гэтага ясна вынікала, што ў падуанскіх і кракаўскіх запісах гутарка ідзе пра адну й тую самую асобу й што прозьвішча студэнта кракаўскага ўнівэрсытэту «Франьцішка, сына Лукаша з Полацка» — Скарына.

З выяўленьнем каля паловы XIX стагодзьдзя кракаўскіх унівэрсытэцкіх запісаў быў зроблены першы важны крок у галіне геаграфічнага расшырэньня веды пра круг Скарынавае жыцьцёвае дзейнасьці ды быў устаноўлены *чацьверты* культурны асяродак, зьвязаны з Скарынавым жыцьцяпісам — *Кракаў*. Гэта месца пачаткаў ягоных вышэйшых студыяў у галіне Septem artes liberales — «сямі навук вызваленых» — у лік якіх тады ўходзілі граматыка, рыторыка, лёгіка, арытмэтыка, геамэтрыя, музыка, астраномія.

---

[6] Muczkowski Josephus. Statuta nec non liber promotionum philosophorum ordinis in Universitate studiorum Jagellonica ab anne 1402 ad annum 1849. Cracoviae 1849. б. 144.

[7] Chmiel Adam. Album Studiosorum Universitatis Cracoviensis. Tomus II. Cracoviae 1892, б. 91.

[8] Владимиров Петр Владимирович. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатныя издания и язык. Общество Любителей Древней Писменности. Том XC. Санктпетербург 1888, б. 52.

Запісы аб прыняцьці Франьцішка Скарыны на ўнівэрсытэт ды атрыманьні пазьней ім ступені бакаляўра — гэта вельмі сьціплыя й тымчасам адзіныя ведамыя факты з пары Скарынавага прабываньня на ўнівэрсытэце ў Кракаве. Хоць прайшло ўжо больш ста год ад іх публікацыі, ніякіх дадатковых архіўных, летапісных ці нейкіх іншых дадзеных з гэтае пары Скарынавага жыцьця ніхто ня выявіў. Нічога пакульшто ня ведама й аб тым, у Кракаве, ці на нейкім іншым унівэрсытэце Эўропы Скарына здабываў і свой першы дактарат — дактарат у галіне «навук вызваленых».

Дзевяць год пасьля першае публікацыі запісаў аб Скарыну Кракаўскага ўнівэрсытэту былі надрукаваныя й два кракаўскія архіўныя дакумэнты, зьвязаныя з доктарам Скарынам. Датычылі яны куды пазьнейшае пары ягонага жыцьця. Апублікаваў іх у зборніку Віленскае Археаграфічнае Камісіі Маўрыцы Круповіч ў 1858 годзе.[9] Гэта дзьве, пісаныя палацінску, каралеўскія прывілейныя граматы. Аднэю зь іх доктар Скарына быў узяты пад каралеўскую ахову перад перасьледамі за даўгі нябожчыка брата Івана Скарыны, а другою ён быў выняты з пад звычайнае судовае юрысдыкцыі й у будучыні мог падлягаць толькі суду самога вялікага князя й караля Жыгімонта Казімеравіча. Значаньне гэтых прывілейных граматаў для жыцьцяпісу доктара Скарыны, абставіны й прычыны іх выстаўленьня ў паўніні дасьледнікамі былі асэнсаваныя толькі із знаходам каля 1926 году актаў спадчынных справаў Івана Скарыны ў Пазнані ды выяўленьня пазьнейшых пазнанскіх прыгодаў доктара Скарыны. Тады-ж і выясьнілася, што выстаўленыя ў Кракаве граматы датычылі ня нейкіх няведамых нам бліжэй падзеяў кракаўскіх, а пазнанскіх. Дакладней справа гэтая й будзе разгледжаная крыху далей, пры паданьні абставінаў выяўленьня места Пазнані, як важнага асяродку ў жыцьці доктара Скарыны.

## 3

Ад часу першага архіўнага абгрунтаваньня сувязі Скарынавае біяграфіі з Кракавам, ад 1849 году, на працягу больш сарака далейшых год у галіне геаграфічнае лякалізацыі Скарынавага жыцьцяпісу ізноў нічога новага. Калі ў 1888 годзе Пётра Валадзіміраў публікаваў сваю дакторскую манаграфію аб доктару Скарыну, пра ўсяго чатыры ведамыя асяродкі ягонага жыцьцяпісу — Полацак, Вільню, Прагу, Кракаў, — мог ён толькі й падаць. Але ўжо чатыры гады пазьней перад дасьледнікамі неспадзеўкі раскрываецца зусім новая ды вельмі важная балонка Скарынавага жыцьцяпісу з новым пунктам на карце Эўропы. У 1892 годзе польскі дасьледнік старасховаў Італіі, Станіслаў Віндакевіч, паведаміў, што ў унівэрсытэцкім архіве ў Падуі натрапіў ён на тры актавыя запісы 1512 году датычныя экзаменаў і прамоцыі там Скарыны на доктара лекарскіх навук ды адначасна падаў і кароткія выпіскі з гэтых актаў.[10]

---

[9] Крупович Маврикий. Собрание государственых и частных актов, касающихся истории Литвы и соединеных с нею владений (от 1387 до 1710 года), изданное Виленскою Археологическою Комиссиею под редакциею ученаго секретаря Маврикия Круповича. Ч. I. Вильно 1858, б. 35-37, № XXIX і XXX.

[10] Windakiewicz St. Materyały do historyi Polaków w Padwie. Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. Tom VII. Kraków 1892, б. 158.

Гэтае важнае адкрыцьцё, што здарылася неўзабаве пасьля паявы Валадзіміравай манаграфіі аб Скарыну, якая культурна-гістарычнае значаньне Скарынавае дзейнасьці й само ягонае імя шырэй спапулярызавала сярод навукоўцаў, было тады сярод зацікаўленых асобаю Скарыны славістых не малою сэнсацыяй. Прафэсар Аляксандра Брукнэр на Віндакевічава паведамленьне зьвярнуў увагу расейскага дасьледніка І. Шляпкіна. Той, не марудзячы, пасьпяшаўся ў Падую, расшукаў тамака ўнівэрсытэцкія актавыя запісы, парабіў зь іх водпісы ды яшчэ ў тым самым 1892 годзе арыгінальны лацінскі іх тэкст апублікаваў у пецярбурскім часапісе «Журнал Министерства Народного Просвещения» з прысьвячэньнем свае публікацыі П. Валадзіміраву.[11]

Публікацыя трох падуанскіх актавых запісаў аб Скарыну, зробленая Шляпкінам, была важным дапаўненьнем да даволі ляканічнага паведамленьня Віндакевіча, хоць была яна й не бязь хібаў з навуковага гледзішча. Калі супаставіць тэкст апублікаваны Шляпкінам з фатаадбіткамі арыгіналаў, што знаходзяцца ў распараджэньні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, даецца заўважыць паважныя недакладнасьці й памылкі, зробленыя пры нялёгкім адчытваньні старавечнага скарапіснага лацінскага актавага запісу. Апрача гэтага, дапушчаныя й неапраўдальныя з навуковага гледзішча пропускі. Прыкладам, імёны й прозьвішчы 24 прафэсароў, якія складалі экзаменацыйную камісію падчас Скарынавага дакторскага экзамену, а якія пададзеныя пры канцы трэйцяга актавага запісу, Шляпкін у сваей публікацыі проста прапусціў, як малаважную дэталь, збыўшы іх словамі «24 подписи присутствовавших». Ды, не зважаючы на ўсе свае заганы, Шляпкінава публікацыя была важнаю дапамогай дасьледнікам для ўяўленьня значаньня й вагі ў біяграфіі доктара Скарыны новаадкрытага яе *пятага* геаграфічнага асяродку — італіянскае *Падуі*.

Прайшло блізу семдзесят год ад часу Віндакевічавага адкрыцьця, пакуль ведамкі пра падуанскі эпізод Скарынавага жыцьцяпісу былі йзноў паважна папоўненыя адкрыцьцём яшчэ аднаго, чацьвертага, падуанскага актавага дакумэнту — запісу аб тым самым экзамене Скарыны, але зробленым не ў унівэрсытэцкіх актавых кнігах, а ў кнізе падуанскае біскупскае курыі. Запіс гэты быў выяўлены ў 1960 годзе ў выніку руплівых пошукаў сп. Янкі Садоўскага. Хоць запіс гэты коратка паўтараў зьмест папярэдня ведамых падуанскіх актаў аб Скарыну, найперш трэйцяга зь іх, ды некаторымі важнымі дэталямі ён іх істотна папоўніў, а, адначасна, даў падставу для раскрыцьця новых краёў Эўропы ахопленых Скарынавай дзейнасьцяй. Дакладней справа гэтая будзе разгледжаная ў вадным з далейшых разьдзелаў гэтага нарысу.

## 4

Пасьля адкрыцьця Віндакевічам Скарынавых падуанскіх актаў, праз цэлае чверць стагодзьдзя ізноў нічога новага ня было выяўлена да пытаньня тэрытар'яльнага засягу Скарынавага жыцьцяпісу, да пары, пакуль у збор-

---

[11] Шляпкин И. К биографии Франциска Скорины. «Журнал Министерства Народнаго Просвещения», № 4. Санктпетербург 1892, б. 382-385. Фотоадбіткі, тэксты запісаў, пераклады глядзі ў: „Źnič", Nr. 61, 62-63, 64-65. Rym 1961-1962.

ніку Расейскае Акадэміі Навук з 1918 году А. Мілавідаў не падаў лацінскія тэксты чатырох новазнойдзеных дакумэнтаў, зьвязаных із Скарынавым прабываньнем у Каралеўцы (Кеніґсберґу) на двары прускага герцага Альбрэхта.[12] Із зьместу дакумэнтаў вынікала, што вясною 1530 году доктар Скарына прыехаў зь Вільні да Каралеўца ды, дзеля няведамых прычынаў, хутка ізноў вярнуўся назад да Вільні. Водпісы гэтых актаў, якія знайходзіліся ў Кеніґсбэрскім Дзяржаўным Архіве, Мілавідаў раздабыў ад кагосьці яшчэ ў 1914 годзе, ды з прычыны выбуху Першае Сусьветнае Вайны, у друку яны змаглі паказацца толькі чатыры гады пасьлей. Мілавідава публікацыя раскрыла перад дасьледнікамі *шосты*, па чарзе ведамасьці, асяродак зьвязаны із Скарынавай біяграфіяй — прускі *Каралевец*.

Як відаць із супастаўленьня тэксту актаў апублікаваных Мілавідавам з фотастатнымі адбіткамі арыгіналаў, якія мае Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Ню Ёрк), і Мілавідава публікацыя не безь некаторых важных памылак, што паўсталі ці пры адчытваньні й перапісваньні, ці пры друку. Памылкі датычаць датаваньня дакумэнтаў і некаторых важных фактаў зьместу, прыкладам, разам з доктарам Скарынам Каралевец пакінула не адна асоба, а дзьве — і лекар, і друкар. Таксама чацьверты ліст герцага Альбрэхта, ліст да віленскага ваяводы Гаштаўта, апублікаваны ў Мілавідава ня ўвесь, а толькі канцавая яго частка. У 1953 годзе беларускі пераклад усіх чатырох кеніґсбэрскіх дакумэнтаў, зроблены а. др. П. Татарыновічам на падставе апублікаваных Мілавідавам лацінскіх іх тэкстаў, быў надрукаваны ў «Запісах» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.[13] Прычына й абставіны пераезду доктара Скарыны да Каралеўца, а пасьлей раптоўнага хуткага яго павароту да Вільні мала высьненыя й дагэтуль. Ніякіх новых дадатковых дакумэнтаў, ці вестак, да гэтага эпізоду Скарынавага жыцьцяпісу ад часу публікацыі Мілавідавам тэксту Кеніґсбэрскіх актаў, да гэтай пары не зьявілася. Важна толькі адцеміць, што дапушчэньні шмат якіх аўтараў аб тым, што доктар Скарына паехаў у Каралевец дзеля зьнішчэньня ягонае друкарні вялікім пажарам Вільні 1530 году, беспадстаўныя, бо пажар места здарыўся 2 ліпеня 1530 году, ці колькі тыдняў пасьля павароту доктара Скарыны з Каралеўца. А што Скарынавая друкарня не згарэла ў гэтым пажары, сьветчыць тое, што дзервяныя дошчачкі з рэзанымі на іх узорамі заставіцаў, якія Скарына ўжываў пры друку Апостала й Малое Падарожнае Кніжыцы, добра захаваліся аж да канца XVI стагодзьдзя й былі скарыстаныя у 1596 годзе пры друку кнігаў у друкарні Віленскага Сьвятатраецкага Брацтва.

---

[12] Миловидов А. В. Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины. Известия Отделения Русскаго Языка и Словесности Российской Академии Наук, 1917. Том XXII. Петроград 1918, б. 221-226.

[13] Брага С. Кароль Альбрэхт і Скарына. Дакумэнты зь Дзяржаўнага Архіву ў Каралеўцы. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, № 2 (4). Ню Ёрк 1953, б. 108-113.

## 5

Ад часу Мілавідавай публікацыі прайшло ўжо ўсяго восем год, як у львоўскім часапісе «Kwartalnik historyczny» ў 1926 годзе Марыя Вайцяхоўская паведаміла аб існаваньні ў архівах места Пазнані большага ліку актаў датычных доктара Франьцішка Скарыны й ягонага брата Івана.[14] Зьмест гэтых актаў М. Вайцяхоўская там-жа пераказала. Зь іх вынікала, што Іван Скарына перад сваёй сьмерцяй жыў у Пазнані, дзе меў гандлёвую базу зь вялікімі складамі скураў. Калі ў 1529 годзе Іван памёр, доктар Скарына прыехаў зь Вільні да Пазнаня, каб ліквідаваць спадчынныя й фінансавыя справы памерлага брата. З усімі крэдытарамі Івана, якія заявілі свае прэтэнсіі, — а сярод якіх быў і сам Франьцішак Скарына ды ягоная жонка Маргарэта, — доктар Скарына разьлічыўся скурамі із складаў Івана Скарыны, якіх пасьмертны вопіс выявіў каля 50.000.

У 1532 годзе доктар Скарына прыяжджае да Пазнаня другі раз, цяпер ужо ў справах віленскага біскупа Яна, сакратаром і лекарам якога ён тады быў. Гэтым разам доктару Скарыну давялося ў Пазнані перажыць вельмі няпрыемную прыгоду. Нейкі багаты варшаўскі купец Moses Antiquus — «Стары Масей» — праз сваіх упаўнамочаных у Пазнані дабіўся арышту доктара Скарыны за даўгі ягонага брата нябожчыка Івана Скарыны. Доктару Скарыну давялося перасседзець у зьняволеньні ў пазнанскай ратушы каля дзесяці тыдняў, пакуль яго выпусьцілі на волю ў выніку захадаў брацеьніка, Іванавага сына, Рамана Скарыны, які сьпешна прыехаў з Гданска, выстараўся ў караля Жыгімонта Казімеравіча загад аб звальненьні з пад арышту свайго дзядзькі ды забавязаўся сплаціць бацькавыя даўгі. Доктар Скарына із свайго боку выступіў з дамаганьнем 6 тысяч коп літоўскіх грошаў кампэнсаты за беспадстаўны арышт ды прычыненыя ў выніку гэтага шкоды яму й віленскаму біскупу Яну.

Выяўленыя Вайцяхоўскаю пазнанскія акты адкрылі новы, па чарзе *сёмы,* геаграфічны асяродак Скарынавае біяграфіі — *Пазнань.* Пазнанскія акты важныя найперш тым, што яны кідаюць цікавае дакумэнтнае сьвятло на фінансавы стан і гандлёва-купецкія справы й асяродзьдзе Івана Скарыны, а ў некаторай меры й усяго Скарынавага роду. Апрача гэтага, яны цікавыя й тым, што зь іх дасьледнікі дазналіся аб працы доктара Скарыны на становішчы сакратара й лекара ў віленскага біскупа Яна ў часе каля 1532 году.

## 6

Усяго восем новых год прайшло ад пары выяўленьня М. Вайцяхоўскай пазнанскіх, датычных доктара Скарыны, актаў, як, дзякуючы дасьледніцкай уніклівасьці праскага прафэсара Антона Флароўскага, Скарынаў жыцьцяпіс ізноў вельмі істотна папоўніўся новымі важнымі дадзенымі. На

[14] W o j c i e c h o w s k a Maria. Рэцэнзыя на: Abramowicz Ludwik — Cztery wieki drukarstwa w Wilnie, 1525-1925. „Kwartalnik historyczny“, XL. Lwów 1926, б. 473-475. Таксама ў: W o j c i e c h o w s k a Maria. Z dziejów książki w Poznaniu w XVI wieku. Poznań 1927, б. 66-69.

2-ім міжнародным зьезьдзе славянскіх філялёгаў, у верасьні 1934 году ў Варшаве, Флароўскі паведаміў пра выяўленьне фактаў паўторнае бытнасьці доктара Скарыны ў Празе ў другой палове 1530-х год ды ягонай там працы на становішчы батаніка-садоўніка караля Фэрдынанда I.[15] Тэкст адпаведнага дакумэнту, на якім абасноўваў сваё дапушчэньне Флароўскі, а, пайменна, адкрыты ліст караля Фэрдынанда, выдадзены ў 1553 годзе Скарынаваму сыну Сымону, быў апублікаваны ўжо ў 1885 годзе чэскім дасьледнікам Франьцішкам Дворскім, але з гэтак перакручаным прозьвішчам Скарыны, што зь ягонаю асобаю гэтага дакумэнту перад тым ніхто не зьвязваў.[16] У 1936 годзе Флароўскі апублікаваў Фэрдынандаў ліст нанава, выправіўшы ягоны тэкст на аснове архіўнага арыгіналу.[17]

Хоць гэтае адкрыцьцё А. Флароўскага засягу Скарынавага жыцьцяпісу тэрытар'яльна й не пашырала, бо ў Празе доктар Скарына быў ужо й перад гэтым, калі ў гадох 1517—1519 друкаваў там кнігі Біблії, — аднак яно было вельмі важным дапаўненьнем да гэтае біяграфіі ў разрэзе часу, бо давала паказаньне аб месцы працы й характары дзейнасьці доктара Скарыны ў фінальныя гады ягонага жыцьця, пра што перад гэтым нічога ня было ведама. Далейшыя росшукі ў гэтым кірунку выявілі, што доктар Скарына быў ня толькі садоўнікам, але й засноўнікам рэпрэзэнтацыйнага каралеўскага парку ў Празе на Градчанах. На аснове пазьнейшага перагляду актавых і летапісных вестак, выяўленых першы раз Флароўскім, можна было ўстанавіць і тое, што на становішчы каралеўскага садоўніка доктар Скарына ў 1540 годзе й памёр. Устанаўленьне году сьмерці доктара Скарыны было вельмі важным дадатковым вынікам выяўленага Флароўскім факту паўторнае бытнасьці Скарыны ў Празе. Веданьне году сьмерці дазваляе канчаткова адхіліць шмат ранейшых меркаваньняў і дапушчэньняў, якія розныя аўтары рабілі на аснове гіпотэзы аб магчымай значна пазьнейшай сьмерці доктара Скарыны. Некаторыя дасьледнікі год Скарынавай сьмерці перад гэтым адносілі да 1551 году ці навет і пазьнейшага часу.[18]

Рупнаю дасьледнаю працай найперш таго самага Флароўскага далося ўстанавіць і колькі чэскіх летапісных вестак, якія датычылі двух Скарынавых сыноў: Франьцішка, што ў 1541 годзе зьгінуў у вялікім пажары Пра-

---

[15] І. С. Зьезд славянскіх філёлёгаў у Варшаве 23-30 верасьня 1934 г. «Калосьсе», кн. І. Вільня 1935, б. 70. Florovsky A. V. Skoryna et son activité parmi les Slaves. Bulletin d'Information des Sciences Historiques en Europe Orientale, IX, 1-2, Varsovie 1939, б. 7-11.

[16] Dvorský František. Přispévky k déjinám slovanskŷm. „Slovansky Sbornik", Ročnik IV. Čislo 4. Praha 1885, б. 212.

[17] Florovskij Ant. Vas. Nové správy o pobytu Františka Skoryny v Praze. „Časopis Národniho Musea", Oddil Duchovédny. Ročnik CX. Praha 1936, б. 11-12.

[18] Год 1556 як магчымы год сьмерці доктара Скарыны дадзены, прыкладам, у працы: Zibrt Čenek. Zobrazováni Trojice skupinou tři hlav... Véstnik král. č. spol. nauk, rok 1894, No. 7 Praha 1895, б. 13. Што д-р Ф. Скарына «умер между 1542-1552 гг.» цьвердзіць яшчэ цяпер Голенищев-Кутузов И. Н. у працы: Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия); V Международный с'езд славистов. Москва 1963, б. 21. Год 1551 як год сьмерці дапушчалі яшчэ колькі год таму й аўтары кнігі: Kawecka-Gryczowa Alodja, Korotajowa Krystyna i Krajewski Wojciech. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5: Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław-Kraków MCMLIX, б. 5, 224.

гі, і Сымона, які ў 1552 годзе, на аснове ліста караля Фэрдынанда, шукаў бацькавае маемасьці, а пасьлей стаў сам лекарам ды займаўся лекарскай практыкай на паўдні Чэхіі, у Крумлёве.[19]

## 7

Колькі год пасьля ўстанаўленьня факту паўторнага прабываньня доктара Скарыны ў Празе той самы А. Флароўскі дае паведамленьне аб выяўленьні новых біяграфічных фактаў пра Скарыну, фактаў, якія жыцьцяпісныя весткі аб ім узбагачаюць і пашыраюць ізноў і ў разрэзе тэрытар'яльным. У сваім артыкуле, друкаваным у 1940 годзе ў праскім часапісе «Slavisches Rundschau», Флароўскі паведамляе аб існаваньні архіўных дадзеных, на аснове якіх вынікае, што доктар Скарына адбыў падарожжа й да Масквы.[20] Факту Скарынавага падарожжа да Масквы Флароўскі ў запраўднасьці не адкрыў, а толькі падаў нанава ў друку. Датычны гэтай справы дакумэнт зь венскага архіву быў апублікаваны яшчэ ў 1862 годзе Я. Фідлерам,[21] а на яго аснове дапушчэньне аб падарожжы доктара Скарыны да Масквы ўжо ў 1888 годзе выказаў у друку чэскі гісторык Язэп Пэрвольф.[22] Але дагадка Пэрвольфа засталася нейк нікім незаўважанаю цэлае паўстагодзьдзе, да пары, пакуль на яе аснове пытаньне нанава не падняў дый шырэй у друку не абвесьціў А. Флароўскі.

Ізь зьместу апублікаванага Фідлерам дакумэнту — інструкцыі 1553 году вялікага князя літоўскага й караля польскага Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры папскім пасадзе ў Рыме Альбэрту Крычку, — вынікае бясспрэчна, што доктар Скарына павёз да Масквы кнігі Бібліі свайго перакладу й друку для іх там пашырэньня. На загад маскоўскага князя Васіля III Іванавіча кнігі ягоныя былі ў Маскве сканфіскаваныя й публічна спаленыя. Скарынавае падарожжа да Масквы відавочна адбылося нейдзе ў часе між гадамі 1525—1533. Гэтак, дзякуючы Я. Пэрвольфу й А. Флароўскаму, дайшло да ўстанаўленьня *восьмага* й вельмі важнага геаграфічнага асяродку зьвязанага з жыцьцяпісам доктара Скарыны — *Масквы*. Справа падарожжа доктара Скарыны да Масквы шырэй разгледжаная ў вадмысловай працы С. Брагі «Доктар Скарына ў Маскве», што выйшла друкам у 1963 годзе.[23]

---

[19] Březan Wácslaw. Żiwot Wiléma z Rosenberka. Stáročeska Bibliotheka. Čislo II. Praha 1847, б. 227.

[20] Florovskij A. V. Die Anfänge des Buchdruckes bei den Ostslaven. „Slavische Rundschau". Jahrgang XII, Nr. 1-2. Prag 1940, б. 76-77.

[21] Fiedler Joseph. Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte. Sitzungsberichte der Philosophisch-Historischen Classe der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften. Vierzigster Band, Heft L. Wien 1862, б. 110.

[22] Первольф И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи. Том II. Славянская идея в литературе славян до XVIII в. Варшава 1888, б. 597.

[23] Брага Сымон. Доктар Скарына ў Маскве. Ню Ёрк-Мюнхен 1963, 32 б. надрукаваная таксама ў: «Запісы», кн. 2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен 1963, б. 9-36.

Ад часу паведамленьня А. Флароўскага пра архіўныя дадзеныя аб драматычным маскоўскім эпізодзе Скарынавае біяграфіі прайшоў 21 год да пары, калі быў адкрыты яшчэ адзін зусім неспадзяваны геаграфічны асяродак Эўропы, зьвязаны з жыцьцём і дзейнасьцяй доктара Скарыны. Падчас праведзеных зь ініцыятывы й на кошт Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Ню Ёрк) пошукаў у 1960 годзе ў старасховах Падуі для выяўленьня дакумэнтных памятак аб Скарыну, у старым архіве падуанскай біскупскай курыі сп. Янка Садоўскі натрапіў на няведамы перад гэтым актавы запіс пра экзамен Скарыны на доктара лекарскіх навук. Фатастат гэтага новазнойдзенага дакумэнту знайходзіцца ў зборах «Скарыніяны» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Рэпрадукцыя тэксту гэтага запісу, пераклад і камэнтары да яго рыхтуюцца да адмысловае публікацыі.[24]

Як стала ведама з адкрытых Віндакевічам падуанскіх унівэрсытэцкіх актаў, у сувязі із Скарынавымі экзаменамі 1512 году адбыліся тры паседжаньні прафэсарскае калегіі «мастакоў і мэдыкаў». Першае было склікане прыёрам (дзеканам) калегіі, прафэсарам Тодарам Муссатты, 5 лістапада ў справе дапушчэньня Франьцішка Скарыны да экзаменаў. На другім, 6 лістапада, адбыўся першы «пробны» экзамен Скарыны. На трэйцім, 9 лістапада, меў месца фінальны экзамен на доктара лекарскіх навук ды ўрачыстае наданьне дакторскае годнасьці, прамоцыя. Вось гэтыя тры падзеі й запратакулаваныя ў трох актавых унівэрсытэцкіх запісах, якія знайшоў Віндакевіч. Ды, калі два першыя паседжаньні калегіі адбываліся ў касьцеле сьвятога Урбана, дык трэйцяе, найбольш люднае й урачыстае, мела месца ў падуанскім біскупскім палацы. Гэтая акалічнасьць і стала прычынаю таго, што прабег дакторскага экзамену 9 лістапада й прамоцыі быў запратакалаваны ня толькі ў актавых ўнівэрсытэцкіх кнігах, але й у кнізе падуанскае біскупскае курыі. Вось гэты запіс у 1960 годзе й быў знойдзены сп. Я. Садоўскім.

Як з тэксту новазнойдзенага запісу відаць, у ім пададзены коратка прабег Скарынавага экзамену, прамоцыі ды ў канцы пададзеныя прозьвішчы прафэсароў-прамотараў і колькіх прысутных сьветкаў. Дадзеныя гэтага запісу ў васнаўным згаджаюцца з дадзенымі аб тым самым экзамене, прыведзенымі ў трэйцім пратакольным запісе падуанскага ўнівэрсытэту, адкрытага ў канцы мінулага стагодзьдзя Віндакевічам. Ёсьць, аднак-жа, у ім і некаторыя цікавыя дадатковыя інфармацыі, а найважнейшая зь іх тая, што ў гэтым пратакольным запісе Скарына мянуецца як *«сакратар караля Даніі»*. У лацінскім тэксьце запісу сказана, што гэта экзамен з мэдыцыны «eximii viri Domini magistri franc. q. d. luce skorina de poloczko rutheni, secretarii regis datiae».

Новаадкрыты актавы запіс вельмі важны найперш тым, што ён дае першую дакумэнтную ведамку аб тым, што перад сваім прыездам у Падую доктар Скарына быў у Даніі на становішчы каралеўскага сакратара. Вала-

---

[24] Рэпрадукцыя запісу, лацінскі тэкст і беларускі пераклад памешчаныя ў: „Žnič“, Nr. 56. Rym 1960, б. 8.

даром Даніі, а адначасна Нарвэгіі й Швэцыі, у тую пару быў кароль Ганс (Ян). Што якраз доктар Скарына трапіў у ягоныя сакратары будзе ня дзіва, калі ўсьведамім, што палітычна-дыпляматычныя й гандлёва-эканамічныя інтарэсы тагачаснае Даніі ахоплівалі ня толькі Скандынавію, але й паўдзённае пабярэжжа Балтыйскага мора — Прусію, Польшчу, Вялікае Княства Літоўскае, Маскоўшчыну. Дзеля гэтага пры двары караля Даніі быў заўсёды патрэбны й сакратар, які ведаў мовы гэтых краёў ды ар'ентаваўся добра ў палітычных дачыненьнях на славянскіх прыбалтыйскіх прасторах. Цікава адцеміць, што ў сваім афіцыйным тытуле кароль Ганс менаваў сябе, між іншым, і каралём «Славянаў», як гэта відаць з надпісу на ягонай маестатычнай пячаці: Sigillium maiestatis Johannis dei gratia Dacie, Svecie, Norvegie, Slavorum, Gotorumque regis.[25] Да сваіх сакратарскіх абавязкаў пры каралі Даніі Скарына пасьля падуанскіх экзаменаў праўдападобна больш не вярнуўся, бо кароль Ганс у хуткім часе, — 20 лютага 1513 году памёр.

Выяўленьне факту прабываньня доктара Франьцішка Скарыны на двары караля Даніі Ганса насоўвае пытаньне аб тым, што магчыма й свае студыі ў галіне лекарскіх навук ён адбываў на ўнівэрсытэце ў Капэнгазе. Сяньня ведама, што ў Кракаве Скарына студыяваў «навукі вызваленыя», філязофію, але ніякіх дадзеных няма на тое, каб вучыўся ён там і мэдыцыны. На якім унівэрсытэце пазнаваў ён тайны тагачаснае мэдычнае веды — пра гэта пакульшто няма ніякіх ведамак. У Падуі мэдыцыны Скарына напэўна ня вучыўся. Туды ён паехаў толькі па тое, каб здабыць дакторскую годнасьць слаўнага тады на ўсю Эўропу ўнівэрсытэту і, асабліва, ягонага мэдыцынскага факультэту. Тымчасам у Капэнгазе ўнівэрсытэт існаваў ужо ад 1479 году, а на ім быў і мэдыцынскі факультэт. З факту, што перад сваім прыездам да Падуі Скарына быў на становішчы сакратара караля Даніі, можна дапушчаць, што мэдыцыну студыяваў ён на мэдычным факультэце ўнівэрсытэту ў Капэнгазе. На аснове адбытых там студыяў ён мог гэтак бліскуча і здаць дакторскі экзамен у Падуі.

Палітычныя дачыненьні між Капэнгагай і Кракавам у тую пару былі вельмі прыязныя й пераезду доктара Скарыны з Кракава ў Данію вельмі спрыяльныя. Летам 1509 году з Кракава да Капэнгагі езьдзіла пасольская дэлегацыя караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча для дамовы аб угодзе між Даніяй і Рэчыпаспалітай. 24 жнівеня 1509 году ўгода гэтая аб «узаемнай дружбе, дапамозе й абароне» ў Капэнгазе й была падпісаная. Зусім магчыма, што, карыстаючы з нагоды, разам з пасольствам Жыгімонта Казімеравіча з Кракава да Капэнгагі пераехаў і Скарына, студыі якога на філязафічным факультэце Кракаўскага ўнівэрсытэту, пачатыя ў 1504 годзе, гэтым часам павінны былі якраз кончыцца.

Гэтак, дзякуючы новаму архіўнаму адкрыцьцю сп. Я. Садоўскага, дайшло да ўстанаўленьня ўжо *дзевятага*, па чарзе свайго выяўленьня, геаграфічнага асяродку абнятага Скарынавым жыцьцяпісам — *Капэнгагі*. Адкрыцьцё гэтае пашырае круг Скарынавае ведамае жыцьцёвае актыўнасьці й на скандынаўскую поўнач Эўропы. Справа будучых дасьледнікаў рас-

---

[25] Danmarks Riges Historie, Vol. 3. Kobenhavn 1897-1907, б. 21.

крыць у старасховах Даніі больш фактаў аб прабываньні ды характары дзейнасьці ў Капэнгазе «сакратара караля Даніі» — доктара Франьцішка Скарыны.

### 9

З адкрыцьцём дзевятага геаграфічнага асяродку зьвязанага із Скарынавым жыцьцяпісам, Капэнгагі, не замыкаецца яшчэ напэўна іх лік. Ня будзе вялікаю неспадзеўкай, калі з часам стане ведама іх больш ды шырокі й так тэрытар'яльны дыяпазон Скарынавае актыўнасьці пашырыцца яшчэ. Што да трох выдатных культурных цэнтраў тагачаснае Эўропы — Вэнэцыі, Вітэнбэрга й Вроцлава, — існуюць ужо й цяпер паважныя дадзеныя, што падчас сваіх жыцьцёвых вандровак доктар Скарына іх крануў ды што яны мелі свае важнае значаньне ў ягонай, багатай падарожжамі й прыгодамі, біяграфіі.

Калі ідзе пра Вэнэцыю, дык проста цяжка дапушчаць, каб з усяго 30 кілямэтраў адлеглае ад яе Падуі Скарына не зазірнуў і сюды. Падуя была тады ў палітычнай залежнасьці ад Вэнэцыі. Магутная й багатая фінансамі купецкая рэспубліка сьвятога Марка ўсьведамляла добра патрэбу й вялікія карысьці зь існаваньня побач слаўнае на ўсю Эўропу падуанскае акадэміі і, дзеля гэтага, вэнэціянскія доджы шчодра апякаваліся Падуанскім унівэрсытэтам. Ды у тую пару Вэнэцыя была ня толькі важным палітычнагандлёвым, але й выдатным культурным цэнтрам. Найперш была яна тады найбольшым друкарскім асяродкам усяе паўдзённае Эўропы. У Скарынавую якраз пару вэнэцыянскае друкарства дасягнула ўзвышшаў свайго разьвіцьця. Дзейнаю была тут гэтым часам слаўная й для гісторыі разьвіцьця ўсяго эўрапейскага друкарства важная вельмі друкарня Альда Мануцiя. Каля ягонае друкарні, выдавецтва й асобы гуртавалася цэлая чарада выдатных вучоных гуманістых, заданьнем якіх было рыхтаваць да друку кнігі, спраўджаць і ўдакладняць тэксты твораў лацінскіх, грэцкіх і італіянскіх клясыкаў. Гэтак, каля Альда Мануцiя з часам паўстала цэлая «Новая Акадэмія».

У друкарні гэта Альда Мануцiя зарадзіўся ведамы шырака й сяньня тарнаваны друкарскі шрыфт — курсыва. Першы Мануці завёў стандартны малы фармат кніжак у васьміцу (актаву), — зграбны фармат слаўных на ўсю Эўропу «альдынаў» — на месца пануючага тады ў друку большага фармату ў чацьвярціцу (кварту), а часта й фоліё, што выводзіўся із старое традыцыі вялікіх кнігаў рукапісных. Зь яго гэта браў прыклад доктар Скарына, калі для кніжак свайго выданьня, асабліва для кніжак віленскага друку, надаў зручны, малы, «падарожны» фармат. Альд Мануці завёў у друкарскую традыцыю й звычай даваць на кніжках адмысловы выдавецкі фірмовы знак, стаўляючы на кніжках свайго выданьня свой знак — дэльфін, што ўецца навокала кацьвігі (якара). І гэтую навіну, за Альдам Мануціям, завёў у кнігах свайго выданьня доктар Скарына, стаўляючы ў іх свой знак-эмблему — сонца з маладзіком.

Друкарні тагачаснае Вэнэцыі друкавалі кнігі ня толькі для земляў Вэнэцыянскае рэспублікі й Італіі, але й для ўсяе Эўропы. Выходзілі тут кніжкі на мовах лацінскай, грэцкай, італіянскай, гэбрайскай, армянскай, а так-

сама на мовах славянскіх. Тая чэская Біблія, на якую доктар Скарына галоўна апіраўся, рыхтуючы свой пераклад Бібліі на старабеларускую мову, выйшла якраз у Вэнэцыі ўсяго шэсьць год перад падарожжам доктара Скарыны да Італіі, у годзе 1506. Дык ці ня ў Вэнэцыі доктар Скарына першы раз і пазнаёміўся зь Бібліяй 1506 году чэскіх утраквістых, якая навяла яго на думку зрабіць падобны пераклад для свайго народу. Выдаўцы гэтае Бібліі магчыма далі яму й першыя ўводзіны ў тайны тэхнікі друкарскага майстэрства. Можна чыніць дагадкі й аб тым, што праз тых самых выдаўцоў чэскае Бібліі доктар Скарына здабыў сувязі й знаёмасьці й у чэскай Празе, дзе пазьней ён асеў на год колькі для наладжаньня друкарні й друкаваньня кнігаў Бібліі свайго перакладу.

У Вэнэцыі, зразумела, існавалі й тэхнічныя магчымасьці для выкананьня шрыфтовых матрыцаў ды выліваньня самых шрыфтоў для розных моваў, а між імі й шрыфтоў кірылічных. Тут літары для свае друкарні ў Цэтыніі заказваў чарнагаранін ераманах Макар. Ягоныя царкоўнаславянскія літургічныя праваслаўныя кнігі, друкаваныя для патрэбаў паўдзённых славянаў, выйшлі з друку ў гадох 1493—1495. Гэта другі з чаргі выдавец у галіне кірылічнага друку, пасьля першага кракаўскага Швайпольта Фіёля, а перад трэйцім — доктарам Франьцішкам Скарынам. Зусім магчыма, што й доктар Скарына матрыцы шрыфтоў для свае праскае друкарні выканаў таксама ў Вэнэцыі. Гэта дапушчаў ужо ў 1795 годзе Язэп Даброўскі. Даброўскі, які тады яшчэ нічога ня ведаў аб прабываньні доктара Скарыны ў 1512 годзе ў блізкой, суседняй Вэнэцыі, Падуі, пісаў: «Можна дапусьціць, што Скарына ў 1515 годзе езьдзіў разам з каралём Жыгімонтам (Казімеравічам) да Вены, а стуль, разам з пасламі караля ў справе вайны з Туркамі, да Вэнэцыі. З гэтага можна дагадвацца, дзе ён раздабыў свае шрыфты. У Вэнэцыі ён мог дастаць матрыцы для славянскіх літараў, і ягоныя літары запраўды маюць выгляд ня рускага царкоўнаславянскага шрыфту, але падобныя больш да тых, якімі ў XVI стагодзьдзі свае кнігі ў Вэнэцыі друкавалі Сэрбы».[26]

На бліжэйшую сутычнасьць доктара Скарыны зь італіянскім друкарствам і праўдападобнасьць ягонае бытнасьці ў Вэнэцыі паказваюць і італіянскія рэнэсансавыя графічныя элемэнты ў ініцыяльных вялікіх літарах і большых заставіцах праскіх Скарынавых кнігаў з выабражэньнем сырэнаў, сатыраў, наядаў, амураў ды іншых мітычных постацяў антычнага сьвету, якія тады былі вельмі папулярныя ў графічных аздобах рэнэсансавага друку Італіі, найперш Вэнэцыі. Гэтыя, яўна італіянскія графічныя элемэнты Скарынавых кнігаў, найбаржджэй зьявіліся ў іх у выніку беспасярэдняга сутыку доктара Скарыны з Вэнэцыяй і яе друкам. І тэхніка Скарынавага двукалёрнага друку тая самая, што й у вэнэцыянскіх славянскіх кнігах, праз «фрашкет» — балонку пэргамэнту з прарэзанымі акенцамі.

З вышэй прыведзенага вынікае, што існуе ня мала розных паказаньняў на тое, што й Вэнэцыя была ахопленая ў круг беспасярэдняе Скарынавае

---

[26] Dobrowsky Josef. Literarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland. Prag 1796, б. 105-106.

актыўнасьці. Аднак, пакуль на довад гэтага ня будзе выяўлена нейкага канкрэтнага фактавага ці дакумэнтнага пацьверджаньня, думка аб гэтым застанецца ў ліку хай сабе й вельмі праўдападобных, але ўсё-ж толькі дапушчэньняў.

## 10

Нямецкі Вітэмбэрґ, які ў Скарынавую пару стаў вельмі важным цэнтрам рэфармацыйнага руху, быў сядзібаю самога Марціна Лютэра, — гэта другі асяродак тагачаснай Эўропы, дапушчэньне аб Скарынавым прабываньні ў якім ставілася ўжо даўно. Першы справу бытнасьці доктара Скарыны ў Вітэмбэрґу як quaestio historica — «гістарычнае пытаньне» — у друку паставіў яшчэ ў 1840 годзе выдатны славісты-філялёг, вучань Даброўскага, Баўтрамей Капітар. У выдадзеным у Вене зборніку сваіх славістычных працаў, нарысаў, зацемак, Капітар памясьціў і кароткую заўвагу аб магчымай сустрэчы доктара Франьцішка Скарыны з доктарам Марцінам Лютэрам у Вітэмбэрґу.[27]

Сваё «гістарычнае пытаньне» — сустрэўся доктар Скарына зь Лютэрам ці не, — Капітар ставіў на аснове пададзенага ў вадным старым жыцьцяпісе Марціна Лютэра апавяданьня аб тым, як у 1525 годзе ў Вітэмбэрґ прыяжджаў нейкі doctor Franciscus polonus — «доктар Франьцішак Паляк». Гэты «доктар Франьцішак» сустрэўся найперш зь ведамым блізкім прыяцелем Лютэра, Піліпам Мэлянхтонам, і зрабіў на ім уражаньне сваёю вучонасьцяй. Мэлянхтон запрасіў яго на абед, на які прыйшоў і Лютэр. Марцін Лютэр таксама быў ачараваны шырокаю эрудыцыяй і глыбокаю ведай доктара Франьцішка й запрасіў яго навет на заўтра да сябе на сьнеданьне. Калі, аднак-жа, позна ўначы Лютэр варочаўся дамоў, ён раптам прыпомніў, што гады чатыры перад гэтым ягоныя прыхільнікі паведамлялі яго аб тым, што каталіцкія біскупы нанялі за дзьве тысячы залатых скрытабойцу, каб той яго падступна атруціў. У Лютэра зьявілася падазрэньне, што можа «доктар Франьцішак» і ёсьць той падасланы скрытабойца. Напалоханы Лютэр назаўтра раніцай загадаў свайму слузе, каб, калі зьявіцца доктар Франьцішак, яго ў дом ня ўпускаць, а сам уцёк зь Вітэмбэрґа ў Торґаў.

Пры чытаньні вось гэтага летапіснага апавяданьня Капітару й насунулася думка аб тым, што гэтым «доктарам Франьцішкам Паляком», якім так захапліваўся Мэлянхтон, а якога пасьля гэтак напалохаўся Лютэр, мог быць доктар Франьцішак Скарына. Ужо ў трыццатых гадох мінулага стагодзьдзя, найпазьней ад 1834 году, Капітар чыніў і спробы справу гэтую высьніць. Дзеля гэтага колькі разоў ён пісаў у Ґётінґен да аднаго зь ведамых братоў Ґрыммаў, да Якуба, каб той памог яму гэтае пытаньне разьвязаць. Прыкладам, 20 лютага 1835 году Капітар пісаў Якубу Ґрымму: «З галавы мне ня выходзіць, што гэты др. Франьцішак з Польшчы быў ня хто іншы, але др. Франьцішак Скарына з Полацка. Праверце, калі ласка, гэтую справу яшчэ раз праз сваіх прыяцеляў у Вітэмбэрґу».[28]

---

[27] Kopitar Bartholomaeus. Hessychii Glossographi... Vindobonae 1840, б. 33-34.

[28] Vasmer Max. B. Kopitars Briefwechsel mit Jakob Grimm. Abhandlungen der Preussischen Akademie der Wissenschaften. Jahrgang 1937. Philosophisch-historische Klasse, Nr. 7. Berlin 1938, б. 129.

Ці Якуб Ґрымм змог нешта выясьніць для Б. Капітара ў справе магчымае сустрэчы Скарыны зь Лютэрам у Вітэмбэрґу — не далося ўстанавіць. Але гэтае пытаньне й пазьней у XVIII стагодзьдзі ўзьнімалася рознымі дасьледнікамі Скарынавага жыцьцяпісу ды з часам было адхіленае без уважнейшага спраўджэньня адпаведных жаролаў, на той толькі падставе, што якраз у 1525 годзе доктар Скарына быў заняты ў Вільні выдаваньнем свайго «Апостала» й дзеля гэтага ня мог у гэтым самым часе быць у далёкім ад Вільні Вітэмбэрґу. На гэтай вось аснове думку аб сустрэчы доктара Скарыны з Марцінам Лютэрам адкінуў яшчэ ў 1867 годзе А. Віктараў,[29] зь ім згадзіўся П. Валадзіміраў[30] ды іншыя дасьледнікі Скарынавага жыцьцяпісу. У выніку, у XX стагодзьдзі гэтае пытаньне ўважалася ўжо за разьвязанае, разьвязанае адмоўна, і было зьнятае з разгляду ў далейшай скарынаведнай літаратуры.

Аднак-жа, зьвярнуць трэба ўвагу на тое, што вышэй прыведзеная аргумэнтацыя Віктарава зусім недастатковая для таго, каб катэгарычна адхіліць магчымасьць наведзінаў доктара Скарыны ў Вітэмбэрґу ў 1525 годзе. Важна мець наўвеце, што Скарынаў «Апостал» выйшаў з друку на пачатку 1525 году, у сакавіку, і пасьля гэтага заставалася яшчэ цэлых дзевяць месяцаў году — часу для такога рухавага падарожніка, як Скарына, даволі, каб да Вітэмбэрґа ня толькі заехаць, але стуль і вярнуцца. Вось дзеля гэтага аўтарам гэтага нарысу й быў праведзены новы перагляд гэтага пытаньня, перагляд на аснове беспасярэдняга зазнаямленьня з адпаведнымі даступнымі нямецкімі жароламі, зьвязанымі з жыцьцяпісам доктара Марціна Лютэра. Вынік дагэтуляшніх досьледаў кінуў цікавае новае сьвятло на старое Капітарава «гістарычнае пытаньне». Пакідаючы на пазьней справу публікацыі абшырнейшага й больш дакладнага разгляду адпаведных жаролаў і літаратуры, гэтта коратка падаюцца агульныя выснавы.

Справа паявы ў Вітэмбэрґу нейкага вельмі вучонага доктара, якога Марцін Лютэр западозрыў у намеры яго атруціць, пераказваецца ў шмат якіх старых жыцьцяпісах Марціна Лютэра і ў вельмі розных варыянтах. У паасобных вэрсыях мяняюцца абставіны й дэталі падзеі, прыводзяцца й розныя імёны самога доктара-чужынца. Супольнае ім усім тое, што прыбылы доктар вельмі разумны, вельмі вучоны ды што прыбыў з усходу, з Польшчы. У розных пераказах мянуецца ён або доктарам мэдыцыны, або выдатным астраномам, або матэматыкам, а ёсьць і такая вэрсыя, у якой за мэту прыезду доктара-чужынца ў Вітэмбэрґ падаецца намер друкаваць там Біблію ў нейкай чужой мове — прыкмета асабліва падыходзячая да асобы доктара Франьцішка Скарыны, няўтомнага выдаўца кнігаў Бібліі ў старабеларускай мове.

Калі шмат зь летапісных характарыстыкаў вучонага доктара, што наведаў Вітэмбэрґ і бачыўся з Марцінам Лютэрам, падыходзіць да асобы доктара Франьцішка Скарыны, дык, як выяўляюць новаправедзеныя росшукі,

---

[29] Викторов Алексей. Замечательное откритие в древнерусском книжном мире. Беседы в Обществе любителей российской словесности при Императорском Московском Университете, вып. I. Москва 1867, б. 18.

[30] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... б. XIII-XIV.

і сам час гэтых магчымых наведзінаў не стаіць у супярэчнасьці зь ведамымі фактамі Скарынавае біяграфіі, а наадварот, як далей пабачым, добра зь імі ўкладаецца. Найперш, на аснове пераказаных тагачасьнікамі апавяданьняў самога Лютэра, выяўляецца, што вучоных дактароў з усходу, што наведалі Вітэмбэрґ і якіх Марцін Лютэр westwards падазрыў у скрытабойчых намерах, было не адзін, а найменш два. Першы зьявіўся ў Вітэмбэрґу ў студзені 1525 году, калі доктар Скарына запраўды быў заняты ў Вільні друкам свайго «Апостала», і дзеля гэтага гэты год, як час магчымае бытнасьці доктара Скарыны ў Вітэмбэрґу, даводзіцца канчаткова адкінуць, як гэта й зрабіў сто год таму Віктараў. Затое другі «доктар з Польшчы» да Вітэмбэрґа прыбыў, паводля сьцьверджаньня самога Лютэра, «сем-восем год» пасьля першага, гэта значыць у гадох 1532—1533. Гэта якраз час, калі доктар Скарына, як ведама, быў і ў Пазнані, і ў Кракаве, а магчыма й у недалёкім ад іх Вроцлаве, — трох местах, пра якія у розных вэрсыях Лютэравага жыцьцяпісу спамінаецца, як пра месты, скуль доктар-чужынец накіраваўся да Вітэмбэрґа. Апавяданьне аб гэтым Марціна Лютэра пераказаў ягоны блізкі прыяцель, тэалёг Ёган Матэзіюс.[31]

У ніякай супярэчнасьці з магчымасьцяй таго, што «доктар Франьцішак», які зьявіўся ў Вітэмбэрґу, мог быць доктарам Скарынай, не стаіць і тое, што ў некаторых вэрсыях пераказаў дадзенага здарэньня мянуецца яго «Паляком». Доктар Скарына быў грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага й падданым вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча, які адначасна быў і каралём Польшчы. Дзеля гэтага на Захадзе Скарыну й маглі называць падданым польскага караля, «Паляком», хоць ён сам за межамі свайго краю называў сябе або «Ліцьвіном» — litphanus — як было на Кракаўскім унівэрсытэце, або «Русічам» — ruthenus — як запісана ў Падуі, але ніколі Паляком.

Калі гэтак шмат з характарыстыкі вучонага доктара «з Польшчы» нагадвае доктара Скарыну, улучна зь ягоным імем у некаторых вэрсыях, ды калі час магчымых наведзінаў у Вітэмбэрґу ў гадох 1532—1533 не стаіць у ніякой супярэчнасьці зь ведамымі фактамі Скарынавае біяграфіі, гэта паважная падстава на тое, каб магчымасьць сустрэчы доктара Скарыны з Марцінам Лютэрам нанава перагледзіць на аснове адпаведнае нямецкае актавае, біяграфічнае, мэмуарнае й летапіснае літаратуры датычнае асобы доктара Марціна Лютэра. Дык Капітарава «гістарычнае пытаньне» 1840 году зьнятае было ў навуковай літаратуры яўна перадчасна. Стаіць яно й перад дасьледнікамі XX стагодзьдзя ды чакае на сваё грунтоўнае навуковае выясьненьне.

## 11

Калі магчымасьць Скарынавае бытнасьці ў Вэнэцыі ці Вітэмберґу ставілася й абмяркоўвалася на самых зачатках скарынаведных досьледаў, яшчэ пры канцы XVIII ці ў пачатках XIX стагодзьдзяў, дык дапушчэньне аб важным значаньні ў ягоным жыцьцяпісе места Вроцлава — панямецку Брэсляў — узьнімаецца гэтта першы раз.

---

[31] Mathesius Johann. Das Leben theueren mannes Gottes doct. Martin Luthers ... Franckfurt und Leipzig M.DCC. XXIV, б. 428-431.

У 1890 годзе ў бэрлінскім часапісе „Zeitschrift für Slavische Philologie“ быў надрукаваны даўжэйшы артыкул П. Карґэ «Славянскія памяткі з даўнейшых часоў у Вроцлаве». У гэтым артыкуле, між іншым, коратка паведамляецца й аб тым, што бібліятэкар мясцовае бібліятэкі Вроцлава, прафэсар Маркґраф, у вокладцы аднэй старой судовай актавай кнігі знайшоў уклеяныя балонкі з кнігаў праскае Біблії доктара Францішка Скарыны.[32]

У самым факце знаходу ў вокладцы кнігі балонак ведамае й так Скарынавае Біблії няма, зразумела, нічога асаблівага. Кнігаведы ведаюць, што даўней пры апраўляньні кнігаў ня раз як матар'ял для вокладкі былі скарыстоўваныя балонкі старых друкаваных ці рукапісных кнігаў. На аснове знойдзеных у вокладках старых кнігаў уклеяных балонак яшчэ старэйшых кнігаў ці рукапісаў ужо ня раз удалося зрабіць важныя адкрыцьці для гісторыі эўрапейскае пісьменнасьці. Ня пяршынёю было гэта й із Скарынавымі друкамі. Ведамы «патрыярх славянскае філялёгіі» Язэп Даброўскі, ужо 150 год таму, у годзе 1815, у другім томе свайго зборніка „Slovanka“ паведаміў аб тым, што ён «меў шчасьце» ў кнізе Гомэравых твораў „Homeri interpres. Argentor“ з 1539 году знайсьці дзьве палавіцы аркушовай чверці біблійнае кнігі Плач Ярэмы Скарынавага выданьня. З гэтае свае знахадкі Даброўскі першы раз і даведаўся аб тым, што кнігу Плач Ярэмы доктар Скарына пераклаў і выдаў. Із знойдзеных частак балонак Даброўскі прывёў тут-жа й колькі тэкставых прыкладаў на довад таго, як Скарынін пераклад на «літоўска-рускую мову», як Даброўскі старабеларускую мову называў, розьніцца ад перакладу царкоўнаславянскага.[33]

Дык адкрыцьцё балонак кнігаў Скарынавай Біблії ў вокладцы рукапіснай актавай кнігі, балонак кнігаў, што захаваліся ў бібліятэках і ведамыя, само па сабе ня было нейкай важнай падзеяй і відаць дзеля гэтага на факт гэтае знахадкі, пададзены мімаходам у даўжэйшым артыкуле Карґэ, ніхто, бадай і дагэтуль, не зьвярнуў у друку ніякае ўвагі. А, тымчасам, некаторыя дэталі гэтае знахадкі маюць вялікую цікавасьць для Скарынавае біяграфіі, і ня вылучана, што яны могуць стацца важнымі выходнымі ніткамі да новых архіўных адкрыцьцяў.

Паўль Карґэ ў сваім артыкуле падаў, што прафэсар Маркґраф на балонкі Скарынавае Біблії натрапіў у вокладцы кнігі Liber procuratorum — Кніга пракуратараў — у якой вяліся запісы пракуратуры ў часе ад 1535 да 1571 году. У вокладцы гэтае кнігі прафэсар Маркґраф знайшоў 4 аркушы цэлыя, 25 аркушных палавінак, разрэзаных для дадзенае патрэбы, якія ў бальшыні сябе дапаўнялі й складаліся ў цэлыя аркушы, ды 7 вузкіх палосак шырыні прыблізна 6-ці радкоў. Дык усяго ў вокладцы кнігі было ўклеяна даволі шмат — больш 17 аркушоў із Скарынавае праскае Біблії, што дае прыблізна 137 кніжных балонак ці 272 бачыны.

Ды і факт вялікага ліку знойдзеных у вокладцы аркушоў зь Біблії Скарынавага друку ня быў-бы яшчэ таксама справаю нязвычайнаю, каб ня

---

[32] Karge Paul. Slavische Denkmäler aus älterer Zeit in Breslau. „Archiv für Slavische Philologie“. Band XII. Berlin 1890, б. 133-135.

[33] Dobrowsky Josef. Jeremias Klaglieder von Franz Skorina ins Russische übersetzt. „Slovanka“, II. Prag 1815, б. 149-151.

тое, што гэтыя аркушы паходзілі ня зь нейкае аднае біблійнае кнігі Скарынавага выданьня, а з колькіх розных. Як ведама, доктар Скарына выдаваў Біблію ня ўсю адразу, а паадзіночнымі біблійнымі кнігамі, і надрукаваў іх усіх у Празе 23. Зь іх у вокладцы вроцлаўскае Liber procuratorum Маркґраф знайшоў часьці аж 8-мі кнігаў, а пайменна: Кнігі Салямонавых Прыповесьцяў, дата выхаду 6 лістапада 1517 году; Кнігі Эклезіясты, дата выхаду 10 жнівеня 1518 году; Кнігаў Ісход, Левіт, Лічбаў ды Прарока Данілы — год выхаду ўсіх 1519. З гэтага выглядала-б, што інтраліґатар, які пераплятаў і апраўляў Liber procuratorum, у сваім распараджэньні меў цэлую бібліятэку Скарынавых праскіх кнігаў Бібліі.

Ды яшчэ цікавейшае й важнейшае тое, што некаторыя знойдзеныя ў вокладцы аркушы, як, прыкладам, з Кнігі Лічбаў або Кнігі Прарока Данілы, былі ўклееныя ў вокладку ў падвойным ліку, а іншыя, як аркушы з Кнігі Салямонавых Прыповесьцяў ці Эклезіясты, навет і пачворна. З гэтага вынікае, што інтраліґатар, які апраўляў Liber procuratorum, меў у сябе пад рукамі ня бібліятэку Скарынавых кнігаў, і ня кнігі наагул, а сьцірты надрукаваных, але не зламаных і не пераплеценых у кнігі аркушоў, зь якіх ён і браў столькі, колькі яму было патрэбна — па два, а навет і па чатыры тыя самыя аркушы тае самае кнігі адразу.

У сувязі з гэтым, вельмі цікавым, фактам, паўстае цэлы сьцяг пытаньняў: якім спосабам у вроцлаўскага інтраліґатара апынуліся цэлыя сьцірты непераплеценых у кнігі аркушоў Скарынавае праскае Бібліі? Як гэтыя аркушы трапілі зь месца свайго друку, Прагі, да даволі далёкага ад яе Вроцлава? Сьведкамі якіх справаў і падзеяў Скарынавага жыцьця балонкі ягоных кнігаў у вокладцы Liber procuratorum зьяўляюцца? Пакуль ня знойдуцца нейкія дадатковыя дадзеныя для адказу на ўсе гэтыя пытаньні, сяньня аб усім гэтым можна рабіць толькі тыя ці іншыя дагадкі-дапушчэньні.

Найперш, разглядаючы карту Эўропы, лёгка заценіць, што Вроцлаў знаходзіцца прыблізна 200 кілямэтраў на паўночны ўсход ад Прагі й якраз на простай лініі з Прагі праз Варшаву да Вільні. З гэтага можна было-б зрабіць дапушчэньне, што аркушы кнігаў Скарынавае Бібліі маглі трапіць да Вроцлава падчас перавозу іх з Прагі да Вільні. Ведама, што пасьля спыненьня друкарскае дзейнасьці ў Празе доктар Скарына да Вільні й пераехаў. Зусім магчыма, што нейкія важныя перашкоды падарозе затрымалі ў Вроцлаве перавожаныя ў аркушох кнігі, і там, па нейкім часе яны трапілі, як макулятурная ўжо папера, да інтраліґатара, які імі й выклейваў вокладкі апраўляных кнігаў.

Што да часу, калі гэта магло стацца, дык існуюць падставы дапушчаць, што здарылася гэта найхутчэй у 1520 годзе, бо ведамая апошняя друкаваная ў Празе Скарынаю кніга, Кніга Судьдзяў, датаваная 4 сьнежня 1519 году. Дык выезд доктара Скарыны з Прагі й мог адбыцца ці ў сьнежні таго-ж году, ці, найбарджэй, у годзе наступным. З факту, што ў Вроцлаве Скарынава Біблія апынулася ў выглядзе непераплеценых яшчэ ў кнігі аркушоў, можна было-б дапушчаць, што частку, найменш, надрукаванае ў Празе Бібліі доктар Скарына вёз із сабой у непераплеценым стане, аркушамі, ці дзеля таго, што на сшываньне й каштоўную тады справу ня стала сяродкаў, ці мо' кідаў ён Прагу дзеля нейкіх прычынаў неспадзеўкі

сьпешна й ня меў проста часу займацца яшчэ апраўляньнем кнігаў, або, можа й з тых меркаваньняў, што ў непераплеценым стане лягчэй было іх перавозіць.

Што-ж да прычынаў, якія маглі затрымаць Скарынавыя кнігі ў Вроцлаве, дык і аб гэтым можна рабіць толькі тыя ці іншыя дагадкі. Прычына, для прыкладу, магла быць тая самая, што й для канфіскаты праваслаўных багаслужэбных кнігаў, выдадзеных у Кракаве Швайпольтам Фіёлем, якія ў 1491 годзе кракаўскія каталіцкія ўлады забралі й зьнішчылі. Із Скарынавымі кнігамі падобная канфіската магла здарыцца ў 1520 годзе тымбольш, бо дзеля нарастаючага ад колькіх год рэфармацыйнага руху ў Нямеччыне, нагляд над друкам і цэнзура каталіцкае інквізыцыі моцна завайстрыліся. Вось гэта магло скласьціся на тое, што перавожаныя з Прагі да Вільні ў непераплеценым стане кнігі Скарынавае Бібліі былі сканфіскаваныя й пазьней перададзеныя ці прададзеныя інтралігатару, як макулятурная папера. Прыпомніць тут будзе цікава, што й балонкі Кнігі Плач Ярэмы Скарынавага друку Язэп Даброўскі знайшоў у вокладцы кніжкі выдадзенай у часе вельмі блізкім да часу прыблізнага пераплёту вроцлаўскае Liber procuratorum, бо ў годзе 1539. Зусім магчыма, што й яе сшываў і апраўляў той самы вроцлаўскі інтралігатар, які апраўляў і Liber procuratorum.

Калі вышэй прыведзеныя меркаваньні аб паяве ў Вроцлаве аркушоў Скарынавых праскіх друкаў хоць у нейкай часьці адказваюць запраўднасьці, дык тады трэба мець наўвеце й тое, што адначасна з кнігамі маглі падпасьці пад канфіскату й шрыфты Скарынавага праскага друкарскага набору, друкарскія прылады, якія Скарына адначасна перавозіў з Прагі да Вільні. Вось гэта магчыма прычына таго, што пасьля пераезду ў Вільню доктар Скарына быў змушаны запраектаваць сабе й адліць новы шрыфт, адрозны ад праскага, якім пасьлей і былі друкаваныя ягоныя віленскія выданьні — «Апостал» ды «Малая Падарожная Кніжыца». Гэта выясьняла-б прычыну, чаму ў віленскіх выданьнях ня сустракаем вялікіх аздобных праскіх ініцыяльных літараў.

З факту, што невялікі лік кнігаў Скарынавае праскае Бібліі захаваўся аж да сяньня, вынікае, што да інтралігатара трапіў усё-ж ня ўвесь тыраж кнігаў праскае Бібліі, а толькі яго частка. Другая частка, відавочна, была накіраваная з Прагі да Вільні яшчэ раней, ці іншай дарогай, і трапіла на родныя землі Скарыны безь перашкодаў.

Усе пададзеныя вышэй меркаваньні, зразумела, толькі дапушчэньні ў спробе выясьніць факт масавае паявы балонак праскіх Скарынавых друкаў у вроцлаўскай Liber procuratorum. Маглі быць і розныя іншыя, няведамыя пакульшто прычыны. Для выясьненьня гэтага пытаньня мэтазгодным было-б уважна пераглядзіць акты Вроцлаўскіх архіваў дадзенае пары.

## 12

Пералік ведамае сяньня архіўнае дакумэнтацыі датычнае паасобных асяродкаў зьвязаных зь біяграфіяй доктара Скарыны трэба дапоўніць яшчэ спамінам пра выяўленыя актавыя матар'ялы аб Вільні й Полацку. У вабодвух выпадках гэта акты судовых справаў.

У 1529 годзе ў Вільні, перад найвышшай судовай інстанцыяй, бо перад вялікім князем Жыгімонтам Казімеравічам з Радаю Паноў Вялікага Княства Літоўскага, разглядалася дамаганьне сваякоў Скарынавае жонкі Маргарэты, каб перадаць ім дом у Вільні «пры рынку», які яна мела па сваёй матцы Дароце. У першай інстанцыі справу гэтую разглядаў віленскі «войт з бурмістрамі й радцамі водле права майтборскага», у другой — князь Ян, біскуп віленскі, у якога колькі год пазьней доктар Скарына стаў сакратаром і лекарам. Усе тры судовыя інстанцыі дом і бліжэй не азначаную іншую рухомую й нярухомую спадчыну Скарынавай цешчы Дароты, прысудзілі «дзяржаці й ужываці супакойна на вечныя часы» жонцы доктара Скарыны, Маргарэце й яе дзецям. Тым-жа яе сваяком, што ўзьнімалі працэс, вялікі князь Жыгімонт і Рада Паноў загадала на будучыню «ў тым вечнае маўчаньне меці».

З усіх актаў гэтага судовага працэсу ведамы да гэтай пары толькі пісаны пабеларуску тэкст пастановы Жыгімонта Казімеравіча з 1529 году, які знайходзіцца ў Літоўскай Мэтрыцы. Тэкст гэты ў 1888 годзе апублікаваў у сваей манаграфіі аб Скарыне Валадзіміраў.[34] Акт гэты вельмі важны тым, што дае нам ведамкі пра імя й паходжаньне Скарынавае жонкі ды пра маемасныя справы й клопаты яе й доктара Скарыны ў Вільні.

Датычна справаў Скарынавага роду ў Полацку ведамыя два, пісаныя пабеларуску, судовыя полацкія запісы з 1535 году. Зь іх вынікае, што за радавую зямлю Скарынаў на Замку ў Полацку, якая па сьмерці Лукаша Скарыны прыпадала ў спадчыне ягоным двум сыном, Івану й Францішку, судзіліся тады два зяці памерлага Івана Скарыны — Міхна Аўсяньнік і Еська Сьцяпанавіч, — паколькі беспасярэдняга спадкаемніка, доктара Францішка Скарыны, ані сына Івана Скарыны, Рамана, у Полацку тады ня было. Справу выйграў Міхна Аўсяньнік на той аснове, што ён сваймі грашмі пакрыў доўг цясьця Івана Скарыны ў вышыні «40 коп і паўтары капы грошаў» літоўскіх, якія Іван Скарына, пад заруку Міхны Аўсяньніка, пазычыў у Рызе ў мешчаніна віленскага Пётры Сакалоўскага.

І акты гэтае справы, якія знайходзяцца таксама ў Літоўскай Мэтрыцы, апублікаваў у 1888 годзе ў сваёй манаграфіі Валадзіміраў. Другі раз яны былі перадрукаваныя, беспасярэдня з арыгіналаў, у «Беларускім Архіве» 1928 году Інстытуту Беларускае Культуры.[35] Гэтыя акты важныя для біяграфіі доктара Скарыны найперш сваім насьвятленьнем полацкіх маемасных справаў роду Скарынаў.

## 13

На пераліку існуючых актавых дадзеных аб месцах прабываньня доктара Скарыны й прыведзеных меркаваньняў аб магчымай зьвязанасьці Вэнэцыі, Вітэмберґа й Вроцлава із Скарынавай біяграфіяй, гэты гістарычны

---

[34] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... б. 321-322.
[35] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... б. 323-325. Беларускі Архіў, т. 2. Інстытут Беларускае Культуры. Менск 1928, б. 263-264.

агляд ходу геаграфічнае лякалізацыі жыцьцяпісу доктара Францішка Скарыны й замыкаецца. З вышэй пададзенага можна бачыць, што дзякуючы архіўным пошукам навукоўцаў розных краёў і народаў — чэскіх, польскіх, расейскіх, беларускіх, — за мінулыя два стагодзьдзі паступова было выяўлена дзевяць важных культурна-палітычных цэнтраў Эўропы, увязаных у справы жыцьця й дзейнасьці выдатнага гуманісты Беларусі й яе першадрукара — доктара Францішка Скарыны. Асяродкі гэтыя, у чарзе іх ведамасьці, гэта Полацак, Прага, Вільня, Кракаў, Падуя, Каралевец, Пазнань, Масква, Капэнгага. Чатыры апошнія зь іх былі выяўленыя на працягу апошняга пяцідзесяцігодзьдзя. Два — Падуя дый Кракаў — у мінулым стагодзьдзі. Тры першыя ведамыя здаўна з кнігаў самога Скарыны.

Сам пералік гэтых асяродкаў паказвае, што сваёю экспансыўнай актыўнасьцяй доктар Скарына ахапіў найменш сем краёў Эўропы, ад Італіі й Даніі на захадзе, да эўразійскае Маскоўшчыны на ўсходзе. Кажны з гэтых асяродкаў меў сваё спэцыфічнае значаньне для багатай справамі й падзеямі, падарожжамі й прыгодамі біяграфіі вандроўнага Палачаніна. Старавечны Полацак важны найперш як радзіма Скарынавага роду, месца нараджэньня Францішка Скарыны, месца ўсваеньня радзімых нацыянальных і рэлігійных праваслаўных традыцыяў Беларусі, якія пазьней гэтак заважылі на кірунку пісьменьніцка-выдавецкай дзейнасьці доктара Скарыны. Кракаў, Падуя, й, праўдападобна, Капэнгага, — гэта месцы здабываньня вышэйшае асьветы й шматкірунковае веды. Прага й Вільня — два апорныя пункты Скарынавае друкарска-выдавецкае дзейнасьці «для пажытку й дабра люду паспалітага», якая стала асабліва важнаю ў гісторыі культуры роднае Скарыну Беларусі й усяе ўсходняе славянскае Эўропы. Капэнгага й, другім наваротам, тая самая Прага, былі месцамі Скарынавае дзейнасьці на адказных становішчах каралеўскага сакратара й каралеўскага садоўніка. Зь местам Пазнанем доктара Скарыну вязалі, найперш праз брата Івана, гандлёва-эканамічныя, міжнароднага засягу, справы й інтарэсы Скарынавага роду. Каралевец і Масква адзначыліся ў Скарынавым жыцьцяпісе галоўна як важныя зваротныя пункты, як месцы перажытых расчараваньняў і няўдачаў.

Выяўленая вялікая шматасяродкавасьць Скарынавага жыцьцяпісу яшчэ ня значыць, што ўсе месцы ягонае бытнасьці сяньня ведамыя й лік іх ужо не зьвялічыцца. Біяграфія доктара Скарыны раскрытая пакульшто вельмі недастаткова й дзеля гэтага трэба й у будучыні спадзявацца далейшага выкрыцьця новых асяродкаў, што ляглі на жыцьцёвым шляху неспакойнага Палачаніна. На такую магчымасьць паказвае й тое, што ведамы сяньня жыцьцяпіс доктара Скарыны вельмі няпоўны й мае вялікія прарэхі ў часе. Існуюць гады, аб якіх нічога ня ведама, дзе тады доктар Скарына быў, што чыніў. Датычыцца гэта найперш гадоў 1513—1516 ды 1520—1524. Вось гэта пазваляе думаць, што з выяўленьнем дзевяці ведамых сяньня асяродкаў Скарынавае дзейнасьці яшчэ не замыкаецца не малы й так сьпіс культурна-палітычных цэнтраў Эўропы, якія гасьцілі ў сваіх мурох полацкага няўтомнага падарожніка.

Розныя прычыны таго, што ведамыя нам сяньня дакумэнты, акты й факты датычныя Скарынавае біяграфіі, выяўляліся вельмі паволі, марудна, на працягу стагодзьдзяў. Адна з прычынаў, гэта сама вялікая геа-

графічная шматасяродкавасьць і шырокі нязвычайна круг тэрытар'яльнага засягу гэтага жыцьцяпісу — адбітак тыповае для эўрапейскага дзеяча рэнэсансавае пары рухавасьці. Ня было ніякіх асноваў на дагадкі аб тым, што нейкія актавыя зьвесткі пра Скарыну існуюць у старасховах Кракава, Падуі, Каралеўца, Пазнані, пакуль на іх, зусім прыпадкам, не натрапілі дасьледнікі. Ніхто ня мог прадбачыць і факту Скарынавае бытнасьці ў Капэнгазе ці навет і ў суседняй Вялікаму Княству Літоўскаму Маскоўшчыне. І дзеля гэтага пройдзе хіба яшчэ ня мала часу, пакуль будуць раскрытыя ўсе асяродкі Скарынавага жыцьцёвага шляху, выпаўненыя ўсе прарэхі ягонае біяграфіі ў часе й выкрытыя ўсе дакумэнтныя, актавыя, летапісныя й мэмуарныя аб ім зьвесткі.

Натугі дасьледнікаў над раскрываньнем фактаў Скарынавае біяграфіі камплікуе яе шматасяродкавасьць яшчэ й тым, што праца вымагае належнага пазнаньня тагачасных палітычна-сацыяльных і культурных дачыненьняў не аднаго, двух краёў, а блізу ўсяе Эўропы. Гэта вымагае веды не аднае-дзьвюх, а шмат большага ліку эўрапейскіх моваў. Ведамыя цяпер ужо актавыя й летапісныя запісы датычныя асобы доктара Скарыны, пісаныя ў мовах старабеларускай, лацінскай, чэскай, нямецкай. Скарынаведная-ж навуковая літаратура, пачаткі якое вядуцца ад XVIII стагодзьдзя, сяньня існуе на блізу ўсіх важнейшых эўрапейскіх мовах.

Калі экспансыўная рухавасьць выдатнага Палачаніна з частымі пераездамі стала паважнаю перашкодай пры выяўленьні фактаў яго біяграфіі, дык дала яна адначасна й сваё вымоўнае сьветчаньне аб важных рысах характару доктара Скарыны — аб ягонай энэргіі, аб імпульсыўнай актыўнасьці. Сустрэтыя на шляху перашкоды, няўдачы, выглядае, мала яго супынялі, а хутчэй былі вызываючым імпульсам для далейшых натугаў і спробаў у кірунку дасягненьня надуманых мэтаў, далейшага руху, пераездаў.

Другая важная прыкмета доктара Скарыны, якая вынікае з пададзеных у гэтым аглядзе фактаў, гэта тыповая рэнэсансавай мэнтальнасьці цяга да большых культурна-палітычных асяродкаў. Доктар Скарына яўна дзеяч найперш вялікіх, найчасьцей сталічных, цэнтраў. У іх ён спадзяваўся знайсьці належнае, адпаведнае сваім шырокім інтэлектуальным кругазорам, поле дзейнасьці. Калі выраслы на роднай зямлі патрыятызм ды набытыя на захадзе ідэі хрысьціянскага Эразмавага гуманізму абумовілі характар яго пісьменьніцка-выдавецкае дзейнасьці, якая ўся была накіраваная для «дабра й пажытку люду паспалітага», для свайго народу, дык шматкірунковая веда й шырокія інтэлектуальныя гарызонты піхалі адначасна самога Скарыну да культурна-палітычных цэнтраў ды да кантактаў зь кіруючымі й пануючымі асобамі рэнэсансавае Эўропы — каралямі, князямі, мітрапалітамі, біскупамі, бурмістрамі. На працягу ня гэтак і доўгага свайго жыцьця — памёр доктар Скарына ў веку нейдзе каля 55 год — яму давялося ўвайсьці ў сутычнасьць і мець важныя справы зь вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам Казімеравічам, з каралём Чэхіі, Аўстрыі й Вугоршчыны, пазьнейшым імпэратарам рымскае імпэрыі нямецкае нацыі, Фэрдынандам I, з каралём Даніі, Нарвэгіі й Швэцыі Гансам, зь вялікім князём маскоўскім Васілём III Іванавічам, зь герцагам прускім Альбрэхтам, зь мітрапалітам маскоўскім Данілам, зь Янам «з князёў літоў-

скіх» быскупам віленскім, з бурмістрам сталічнае Вільні Якубам Бабічам, з купцом-фінансіерам, радцаю места Віленскага, Багданам Онкавым-Анкевічам. Пералічаныя вышэй імёны даюць нам цэлую яскравую галярэю выдатных асобаў Эўропы рэнэсансавае пары, справы й дзеі якіх скрыжаваліся із справамі й жыцьцём доктара Скарыны.

Калі шырокі геаграфічны дыяпазон Скарынавае жыцьцёвае актыўнасьці й стаў паважнаю перашкодай у раскрываньні фактаў ягонае біяграфіі, дык трэба мець наўвеце, што была гэта не адзіная й не галоўная прычына вялікае маруднасьці ў выяўленьні ходу жыцьця й дзейнасьці доктара Скарыны. Куды важнейшым было тое, што пры скарынаведных досьледах ад самых іх зачаткаў і аж па сяньня не стаяла й не стаіць нелажная, сыстэматычная й пляновая, праца сваіх незалежных нацыянальных навуковых установаў — акадэміяў, інстытутаў, унівэрсытэтаў, — іхныя кадры, навуковы апарат, матар'яльныя рэсурсы. Край і народ, зь якога Скарына выйшаў, у гістарычных абставінах XVIII-XIX стагодзьдзяў, установаў гэтых ня меў і мець ня мог. Калі-ж у 20-х гадох гэтага стагодзьдзя новапаўсталы Інстытут Беларускае Культуры ў Менску зрабіў першы паважнейшы крок у скарынаведнай галіне выданьнем юбілейнага Скарынінскага зборніка «Чатырохсотлецьце беларускага друку»,[36] дык неўзабаве па гэтым быў распачаты генэральны наступ Масквы на беларускую навуку й быў праведзены татальны яе разгром. Беларускіх навукоўцаў, пры тым, вінавацілі, як за цяжкі «нацыяналдэмакратычны» праступак, між іншым, і за выданьне вышэй названага зборніка, які быў сканфіскаваны. Сам доктар Скарына быў абвешчаны «рэакцыйным», «буржуазным», «манахам», «езуітам», і на доўгія гады ў Беларускай ССР, як і на прасторы ўсяго СССР, усякая дасьледная праца аб ім была спаралiжаваная. Цікавіцца ягонай асобай і кнігамі было небясьпечна. Усе навукоўцы, што Скарынам і ягонай духовай спадчынай паважней навукова займаліся, трапілі пад арышт, на ссылку, некаторыя зьнішчаныя былі фізычна.[37]

Вось у выніку гэткіх і падобных перашкодаў Скарынаў жыцьцяпіс і ягоная каштоўная выдавецкая спадчына й да гэтай пары належна ня вывучаная. Навет і ведамыя актавыя дакумэнты архіваў Эўропы датычныя ягонай асобы не сабраныя ў зборнік ды не апублікаваныя для шырэйшага навуковага карыстаньня. Тэксты толькі некаторых зь іх паявіліся ў друку дзякуючы захадам і рупнасьці паасобных дасьледнікаў. I з гэтых публікацыяў некаторыя сяньня вялікая бібліяграфічная рэдкасьць, практычна недаступныя. А шмат ведамых актаў ляжыць па старасховах Эўропы й да гэтай пары неапублікаваных. Ведама сяньня напэўна, што ёсьць іх там і куды больш да гэтай пары яшчэ ня выяўленых на дзённае сьвятло.

Ды ўсё-ж, не зважаючы на ўсе перашкоды, праца над рэгістрацыяй фактаў жыцьця й вывучэньнем пісьменьніцка-выдавецкае спадчыны доктара Францішка Скарыны ня спынілася й ня спыніцца. Ягонае значаньне ў

---

[36] Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525-1925. Інстытут Беларускае Культуры. Менск 1926, б. VIII + 360.

[37] Брага С. Рэцэнзыя на: М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасьць і сьветагляд. «Запісы», кн. I. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн 1962, б. 265-266.

гісторыі культуры Беларусі на толькі важнае, што маўчаньнем абыйсьці яго дзейнасьці немагчыма. А, як паказваюць новавыяўленыя апошнімі дзесяцьгодзьдзямі дакумэнты й факты, актыўнасьць доктара Скарыны далёка не замыкалася межамі ягонае бацькаўшчыны. Ён — вялічыня шырэйшага гістарычнага й геаграфічнага фармату. Дзеля гэтага ягоная асоба заўсёды прыцягвала да сябе ўвагу навукоўцаў шмат краёў Эўропы. Вось таму, калі вывучаць жыцьцё й духовую спадчыну доктара Скарыны не маглі, — а ў вялікай меры ня могуць належна рабіць гэта й сяньня, — навуковыя ўстановы й навукоўцы на землях Беларусі, вялася яна, хай сабе несыстэматычна й усяго спарадычна, за межамі Скарынавага роднага краю зь ініцыятывы й ахвярнаю працай паасобных дасьледнікаў, увагу якіх заўсёды надзіла, прыцягала й паланіла красачная постаць выдатнага Палачаніна. Дасьледная праца, можна сказаць, будзе ісьці, — як ужо блізу два стагодзьдзі й ідзе, — дзякуючы галоўна й найперш самому доктару Франьцішку Скарыну, яго палонячай сіле й гістарычнаму значаньню ягонай, шырокага тэрытар'яльнага засягу, дзейнасьці.

Вось дзеля гэтага, не зважаючы на ўсе няспрыяльныя гістарычныя й палітычныя абставіны, скарынаведная праца ня спыніцца. Далейшыя росшукі яшчэ напэўна адкрыюць шмат важнага й цікавага для ўсебаковага пазнаньня ходу жыцьця й дзейнасьці «вандроўнага гуманісты» Беларусі. А гэта дасьць змогу раскрыць паўней вагу радзімых сваіх і набытых заходнеэўрапейскіх духовых элемэнтаў у фармаваньні Скарынавага сьветагляду. Гэта створыць перадумову для глыбейшага гістарычнага асэнсаваньня тых выходных нацыянальных і сацыяльных асноваў, якія абумовілі й наканавалі характар і ідэйную мэтанакіраванасьць усяе жыцьцёвае дзейнасьці доктара Скарыны.

# Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін «Літва»

*(У парадку дыскусіі)*

Павал Урбан

Пытаньне гэтае тым больш важнае, што ад даўжэйшага часу савецкая гістарыяграфія, у тым ліку й гістарыяграфія БССР, усялякімі магчымымі спосабамі выкрыўляе й хвальшуе гістарычнае мінулае беларускага народу. Што-ж тычыцца літоўскага пэрыяду ў гісторыі нашага народу, гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, дык пэрыяд гэты, выражаючыся лагодна, зусім выкінуты з нашага гістарычнага мінулага. І гэта зроблена зусім сьвядама й зроблена таму, каб ня шкодзіць цэласьці канцэпцыяў гэтай гістарыяграфіі пра беларускі народ, як «безьдзяржаўны народ» у мінулым, пра так званую «гістарычна-нацыянальную супольнасьць» беларускага народу з расейскім. З гэтае прычыны мы ня маем ніводнае гістарычнае працы, якая была-б выдадзеная ў БССР ды спэцыяльна была-б прысьвечаная гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ці гісторыі беларускага народу гэтага літоўскага пэрыяду. Калі ня ўлічваць пару выняткаў, няма іх і ў вагульнасавецкай гістарыяграфіі. У тым выпадку, калі ў тых ці іншых абагульняльных гістарычных працах і закранаецца гісторыя беларускага народу гэтага літоўскага пэрыяду, дык яна насьвятляецца ў такі спосаб, што ствараецца ўражаньне, нібы у гэтым літоўскім пэрыядзе беларускі народ перажываў «нацыянальнае прыгнечаньне», а ягоная гістарычная дзейнасьць зводзілася да «пакутніцтва за рускую справу» й няспыннага змаганьня супраць «прыгнятальнікаў» «за аб'яднаньне з Маскоўшчынай» ці «вялікім расейскім народам».[1] Пры гэтым хвальшаваньне гісторыі заходзіць так далёка, што навет дапускаецца падобная нелягічнасьць:

[1] История Белорусской ССР, изд. 2-е, т. I. Изд-во Академии наук БССР. Минск, 1961, бб. 64-189.

Да Расейскай дзяржавы, — чытаем мы ў «Истории БССР», — цягнулася й частка праваслаўных феадалаў Беларусі, якія былі незадаволеныя прыгнечаньнем літоўскіх магнатаў. Напрыклад, у 1481 г. князі Міхаіл Алелькавіч, Фёдар Гальшанскі й Фёдар Бельскі ачолілі змову, якая ставіла сваёй мэтай аддзяліць ад Літвы беларускія землі й далучыць іх да Расейскага гаспадарства. Гэтая змова, аднак, была выкрыта. Алелькавіч і Гальшанскі былі пакараныя сьмерцяй, а Бельскі зьбег да Масквы.[2]

Найперш неабходна адцеміць, што змова гэтая, ачоленаяназванымі князямі, у тым ліку й Іванам Гальшанскім, а ня Фёдарам, мела зусім іншыя палітычныя мэты. Заняўшыся сваей дынастычнай і прапольскай палітыкай у Чэхіі й Вугоршчыне, вялікі князь літоўскі й адначасна польскі кароль Казімер занядбаў нацыянальна-палітычныя інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага на ўсходзе. Гэта выкарыстаў маскоўскі князь Іван III для свайго наступу на Вяліканоўгарадзкую рэспубліку, якая дасюль адыйгрывала ролю буфэрнае дзяржавы між ВКЛ і Маскоўскім княствам. Не зважаючы на тое, што ноўгарадзкае баярства неаднаразова зьвярталася за дапамогай да ВКЛ і самога князя Казімера, прапануючы пры гэтым заключэньне больш цеснага саюзу між двума гаспадарствамі й вуніі ў васобе вялікага князя літоўскага, а таксама не зважаючы на дамаганьні Вялікакняжае Рады абвясьціць вайну Маскоўшчыне, Казімер заставаўся нібы глухім да ўсяго гэтага. Ён таксама адмовіўся выкарыстаць абставіны 1480 году, калі ўзбунтаваныя браты Івана III князі Барыс і Андрэй Старэйшы зьвярнуліся за дапамогай да ВКЛ і атрымалі рашучую адмову ды калі хан Залатой Арды Ахмат змушаны быў дарэмна чакаць літоўскае падтрымкі, стоячы на ўзьмежжы Маскоўскага княства. Вось-жа ў гэтых крытычных для ВКЛ абставінах і ўзьнікла палітычная змова супраць вялікага князя літоўскага Казімера, мэтай якое прадугледжвалася ягонае забіцьцё разам з сынамі, каб гэтым самым вярнуць бясьпеку ВКЛ на ўсходніх межах ды нарэшце пазбавіцца шкодных вунійных сувязяў з Польшчай. Дарэчы зазначыць, што вялікі князь Казімер ледзь не загінуў у падобны спосаб яшчэ ў 1453 годзе, калі на бурным сойме, на якім разглядалася спрэчка Ліцьвіноў з Палякамі за Падольле, ён быў ранены. У тым-жа годзе ўзьнікла пытаньне выбару новага вялікага князя, і на месца Казімера прапанавалася кандыдатура князя Сямёна Алелькавіча, брата Міхаіла Алелькавіча. З 1456 году справа новага вялікага князя ў васобе Сямёна Алелькавіча становіцца яшчэ больш надзённай, і ў гэтых захадах замены Казімера першарадную ролю адыйгравае князь Юры Сямёнавіч Гальшанскі. Як-бы па традыцыі кандыдатура Слуцкага князя Сямёна Міхайлавіча, сына пакаранага ў 1481 годзе Міхаіла Алелькавіча, высоўвалася таксама й пры выбарах вялікага князя літоўскага ў 1492 годзе.

Гэтая маленькая экскурсія ў гісторыю тут была неабходнай з гледзішча на падобную нахабнасьць у насьвятленьні нашага гістарычнага мінулага. Але галоўнае заключаецца ў васьветчаньні: «Да Маскоўшчыны цягнулася

---

[2] Тамсама, б. 73.

й частка праваслаўных феадалаў Беларусі, незадаволеных прыгнечаньнем літоўскіх магнатаў». Князі Міхаіл Алелькавіч Слуцкі, Іван Гельшанскі й Фёдар Бельскі былі праваслаўнага веравызнаньня. Аднак, калі карыстацца тэрміналёгіяй савецкай гістарыяграфіі, паводля паходжаньня яны былі Літоўцамі, як і іншыя «літоўскія магнаты». Прадзедам Міхаіла Алелькавіча й Фёдара Бельскага быў князь Уладзімер, сын вялікага князя Альгерда. Князь Іван Гальшанскі, праўдападобна, паходзіў зь іншага адгалінbackslashеньня літоўскіх князёў. У Быхаўскай хроніцы князі Гальшанскія ў вадным месцы выводзяцца ад князя Міндоўга, а ў іншым месцы — з роду полацкіх князёў (з «поколеня руского»).[3] Якім-жа цудам тыя самыя «літоўскія феадалы», «прыгнятальнікі беларускага народу», маглі выступіць супраць собскіх інтарэсаў, каб шляхам «вызваленьня» гэтага народу самым трапіць у чужацкую няволю?

З гледзішча насьвятленьня гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў ягоным першапачаткавым пэрыядзе вымоўнай зьяўляецца праца навуковага супрацоўніка Інстытуту гісторыі Акадэміі навук СССР В. Пашуты, выдадзеная ў 1959 годзе пад назовам «Утварэньне Літоўскага гаспадарства». У гэтай першай у вагульнасавецкай гістарыяграфіі спэцыяльнай працы пра ВКЛ найбольш ярка праявіліся антыбеларускія тэндэнцыі ў паглядах на гісторыю гэтага княства. Фактычна, бязь ніякіх найменшых засьцярогаў, гісторыя гэтая сьпісана на конта сяньняшняе Летувы, і беларускі народ выступае ў ёй, як аб'ект заваёваў і калянізацыі. Ды й пра беларускі народ і старажытныя беларускія княствы найменш тут гутаркі, бо яны залічаны ў склад Кіеўскай Русі й гэтак званы «старажытны рускі народ». З другога боку, прарасейская канцэпцыя гісторыі Беларусі ў ёй дае знаць пра сябе з асаблівай сілай. Адным словам, у сувязі з татарскай і нямецкай загрозай і ўпадкам Русі ўваход Беларусі ў склад ВКЛ «быў меншым злом»:

> Калі маскоўскі ўрад змог здабыцца на дастатковую сілу для змаганьня з гэтай загрозай, — працягвае В. Пашута, паўтараючы й у іншых мясцах, — узмоцніўся пацяг да яго земляў, заселеных этнічна блізкім народам. Гэта адбілася й на палітыцы пануючых праслойкаў. Пачаліся ад'езды ў Маскву ... Многа пральлецца крыві, пакуль ужыцьцявіцца ўзьеднаньне расейскіх, украінскіх і беларускіх земляў.[4]

Дзіўнай ёсьць і сама тэорыя ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, якую тут праводзіць В. Пашута й трымаецца яе да канца сваe працы. Гэта тэорыя эканамічнага матарыялізму, згодна якое ўзьнікненьне ВКЛ было «заканамерным рэзультатам зьменаў у гаспадарскім і грамадзкім разьвіцьці краіны», г. зн. неакрэсьленае старажытнае Літвы. Калі пасьлядоўна прытрымоўвацца гэтае тэорыі ды лічыць тую неакрэсьленую старажытную Літву, як простую папярэдніцу сяньняшняе Летувы, дык у такім выпадку

[3] Полное Собрание Русских Летописей (ПСРЛ), т. XVII. С.-Петербург, 1907, кал. 493, 518.

[4] В. Т. Пашуто. Образование Литовского государства. Изд-во Академии наук СССР. Москва, 1959, б. 322.

як прыходзіцца разглядаць факт утварэньня Вялікага Княства Літоўскага амаль вылучна на тых землях, якія ў сілу гэтае тэорыі мелі ці прынамся павінны былі мець сваё падобнае «заканамернае» разьвіцьцё.

## I.

Гісторыя ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага ці Літвы, як яно звычайна называлася, даволі складанае пытаньне. І гэта таму, што час не захаваў для нас ні полацкіх, ні смаленскіх, ні наваградзкіх, ні іншых беларускіх старажытных летапісаў, якія, як сьветчаць некаторыя ведамкі, існавалі бясспрэчна й якія загінулі праўдападобна яшчэ ў XIII ці XIV стагодзьдзях. Пазьнейшыя літоўскія летапісы, пісаныя пераважна ў XVI стагодзьдзі, у бальшыні выпадкаў паведамляюць нам у гэтым пытаньні чыстую фантазію й кучу нязьвязаных між сабой і з часам здарэньняў і дзеяў паасобных, праўдападобна, прыдуманых пэрсанажаў. Ведамкі іншых тагачасных ці крыху пазьнейшых хронікаў і летапісаў — польскіх, Тэўтонскага й Лівонскага ордэнаў, вяліканоўгарадзкіх, маскоўскіх і галіцка-валынскіх — выпадковыя й закранаюць галоўным чынам толькі гісторыю войнаў, набегаў Ліцьвіноў на суседнія землі ці такіх-жа набегаў суседзяў на ВКЛ. Падобны незадавальняючы стан зь гістарычнымі крыніцамі мусіць, ведама, адбівацца й на паўнаце насьвятленьня гісторыі ўтварэньня ВКЛ ды спрычыняецца да ўзьнікненьня розных палітычна-прадузятых канцэпцыяў.

Пры пастаноўцы пытаньня пра нацыянальны характар гістарычнага тэрміну «Літва», «літоўскі», як наагул пры пастаноўцы пытаньня пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага, няўхільна ўзьнікае й пытаньне, хто быў першапачаткавым носьбітам гэтага тэрміну, які народ ці племя называліся ім. Гэта дапаможа ўнікнуць лішніх недаразуменьняў і непатрэбных нацяжак, дапаможа падыйсьці да праблемы ўсебакова й аб'ектыўна.

Найстарэйшай крыніцай, у якой паяўляецца тэрмін «Літва»,[5] ёсьць гэтак званыя «Анналы Квэдлінбургскія», пісаныя перад 1025 годам. Тут пра Літву гаворыцца («in confinio Rusciae et Lituae») ў сувязі з паведамленьнем аб забойстве сьв. Бруна ў Прусіі ў 1009 годзе.[6] У хроніцы Тытмэра, япіскапа Мэрзэбургскага, пісанай перад 1018 годам, таксама паведамляецца пра гэтае здарэньне, аднак у ёй апушчаны ўспамін пра Літву й гаворыцца толькі аб Прусіі й Русі.[7] Праўда, і ведамка Квэдлінбургскага летапісу для нас зьяўляецца малаважнай, бо яна й абмяжоўваецца толькі напамінам пра

---

[5] У пару месцах свае працы бізантыйскі імпэратар Канстантын Парфіражанэт (905-959) успамінае пра адно славянскае племя Лензанінаў ці Ленцанінаў, памяшчаючы іх побач Крывічоў, Дрыгвічоў і Драўлянаў. Гісторыкамі дасюль ня высьнена, якое племя магло быць імі. Магчыма бізантыйскі імпэратар тут меў на ўвазе якраз старажытных Літоўцаў (Constantine Porphyrogenitus. De Administrando Imperio. *Magyar-Görög Tanulmanyok*, 29, Budapest, 1949, pp. 57-59, 169).

[6] Scriptores Rerum Prussicarum (SRP), t. I. Ed. Th. Hirsch, M. Töppen, E. Strehlke. Leipzig, 1861, p. 237.

[7] Id., pp. 237-238.

існаваньне гэтага тэрміну ці племя, якім апошняе называецца. Дзеля гэтага, а таксама ў сувязі з тым, што ў заходніх летапісцаў заўважаецца тэндэнцыя прыймаць старажытных Прусаў і Літоўцаў за адну й тую-ж этнічную групу, для нас больш цікавымі могуць быць «Жыцьці» сьв. Адальбэрта (Войцеха), напісаныя на пераломе X і XI стагодзьдзяў Янам Канапараюсам і архіяпіскапам Брунам. У іх выказваецца шкадаваньне, чаму сьв. Адальбэрт, які быў забіты ў Прусіі ў 997 годзе, не пайшоў, як ён перш хацеў, да Люцічаў, каб сярод іх пашыраць хрысьціянства. А гэта таму, што, сам будучы славянінам і такім парадкам разумеючы й мову Люцічаў, пры найменшай небясьпецы ён мог-бы замаскавацца й ўнікнуць гвалтоўнае сьмерці („Ad ferocium quidem Liutizorum ydola surda praedicacionis equos flectere placuit, quorum linguam cognovit, et quos necdum visus, mutata veste et habitu fallere potuit“).[8] Што іншае, нібы выводзяць жыцьцяпісцы, прарочыла сьв. Адальбэрту (Чэх з походжаньня) зусім чужая пруская зямля, даючы гэтым зразумець, што Прусія згодна іхнага дасьветчаньня не ўваходзіла ў славянскі сьвет. Між іншым, падобную думку аб Прусіі выказвае й Гал Ананім. У сваёй хроніцы, напісанай дзесьці перад 1117 годам, ён сьветчыць:

> Дык вось, ён (польскі кароль Балеслаў III — П. У.) напаў на Прусію, краіну дастаткова барбарскую, і, жадаючы знайсьці прычыну да вайны й не знайшоўшы яе, вярнуўся стуль зь вялікай здабычай, спаліўшы ўсё й захапіўшы шмат палонных. Але калі ўжо так здарылася, што мы ўспомнілі пра гэты край, дык ня будзе лішнім прыбавіць яшчэ штосьці да гэтага з апавяданьняў продкаў. Пайменна, у часы Карла Вялікага, калі Саксонія адносілася да яго няпрыхільна, варожа ставілася да ягонае ўлады й ня прыймала хрысьціянства, народ гэтай краіны перабраўся на караблёх із Саксоніі й заняў гэтую зямлю, атрымаўшы адначасна й назоў гэтай краіны (г. зн. Прусіі). Гэтак да гэтага часу жывуць яны без караля й без закону ды не забываюць ранейшага адступніцтва й дзікунства.[9]

Бясспрэчна, мы ня можам пагадзіцца з гэтай канцэпцыяй Гала Ананіма пра паходжаньне Прусаў, аднак яна адлюстроўвае тую-ж тэндэнцыю адносіць апошніх да зусім іншае этнічнае групы.

Цікава тут заўважыць, што польскія хронікі XI і XII стагодзьдзяў ня ведаюць тэрміну «Літва» ды ўспамінаюць толькі Прусаў. Магчыма таму, што на ўсходзе ў тыя часы Польшча сустракалася зь Кіеўскай Русьсю й уладаньнямі полацкіх князёў, якія з гледзішча на прынятую «рускую веру» таксама выступалі, асабліва ў замежных крыніцах, пад назовам Русі. Із старажытнымі Літоўцамі, якія дасюль прызнавалі зьверхніцтва полацкіх князёў, Польшча сустрэлася толькі ў XIII стагодзьдзі. Ня выключана таксама й тое, што ў тыя далёкія часы плямёны гэтага абшару вазёраў, бало-

---

[8] Id., pp. 228-230, 231-235.

[9] Галл Аноним. Хроника и деяния князей или правителей польских. Перевод Л. М. Поповой. Изд-во АН СССР. Москва, 1961, бб. 99-100.

таў і пушчаў у польскіх паданьнях выступалі пад абагульняльным назовам «Прусы».

Тэрмін «Літва» ня сустракаецца таксама ні ў царкоўнай гісторыі Адама Брэмэнскага з апошняе чвэрткі XI стагодзьдзя, ні ў «Славянскай хроніцы» Гэльмольда, напісанай сто гадоў пазьней дзесьці каля 1171 году. Што-ж датычыцца Прусаў, дык, ня ў прыклад аўтарам «Жыцьцяў» сьв. Адальбэрта ні зацытаванаму тут Галу Ананіму, апошніх яны залічаюць да сям'і славянскіх народаў. У Адама Брэмэнскага гэта асабліва відаць з тых мясьцінаў, дзе ён, пералічаючы народы ўзьбярэжжа Балтыцкага мора, у вадным месцы гаворыць, што паўднёвы ягоны бераг засяляюць славяне („Itaque latere illius ponti ab austro Sclavi, ab aquilone Suedi possederunt"), а ў іншым месцы, пералічаючы абтокі, якія належылі славянам, успамінае й пра «абток Землянд», заселены Прусамі („Tertia est illa quae Semland dicitur, contigua Ruzzis et Polanis; hanc inhabitant Sembi vel Pruzzi . . ."").[10] Гэльмольд із свайго боку Прусаў умяшчае ў разьдзел «Пра падзел славянаў» і тут гаворыць пра іх, як пра адзін із славянскіх народаў.[11] У сувязі з гэтым цікава адцеміць, што ў сваіх успамінах Віперт, адзін із спадарожнікаў сьв. Бруна, піша, што ў Прусіі яны былі ветліва прынятыя «каралём Нотымерам», які, пераканаўшыся ў сіле хрысьціянства, зараз-жа ахрысьціўся зь іншымі сваімі дружыньнікамі ў ліку 300 чалавек.[12] Нотымер ці Нотымір — гэта адно із імёнаў, якія былі пашыраныя сярод славянаў.

З найстарэйшых усходнеславянскіх летапісаў для нас асаблівую важнасьць мае гэтак званая «Повесть временных лет» манаха Несьцера, пісаная ў Кіеве ў пачатку XII стагодзьдзя й тады-ж зьмененая й дапоўненая іншымі аўтарамі. У выглядзе апрычонага твору яна не захавалася, а найстарэйшы ейны сьпісак мы знаходзім у складзе суздальскага Лаўрэньцеўскага летапісу з 1377 году. Зь некаторымі невялікімі зьменамі цэласьць «Повести временных лет» паўтараецца й у іншых летапісных кампіляцыях, як, напрыклад, у Іпацеўскім і Радзівілаўскім летапісах з XV стагодзьдзя. Усе яны, аднак, чэрпалі свой матар'ял не з арыгіналу, але зь іншых кампіляцыйных летапісных зборнікаў. Аўтэнтычнасьць ведамак дайшоўшага да нас сьпіска «Повести временных лет» мы ня можам праверыць і на падставе шмат старэйшага за Лаўрэньцеўскі летапіс Ноўгарадзкага пергаменнага летапісу, бо пачатак апошняга загублены. З гэтае прычыны да «Повести временных лет» мы павінны адносіцца зь некаторымі засьцярогамі. У «Повести временных лет» тэрмін «Літва» паўтараецца некалькі разоў, і пра гэтую Літву аўтар ці аўтары адклікаюцца наступна:

> Се бо токмо Словенеск язык в Руси: Поляне, Деревляне, Ноугородьци, Полочане, Дреговичи, Север, Бужане, зане седоша по Бугу, после же Велыняне. А се суть инии языци, иже дань дають

---

[10] Adami Gesta Hammaburgensis Ecclesiae Pontificum (SRG). Ed. altera. Hannoverae, 1876, pp. 55, 163, 165-166.

[11] Гельмольд. Славянская хроника. Перевод Л. В. Разумовской. Изд-во АН СССР. Москва, 1963, бб. 33-35.

[12] Prof. Dr. X. Walerian Meysztowicz. Św. Brun na Litwie w 1009 roku. *Prace Zebrane* (Alma Mater Vilnensis), Londyn, 1958, p. 127.

Руси: Чюдь, Меря, Весь, Мурома, Черемись, Мордва, Пермь, Печера, Ямь, Литва, Земигола, Корсь, Нерова (Норома), Либь: си суть свой язык имуще, от колена Афетова, иже живуть в странах полунощных.[13]

Значыцца, тут старажытныя Літоўцы выключаюцца з асяродзьдзя славянскіх племяў і адносяцца да іншамоўных. Між іншым гэта адзіная ведамка, якая так выразна закранае пытаньне нацыянальнага характару старажытных Літоўцаў. У іншых летапісах яна паўтараецца толькі ў кантэксьце й у сувязі з паўтарэньнем цэласьці «Повести временных лет». Паза гэтым-жа пра Літву ўспамінаецца неазначана, а таму бадай немагчыма з падобных ведамак зрабіць які-колечы выснаў. Праўда, у Іпацеўскім летапісу, які выкарыстаў у якасьці крыніцы й Галіцка-Валынскі летапіс з канца XIII стагодзьдзя, пад 1258 годам ёсьць яшчэ адна заўвага пра Літоўцаў. Пайменна, летапісец паведамляе, што, будучы запрошанымі князём Данілам у паход на Кіеў і абыйдзенымі пры распадзеле здабычы, захопленай у Вазьвягле, Літоўцы ўзбунтаваліся й пачалі наракаць і сыпаць праклёны на сваёй мове («тоужахоу же и плевахоу, по своискы рекоуще янда, взывающе богы своя Андая и Дивирикса и вся богы своя, поминающе рекомыя беси»[14]). Аднак якая была гэтая мова, нам няведама. Расшыфроўваць яе, спасылаючыся на назовы боствау, мы таксама ня можам, бо бостввы з падобнымі назовамі маглі быць і ў славянаў. Яны нічуць ня розьняцца, напрыклад, ад Хорса, Сімаргла й Мокаша, успомненых у «Повести временных лет», ці ад Прове, Радагоста-Сварожыча, Подага й Сьвятавіта, успомненых у «Славянскай хроніцы» Гэльмольда. Ды на чале гэтага экспэдыцыйнага літоўскага аддзелу, пра які тут гаворыць летапісец, стаялі ваявода Хвал і князь Сірвід Рушковіч.

Пра Літву, як апрычоную зямлю ці край, і бітву зь Літоўцамі дзесьці пад Гораднем аднаго з полацкіх князёў Ізяслава Васількавіча ўспамінаецца таксама ў літаратурным творы «Слова аб палку Ігаравым», напісаным хутка пасьля 1185 году. Аднак і аўтар «Слова» ня йдзе далей гэтага напаміну, ды, дарэчы, усьлед за францускім навукоўцам А. Мазонам і некаторыя савецкія гісторыкі (напрыклад, доктар А. Зімін) прыходзяць цяпер да высnаву, што гэтае «Слова» было літаратурнай падробкай канца XVIII стагодзьдзя.[15]

Больш вартаснай крыніцай ці гістарычным даведнікам зьяўляецца для нас «Лівонская хроніка» Гэнрыка Лівонскага. Сваю хроніку ён пісаў дзесьці ў 1225—1226 гадох і дапоўніў яе яшчэ адным разьдзелам у 1227 ці ў 1228 годзе. Згодна практыкі тых часоў Гэнрык Лівонскі таксама не закранае пытаньня ні моваў тых народаў, дзеі якіх ён апісвае, ні наагул іхных нацыянальных асаблівасьцяў. Пад тэрмінам «Русі» ці «рускіх» ён абагульняе Полацкае княства й полацкіх Крывічоў і супрацьстаўляе ўсім «Русам» Літоўцаў, якія для яго жывуць дзесьці на поўдзень ад Дзьвіны. Толькі спасыла-

---

[13] ПСРЛ, т. I. Фататыпічны перадрук з 2-га выданьня. Москва, 1962, кал. 11.

[14] ПСРЛ, т. II. Фататыпічны перадрук з 2-га выданьня. Москва, 1962, кал. 838-840.

[15] Вопросы истории, 9, 1964, бб. 121-140.

ючыся на прозьвішчы літоўскіх князькоў, як, напрыклад, Сьвельгатэ й Даўгэрутэ, і падобныя прозьвішчы важакоў латыскіх плямёнаў, якія ён час ад часу называе, можна прыйсьці да выснаву, што тут гутарка ідзе пра неславянскія народы,[16] хоць праўда, падобныя прозьвішчы не заўсёды могуць супадаць з адпаведным народам.

Пазнаньскі япіскап Богуфал (1255—1265) у сваёй хроніцы, прадоўжанай адным із ягоных сучасьнікаў Басткам, называе ўжо й Жмудзь, прылучаючы апошнюю да Прусаў, Яцьвягаў, Літоўцаў і невядомых нам Палексіянаў (Pollexiani — Паляшукі ці Падляшане?). Асабліва ён зьмешвае ў адно Прусаў і Літоўцаў, і вялікага князя Міндоўга (Mendolpho) ўважае найперш за «караля» Прусаў.[17]

Як і Гэнрык Лівонскі ці пазнаньскі япіскап Богуфал, у сваёй „Cronica Terrae Prussiae", напісанай у 1326 годзе, Пётра Дузбурскі не дае простага адказу на пытаньне, кім-жа былі, нарэшце, Прусы й Літоўцы. Праўда, як што да першых, так і апошніх ён цьмяна запачаткоўвае канцэпцыю пра гэтак званае іхнае «рымлянскае» ці «італьянскае» паходжаньне. Канцэпцыя гэтая пасьлей будзе падхопленая Янам Длугашам і літоўскімі летапісцамі XVI стагодзьдзя. У Пётры Дузбурскага гэтая канцэпцыя вынікае з тых мясьцінаў, дзе ён намякае, папершае, на вайну, якая вялася быццам супраць Прусаў Юліям Цэзарам, а, падругое, цэнтры паганскіх культаў у Прусіі й Літве на чале з вышэйшым пастарам Крывэ — два ідэнтычныя месцы *Ромаў* — выводзіць ад Рыму.[18] Аднак, як ведама, канцэпцыю гэтую прысабечвалі шматлікія народы, у тым ліку, як сьветчыць у сваёй «Славянскай хроніцы» Гэльмольд, і Люцічы.[19] Таму нацыянальных прыметаў Літоўцаў трэба шукаць не ў вапошняй канцэпцыі, але ў іншых асьветчаньнях, якіх у Пётры Дузбурскага мы знаходзім шмат. Пайменна, неславянскае паходжаньне Літоўцаў у хроніцы Пётры Дузбурскага падцьвярджаецца, найперш, тымі мясьцінамі, дзе ён пад тэрмінам «Літва» разумее як тэрыторыю собскае Літвы, так і тэрыторыю Жмудзі;[20] падругое, дзе ён гэтую тэрытарыяльную цэласьць разьдзяляе на собскую Літву ці Аўкштоту (Austechia) і тую самую Жмудзь (Samethia);[21] патрэйцяе, дзе ён Жмудзінаў залічае да тых-жа Літоўцаў („Lethowini de Samethia cum omni potencia exercitus sui venerunt occulte et improvise ad castrum Raganitam et impugnaverunt illud"; „Lethowini de Samethia cum exercitu suo expugnaverunt civitatem Memelam").[22] Між іншым, падобнае выдзяленьне Жмудзі зь Літвы й аднясеньне Жмудзінаў да тых-жа Літоўцаў („Eodem anno — 1331 — magister Lyvonie cum exercitu terram Littowie, que Sameiten vocatur, intravit") мы знаходзім у „Epitome Gestorum Prussie" самбійскага канónіка, пісаных пасьля 1338 году.[23] З другога боку, як Пётра Дузбурскі, так і

[16] The Chronicle of Henry of Livonia. A Translation with Introduction and Notes by James A. Brundage. The University of Wisconsin Press. Madison, 1961.
[17] SRP, т. I, pp. 757-761.
[18] Id., pp. 39, 53-54, 159.
[19] Гельмольд, цыт. хроніка, б. 103.
[20] SRP, т. I, pp. 146, 147, 154-155, 180.
[21] Id., p. 159.
[22] Id., pp. 181, 187-188.
[23] Id., pp. 285, 287.

апошні самбійскі канонік у шматлікіх выпадках і ў самы падробны спосаб выдзяляюць зь літоўскага асяродзьдзя «Рутэнаў». Пётра Дузбурскі, напрыклад, Прусію мяжуе найперш з «Русіяй» і потым толькі зь Літвой, якую ад Прусіі дзеліць рака Нёман,[24] залічаючы гэтым самым да гэтае «Русі» тэрыторыю сяньняшняй Аўгустоўшчыны. Далей, расказваючы пра бітвы й паадзіночныя схваткі крыжакоў зь Ліцьвінамі, у некаторых выпадках між апошнімі ён вылучае «Рутэнаў», што ў той ці іншы спосаб адлічыліся сваімі баявымі выхадкамі.[25] Самбійскі канонік, паведамляючы пра аблогу вялікім князем Віценям у 1315 годзе крыжацкае цьвярдыні Крыстмэмэля, у сваю чаргу зазначае, што Віцень меў пры сабе й «рускіх лучнікаў» („multos secum habentes sagittarios Ruthenorum").[26] У іншым месцы пад 1330 годам ён піша пра напад на Курляндыю вялікага войска «Літоўцаў і Рутэнаў» („Magnus exercitus Litwinorum et Ruthenorum Curoniam circa dominicam reminiscere intravit").[27] Наагул вялікага князя Віценя Пётра Дузбурскі тытулуе ўжо «каралём Літоўцаў і Рутэнаў» („rex Lethowinorum et Ruthenorum").[28] Як Пётра Дузбурскі, так і самбійскі канонік апошніх «Рутэнаў» называюць яшчэ й Крывічамі, і гэта яны робяць у тых мясьцінах, дзе апісваюць напад крыжакоў на Наваградак у 1314 годзе.[29] У іншым месцы самбійскі канонік гэтыя два тэрміны як-бы спалучае ў вадно, пішучы, што „Eodem anno fratres habebant expedicionem in fines Ruthenorum Criwicz".[30]

Аднак у Пётры Дузбурскага заўважаецца адначасна й супрацьлеглая тэндэнцыя ці тэндэнцыя ўлучаць у собскую Літву й землі гэтае «Русі», пра якую ён тут гаворыць, ці землі Заходняй Беларусі й у першую чаргу Горадзеншчыну.[31] Разам з гэтым ён вырозьнівае таксама собскую Літву ці Вялікае Княства Літоўскае, тады яшчэ ў працэсе фармаваньня, ад Жмудзі, бо толькі першую разглядае, як «зямлю вялікага князя» („terra regis"),[32] выстаўляючы апошнюю часамі ў няпрыхільных адносінах да гэтага Вялі-

---

[24] Id., pp. 50-51.

[25] Id., pp. 162, 171-172.

[26] Id., p. 286.

[27] Id., pp. 284-285.

[28] Id., pp. 190-191.

[29] Id., pp. 180-181, 282.

[30] Id., p. 285.

[31] „Eodem anno (1277?), tempore autumni fratres iterum armata manu intraverunt predictam terram Pogesanie, et vastata iterum incendio et rapina, captis et occisis omnibus, preter paucos, qui cum familia sua versus Lethowiam ad territorium castri Garthe secesserunt, ipsam in solitudinem redegerunt"; „Eodem anno (1311) idem frater Henricus commendator magnus et 150 fratres cum valido exercitu et duobus milibus peditum direxerunt viam suam versus Lethowiam ad territorium dictum Salsenickam (Salečniki), ubi nunquam visus fuit exercitus Cristianorum, et dum appropinquarent castro Garthe, ceperunt 4 viros exploratores regis, et occisis tribus quartus interrogatus, dixit : . . ." (Id., pp. 136, 178).

[32] „Qui (frater Henricus Zutswert, commendator de Balga) cum venisset jam non longe a terra regis, nescio quo ductus spiritu retrocessit, impugnansque castrum Gartham tantam castrensium per crebra jacula invenit resistenciam, quod, multis Cristianis graviter vulneratis, infecto negocio est reversus". (Id., p. 163).

кага Княства Літоўскага.[33] Дарэчы й у Іпацеўскім летапісу мы шмат знаходзім прыкладаў, якія сьветчаць пра літоўска-жмудзкую варажнечу ў XIII стагодзьдзі, асабліва ў часы княжаньня вялікага князя Міндоўга. Магчыма, што ў сувязі з гэтым Пётра Дузбурскі й горадзеньскага ваяводу князя Давыда больш ужо не называе «Рутэнам», залічваючы яго гэтым самым да тых-жа Ліцьвіноў.[34]

Такімі былі-б у васнаўным найважнейшыя ведамкі пра старажытную Літву, якія мы знаходзім у найстарэйшых летапісах ці хроніках. Зьвернемся цяпер да добра знанага асьветчаньня ў гэтым пытаньні вялікага князя Вітаўта, якое захавалася ў ягоным лісьце з 11 сакавіка 1420 году, сьціраваным да нямецкага імпэратара Жыгімонта. Ліст гэты ўзьнік у вабставінах гарачых спрэчак за Жмудзь, якія вяліся між Вялікім Княствам Літоўскім і крыжакамі Прусіі. Як ведама, змагаючыся зь вялікім князем Ягайлам, а потым і з польскімі палітычнымі ўплывамі ў ВКЛ, князь Вітаўт неаднаразова ўваходзіў у саюз з крыжакамі за цану Жмудзі. Пасьля Грунвальдзкай бітвы згодна ўмовы 1411 году Жмудзь зноў вярнулася да Вялікага Княства Літоўскага, але крыжакі з гэтым не пагаджаліся. І вось у тым-жа 1420 годзе, разглядаючы гэтую спрэчку ў Вроцлаве, дзе прысутнічалі таксама й літоўскія пасланцы, імпэратар Жыгімонт раптам вырашае гэты спор у карысьць крыжакоў. У сувязі з гэтым і паявіўся ўспомнены ліст вялікага князя Вітаўта. У ім Вітаўт даводзіў да ведама:

> Вы выказаліся й прынялі пастанову што да Жмудзі, якая ёсьць нашай спадчынай і нашай уласнасьцяй, як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер ды якая таксама ёсьць і заўсёды была адзінай зь Літвой, бо-ж адна й тая самая мова й адны й тыя самыя людзі. Але дзеля таго, што Жмудзь ляжыць ніжэй за Літву, яна й называецца Жмудзяй, што азначае палітоўску ніжэйшая зямля. А на Жмудзі Літву называюць Аўкштотай, што значыць вышэйшая зямля ў параўнаньні да самой Жмудзі. Аднак на Жмудзі з даўных часоў людзі называюць сябе Літоўцамі й ніколі Жмудзінамі, а таму з гэтае прычыны ў нашым ты-

---

[33] „Alia bella habuit (frater Lodewicus de Libencele, commendator de Raganita) contra territorium Samethie dictum Pograudam... Et in hoc bello hii de Pograuda adeo debilitati fuerunt, quod multis annis non poterant in equitibus resumere vires primas. Idem processit contra territorium dictum Wayken, ubi eciam per insidias multos nobiles interfecit... Sed ut breviter concludam, adeo infestus fuit eis (bellis), quod infra sex annos (1294-1300), quibus dicto castro prefuit, coegit omnes Lethowinos, qui supra litus Memele habitabant, a fluvio Nare (Vilija) usque ad terram Lamotinam, ut pacem cum Cristianis haberent sub hiis pactis, ut certum censum annis singulis darent ei. Ecce mira res, quantacunque mala fecit eis, tamen diligebant eum in tantum, ut eciam nobiles per quos Samethia tunc regebatur, populum communem contra regem Lethowinorum provocarent, sic quod pluribus vicibus convenerunt contra regem ad bellum, ubi aliquando in uno conflictu centum vel 200 plures ex utraque parte caderent interfecti. Nec unquam temporibus suis rex Lethowie cum Samethis poterat concordare, ut simul im bello procederent contra fratres". (Id., p. 159).

[34] Id., pp. 180-181, 187, 193-194.

туле мы ніколі ня пішам сябе з Жмудзі, бо-ж усё ёсьць адно: і людзі й зямля...[35]

Бясспрэчна, у гэтым выпадку вялікі князь Вітаўт крыху прыманіў, бо ён усё-такі ўжываў тытул „magnus dux Littwanie, Samathie et Rusie etc.", як гэта, напрыклад, знаходзім у ягоным акце з 1417 году, якім ён заснаваў новы Мядніцкі япіскапат на Жмудзі.[36] Таксама й Жмудзінаў ён абазначаў у якасьці як-бы апрычонага народу („gens Samagitarum"), як гэта захавалася, напрыклад, у ягоным пасланьні з 9 верасьня 1409 году, у якім ён перад хрысьціянскім сьветам абвінавачваў крыжакоў у іхных злых намерах што да Жмудзі.[37] Таму ня дзівіць, што булай з 13 мая 1418 году папа Мартын V назначае Вітаўта сваім сьвецкім заступнікам ня толькі на Літву й Русь (Украіна й Усходняя Беларусь), але й на Жмудзь, у Вялікі Ноўгарад і Пскоў.[38] Дарэчы, як сам Вітаўт зазначае ў разгляданым лісьце, навет ягоныя пасланцы, высланыя ў Вроцлаў, не маглі чамусьці растлумачыць імпэратару Жыгімонту, што такое ёсьць гэтая Жмудзь і чым яна зьвязана зь Літвой.[39] Аднак, якія не наступілі-б зьмены ў суадносінах паміж Літвой і Жмудзяй, працытаванае вышэй асьветчаньне вялікага князя Вітаўта ўсё-такі не пазбаўленая асновы. Як мы маглі канстатаваць вышэй, бадай тое самае сьцьвердзіў і Пётра Дузбурскі, і дапускаць, што ў гэтым выпадку Вітаўт толькі паўтарыў сьцьверджаньне Пётры Дузбурскага, ня маем падставаў. У сувязі з гэтым зазначым таксама, што й у жмудзкай скарзе, якая была ськівавана ў 1416 годзе на Канстанцкі сабор і якая, бясспрэчна, была прадыктаваная вялікім князем Вітаўтам, гэтаксама гаворыцца пра кроўную сувязь Літоўцаў з Жмудзінамі („cum eadem gente Lithwanica cuius nos caro et ossa existimus").[40]

Зусім іншыя пагляды на Літву мы сустракаем у Энэя Сільвіюса Пікколёміні (папа Пій II, 1458—1464). Як ён сам сьцьвярджае, некаторыя ведамкі пра Літву ён зачэрпнуў з гутарак, што ён меў з чэскім тэалёгам Геранімам Праскім падчас Базэльскага сыноду (1432—1434, пазьней гэты сынод працягваў сваю працу перш у Фэрары, потым у Флярэнцыі). Геранім

---

[35] „Sentenciastis enim et pronunciastis primo in terra Samaytarum, que est hereditas et partimonium nostrum ex legittima attavorum et avorum nostrorum successione, quam et nunc possidemus, que eciam est et semper fuit unum et idem cum terra Lythwanaie, nam unum ydeoma et uni homines. Sed quod terra Samaytarum est terra inferior ad terram Lythwanie, ideo Szomoyth vocatur, quod in lythwanico terra inferior interpretatur. Samoyte vero Lythwaniam appelant Auxstote, quod est terra superior respectu terre Samaytarum. Samagitte quoque homines se Lythwanos ab antiquis temporibus et nunquam Samaytas appelant, et propter talem ydemptitatem (sic) in titulo nostro nos de Samagicia non scribimus, quia totum unum est, terra una et homines uni" (Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae, 1376-1430 [MMAHRGPI, t. VI]. Ed. A. Prochaska. Cracoviae, 1882, Nr. 861).

[36] Codex epistolaris Vitoldi, Nr. 743, pp. 393-394.

[37] Id., Nr. 427, pp. 199-201.

[38] „Martinus etc. dilecto filio nobili viro Alexandro alias Wictoldo duci Lithwanie, in Lithwania et ceteris partibus temporali dominio tuo subiectis ac in omnibus locis Sagmaitarum ac Russie, necnon in Magnanouagroda ac Pszykow civitatitbus ac in dominiis earundem in temporalibus pro nobis et Romana Ecclesia generali vicario, salutem etc..." (Codex Diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioceseos Vilnensis, t. I, fasc. I. Cracoviae, 1932, Nr. 75, pp. 104-106).

[39] Codex epistolaris Vitoldi, Nr. 861, pp. 466-469.

[40] Id., p. 1018.

Праскі нейкі час быў прыватным сьвятаром і скарбнікам у караля Ягайлы, а потым быў ськіваваны, праўдападобна на просьбу вялікага князя Вітаўта, у Літву, дзе ён прыняў актыўны ўдзел у хрысьціянізацыі краю. Такім парадкам ведамкі пра Літву Пікколёміні меў зь першае рукі. Ён быў зьвязаны таксама зь мітрапалітам Літвы й «усяе Русі» Ізыдорам, назначаным на гэты пасад у 1439 годзе пасьля заключэньня Флярэнтыйскае царкоўнае вуніі. Апошні, як ведама, пабываў у Літве й навет наведаў Маскоўшчыну, дзе, праўда, быў увязьнены, але змог стуль уцячы. Дарэчы, будучы ўжо папам, ён бясспрэчна, карыстаўся й іншымі даступнымі яму крыніцамі. Вось-жа, што да Літвы ці Вялікага Княства Літоўскага ён піша:

> Літва з сваімі абшарамі мяжуе з Польшчай ад усходу... Рэдкія ў Ліцьвіноў гарады, таксама ня частыя й вёскі... Мова народу ёсьць славянская. Гэтая мова найбольш пашырана й падзелена на розныя разгаліненьні. Сярод славянаў адны належаць да Рымскае царквы, як Дальматы, Харваты, Карнійцы й Палякі. Іншыя прытрымоўваюцца памылак Грэкаў, як Баўгары, Русіны й шматлікія зь Ліцьвіноў. Зноў-жа іншыя выдумалі свае ўласныя гэрэзіі, як Чэхі, Маравы й Басьнякі, зь якіх вялікая частка трымаецца бязглузьдзіцы маніхейцаў. Некаторыя яшчэ жывуць дасюль у сьлепаце паганскай, як, прыкладам, шматлікія зь Ліцьвіноў пакланяюцца ідалам...[41]

Пра Жмудзь Энэй Пікколёміні не ўспамінае ў гэтым месцы. Затое ў якасьці славянскай краіны Літва выступае й у афіцыйных актах папскае курыі з часоў ягонага пантыфікату. Пра гэтае сьветчаць, прыкладам, ягоная була з 3 верасьня 1458 году, якою папа Пій II назначыў Рыгора Баўгарына на пасад мітрапаліты Літвы й «ніжняе Русі» („electo Chievensi Lituanie et totius Russie inferioris“), а таксама ягоны ліст тае самае даты й у той-жа самай справе, пісаны да польскага караля й вялікага князя літоўскага Казімера. [42]

Да Энэя Пікколёміні прымыкае Ян Багемскі, які выдаў сваю працу „Omnium Gentium Mores“ у 1538 годзе. У вапошняга заўважаюцца моцныя запазычаньні зь Пікколёміні, аднак ёсьць і новыя моманты, як, напрыклад, насьвятленьне ўзаемадачыненьняў Літвы й Жмудзі. Пра Літву ён цьвердзіць наступнае сьледам за Энэям Пікколёміні:

> Літва знаходзіцца на ўсход ад Польшчы й злучана з апошняй мяжой даўжынёю 90.000 крокаў, у большасьці балоцістая й ля-

---

[41] „Lituania et ipsa late patents regio Polonis ad orientem connexa est... Rara inter Lituanos opida, neque frequentes villae... Sermo gentis Sclavonicus est, latissima est enim haec lingua et in varias divisa sectas. Ex Sclavis enim alii Romanam ecclesiam sequuntur, ut Dalmatae, Croatini, Carni ac Poloni. Alii Graecorum sequuntur errores, ut Bulgari, Rutheni et multi ex Lituanis. Alii proprias haereses invenere, ut Bohemi, Moravi et Bosnenses, quorum magna pars Manicheorum imitatur insaniam. Alii gentili adhuc caecitate tenentur, quemadmodum multi ex Lituanis idola colentes...“ (Pii II Pontificis Maximi Historia Rerum ubique Gestarum cum Locorum descriptione. Parrhisiis, 1509, pp. 109v-110).

[42] Documenta Pontificum Romanorum Historiam Ucrainae Illustrantia, 1075-1953, t. I. Ed. A. G. Welykyj. Romae, 1953, Nr. 82, 84, pp. 145-147, 148-149.

сістая... Рэдкія ў Літве гарады, ня густое й насельніцтва вёсак... Мова народу, як і Палякоў, славянская, і гэтая мова шырака ведамая й ёсьць супольнай шматлікім народам, зь якіх некаторыя прытрымоўваюцца абраду Рымскае царквы, прыкладам, Палякі, Дальматы, Харваты й Карнійцы. Іншыя-ж застаюцца ў грэцкім абрадзе, прыкладам, Баўгары, Русіны й шматлікія зь Ліцьвіноў. Некаторыя зь іх маюць свае ўласныя гэрэзіі, як Чэхі, Маравы й Басьнякі. Некаторыя прытрымоўваюцца брэдняў Гуса, найбольш маніхейцаў, ды ёсьць пэўная частка зь іх, што жывуць яшчэ ў паганстве й пакланяюцца балваном; апошніх шмат ёсьць сярод Ліцьвіноў...[43]

Ян Багемскі адначасна ўлучае Жмудзь у вапрычоны разьдзел, у якім піша пра Прусію й Лівонію, ды памяшчае яе на поўнач ад Літвы побач з Прусіяй. Праўда, ён зазначае таксама, што Жмудзіны маюць супольную мову зь Ліцьвінамі й Палякамі, але тут-жа дабаўляе, што на Жмудзі польскую мову ўжываюць сьвятары ў сваіх пропаведзях.[44]

Кароценькую заўвагу пра Літву мы знаходзім таксама ў геаграфічным нарысе з 1511 году, названым „Decastichon“, дырэктара Нюрнбэрскай Лаўрэньцеўскай школы Яна Коклеса Норыка, якім ён дапоўніў «Касмаграфію» П. Мэля. Ян Норык таксама цьвердзіць:

> Пасьля Польшчы знаходзіцца Літва, даволі абшырная й абкружаная шматлікімі балотамі й лясамі... Рэдкія ў Ліцьвіноў гарады, мала й вёсак... Мову ўжываюць славянскую, часткова хрысьціяне, часткова пагане. Маюць собскага князя, часта аднак падпарадкваюцца польскаму каралю.[45]

Аналізуючы закранутае намі пытаньне, мы ня можам, ведама, прамінуць «Гісторыю Польшчы» польскага гісторыка Яна Длугаша (1415—1480) і гэта тым больш, што ён беспасярэдня сустракаўся зь Літвой ці Вялікім Княствам Літоўскім. Ян Длугаш, які спэцыяльна цікавіўся паходжаньнем Лі-

---

[43] „Lithunia est Poloniae ad ortum connexa noningentorum millium passuum circuitu magna sui parte palustris plurimumque nemorosa... Rara in Lithuania oppida, villarum incolatus infrequens... Sermo gentis, ut Polonis, Sclavonicus, hic enim sermo, quem latissime patet, ac plurimis quidem gentibus communis est, ex quibus quaedem Romanae ritum Ecclesiae sequuntur, ut Poloni sunt, Dalmatae, Croatii, Carnique. Aliae Graeco ritu sacra peragunt, ut Bulgari, Rutheni et ex Lithuanis plerique. Nonnullae ab his diversae proprias haereses habent, ut Boemi sunt, Moravi et Bosnienses. Hussitarum quaedam observant delirium, pars multomaxima Manicheum, quaedam adhuc etiam gentili caecitate tenentur, idola colunt, quemadmodum multi ex Lithuanis...“ (Omnium Gentium Mores, Leges et Ritus. Ex multis clarissimis rerum scriptoribus a Joanne Boemo Aubano Teutonico nuper collecti et novissime recogniti. Antverpiae, 1538, pp. 80v-81).

[44] Id., pp. 82v-83.

[45] „Post Poloniam Lituania est spaciola quoque tellus verum paludibus sylvisque plurimum obducta... Rara inter Lituanos oppida neque frequentes villae... Lingua utuntur Sclavonica, partim Christianam partimque paganorum fidem ampleri. Proprium ducem habent, persepe tamen regi Polonorum subditi“ (Jo. Coclei Norici Decastichon. In librum. Norinburgae, 1511, pp. Kv-K II — *Inkunabel, Gymnasial Bibliothek zu Köln*, GB XI 490b, Panzer VII, 451, 86).

тоўцаў, у гэтым пытаньні крочыць за Пётрам Дузбурскім, «Пруская хроніка» якога (у варыяньце Мікалая Ярошына) служыць яму крыніцай ды й у якога ён запазычае таксама канцэпцыю пра «рымлянскае» паходжаньне Прусаў, Літоўцаў і Жмудзінаў. Праўда, што да Прусаў ён хістаецца, ня ведаючы, да якое этнічнае групы іх аднесьці: да літоўска-жмудзкае ці да якоесь іншае. Адным словам, у 2-ой кнізе сваей «Гісторыі Польшчы» Ян Длугаш піша:

> ...(Прусы) Мелі ўласную мову, часткова зродненую з лацінскай, а крыху падобную да літоўскай, і бадай тых самых багоў, абрады й урачыстасьці... Прусаў, Ліцьвіноў і Жмудзінаў аб'ядноўвала супольнасьць тых самых звычаяў, мовы й паходжаньня. У часе разгулу дамовых войнаў у Італіі, што вяліся між Цэзарам і Пампеям, яны, пакінуўшы старыя мясьціны, прыбылі ў надморскі край, які цяпер засяляюць. Сялібы свае заснавалі сярод пушчаў і пустэчаў, абароненых рэчкамі, вазёрамі й балотамі. Таксама на ўзор Рыму заснавалі галоўны горад Ромаў і тут пасялілі свайго вярхоўнага пастара (Крывэ). І хоць народы гэтыя розьняцца ў вымове словаў, прыкладам, як Палякі, Чэхі й Русіны, аднакжа ў шматлікім зьбліжаюцца між сабою. Ня лічу іх выхадцамі з аднаго караня й моўнае сям'і, наадварот, паходжаньне Прусаў ёсьць іншае, чымся Ліцьвіноў і Жмудзінаў. Прусіяс, кароль Бітыні, у якога, пасьля паразы ў вайне з Рымлянамі й уцёкаў, знаходзіўся на выгнаньні пуніцкі ваявода Ганібал, з намовы апошняга цішком распачаў вайну супраць Рымлянаў... Будучы разьбітым і пераможаным, Прусіяс, уцякаючы ад Рымлянаў, з сваім бітынскім народам перасяліўся на паўночнае ўзьбярэжжа й назваў яго (бітыйскі народ) сваім собскім імям ці Прусамі...[46]

Да гэтага пытаньня, праўда, абмінуўшы Прусаў, Ян Длугаш вяртаецца ў 10-й кнізе, прысьвячаючы яму асобны разьдзел пад назовам „Lithuanorum origo et cultus Deorum".[47] У наступным разьдзеле ён зноў высноўвае, што «Літоўцы, Жмудзіны й Яцьвягі, хоць і разьдзяліліся між сабой і атрымалі розныя назовы, складаюць адно цела й вядуць свой пачатак ад Рымлянаў ці Італьянцаў».[48] Тут ён гаворыць таксама, што тэрмін «Жмудзь» узьнік, як абазначаньне, у літоўскай мове, «ніжэйшае зямлі».[49] У далейшым, аднак, у Яна Длугаша Жмудзь выступае, як апрычоная краіна, заселеная

---

[46] Jana Długosza Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego, ks. 1-2. Państwowe Wydawnictwo Naukowe. Warszawa, 1962, p. 286.

[47] Joannis Długossii Historiae Polonicae Lib. XII. t. III, Lib. IX-X. (Opera omnia, t. XII). Ed. A. Przezdziecki. Cracoviae, 1876, pp. 470-472.

[48] „Lithuani, Samagittae et Jaczwingi, licet appellationem diversam sortiti et in familias plures divisi, unum tamen fuere corpus a Romanis et Italis ducentes genus, et natio longo et diuturno tempore ignobilis et obscura, tunc primum erupit. Hi Italorum et Romanorum ferventibus bellis civilibus inter Julium Caesarem et Pompeium, exules fuere..." (Id., p. 473).

[49] Id., p. 474.

асобным народам,[50] які мае таксама й сваю собскую мову.[51] Што-ж датычыцца сьцісла літоўскае мовы, дык, характарызуючы яе, Ян Длугаш зазначае, што мова гэтая, сустракаючыся з уплывамі суседніх народаў, перажыла працэс славянізацыі („Sermo his Latinus modica varietate distinctus, qui iam [etiam] ex commercio gentium vicinarum, ad proprietatem vocabulorum Slavonitarum [Sclavonicorum] defluxit . . .“).[52] Гэтае нявыпадковае сьцьверджаньне зьяўляецца ў сутнасьці паўтарэньнем пагляду на Літву й мову Ліцьвіноў Энэя Сільвіюся Пікколоміні. Дарэчы зазначыць, што да вырашэньня пытаньня паходжаньня й нацыянальнай прыналежнасьці народаў Ян Длугаш падходзіць часамі заакадэмічна. У выніку, напрыклад, ён і славянскія плямёны Памаранаў і Руянаў атасамлівае зь Гепідамі й Кімбрамі.[53]

Тут трэба зьвярнуць увагу таксама на асьветчаньне ў гэтым пытаньні невядомага крыжацкага сьвятара, які, як прызнае ён сам, для Яна Длугаша зрабіў лацінскі пераклад «Прускае хронікі» Пётры Дузбурскага (зь нямецкага варыянту Мікалая Ярошына), а таксама рытмаванай хронікі Віганда. Да апошніх перакладаў ён далучыў і свае собскія заўвагі, названыя „Terra Pomerania quomodo subjecta est Ordini Fratrum Theutonicorum“. Гаворачы пра Памаранаў, іхнае славянскае паходжаньне й мову, нявёдамы нам аўтар сьцьвярджае, што мова гэтая аднолькава зразумелая як для Палякоў і Рутэнаў, так і для Ліцьвіноў і Прусаў.[54]

У некаторым сэньсе да Яна Длугаша прымыкае Эразм Вітэліюс ці Цёлак, прыватны сакратар вялікага князя Аляксандра й Паляк з паходжаньня. У 1501 годзе ён быў высланы ў Рым да папы Аляксандры VI, дзе ён сказаў ці прачытаў прамову, знаёмячы папу зь Вялікім Княствам Літоўскім. Між іншым у гэтай прамове захавалася й наступнае асьветчаньне што да мовы Ліцьвіноў, якіх ён тут прадстаўляе:

> . . . Захоўваюць уласную мову. Праўда, з тае прычыны, што Рутэны засяляюць бадай палавіну княства, агулам карыстаюцца іхнай мовай дзеля ейнае зграбнасьці й лёгкасьці . . .»[55]

Больш абшырна гэтага пытаньня кранаецца ў сваім гістарычна-палітычным апісаньні Польскага каралеўства папскі нунцы у Варшаве Юлі Рудж'еро (1566—1567), якое ён спэцыяльна напісаў для папы Пія V ў 1568

---

[50] „Est autem gens et regio Samagittica magna ex parte ad gelidum versa Septemtrionem, Prussiae, Lithuaniae, Livoniae conterminans . . . Gens pro ea tempostate barbara, inculta, atque ferox et in omne facinus audax . . .“ (Id., t. IV, Lib. XI-XII (Opera omnia, t. XIII). Cracoviae, 1877, p. 160).

[51] „Et quoniam nemo ex viris spiritualibus, qui cum Rege Wladislao Samagittiam advenerant, linguam Samagitticam noverat exprimere, Wladislaus Poloniae Rex ad populum Samagittiae pro fide et religione orthodoxa suscipienda declamare coactus est“ (Id., p. 161).

[52] Id., t. III, Lib. IX-X, p 474.

[53] Jana Długosza Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego, ks. 1-2, p. 155.

[54] „. . . Predicta linguagia possunt se simul intelligere, scilicet Poloni, Ruteni, Lithwani, Pruteni“ (SRP, t. I, p. 806).

[55] „Linguam propriam observant. Verum quia Rutheni medium fere ducatum incolunt, illorum loquela, dum gracilis et facilior sit, utuntur communius“ (Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae Gentiumque finitimarum Historiam illustrantia, t. II. Ed. A. Theiner. Romae, 1861, Nr. 299, p. 277).

годзе пасьля свайго павароту з Польшчы. У вадным із разьдзелаў гэтае справаздачы, названым «Аб мове», Юлі Руджʼеро паведамляе:

> Гэтыя народы (яшчэ перад Люблінскай вуніяй Юлі Руджʼеро ўключае ў Польскае каралеўства й Вялікае Княства Літоўскае — П. У.), хоць жывуць пад уладай таго самага гаспадара й усе разам твораць адно цэлае й бадай неразьдзельнае цела, усё-такі не гавораць на той самай мове. У гэтым каралеўстве ёсьць тры зусім розныя мовы, зь якіх адна мае два розныя спосабы ў пісаньні, аднак у вымове вельмі падобная, і хоць гэта розныя дыялекты, яны захоўваюць істоту тае самае мовы, — і гэтакімі ёсьць мова польская й руская, зь якіх першая паслугоўваецца лацінскімі знакамі, а другая грэцкімі... І гэтая мова зьяўляецца супольнай ня толькі для Палякоў і Рускіх (аб чым было сказана вышэй), але яна распаўсюджана яшчэ й у іншых розных краінах Эўропы, як у Чэхіі, Харватыі й Славэніі...; апрача гэтай мовы ў успомненых краінах ёсьць яшчэ дзьве зусім розныя мовы: літоўская й нямецкая...
>
> Таму, што літоўская мова прынцыпова адрозьніваецца ад нямецкай і польскай, яна мае шмат словаў зусім незразумелых (сапсутых), і дасюль у гэтай мове нічога ніколі ня пісалася. Бо Канцылярыя караля ў Літве ў пісьме паслугоўваецца рускай мовай, гэтак паступаюць таксама паадзіночныя асобы, якія пішуць; некаторыя аднак, калі ім так падабаецца, пішуць папольску.
>
> На Жмудзі ўжываецца ў гутарцы тая самая мова, аднак даволі адрозная ад літоўскай, якая ў іншы спосаб вырозьніваецца й адначасна супольная для некаторых вёсак Прусіі, у якіх пражываюць астаткі даўніх Прусаў, што былі паняволеныя й блізу вынішчаныя сілай і аружжам тэўтонскіх рыцараў і цяпер жывуць у маленькіх вёсках, ледзь захоўваючы сваю старадаўнюю мову...[56]

---

[56] „Li quali popoli benche vivano sotto un medesimo Prencipe et facciano tutti insieme un corpo unito et quasi indistinto, non parlano pero la medesima lingua, ma si odono in quel Regno tre linguaggi tra loro al tutto diversi, uno de quali si divide in duo differenti di scrittura, ma di pronuntia tanto simili, che se bene variano li dialetti, conservano pero la sostanza della medesima lingua et questi sono il linguaggio Polacco et il Russo, quello si scrive con caratteri latini, et questo con greci... Et e questa lingua non solo commune alli Polachi et alli Russi nel modo che si e detto, ma abbraccia ancora diversi altri paesi dell'Europa, come la Bohemia, la Croatia et la Schiavonia...; oltre alla quale lingua se ne odono nelle detti paesi due altre al tutto diverse et questo sono la lituana, et la tedesca...

La lingua lituana poi sicome e al tutto diversa non meno della Tedescha che della Polona, cosi ha molte voci corrote ne sin hora e stata mai scritta. Ma la Cancellaria del Re in Lituania si serve nello scrivere della lingua Russa et il simile fanno le particolari persone, che scriveno, de quali pero se alcuni sidilettano scriveno la lingua Polacca.

In Samogitia si parla la medesima lingua, ma assai alterata della lituana, laquale ancora variata in altre maniere e commune ad alcune poreche ville di Prussia nelle quali vivono le reliquie degli antichi Prussi, che furono soggiogati et quasi estinti dal valore et dall'armi delli Cavallieri Teutonici, et hora habitano in picciole ville, conservando apena l'antica lingua..." (Relatione data al Santissimo Signor nostro Papa Pio Quinto, da Mons. Giulio Ruggieri, Protonoratio Apostolico, ritornato Nuntio di Sua Santita dal Serenissimo Re di Polonia, nell'anno 1568 — *Biblioteca Apostolica Vaticana,* Urb. lat., vol. 823, fol. 259v-261v).

Апошняе больш абшырнае цьверджаньне Юлія Рудж'ера ў шматлікім выясьняе й дапаўняе зацытаваную вышэй кароценкую заўвагу Эразма Цёлка. Разам узятыя, абодвы яны вылучаюць мову старажытных Літоўцаў з моваў славянскіх народаў, вырозьніваюць яе ад мовы «рускай», як звычайна называлася дзяржаўная й літаратурная мова Вялікага Княства Літоўскага ці тагачасная беларуская мова. Праўда, будучы каталікамі, пры гэтым і духоўнымі асобамі, і ў сярэднявечным духу ставячыся варожа да «сьхізматыкаў», яны, бясспрэчна, сьведама шукалі гэтае розьніцы й, праўдападобна, чэрпалі яе ня з жывое рэчаіснасьці, але з апавяданьняў таго-ж Яна Длугаша. Дарэчы ў дакумантах 3-га тому «Літоўскай Мэтрыкі», сабраных самым Эразмам Цёлкам, захаваўся таксама кампіляцыйны нарыс, названы „Origo Regis Jagyelo et Witholdi ducum Lithaniae“ ды які аснованы пераважна на дадзеных летапісу Аўраамкі Смаленскага.[57] Гэта наводзіць на тую думку, што пры напісаньні вышэй успомненае прамовы Эразм Цёлак карыстаўся таксама й хронікамі Яна Длугаша. Ды XVI стагодзьдзе ў творчым жыцьці Вялікага Княства Літоўскага было таксама стагодзьдзем пошукаў нацыянальных вытокаў гэтага княства й разьвіцьця канцэпцыі пра «рымлянскае» паходжаньне самых Ліцьвіноў. Асабліва гэта адносіцца да пэрыяду, у якім узьнікла справаздача Юлія Рудж'ера. Як ведама, захапіўшыся апошняй канцэпцыяй, некаторыя зь ліку падобных літоўскіх «патрыётаў» (напрыклад, Міхалён Літвін, 1550) пачынаюць дамагацца навет увядзеньня старое лаціны ў якасьці дзяржаўнае й наагул літаратурнае мовы Вялікага Княства Літоўскага. Падобныя пошукі «рымлянскага паходжаньня» не абмінулі таксама й Маскоўшчыны. Напрыклад, як цьвердзіць у сваім лісьце з 1567 году «холоп» маскоўскага вялікага князя князь Міхаіл Варатынскі, спэцыяльна прысьвечаным пытаньню «найстаражытнасьці княскіх родаў» і адрасаваным польскаму каралю й вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Аўгасту, вялікі князь маскоўскі Іван Грозны таксама выводзіў сваё паходжаньне ад «Августа Кесаря и брата его Пруса».[58] Усё гэта было, аднак, вынікам творчае й палітычнае фантазіі, а таму й да гэтых асьветчаньняў Эразма Цёлка й папскага нунцыя Юлія Рудж'ера мы павінны адносіцца зь вялікімі засьцярогамі.

Дзеля гэтага, як нам здаецца, да ацэнкі нацыянальнага характару Вялікага Княства Літоўскага ды й самых Ліцьвіноў больш рэальна падыйшоў барон Жыгімонт Гербэрштайн. У якасьці пасланца Венскага імпэратарскага дому ён два разы, у 1516—1518 і 1526—1527 гадох, пабываў у Вільні й Маскве, маючы заданьне прымірыць Вялікае Княства Літоўскае з Маскоўшчынай. Свае ўражаньні, якія яму далі гэтыя дзьве дыпляматычныя місіі, дапоўненыя таксама й летапіснымі ведамкамі, ён апісаў у «Маскоўскіх запісках», што першы раз былі апублікаваныя ў 1549 годзе, а потым у пашыраным выглядзе ў 1556 годзе. Праўда, у вадным месцы й у барона Жыгімонта Гербэрштайна праявілася тэндэнцыя вылучыць сьціплую Літву зь сям'і ўсходняславянскіх народаў. Гэтак, пералічаючы мясьціны й краіны, зь якімі, як ён уважае, межавалася Русь, ён высноўвае:

---

[57] ПСРЛ, т. XVII, кал. 219-226.

[58] Сборник Императорскаго Русскаго Историческаго Общества, т. 71, С.-Петербург, 1892, бб. 506-512.

> ...так што ўнутры яе (Русі) ляжаць толькі дзьве правінцыі: Літва й Жмудзь. Хоць гэтыя дзьве правінцыі ўрэзваюцца ў васяродзьдзе Рутэнаў і маюць собскую гаворку й рымскую веру, аднакжа большую частку іхнага жыхарства складаюць Рутэны.[59]

Паза гэтым, аднак, Літва й Ліцьвіны ў Гербэрштайна ўсюды выступаюць, як славянская краіна й адзін із славянскіх народаў. Гэта асабліва вынікае з тых мясьцінаў, дзе ён паведамляе, як тыя ці іншыя дзікія жывёліны называюцца ў літоўскай і нямецкай мовах. Пайменна ён піша: «Бізона Ліцьвіны называюць на сваёй мове зубрам, Немцы-ж ня зусім дакладна завуць яго аўрокс ці урокс» („Bisontem Lithwani lingua patria vocant Suber, Germani improprie Aurox vel Urox“),[60] або «Тая жывёліна, якая Ліцьвінамі ў іхнай мове завецца лосем, Немцамі называецца эленд, а палацінску альцес» (Quae fera Lithwanis sua lingua Loss est, eam Germani Ellend, quidem Latine Alcem vocant“).[61] Дарэчы, пералічаючы ўсе славянскія народы, Жыгімонт Гербэрштайн у гэтую сям'ю славянскіх народаў улучае таксама й Ліцьвіноў. Ён піша:

> Пра паходжаньне народу яны ня маюць ніякіх вестак, апрача летапісных, якія прыводзяцца ніжэй. Пайменна, што гэта народ славянскі із калена Яфета, што раней ён сядзеў на Дунаі, дзе сяньня Вугоршчына й Баўгарыя, і называўся тады Норцамі, што, нарэшце, ён разыйшоўся па розным землям і атрымаў назоў ад месцаў пасяленьня. Так адны назваліся Маравамі ад рэчкі, другія Чэхамі, г. зн. Багемцамі; у такі спосаб назваліся Харваты, Белы, Сэрблы ці Сэрбы, і Харантаны, якія засталіся жыць на Дунаі, але, выгнаныя Валахамі й перайшоўшы на Віслу, атрымалі назоў Ляхаў ад нейкага польскага князя Ляха, чаму Палякі й цяпер называюцца Ляхамі. Іншыя назваліся Ліцьвінамі, Мазурамі, Памаранамі; зноў-жа іншыя, якія жывуць па Дняпры, дзе сяньня Кіеў, Палянамі, другія Драўлянамі, бо жывуць у лясох, трэйція, між Дзьвіной і Прыпяцяй, Дрыгвічамі...[62]

Наадварот, гэтай славянскай Літве Гербэрштайн супрацьстаўляе Жмудзь, якую ён адносіць да асобнай «краіны» й куды «кароль назначае ўрадоўца

---

[59] „...duabus duntaxat provinciis, Lithwania scilicet et Samogithia, interiectis: quae duae provinciae licet Rhutenis intermixtae sint, ac proprio idiomate rituque Romano utantur, earum tamen incolae ex bona parte sunt Rhuteni“. (Herberstein. Rerum Moscoviticarum. Unveränderter Nachdruck. Minerva GMBH. Frankfurt a. M., 1964, p. 2).

[60] Id., p. 109.

[61] Id., p. 110.

[62] „De origine autem gentis, nihil habent praeter annales infra scriptos: gentem scilicet hanc Slavonicam esse ex natione Japhet, atque olim consedisse ad Danubium, ubi nunc Hungaria est et Bulgaria, et tum Norci appellatam, tandem dispalatam, et per terras dispersam, nomina a locis accepisse, utpote Morawi a fluvio, alii Ozechi, hoc est Bohemi; item Chorwati, Bieli, Serbli, id est Servii, Chorontani dicti, qui ad Danubium consederant, a Walachis expulsi, venientes ad Istulam, nomen Lechorum a quodam Lecho Polonorum principe, a quo Poloni etiamnum Lechi vocantur, acceperunt. Alii Lithwani, Masovienses, Pomerani; alii sedentes per Borysthenem, ubi nunc Kiovia est, Poleni dicebantur; alii Drewliani, in nemoribus habitantes; alii inter Dwinam et Peti, dicti Dregowici...“ (Id., p. 2).

ізь Ліцьвіноў, якога яны (Ліцьвіны) называюць у сваёй мове старастай».[63]

Да славянскіх народаў Літву й Ліцьвіноў залічае таксама вэнэцыянскі пасланец Марко Фаскарыно, які апісаў свае ўражаньні аб Маскоўшчыне ў 1557 годзе. Гэта асабліва відаць з тых мясьцінаў, дзе ён гаворыць, што «Маскалі гутараць і пішуць на славянскай мове, як гэта робяць Дальматы, Чэхі, Палякі й Ліцьвіны».[64]

Зьвернемся цяпер да паказаньняў літоўскіх летапісаў з XVI стагодзьдзя. Як зазначалася вышэй, гэтыя летапісы зьмяшчаюць зашмат фантазіі й супярэчнасьцяў, бо свае вывады будуюць не на гістарычных крыніцах, але на розных вольных дапушчэньнях і, магчыма, вусных паданьнях. Вынятком зьяўляецца толькі «Хроніка Польшчы, Літвы, Жмудзі й усяе Русі» Мацея Стрыйкоўскага, які выкарыстаў мноства працаў антычных і сярэднявечных аўтараў, але які таксама ня змог прыйсьці да нейкага канчатковага выснаву. Аднак і яны кідаюць даволі сьвятла на пытаньне, якое нас цікавіць, а таму ня могуць быць выкінутымі з гэтага аналізу.

Мацей Стрыйкоўскі, з паходжаньня Паляк, доўгі час знаходзіўся ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе служыў дабравольна ў гарнізоне Віцебскага замку. Удзельнічаў таксама ў Лівонскай вайне. Дзесьці ў канцы 1570-х гадоў быў назначаны на пасад каноніка Жмудзі з месцам прабываньня ў Медніках. Тут ён прыступіў да напісаньня ўспомненае хронікі й пры матар'яльнай падтрымцы польскага караля й вялікага князя літоўскага Сьцяпана Баторага выдаў яе на польскай мове ў 1582 годзе. Першыя кнігі гэтай сваей хронікі ён спэцыяльна прысьвячае пытаньню паходжаньня Ліцьвіноў, Жмудзінаў, Рускіх і наагул славянаў. Аднак, заходзячы далёка ў гісторыю й маючы пад рукой шмат супярэчлівых ведамак розных аўтараў, ён кідаецца з аднае крайнасьці ў іншую ды сам дапускае падобныя супярэчлівыя высновы. Наагул, як нам здаецца, Мацей Стрыйкоўскі больш захоплены сівой гісторыяй, чымся рэчаіснасьцяй ягоных часоў. Так, напрыклад, у многіх мясцох у катэгарычнай форме ён сьцьвярджае, што Ліцьвіны й Жмудзіны паходзяць адначасна й ад Гепідаў, і ад Готаў, і ад Кімбраў, і ад Аланаў,[65] ды ня супраць спарадніць іх таксама зь Печенегамі й Полаўцамі.[66] Зь некаторымі папраўкамі ён падтрымоўвае й разьвівае таксама й канцэпцыю пра іхнае «рымлянскае» паходжаньне,[67] а гаворачы пра расьсяленьне славянскіх народаў, ён піша, што

> ...таксама мясцамі ў вадпаведнасьці з прылегласьцяй і разнастойнасьцяй краёў між славянамі зьмяшаліся й іншыя народы, як Ліцьвіны, Латышы, Татары, Грэкі, Італьянцы й Немцы.[68]

---

[63] Id., pp. 113-114.

[64] „Questi Moscoviti parlano la lingua Schiavona, et scrivono nella stessa, siccome i Dalmatini, Bohemi, Polacchi et Lithuani..." (Historica Russiae Monumenta, ex antiquis exterarum gentium archivis et bibliothecis depromta ab A. J. Turgenevio, t. I. Petropoli, 1841, Nr. 135, p. 149).

[65] Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego, t. I-II. Warszawa, 1844, pp. 19-65.

[66] Id., pp. 120-122.

[67] Id., pp. 41-51.

[68] Id., p. 111.

Зноў-жа, выводзячы паходжаньне славянскіх народаў, Мацей Стрыйкоўскі да «нашых славянскіх сармацкіх народаў» залічае таксама й Ліцьвіноў.[69] Гэтак, паясняючы розьніцу між Сарматамі й Ськітамі, ён цьвердзіць:

> Скуль вынікае, што нашыя Сарматы розьніліся ад Ськітаў або Татараў і абычаямі, і нацыянальнымі асаблівасьцямі, і мовай. Хоць старыя грэцкія й лацінскія гісторыкі ўсе народы поўначы й сярэдняга ўсходу аднолькава называлі Ськітамі й Сарматамі, аднак яны памылкова лічылі, нібы Палякі, Русакі, Ліцьвіны й Маскалі, з аднаго боку, і Татары, з другога, былі адным народам ... І толькі потым яны пачалі называць Сарматамі тыя славянскія народы, якія засялялі абшары між Віслай і Донам, Нямецкім морам і Вугорскімі гарамі, і гэта: Палякоў, Мазураў, Прусаў старых, Ліцьвіноў, Жмудзінаў, Русакоў і Маскалёў.[70]

Як бачым, у гэтым выпадку да славянскіх народаў Мацей Стрыйкоўскі залічае ня толькі Ліцьвіноў, але й Прусаў із Жмудзінамі. Што-ж датычыцца Ліцьвіноў, дык іхны славянскі характар яшчэ больш вынікае з наступнага асьветчаньня:

> ... тады-ж таксама мову сваю родную славянскую зьмяшалі з прычыны разнастайнасьці межаў і частых сувязяў зь іншымі народамі ... Гэтак Сэрбы, Харваты, Рачы й Баўгары (у мове й абычаях перамяшаліся) з Грэкамі, Вугорцамі й Туркамі; Дальматы, Карнійцы, Стырыйцы й Істры зь Італьянцамі; Сілезцы, Маравы, Чэхі, Місьнійцы, Памаране й Кашубы зь Немцамі; Беларусы з Маскалямі й Татарамі; Падгаране, Мазуры, Падляшане, Чарнарусы, Валынцы й (частка[71]) Ліцьвіноў з Палякамі, а Палякі з усімі іншымі народамі перамяшалі свае абычаі, вопратку й часткова мову.[72]

Апошняе асьветчаньне яшчэ больш канкрэтна гучыць у „Sarmatiae Europeae Descriptio“, якую, як цьвердзіць Мацей Стрыйкоўскі,[73] напісаў ён сам, будучы яшчэ ў Віцебску, ды перадаў яе для азнаямленьня свайму гарнізоннаму начальніку Аляксандру Гваніну. Апошні прысабечыў гэтую працу й выдаў яе пад сваім аўтарствам у 1578 годзе. Праўдападобна, што ў гэтым выпадку Мацей Стрыйкоўскі выказвае праўду, бо ягоная хроніка ў шматлікім пераклікаецца з названай хронікай А. Гваніна. Як-бы там ня было, але апошняе асьветчаньне ў «Хроніцы Эўрапэйскай Сармацыі» гучыць наступна:

---

[69] Id., pp. 89-105.

[70] Id., p. 105.

[71] Гэтая «частка» прапушчана ў выданьні 1844 году, затое яна „y Litwy część“, захавалася ў выданьні 1766 году (Zbior Dziejopisow Polskich, t. II. Warszawa, 1766, p. 107).

[72] Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi, pp. 107-108.

[73] Id., p. XXXVII.

. . . Але ўсе іншыя найбольшыя й найхрабрэйшыя народы ўсходніх і паўночных краёў, якія маюць славянскую мову, ёсьць: Баўгары, Басьнякі, Сэрбы . . . Ліцьвіны, якія пануюць на вялікую руку, Кашубы, Вандалы, Сілезцы, Маравы, Багемцы, Чэхі, Палякі, Мазуры, Прусы й іншыя. Ува ўсіх гэтых краёх, ад Ледавітага акіяну . . . і да Міжземнага й Адрыятычнага мораў, жывуць народы славянскае мовы . . . Шматлікія зь іх зьмянілі свой бацькаўскі спосаб жыцьця на звычаі іншых народаў, як, прыкладам, Басьнякі, Баўгары, Сэрбы, Рацы й Дальматы на звычаі Туркаў і Вугорцаў . . . Ліцьвіны, Русь і Мазуры зблізіліся з Палякамі . . . Паза гэтым-жа, аднак, усе яны, хоць расьсеяліся сярод іншых народаў, гутараць, асабліва ў вёсках, на сваёй роднай, хоць крыху й адменнай, славянскай мове . . .[74]

Праблемай паходжаньня Ліцьвіноў іншыя летапісцы Вялікага Княства Літоўскага пачалі займацца дзесьці ў 40-х гадох XVI стагодзьдзя. Захаваўся адзін сьпісак «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага й Жмудзкага» ў перакладзе на польскую мову, які адносіцца да 1550 году. Гэта — «Альшэўскі сьпісак», названы так ад месца захаваньня. Аўтар гэтае хронікі, як і іншых літоўскіх летапісаў, нам няведамы. Яна характарызуецца тым, што ў пяршыню ўводзіць у літоўскую летапісную практыку легенду пра «рымлянскае» паходжаньне старажытных Ліцьвіноў і Жмудзінаў. У хроніцы называецца й імя рымскага князя — Палемона, які за часоў Нэрона зь іншай шляхтай у колькасьці 500 чалавек пакінуў Італію й перабраўся ў наднёманскія пушчы.[75] Другой асаблівасьцяй гэтай хронікі ёсьць тое, што ў ёй прасочваецца таксама спроба парадніць літоўскіх князёў з полацкімі князямі, пайменна з Рогваладам і Барысам.[76] Гэтая раздвоеная канцэпцыя больш паўней адлюстравалася ў больш пашыранай і гістарычна важнай літоўскай хроніцы, ведамай, як «Сьпісак Быхаўца» з канца XVI стагодзьдзя (захавалася ў прыватным архіве старшыні Ваўкавыскага межавога суду Аляксандра Быхаўца). Наагул апошняя хроніка характэрная ня толькі сваім літоўскім патрыятызмам (ня ў сяньняшнім значаньні, а ў значаньні гістарычным, вялікалітоўскім), але й той сынтэзай, якой зьвязвае летапісец у вадно нацыянальнае цэлае старажытных Ліцьвіноў, Крывічоў, Дрыгвічоў і іншых.[77]

Вось-жа, прыведзеныя тут усе гэтыя асьветчаньні розных хронікаў і выказваньні сярэднявечных аўтараў нібы наводзяць на тай выснаў, што старажытныя Ліцівіны ўсё-такі тварылі не славянскую, але пруска-жмудзкую этнічную групу ці, як прынята называць, належылі да балтыц-

---

[74] Kronika Sarmacyi Europeskiey Alexandra Gwagnina. *Zbior Dziejopisow Polskich*, t. IV. Warszawa, 1768, p. 11.
[75] ПСРЛ, т. XVII, кал. 422.
[76] Тамсама, кал. 426.
[77] Тамсама, кал. 473-572.

кага лета-літоўскага народу.[78] Бясспрэчна, легенда пра «рымлянскае» паходжаньне старажытных Ліцьвіноў ня мае пад сабой ніякае асновы, аднак і яна павінна брацца пад увагу пры разьвязаньні гэтага пытаньня. Тым больш, што пры абаснаваньні гэтае легенды некаторыя з вышэй зацытаваных аўтараў спасылаюцца на лацінскія тэрміны, якія яны спасьцерагалі й у жмудзка-літоўскай мове. Адначасна гэтыя хронікі й аўтары сьветчаць пра тое, што, прынамся, ужо ў пачатку XV стагодзьдзя старажытныя Ліцьвіны, калі яны й ня былі славянамі, настолькі падпалі пад працэс славянізацыі, што навет загубілі сваю родную мову. Дарэчы працэс гэты наступіў шмат раней, магчыма навет раней XIII стагодзьдзя. У іншым выпадку ня можна зразумець, чаму гэты дзяржаўны народ ня змог пакінуць ніводнага гістарычнага помніка, пісанага ў роднай мове. Пакідаючы ў баку пісьмовыя помнікі ці факт агульнага карыстаньня ў Вялікім Княстве Літоўскім беларускай мовай, апошні працэс лёгка прасьледжваецца на аснове дадзеных вайсковых перапісаў у ВКЛ з 1528, 1565 і 1567 гадоў.[79] Гэтыя дадзеныя сьветчаць пра тое, што, калі насельніцтва Віленшчыны, і перадусім насельніцтва Вількомірскага, Троцкага, Упіцкага й Ковенскага паветаў, ня было чыста славянскім, дык прынамся яно было ісславянізаваным. Тыя асобы гэтае часткі ВКЛ, якія былі занесеныя ў сьпіскі названых вайсковых перапісаў, маюць славянскія й пры тым характэрна беларускія

---

[78] Прынамся падобны выснаў нам навязваюць вышэй прыведзеныя гістарычныя ведамкі. Магчыма, што ў будучыні пытаньне гэтае дапамогуць разьвязаць новыя пісаныя крыніцы й, передусім, археалёгія, якая, як ведама, дасюль зрабіла вельмі мала ў галіне дасьледваньня тых абшараў, што засяляліся старажытнымі Ліцьвінамі. Між тым гэтыя абшары, якія выступаюць у савецкай гістарыяграфіі ў якасьці земляў колішняй Аўкштоты ці старажытнай Літвы, былі заселеныя пераважна славянскім племям. Пра гэта сьветчаць у першую чаргу назовы шматлікіх гарадоў і паселішчаў, якія характэрныя толькі славянам. Возьмем хоць-бы старажытны горад *Вількомір,* што ляжыць далёка на поўнач ад Вільні. Праўдападобна ён быў заснаваны тым самым беларускім племям, якое заснавала таксама, напрыклад, Ваўкавыск (месца воўчага выцьця). Вількомір — чыста славянскі назоў і азначае або «Логава ваўкоў», або, як дапускаюць некторыя гісторыкі, «горад» славянскага племя Вільцаў-Люцічаў-Ліцьвіноў. Гарадоў і паселішчаў, якія называюцца падобна, у Віленьшчыне даволі шмат, як, прыкладам, Валкінікі на рэчцы Мерач блізу Руднікоў, Вількія на Нёмане між рэчкамі Дубісай і Нявяжай, Вільканцы, Валкалаты, Вількішкі й шмат іншых ім падобных паселішчаў каля Вількоміра, Трокаў, Эйшышак і, нарэшце, Вілкавышкі ці Ваўкавышкі (праўдападобна паўторны Ваўкавыск), мястэчка каля Сувалак. Напомнім яшчэ назовы, якія былі запазычаныя ад *Крывічоў.* Гэта, пачынаючы ад мястэчка Крывічы, што ляжыць каля Буцлава, мы маем старажытнае месца Крэва, дзе ў 1385 годзе здарылася няшчасьце ў сувязі з падпісаньнем Крэўскае вуніі, Крыванцы, Крываніўшы, Крываны, Крыва, Крывэ, Крываўшуны, Крыўск, Крэўна, Крэўскае, Крэўны — паселішчы каля Ашмяны, Сьвяньцянаў, Вільні, Трокаў і Сувалак. *Вільня* таксама славянскі назоў і паходзіць ад рэчкі Вільні, як Вілейка ад Вільлі. Пажмудзку Вільля называецца Нерыс. Вільня аснована на старым славянскім гарадзішчы, якое называлася Крываград ці Крывіч-горад. За часоў Ягайлы й Вітаўта гэтым назовам называлася яшчэ ў Вільні апрычоная частка гораду із старым замкам, якая ў 1390 годзе была разбурана й спалена крыжакамі (Codex epistolaris Vitoldi, Append. VI, p. 1009).

[79] Русская Историческая Библиотека, т. 33 (Литовская Метрика). Изд-во Императорской Археографической Комиссии. Петербург, 1915.

прозьвішчы.[80] Іншы малюнак даюць яны нам із Жмудзі, дзе гэтыя прозьвішчы пераважна маюць канцоўкі «айціс» ці «ойціс», хоць і тут сустракаецца даволі шмат славянскіх прозьвішчаў. Дарэчы факт шырокага распаўсюджваньня беларускага насельніцтва ў Віленшчыне адлюстравалі ў сябе «Этнаграфічная карта беларускага племя» акадэміка Я. Карскага з 1903 году, «Дыялекталягічная карта рускай мовы» Маскоўскай Дыялекталягічнай Камісіі з 1914 году[81] і, нарэшце, нядаўна выдадзенае ў Польшчы дасьледваньне Ўладыслава Курашкевіча.[82]

Вось-жа, зусім натуральным зьяўляецца тое, што, напрыклад, наш вялікі гуманісіты з XVI стагодзьдзя Сымон Будны, які й сам сябе называў Ліцьвіном ці, прынамся, уважаў сябе літоўскім грамадзянінам,[83] у сваім пасьвячэньні князём Радзівілам, што ўвайшло ў «Катэхізіс», выдадзены ім у Нясьвіжы ў 1562 годзе, сьцьвярджае наступнае:

---

[80] Што тычыцца прозьвішчаў Ліцьвіноў, якія, напрыклад, падпісалі прырачэньне «на вернасьць Ягайлу» з 1401 году (Codex epistolaris Vitoldi, Nr. 234, pp. 73-74) або былі пералічаныя ў акце Гарадзельскай вуніі з 1413 году ў сувязі з атрыманьнем польскіх гербаў ці тады-ж падпісалі суправоднае прырачэньне «на вернасьць польскай шляхце, каралю Ягайлу й вялікаму князю літоўскаму Вітаўту» (Akta Unji Polski z Litwą, 1385-1791. Ed. St. Kutrzeba i Wł. Semkowicz. Kraków, 1932, Nr. 50, pp. 55-59; Nr. 51, pp. 60 et sq.), або прозьвішчаў літоўскіх князёў, як Ягайла, Вітаўт, Сьвідрыгайла, Жыгімонт, Міндоўг, Тройдзень, Гердзень, Таўцьвіл, Альгерд, Гедымін, Кейстут, Карыбут і інш., дык, папершае, сярод іх сустракаецца даволі шмат з вымоўна славянскімі прозьвішчамі. Гэта: Братоша й ягоны брат Зінові, Нямір, Чупурка. Алізар Васілевіч, Войнад Русіловіч, Раман Мілейкавіч і ягоны брат Воўчка, Война, Юры Шэліўровіч, Бутрым, Карэва, Воўчка Кульва, Рала, Іван Рымавідовіч, Даўхша, Воўчка Ракутовіч, Сака, Начка, Войшын Данейковіч, Андрэй Дзеўнетовіч, Качан, Чупа, Качан Суковіч, Іван Рашкінскі й іншыя. Імя Тройдзеня, як ведама, сустракаецца сярод мазавецкіх князёў. З другога боку, полацкія князі Рогвалады й княжна Рагнеда маглі-б таксама быць залічанымі да літоўскіх князёў. Падругое, гістарычныя крыніцы нам не захавалі тых паганскіх прозьвішчаў, якімі звалі сябе славяне. Некаторыя зь іх, што выпадкова дайшлі да нас, нічым ня розьняцца ад гэтых «старажытна літоўскіх». Назавём некаторыя зь іх. Гэтак у ноўгарадзкіх бяроставых граматах мы сустракаем: Няжыла, Судзіша-Судзіла-Судзімір, Жадка, Богша, Грыкша, Паўша, Прокша, Рашта, Рэўша, Ваята, Пуцята, Вышата, Жадзіла, Гасьціла, Ваземут, Бурыс і іншыя ім падобныя. У надпісе, які нядаўна быў адкрыты ў кіеўскім Сафійскім саборы, што быў зроблены ў канцы XII стагодзьдзя жонкай князя Ўсевалада Алегавіча, мы знаходзім: Якім Даміла (*История СССР*, 3, 1964, б. 114). У хроніцы Гала Ананіма ёсьць: Земамысл, Зьбігнеў, Скарбімір, Сьвятабор, Сацех, Войслаў, Боржывой. У хроніцы Гэльмольда: Білуг, Мсьцівой, Мечыдраг, Готшалк, Анадрог, Бушуй, Тэшэмір, Яромір. Сярод памаранскіх князёў сустракаюцца Самбор і Мэствін, а сярод мазурскіх — Земавіт. Чым-жа розьняцца ад іх, напрыклад, «літоўскія» прозьвішчы Монвід ці Радзівіл. Дарэчы, у Беларусі даволі шырока распаўсюджана прозьвішча Радзівілка.

[81] Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы. Выд-ва АН БССР. Мінск, 1963, карты VII, VIII.

[82] Władysław Kuraszkiewicz. Zarys dialektologii wschodniosłowianskiej z wyborem tekstow gwarowych, wyd. 2. Panstwowe Wydawnictwo Naukowe. Warszawa, 1963, mapa IV.

[83] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Избранные произведения XVI – начала XIX в. Изд-во АН БССР. Минск, 1962, бб. 63-67, 69-81.

...К тому тежь и для того, абы ся ваши княжацские милости не только в чужоземских языщех кохали, але бы ся тежь, ваши княжацские милости, и того здавна славного языка словенъского розмиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши княжацские милости того народу язык миловати рачили, в котором давъные предъки и их княжацьские милости панове отци ваших княжецских милости славне переднейшие преложеньства несуть.[84]

Свой «Катэхізіс» Сымон Будны выдаў з даручэньня віленскага ваяводы князя Мікалая Радзівіла Чорнага й за грошы апошняга. Князі Радзівілы паходзілі із старога літоўскага знатнага роду, які асабліва ўзьняўся за часоў вялікіх князёў Вітаўта й Казімера. У гэтым выпадку, як бачым, яны «з прадзедаў» праслаўляюцца, як носьбіты ня толькі ўлады («преложеньства»), але й славянскай ці беларускай мовы.

Найбольшае значаньне мае для нас, аднак, наступная вытрымка з прадмовы да *Літоўскага Статуту* рэдакцыі 1588 году:

Бо яко один сенатор рымский другого штрафовал, же права отчизны своее не умел, так каждый обыватель годен есть наганенья, котрий вольностью се фалить и прав своих умети и розумети не хочеть, которим правом усю вольность свою обварованую маеть. А естли которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которие не обчим яким езыком, але своим власным права списаные маем, и каждого часу, чого нам потреба ку отпору всякое крывды, ведати можем.[85]

Дабавім, што Літоўскі Статут быў напісаны на тагачаснай беларускай літаратурнай мове. У гэтым выпадку ня можа зьмяніць сутнасьці справы й той факт, што аўтарам гэтае прадмовы й рэдактарам самога Статуту быў «Рутэн», пазьнейшы канцлер і гэтман Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега. Наагул-жа ў тыя часы й беларуская мова паступова пачынае называцца літоўскай мовай, пра што сьветчаць, напрыклад, «Лексикон» Памвы Бярынды (выд. 1627 і 1653 гадоў) ці маскоўскае асьветчаньне Лаўрэна Зізанія. Апошні на просьбу маскоўскага патрыярха Філярэта напісаў у 1626 годзе «Катэхізіс». У лютым наступнага 1627 году ў Маскве на паседжаньні «Кніжнай палаты» гэты «Катэхізіс» быў паддадзены кананічнаму разбору. І вось што пішацца ў сувязі з гэтым у справаздачы:

...По приказу государя святейшаго патриарха Филарета Никитича Московьского и всея Русии богоявленскому игумену, что на Москве из заветошнаго ряду, Илии да от книжныя справы Гри-

---

[84] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Вучэбны дапаможнік. Склаў А. Ф. Коршунаў. Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выд-ва Міністэрства асьветы БССР. Мінск, 1959, б. 191.

[85] Вацлаў Ластоўскі. Гісторыя Крыўскай (Беларускай) Кнігі. Коўна, 1926, б. 441; Лаппо И. И. Литовский Статут 1588 года, т. II (Текст). Ковно, 1938.

горию Онисимову велено говорити с корецким протопопом из Литвы с Лаврентием Зизанием о исправленых статиях из книги «Оглашения», которую он из Литвы привез своего слогу и бил челом государю святейшему патриарху, чтобы ея исправити... И князь Иванн Борисович спросил Лаврентия: «По литовскому языку как вы говорите «собра»?» И Лаврентий сказал: «Тожде и по литовскому языку «собра». Потом спросил: «А «изведе» как?». Лаврентей сказал: «Тожде и по-нашему «изведе»»..[86]

Гісторык М. К. Любаўскі, які сваё жыцьцё прысьвяціў вывучэньню гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, прыходзіць да наступнага агульнага выснаву:

Руская стыхія, — піша ён, — канчаткова апанавала ў гэтым дзяржаўным саюзе на працягу XIV стагодзьдзя. Рускія звычаі, рускія ўстановы, руская мова й вера ня толькі не пахіснуліся ў собскіх рускіх землях, але распаўсюджваліся й у собскай Літве. Князі Гедымінавічы на рускі ўзор упарадкоўвалі княствы й у межах собскай Літоўскай зямлі. Такім парадкам, у княствах Віленскім і Троцкім паявіліся кашталяны, дзяржаўцы, канюшыя, маршалкі ў княскіх цэнтрах, намесьнікі й старасты ў прыгарадках і паветах... Коратка — вялікае княства Літоўскае ў XIV стагодзьдзі стала яшчэ больш, чым у XIII стагодзьдзі, рускім гаспадарствам, у якім палітычна пануючая народнасьць духова й культурна была апанаваная падпарадкаванай народнасьцяй.[87]

З свайго боку акадэмік У. Пічэта, які таксама шмат вывучаў гэтую гісторыю ды які за беларускі гістарыяграфічны «нацыяналізм» мусіў пакаштаваць савецкай высылкі й у сувязі з гэтым пазьней выказваўся больш асьцярожна, піша:

Архіў Літоўскай Мэтрыкі — жывы паказьнік перавагі «рускай» (беларускай) культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзякуючы чаму гэтае гаспадарства ў XV—XVI стагодзьдзях было больш «рускім» (беларускім), чымся літоўскім.[88]

Штосьці падобнае сьцьвярджае таксама польскі гісторык В. Вельгорскі.[89] Бясспрэчна, у шмат чым мы ня можам пагадзіцца ні з М. Любаўскім, для якога навет беларускі народ выступае ў якасьці таго самага «рускага», ні з акадэмікам У. Пічэтам. Аднак яны ўсё-такі крыху бліжэй падыйшлі да

---

[86] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии, б. 139.

[87] М. К. Любавский. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно, изд. 2-е. Москва, 1915, б. 41.

[88] В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV-XVI веков. Изд-во АН СССР. Москва, 1961, б. 650.

[89] Władysław Wielhorski. Polska a Litwa. Stosunki wzajemne w biegu dziejów. The Polish Research Centre Ltd. London, 1947, pp. 86, 93-94.

гістарычнай праўды. Больш таго, як М. Любаўскі, так і акадэмік У. Пічэта ўтварэньне Вялікага Княства Літоўскага абасноўваюць не «заваёвамі літоўскіх феадалаў», але бачаць у ім дабравольнае спалучэньне старажытных Ліцьвіноў з тагачаснымі беларускімі княствамі. Прыкладам, У. Пічэта цьвердзіць: «...нямецкая агрэсія на Літву й Наддзьвіньне й загроза з боку Мангола-Татараў трэбавалі ад Літвы саюзу з рускімі землямі. Агрэсія з захаду й загроза з усходу ў сваю чаргу прымушалі феадальныя рускія княствы шукаць падтрымкі ў маладым літоўскім гаспадарстве».[90] Гэта, бясспрэчна, гучыць інакш, чымся выснаў «пра падбіцьцё» й «крывавае змаганьне беларускага народу зь літоўскім прыгнечаньнем».

## II.

Мы ня будзем кранацца тут культурнага жыцьця Вялікага Княства Літоўскага. Яно даволі вывучана, і больш-менш агульна прызнаецца, што ў ім панавала культура беларускага народу. Ня будзем насьвятляць і ягонай палітычнай гісторыі. Зазначым толькі, што нутраная й вонкавая палітыка Вялікага Княства Літоўскага ў васнаўным і пераважна супадала з палітычнымі інтарэсамі беларускага народу. Аднак, бяручы за аснову, што старажытным Ліцьвінам належыла ў першую чаргу ініцыятыва ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, неабходна таму заглянуць у гісторыю дачыненьняў і іхнага сужыцьця зь іншымі беларускімі плямямі й княствамі як да ўзьнікненьня, так і ў часы станаўленьня Вялікага Княства Літоўскага.

Як зазначалася вышэй, Заходняя Беларусь і асабліва Віленшчына застаюцца яшчэ дзірваном у археалягічнай навуцы. Агульна прызнаецца, што тэрыторыя Беларусі, асабліва цэнтральнай, ажно да IX стагодзьдзя й навет пазьней была заселена балтыцкімі плямямі й у першую чаргу гэтак званай *літоўскай* этнічнай групай. Ім прыпісваецца гэтак званая культура «штрыхаванай керамікі», якая праіснавала да палавіны I-га тысячагодзьдзя, а таксама культура неўмацаваных адкрытых паселішчаў, якая замяніла першую. Праўда, Ф. Гурэвіч уважае, што старажытнае насельніцтва гэтай культуры штрыхаванай керамікі не належыла ні да літоўскай, ні да славянскай этнічнай групы, якое потым і было асыміляванае літоўскімі й славянскімі плямямі.[91] Гэта, аднак, не абясцэньвае тых сувязяў і сужыцьця, якія існавалі між гэтай літоўскай этнічнай групай, з аднаго боку, і, праўдападобна, Крывічамі й Дрыгвічамі, з другога, бо як у першым, так і ў другім выпадку прадугледжваецца іхнае самадапаўненьне й узаемная асыміляцыя. Пры гэтым асыміляцыя літоўскай этнічнай групы з боку Крывічоў і Дрыгвічоў мела вырашальнае значаньне. Савецкія археалёгі, у тым ліку й названы тут Ф. Гурэвіч, а асабліва В. Сядоў, у вырашэньні праблемы беларуска-літоўскіх сувязяў і ўзаемадачыненьняў пайшлі цяпер шмат далей, чымся, напрыклад, калісьці А. Сьпіцын. Праўда, і яны, з прычыны недастатковасьці археалягічнага вывучэньня, шматлікія пытаньні, як, прыкладам, пытаньне Віленшчыны й дакладнага акрэсьленьня славянскага на-

---

[90] В. И. Пичета, цыт. праца, б. 619.
[91] Ф. Д. Гуревич. Древности белорусского Понеманья. Изд-во АН СССР. Москва-Ленинград, 1962, бб. 42, 143-144.

сельніцтва Заходняй Беларусі, пакідаюць адкрытымі. Наагул В. Сядоў і асабліва Ф. Гурэвіч сьледам за папярэднімі археалёгамі археалягічную культуру Віленшчыны прыпісваюць літоўскай этнічнай групе. Аднак-жа, падсумоўваючы свае досьледы, і А. Сьпіцын культуру крывіцкіх курганоў Полаччыны й Смаленшчыны таксама сьхільны быў адносіць да «культуры літоўскай этнічнай групы». Што-ж датычыцца старажытнага славянскага насельніцтва іншых земляў Заходняй Беларусі, дык В. Сядоў дапускае, што яно было крывіцкім. Наагул ён высоўвае й абгрунтоўвае тую тэорыю, што Крывічы, пасоўваючыся з захаду ці зь Вісла-Бускага міжрэчча, на тэрыторыі Заходняй Беларусі, паймення ў Наднёманьшчыне, паявіліся яшчэ ў першай палавіне I-га тысячагодзьдзя нашай эры. Каля сярэдзіны гэтага тысячагодзьдзя яны пасунуліся на паўночны-ўсход і аселі найперш у Пскоўшчыне й у вярхоўях Дзьвіны. Пачынаючы з VII стагодзьдзя стуль калянізацыя Крывічоў двумя рукавамі пасунулася ў землі Полаччыны й Смаленшчыны й далей на ўсход і поўдзень. Частка-ж Крывічоў, праўдападобна, заставалася жыць на старым месцы ці ў Наднёманьшчыне.[92] Пачынаючы прыблізна з VI стагодзьдзя Дрыгвічы із свайго боку засяляюць правы й левы берагі Прыпяці з цэнтрам у Тураве, а ў IX стагодзьдзі яны пасоўваюцца далей, дзе сустракаюцца з Крывічамі на поўначы пад Барысавам і Заслаўем і на захадзе дзесьці каля Клецка й на лініі Выганаўскага балота.[93] Гэтую тэорыю пра крывіцкае насельніцтва Заходняй Беларусі, дапоўненую дрыгвіцкім і валынскім элемэнтам, падтрымоўвае таксама польскі археалёг А. Камінскі.[94] Ф. Гурэвіч таксама прыходзіць да выснаву, што тэрыторыя Заходняй Беларусі засяляецца славянамі, пачынаючы зь сярэдзіны I-га тысячагодзьдзя нашай эры. Аднак ён пакідае адкрытым пытаньне іхнай прыналежнасьці да таго ці іншага племя, хоць і сьхільны залічаць іх да Дрыгвічоў.[95] Не ўваходзячы глыбей у гэтыя разыходжаньні, зазначым толькі, што яшчэ за часоў Пётры Дузбурскага Наваградчына называлася «зямлёй Крывічоў».

Як-бы там ня было, але археалёгія прыходзіць да высnaву, што здаўна Заходняя Беларусь ня была краінай пустэчаў, пушчаў і балотаў. Яшчэ шмат раней да ўзьнікненьня Вялікага Княства Літоўскага яна была густа заселена славянскімі плямямі. Гэты факт ёсьць вельмі важным для нас. Больш таго, як давёў В. Сядоў, культура даўгіх, прадаўгаватых і круглых курганоў, якімі славіцца тэрыторыя пасяленьня Крывічоў, зьяўляецца характэрнай культурай самых-жа Крывічоў. Яшчэ да нядаўнага часу яна разглядалася ў якасьці культуры літоўскай этнічнай групы. Між іншым, падобнымі курганамі багатая таксама й Віленшчына. Таму можна спадзявацца, што далейшыя археалягічныя раскопкі й досьледы больш канкрэтна разьвяжаць і пытаньне старажытнага насельніцтва Віленшчыны.

Пісаныя крыніцы нам не захавалі ніякіх ведамак, якія маглі-б кінуць хоць крыху сьвятла на старажытную гісторыю гэтых нашых заходніх зем-

---

[92] В. В. Седов. Кривичи. *Советская археология*, I, 1960, бб. 47-62.
[93] В. В. Седов. Дреговичи. *Советская археология*, 3, 1963, бб. 112-125.
[94] Aleksander Kaminski. Pogranicze polsko-rusko-jacwieskie między Biebrzą i Narwią. *Rocznik Białostocki*, t. IV, Białystok, 1963, pp. 7-39.
[95] Ф. Д. Гуревич, цыт. праца, бб. 42, 75-77.

ляў. Іхная гісторыя пачынаецца фактычна толькі з XIII стагодзьдзя, калі ў сувязі з утварэньнем Вялікага Княства Літоўскага на гэтых землях ім пачынаюць удзяляць больш увагі летапісцы. Выходзячы з таго, што старажытныя Ліцьвіны падпарадкаваліся й плацілі даніну Полацкаму княству й што на захадзе Беларусі, прынамся ў такіх цэнтрах, якімі былі Горадня, Ваўкавыск і Наваградак, распаўсюджваецца хрысьціянства паралельна зь ягоным распаўсюджваньнем і ў Полаччыне (археалягічныя раскопкі апошніх гадоў адкрылі сьляды праваслаўных цэркваў у гэтых гарадах з XI і XII стагодзьдзяў), трэба дапускаць, што яны таксама ўваходзілі ў склад Полацкага княства. Дарэчы ёсьць ведамка, што ў 1102 годзе полацкі вялікі князь Барыс Усяславіч зрабіў удачны паход супраць Яцьвягаў.[96] Гэты паход, бясспрэчна, ён мог ажыцьцявіць, толькі маючы свой моцны тыл, паймення Горадню ці Вільню (Крывіч-горад). Праўда, выходзячы з таго, што ў 1127 годзе ў вайне супраць Полаччыны злучаных сілаў Кіеўскай Русі пад кіраўніцтвам кіеўскага вялікага князя Мсьціслава ўдзельнічаў таксама князь Усеваладка із Горадня, савецкія гісторыкі й тым больш гісторыкі БССР усьцяж цьвердзяць, што гэтая заходняя частка Беларусі, уключаючы й Горадзеншчыну, уваходзіла ў склад гэтай Кіеўскай Русі. Гэты высnaў, аднак, зьяўляецца сьведамай нацяжкай. Князь Усеваладка Гарадзеньскі й ягоныя сыны, таксама названыя Гарадзеньскімі, даволі часта ўспамінаюцца ў летапісах у сувязі з падзеямі XII стагодзьдзя. Аднак яны выступаюць тут, як князі, якія поўнасьцяй залежаць ад вялікага кіеўскага князя й якія заўсёды знаходзяцца пад рукой апошняга. Гэта, бясспречна, павінна выключыць нашае Горадня (Гродна). Калісьці ўкраінскі гісторык М. Грушэўскі пісаў, што Горадня (Городно), пра якое тут ідзе мова, знаходзіцца на поўдзень ад Прыпяці між рэчкамі Случаю й Стырам (цяпер невялікае мястэчка). Яго якраз разам з Дубровіцай і атрымаў гэты Ўсеваладка, сын князя Давыда Ігаравіча.[97] З гэтага вынікае, што дадзенае ўключэньне цэласьці Заходняй Беларусі ў склад Кіеўскай Русі аснована на сыпучым пяску.

У запраўднасьці, ды як пацьвярджаецца й пісанымі крыніцамі, на захадзе валоданьні Кіеўскай Русі абмяжоўваліся лініяй, якая праходзіла крыху вышэй ад Пінска, Берасьця й Драгічына, супадаючы, праўдападобна, зь цячэньнямі рэчак Ясёлды й Нарава, дзе гэтая мяжа каля Бельску зварочвала на поўдзень у кірунку Бугу. На паўдні Беларусі ўладаньні Кіеўскай Русі абмяжоўваліся лініяй Пінск-Клецк-Слуцк і месцам упадзеньня Беразіны ў Дняпро, бо Стрэшын, які ляжыць недалёка ад гэтага месца, належыў ужо Полацкаму княству. З прычыны нястачы гістарычных ведамак, мы ня можам дакладна ўстанавіць, ці Клецк і Слуцк разам з Туравам адыйшлі да Кіеўскай Русі ў выніку вайны 978 году кіеўскага князя Ўладзімера Вялікага з полацкім князем Рогваладам, або яны, г. зн. Клецк і Слуцк разам зь Менскам, былі прылучаныя да гэтай Кіеўскай Русі (Менск толькі часова) падчас войнаў, якія вяліся ў 1104—1119 гадох між

---

[96] Очерки истории СССР. Период феодализма XI-XV веков, т. I. Изд-во АН СССР. Москва, 1953, б. 385.

[97] М. Грушевський. Історія України-Руси, т. II. Выд-ва «Книгоспілка». Нью-Йорк, 1954, бб. 301-302.

Кіеўскай Русьсю й менскім князем Глебам Усяславічам. Ведама толькі, што менскі князь Глеб Усяславіч шмат разоў нападаў на гэтыя валоданьні Кіеўскай Русі, а ў 1116 годзе разбурыў і спаліў Слуцк.[98] Адным словам, на захадзе да Полацкага княства ня толькі належылі такія цэнтры, як Зьдзітаў, Слонім, Ваўкавыск, Горадня, але й самыя ўзьмежныя гарады Візна й Райгорад. Праўда, перад 1145 годам Візна была прылучана да Польшчы, і ў гэтым-жа годзе была перададзена Кіеўскай Русі ў якасьці падарунку за ейную дапамогу ў ліквідацыі польскіх нутраных закалотаў.[99] Праўдападобна Візна адыйшла да Польшчы ў цяжкія для Полацкага княства часіны 1127—1132 гадоў або навет крыху раней ці пазьней, калі падзеленаму між сынамі Ўсяслава Чарадзея Полацкаму княству прыйшлося адбіваць новую агрэсію Кіеўскай Русі ды праводзіць змаганьне за вызваленьне часова акупаваных ёю Меншчыны й самое Полаччыны. Іншыя землі й цэнтры, у тым ліку й Райгорад, заставаліся зьвязанымі з Полацкім і Менскім княствамі ці, магчыма, пасьля іхнага аслабленьня працягвалі жыць самастойным жыцьцём, і навет, як піша пад 1221 годам Пётра Дузбурскі, ваявалі з Прусамі й Яцьвягамі.[100]

Калі ходзіць пра ўзаемадачыненьні гэтага часу між Полацкім княствам і старажытнымі Ліцьвінамі, дык першую больш дакладную вестку нам падаюць летапісы пад 1132 годам. Як крыху раней Менск, у 1129 годзе Кіеўская Русь акупавала таксама Полаччыну з Полацкам. Некалькі полацкіх князёў разам з жонкамі й дзецьмі былі прададзеныя ў нявольніцтва ў Канстантынопалі. Аднак частка іх, праўдападобна, зьбегла ў наднёманскія пушчы, дзе, як трэба дапускаць, гэтым часам ужо існавалі й іншыя беларускія княствы на ўзор Менскага, Віцебскага й іншых. Тут, як вынікае, і зарганізоўваецца супраціў і змаганьне супраць агрэсіі Кіева. Ува ўсякім выпадку, каб замацаваць акупацыю Меншчыны й Полаччыны, вялікі князь кіеўскі зарганізоўвае ў 1132 годзе вялікі паход «у Літву», у якім прыймаюць удзел таксама й чарнігаўскія князі. Паход гэты быў няўдачным, бо, як зазначае летапісец, «а Киян тогда много побиша Литва».[101] Але галоўным ягоным вынікам было тое, што ў гэтым-жа 1132 годзе палачане выганяюць кіеўскага стаўленіка Сьвятаполка Мсьціславіча й прыймаюць да сябе Васільку Сьвятаславіча, унука Ўсяслава Чарадзея.[102] Хутка пасьля 1135 году вызваляецца таксама й Менскае княства. Як бачым, тут праявіліся тыя цесныя ўзаемадачыненьні й салідарнасьць, якія існавалі між Крывічамі й Ліцьвінамі. Наагул, як нам здаецца, у гэтым выпадку летапісец меў на увазе ня толькі сьціплую старажытную Літву, а цэлы комплекс заходніх беларускіх земляў ці княстваў, да якіх прымыкала таксама й гэтая сьціплая Літва. На гэты выснаў наводзяць як пазьнейшыя гістарычныя ведамкі, так і пару ранейшых паходаў кіеўскіх князёў у гэтую «Літву», якія, калі-б апошняя «Літва» абмяжоўвалася толькі месцам знаходжаньня старажытных Літоўцаў, не маглі не прамінуць тую шырокую

---

98 ПСРЛ, т. II, кал. 282-283.
99 Тамсама, кал. 318.
100 SRP, t. I, p. 133.
101 ПСРЛ, т. II, кал. 294.
102 ПСРЛ, т. I, кал. 302.

паласу, што была заселена Крывічамі й Дрыгвічамі. Апошнія, як гаварылася вышэй, не ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, а таму самі павінны былі быць першым аб'ектам гэтых паходаў кіеўскіх князёў.

У 1159 годзе распачынаецца змаганьне за аб'еднаньне незалежных беларускіх княстваў між полацкім князем Рогваладам Барысавічам і менскімі князямі сынамі Глеба Ўсяславіча.[103] Рогваладу Барысавічу пашчасьціла здабыць Заслаўе, аднак пад Менскам ён сустрэў моцны супраціў і змушаны быў заключыць мірную ўмову зь менскім князем Расьціславам Глебавічам. З гэтым, аднак, не пагаджаецца ранейшы менскі князь Валадарка Глебавіч, які, як паведамляе летапісец, «адыходзіць у Літву»,[104] каб там набраць войска. Праўдападобна пры дапамозе Ліцьвіноў менскія князі неўзабаве вярнулі Заслаўе й іншыя цьвярдыні ды пачалі пагражаць Полацкаму княству. Рогвалад Барысавіч з палачанамі паяўляецца пад Менскам у 1160 і 1161 гадох, аднак гэтыя ягоныя паходы заканчваюцца ўзнаўленьнем папярэдняе мірнае ўмовы.[105] У 1162 годзе Рогвалад Барысавіч зноў паяўляецца пад Гарадком (летапісец гаворыць пра «Гарадзец», не падаючы ягонага месцазнаходжаньня), дзе княжыць Валадарка Глебавіч. У вапошняга войска складаецца «зь Ліцьвіноў». Даходзіць да бітвы, у якой Рогвалад Барысавіч быў разьбіты натолькі, што ён не адважваецца паказацца ў Полацак ды ўцякае найперш у Слуцк, а потым вяртаецца ў свой Друцк.[106] Палачане паклікаюць на княжы пасад князя Ўсяслава Васількавіча. Тым часам Валадарка Глебавіч вядзе падрыхтоўку да вайны, мэтай якое было аб'еднаньне земляў былога Полацкага вялікага княства. У 1167 годзе ён здабывае Полацак і неўзабаве паяўляецца пад сьценамі Віцебску, дзе сустракаецца й зь сіламі смаленскіх князёў, якія прыходзяць на дапамогу Ўсяславу Васількавічу. Аднак, пры аблозе Віцебску ў навальнічную ноч сярод войска Валадаркі Глебавіча ўзьнікае такая паніка, што войска гэтае разьбягаецца, не распачаўшы яшчэ здабыцьцё Віцебску.[107]

Трэба дапускаць, што ў гэтай вайне, якая так трагічна закончылася для аб'яднальнае палітыкі Валадаркі Глебавіча, удзельнічалі таксама й Ліцьвіны. З гэтае трагічнае ночы ў даступных нам летапісах мы больш не сустракаем ні ведамак пра далейшую дзейнасьць Валадаркі Глебавіча, ні пра жыцьцё й дзеі Менскага княства. Пра існаваньне апошняга мы толькі

---

[103] Як ведама, у 1151 годзе полацкае баярства, будучы незадаволеным сваім князем Рогваладам Барысавічам, выганяе яго з Полацку, запрашаючы на полацкі пасад менскага князя Расьціслава Глебавіча. Неўзабаве ў руках менскіх князёў апыняецца ўся тэрыторыя, за выняткам, магчыма, Віцебскага княства, быўшага Полацкага вялікага княства. Гэтак Валадарка Глебавіч утрымоўвае за сабой Менскае княства, Усевалад Глебавіч сядзіць у Заслаўі, а сын Расьціслава Глебавіча таксама Глеб пануе ў Друцку. Рогвалад Барысавіч некаторы час быў затрыманы пад наглядам у Менску, потым-жа яму было дазволена выехаць у Чарнігаў. У 1159 годзе пры падтрымцы чарнігаўскіх князёў ён паяўляецца пад Друцкам. Будучы дабравольна прынятым дручанамі, у гэтым-жа годзе ён запрашаецца ў Полацк і палачанамі. Расьціслаў Глебавіч змушаны быў вярнуцца ў свой Менск.

[104] ПСРЛ, т. II, кал. 496.

[105] Тамсама, кал. 505, 512.

[106] Тамсама, кал. 519.

[107] Тамсама, кал. 526-527.

даведваемся зь вяліканоўгарадзкіх летапісаў, якія паведамляюць, што ў пасольстве 1326 году вялікага князя літоўскага Гедыміна ў Вялікі Ноўгарад удзельнічаў таксама й менскі князь Васіль. Гэта азначае, што Менскае княства й у далейшым працягвала сваё незалежнае існаваньне, падтрымоўваючы пры гэтым добрасуседзкія дачыненьні ня толькі з княствамі Наднёманшчыны й Ліцьвінамі наагул, але таксама й з Полацкім княствам. Што-ж тычыцца далейшае палітычнае дзейнасьці князя Валадаркі Глебавіча, дык ён, праўдападобна, усё-такі ня склаў зброі, але запачаткаваў і ачоліў той рух, які прывядзе нарэшце да ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага. Як-бы там ня было, аднак, наколькі нам дазваляюць зрабіць такі выснаў гістарычныя ведамкі, якія дайшлі да нас, у якасьці падпарадкаваных у вапошні раз Ліцьвіны выступаюць у 1181 годзе. У гэтым годзе полацкія князі падтрымоўваюць бок вялікага кіеўскага князя Сьвятаслава Ўсеваладавіча й наагул чарнігаўскіх князёў, што спрачаюцца з суздальскімі й смаленскімі князямі. На поле бітвы з смаленскімі князямі пад Друцкам, які таксама прымкнуў да смаленскіх князёў, побач з полацкім князем Усяславам Васількавічам і віцебскім князем Брачыславам Васількавічам выступаюць таксама Ліцьвіны й Латышы.[108] Пасьля гэтага, аднак, усё больш і больш Ліцьвіны пачынаюць дзейнічаць або самастойна, або ў саюзе з полацкімі князямі. Хоць пра саюз Ліцьвіноў зь Менскім княствам ці з княствамі Наднёманшчыны канца XII і пачатку XIII стагодзьдзяў мы ня маем ніякіх канкрэтных ведамак, ён, аднак, быў няўхільным і існаваў бясспрэчна. Апошні саюз дазваляў Ліцьвіном ўжыцьцяўляць свае набегі ня толькі на валоданьні валынска-галіцкіх князёў, але й на валоданьні чарнігаўскіх князёў. Гэтак ужо ў 1183 годзе Ліцьвіны першы раз нападаюць на землі Пскоўскае рэспублікі,[109] запачаткоўваючы адначасна й сыстэматычныя рабунковыя набегі на землі Вяліканоўгарадзкае рэспублікі. З гэтае прычыны ў 1191 годзе даходзіць да заключэньня саюзу між Вялікім Ноўгарадам і полацкімі князямі, які прадбачваў таксама ўжыцьцяўленьне супольнага паходу супраць Ліцьвіноў.[110] Заключэньне падобнага саюзу з боку Полацкага княства магло дыктавацца, бясспрэчна, тым палажэньнем, у якое паставілі яго Ліцьвіны: колішнія «даньнікі» патрабавалі палітычнае раўнапраўнасьці. Аднак, як нам здаецца, апошняя ўмова з Ноўгарадам была як-бы адчэпнага характару. Супольнага паходу супраць Ліцьвіноў, які яна прадбачвала, не адбылося, а ў 1198 годзе самі палачане супольна зь Ліцьвінамі нападаюць ды разбураюць Вялікія Лукі, якія заўсёды былі спрэчным пунктам між Вялікім Ноўгарадам і Полацкім княствам, а ў гэты час спэцыяльна былі ўмацаваныя для стрыманьня набегаў Ліцьвіноў. Заключаны-ж незадоўга пасьля гэтага мірны саюз між палачанамі й вяліканоўгарадцамі больш ужо не напамінае аб супольных полацка-ноўгарадзкіх дзеяньнях супраць Ліцьвіноў (апошняя мірная ўмова таксама была заключана на полі сутычкі між палачанамі й вяліканоўгарадцамі каля возера Каспля,

---

108 Тамсама, кал. 620-621.

109 Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов. Изд-во АН СССР. Москва-Ленинград, 1950, б. 37.

110 Тамсама, б. 39-40.

дзе, аднак, да крывавае бітвы не дайшло).[111] Дарэчы зазначыць, што падобны «антылітоўскі саюз» быў заключаны ў 1212 годзе між полацкім князем Уладзімерам Усяславічам і галавой Лівонскага ордану мечаносцаў рыскім біскупам Альбэртам.[112] У запраўднасьці, заключаны спантанічна на полі сустрэчы дзьвюх варожых сілаў, якія ўсё-такі ня пусьцілі ў рух зброі, і гэты саюз быў толькі прыкрыцьцём арганізацыі супольнае полацкалітоўскае вайны супраць Лівонскага ордану, якая прадбачвалася на 1216 год і якая, будучы ўжо падрыхтаванай, не адбывалася толькі дзякуючы гвалтоўнай сьмерці полацкага князя Ўладзімера Ўсяславіча, што наступіла, дарэчы, ужо ў часе паходу.[113]

Бясспрэчна, маглі быць сутычкі між палачанамі й Ліцьвінамі, як яны былі, напрыклад, між палачанамі й мянчанамі. У гісторыі Кіеўскай Русі гэтага часу таксама ня было таго дня, каб, напрыклад, князь Раман ці Мсьціслаў не абрабаваў ці ня выгнаў князя Расьціслава ці Ўладзімера. Аднак з гэтых асаблівасьцяў тае эпохі ня трэба рабіць таго выснаву, як гэта робяць савецкія гісторыкі, нібы канец XII стагодзьдзя распачынае цэлую эпоху «крывавага змаганьня» «рускіх княстваў» супраць літоўскае агрэсіі. Папершае, наяўнасьці падобнага «крывавага змаганьня» супраць Ліцьвіноў беларускіх земляў былога Полацкага вялікага княства мы із сьвечкай у руках ня можам знайсьці ні ў вяліканоўгарадзкіх, ні ў маскоўскіх, ні ў валынска-галіцкіх летапісах. Запісаныя ў іх факты шматлікіх ваенных набегаў Ліцьвіноў адносяцца якраз не да гэтых беларускіх земляў, але вылучна да валоданьняў Пскоўскае й Вяліканоўгарадзкае рэспублікаў, Смаленскага, Чарнігаўскага й Галіцка-Валынскага княстваў. Гэта ў першую чаргу й павінна брацца пад увагу перад тым, як рабіць тыя ці іншыя высновы ў гэтым пытаньні.[114] Падругое, тыя зьвесткі, якія ў іх мы знахо-

[111] Тамсама, б. 44.

[112] The Chronicle of Henry of Livonia, pp. 121-123.

[113] Id., p. 142.

[114] Ня маючы фактычна ніякіх падцьверджаньняў і асноўваючыся толькі на шматлікіх выпадках рабунковых набегаў Ліцьвіноў на землі Пскоўскае й Ноўгарадзкае рэспублікаў, Смаленскага, Чарнігаўскага й Галіцка-Валынскага княстваў, савецкія гісторыкі заўсёды прыходзяць да выснаву, што падобны лёс перажывалі таксама й землі, напрыклад, Полацкага, Віцебскага й Менскага княстваў. Гэты выснаў выцякае галоўным чынам з простага перанясеньня дачыненьняў Ліцьвіноў да першых з названых земляў на іхныя дачыненьні да апошніх, бо, як цьвердзяць савецкія гісторыкі, як першыя, так і апошнія землі складалі «адзіную» Русь, а таму тут не магло быць выняткаў. Больш таго, цьвердзяць яны, «Полацка-Менская Русь» поўнасьцяй залежыла калі не ад Кіева, дык ад Маскоўска-Суздальскага або Смаленскага княстваў. Аднак, папершае, як у гэтым выпадку мы павінны разглядаць той вымоўны факт, што гэтай «поўнасьцю залежнай Полацка-Менскай Русьсю» зусім ня цікавяцца ні ноўгарадзкія, ні маскоўскія, ні кіеўскія, ні галіцка-валынскія летапісы. Падругое, у тыя часы, пра якія тут ідзе мова, ужо не залежылі ні ад каго як Ноўгарадзкая рэспубліка, так і Смаленскае ці Турава-Пінскае княствы. Таксама выводзіць нейкую «залежнасьць» гэтае гэтак званае «Полацка-Менскае Русі», выходзячы з падзеяў канца XII стагодзьдзя, мы ня маем ніякіх падставаў. Як сьветчаць хоць-бы дайшоўшыя да нас летапісныя ведамкі, мы бачым, што полацка-віцебскія князі пераменна выступаюць у якасьці саюзьнікаў маскоўска-суздальскіх князёў і вельмі часта падтрымоўваюць бок чарнігаўскіх князёў у змаганьні супраць першых. Гэта-ж, аднак, павінна сьветчыць не пра іхную «залежнасьць», але як-

дзім і якія беспасярэдня тычацца гэтага пытаньня, сьветчаць зусім пра адваротнае. У гэтым мы ўпэўнімся з далейшага насьвятленьня падзеяў. У гэтым месцы дастатковым будзе паклікацца хоць-бы на наступнае асьветчаньне Гэнрыка Лівонскага, згодна якога князь Герсікі Ўсевалад натолькі быў зблíжаны зь Ліцьвінамі, што яго можна было ўважаць нібы зь Ліцьвіноў. Апрача гэтага ён даволі часта ачольваў паходы Ліцьвіноў і дапамагаў ім усялякімі магчымымі спосабамі ў іхных набегах на валоданьні Лівонскага ордану.[115]

Бясспрэчна, свой так хуткі палітычны рост й актывізацыю свае дзейнасьці ў першую чаргу Ліцьвіны заўдзячваюць распаду цэласьці былога Полацкага вялікага княства й аслабленьню ягоных паасобных земляў. Гэтаму новаму разьмяшчэньню сілаў не ў малой ступені дапамагала як умацаваньне Лівонскага ордану ў Прыбалтыцы, так і ўзьніклая мангольская загроза на ўсходзе й паўдні. Аднак ня выпадае таксама прымяншаць нутраных сілаў і магчымасьцяў самых Ліцьвіноў, без наяўнасьці якіх немагчымым было-б гэтае іхнае даволі раптоўнае й хуткае ўзвышэньне. Тут ня трэба таксама забываць і тае ролі, якую ў гэтым выпадку маглі адыйграць і адыйгралі, ведама, іншыя заходнія землі былога Полацкага княства.

Як мы маглі канстатаваць вышэй, з 1167 году ці ад часу паразы князя Валадаркі Глебавіча пад Віцебскам летапісцы губляюць сувязь зь Менскім княствам. Якой-колечы сувязі яны ня маюць наагул зь іншымі заходнімі беларускімі землямі ці княствамі. Аднак гэта не павінна азначаць, што апошнія землі ці княствы прыпыняюць сваё існаваньне. Яны існавалі й

---

раз пра *незалежнасьць*. Інакш яны ня мелі-б магчымасьцяў гэтак свабодна рабіць больш выгаднага выбару. Праўда, у вапошняй чвертцы XII стагодзьдзя Віцебскае княства падпадае пад моцны палітычны ўплыў смаленскіх князёў. Аднак ужо ў 1196 годзе злучаныя сілы полацкіх князёў, віцебскага князя Васількі Брачыславіча й друцкага князя Барыса ў саюзе з чарнігаўскімі князямі дзесьці каля Віцебску атрымоўваюць перамогу над злучанымі сіламі смаленска-суздальскіх князёў і такім парадкам вызваляюць Віцебскае княства ад гэтых смаленскіх уплываў (ПСРЛ, т. I, кал. 413; т. II, кал. 690-693). Часамі гэтая «залежнасьць» Полацкага й Віцебскага княстваў ад Смаленскага княства выводзіцца яшчэ на падставе ведамых гандлёвых умоваў усіх гэтых трох княстваў з Рыгай, заключаных у 1223 (1225?), у 1229 і наступных гадох. Да нас не дайшлі тыя сьпіскі апошніх умоваў, якія перахоўваліся ў Полацку й Віцебску, а таму з гэтае прычыны й узьнікаюць розныя самавольныя дагадкі. Між тым, успамінаючы пра заключэньне гэтае ўмовы ў 1223 годзе, Гэнрык Лівонскі зусім выразна піша, што яна была заключана пасланцамі й ад імя смаленскага й полацкага князёў, а віцебскага князя ён адносіць да «іншых» (The Chronicle of Henry of Livonia, p. 205). Дарэчы зазначыць, што знойдзены смаленска-рыскі сьпісак гэтае першае ўмовы адносіцца выключна да Смаленску й Рыгі й ні адным словам не кранаецца Полацкага й Віцебскага княстваў. Што-ж тычыцца падобнае ўмовы з 1229 году, арыгінал якое захаваўся й якая таксама ўрэгулёўвае смаленска-рыскія гандлёва-прававыя дачыненьні, дык пры канцы ў ёй проста сказана: «Тая правда латинескомоу взяти оу роуской земли оу волости князя смольнеского и оу полотьского князя волости и оу витьбеского князя волости». Гэта азначае, папершае, што асобныя сьпіскі гэтае ці падобнае ёй умовы мелі таксама Полацк і Віцебск, а, падругое, што ўмова гэтая заключалася пры агульнай згодзе гэтых трох княстваў (Смоленские грамоты XIII-XIV веков. Изд-во АН СССР. Москва, 1963).

[115] The Chronicle of Henry of Livonia, p. 90.

надалей, але ў самаізаляцыі, ізалюючы адначасна й тую напэўную патэнцыяльную сілу, якая потым дасьць аснову новаму гаспадарству — Вялікаму Княству Літоўскаму. У гэтым, магчыма, паважную ролю адыйграла й бунтарная натура князя Валадаркі Глебавіча, аб'яднальная палітыка якога так неспадзяванна разьбілася аб муры Віцебску. Аднак ня будзем згадваць, а зьвернемся лепш да тых гістарычных падзеяў, што захавалі нам летапісы.

У сувязі з гэтым неабходна зьвярнуць увагу ў першую чаргу на тую мірную ўмову, якая была заключана ў 1219 годзе між літоўскімі князямі, з аднаго боку, і Галіцка-Валынскім княствам, з другога. Ведама, мы ня можам ручацца ні за праўдзівасьць характару самое гэтае умовы, ні за дакладнасьць пералічаных тут «літоўскіх» князёў. Гэтая ведамка была запісаная ў летапісу задняй датай, што й вынікае з дапіскі, у якой гаворыцца, што шматлікія з апошніх князёў пасьлей былі зьнішчаныя князем Міндоўгам. Аднак якаясь умова ўсё-такі існавала, шло падцьвярджаюць ход некаторых далейшых падзеяў і паўтарэньне летапісцам імяў некаторых із гэтых князёў. Зьвязаная з гэтай умовай летапісная ведамка гучыць наступна:

> Божиим повелениемь прислаша князи Литовьскии к великой княгини Романовой и Данилови и Василкови мир дающи. Бяхоу же имена Литовьских князей, се старьшии: Живинбоуд, Давъят, Довспроунк, брат его Мидог (Міндоўг), брат Довъялов Виликаил; а Жемойтьскыи князи: Ерьдивил, Выкынт; а Роушьковичев: Кинтибоуть, Вонибоут, Боутовить, Вижейк и сын его Вишлий, Китений, Пликосова; а се Боулевичи: Вишимоут, его же оуби Миндогот (Міндоўг) и женоу его поял и братью его побил Едивила, Спроудейка; а се князи из Дяволтвы: Юдьки, Поукеик, Бикши, Ликийк. Си же вси мир даша князю Данилови и Василкоу и бе земля покойна. Ляхом же не престающим пакостящим и приведе на ня Литвоу. И воеваша Ляхы и много оубиства створиша в них.[116]

Гэтая мірная ўмова з Галіцка-Валынскім княствам дыктавалася актывізацыяй змаганьня Лцьвіноў зь Лівонскім орданам і іхных набегаў на землі Ноўгарадзкае рэспублікі й Смаленскага княства. Аднак яна цікавіць нас у першую чаргу тым, што сьветчыць пра навязаньне цеснае сувязі Ліцьвіноў з княствамі Наднёманшчыны ўжо перад 1219 годам. Запраўды, як паведамляе той-жа летапісец, у 1237 годзе наваградзкі князь Ізяслаў ачольвае набег «Літвы» на Польшчу.[117] Падругое, калі навет дапусьціць, што ўсе пералічаныя ў гэтай умове прозьвішчы князёў належаць вылучна старажытным Ліцьвіном, мы ня можам не заўважыць працэсу іхнай славянізацыі, пра што й сьветчаць гэтыя прозьвмішчы, як *Рушковічы* ці *Булевічы*. Князі Рушковічы выступаюць і пазьней, як, напрыклад, у 1246 годзе, калі князь Айшвна Рушковіч ачоліў набег Ліцьвіноў на Перасопніцу,[118] або ў 1258 годзе, калі князь Сірвід (Сьвірыд) Рушковіч з ваяводам Хвалам

---

[116] ПСРЛ, т. II, кал. 735-736.
[117] Тамсама, кал. 776.
[118] Тамсама, кал. 797-798.

на чале літоўскіх аддзелаў былі высланыя на дапамогу галіцка-валынскім князём у іхным паходзе на Кіеў ды якія, паспрачаўшыся з апошнімі, потым разбурылі навакольныя мясцовасьці каля Луцку.[119]

Падзеі 50-х і 60-х гадоў XIII стагодзьдзя, якія вызначаюцца вайной Вялікага Княства Літоўскага з галіцка-валынскімі князямі, паходам татарскага ваяводы Бурундуя на Вялікае Княства Літоўскае з тымі-ж галіцка-валынскімі князямі й, нарэшце, забойствам вялікага князя Міндоўга, даволі шмат кідаюць сьвятла на палажэньне земляў былога Полацкага вялікага княства ў сыстэме ВКЛ. Найперш трэба зазначыць, што ў сувязі з насьвятленьнем гэтых падзеяў упяршыню называюцца такія гарады, як Ваўкавыск, Слонім, Сьвіслач, Турыйск і Горадня. Як сьцьвярджалася вышэй, Наваградак зь ягоным князем Ізяславам успаміналіся ўжо пад 1237 годам. Некаторыя з гэтых гарадоў маюць і сваіх князёў. Гэтак у Ваўкавыску княжыць князь Глеб, які пад час паходу Бурундуя 1258—1259 гадоў быў захоплены ў палон галіцкім князем Данілам.[120] У Сьвіслачы таксама княжыць нейкі князь Ізяслаў,[121] магчыма той, які раней княжыў у Наваградку. Савецкія гісторыкі, асноўваючыся на факце, што паходы галіцка-валынскіх князёў ськіроўваліся ў першую чаргу супраць пералічаных тут гарадоў, робяць выснаў, што раней усе яны ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі. Гэта й прывяло да вайны між Галіцка-Валынскім княствам і Вялікім Княствам Літоўскім. Падобнае дапушчэньне зусім неабаснаванае, бо, папершае, названыя гарады цяпер выходзяць на гістарычную арэну першы раз, а, падругое, усе яны ставяць моцны супраціў галіцка-валынскай агрэсіі. Праўда, летапісец паведамляе, што ў вайне 1251—1254 гадоў зь Вялікім Княствам Літоўскім галіцка-валынскія князі здабываюць «многа гарадоў літоўскіх», аднак-жа ў кажным новым паходзе яны зноў і зноў змушаныя нападаць на Зьдзітаў, Слонім, Ваўкавыск і асабліва Наваградак, што азначае ў запраўднасьці, што ніводзін з гэтых гарадоў ня быў здабыты імі. Прыступам была ўзятае імі толькі Горадня,[122] але, як вынікае з далейшых падзеяў, яны не змаглі ўтрымаць яе за сабой. Тое самае мы наглядаем і ў часе паходу татарскага ваяводы Бурундуя 1258—1259 гадоў, пад час якога галіцкаму князю Данілу Раманавічу пашчасьціла здабыць толькі Ваўкавыск, а ад здабыцьця Горадні ён проста адмовіўся.[123] У паходзе на Вялікае Княства Літоўскае татарскага ваяводы Ягурчына ў 1275 годзе з цэлай сьвітай залежных ад Татараў князёў (бранскага, смаленскага, турава-пінскіх і ўсіх галіцка-валынскіх), які спэцыяльна быў зарганізаваны галіцкім князем Львом Данілавічам, быў здабыты гэтай вялізарнай арміяй толькі адзін Наваградак.[124] Праўда, у вайне галіцка-валынскіх князёў зь вялікім князем літоўскім Тройдзеням у 1276 годзе першым пашчасьціла здабыць Ваўкавыск і Турыйск, але, ня здолеўшы замацаваць за сабой навакольля, яны не атрымалі ад гэтае ўдачы ніякае карысьці.[125] Нарэшце

---

[119] Тамсама, кал. 838-840.
[120] Тамсама, кал. 831, 847.
[121] Тамсама, кал. 831.
[122] Тамсама, кал. 816-819, 828-829.
[123] Тамсама, кал. 847-848.
[124] Тамсама, кал. 871-874.
[125] Тамсама, кал. 874-875.

ў паходзе на Літву татарскага ваяводы Мамшэя ў наступным 1277 годзе Татары здолелі толькі спаліць і аграбіць наваколье Навааграду, а войска галіцка-валынскіх князёў, не здабыўшы Ваўкавыска, прыступіла да аблогі Горадні, але тут было моцна пабітае яшчэ перад аблогай гэтае цьвярдыні. Так што яны былі змушаныя зьняць гэтую аблогу за цану атрыманьня назад галіцка-валынскіх баяраў, захопленых у палон наконадні гэтае аблогі.[126]

Не абасноўвае дадзенага дапушчэньня савецкіх гісторыкаў і той факт, што пры заключэньні ў 1254 годзе перамір'я з галіцка-валынскімі князямі Наваградак, Ваўкавыск і Слонім часова перадаюцца ў рукі сыноў галіцкага князя Данілы Раманавіча — Шварну й Раману. У дабавак Шварна быў ажэнены з дачкой вялікага князя Міндоўга. Аднак-жа гэтыя гарады ня былі прылучаныя да Галіцка-Валынскага княства, а заставаліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Князі Шварна й Раман у запраўднасьці былі васалямі вялікага князя Міндоўга. Дарэчы ўжо перад 1258 годам яны змушаныя былі пакінуць тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага. Вялікаму князю Міндоўгу тады неабходна было згадзіцца на заключэньне падобнае кампраміснае ўмовы, бо быў абкружаны даволі вялікай кааліцыяй у складзе Галіцка-Валынскага княства, Жмудзі, Лівонскага ордану й Яцьвягаў.

З усяго гэтага вынікае, што землі Наднёманшчыны зь пералічанымі тут гарадамі, творачы калісьці цэласьць былога Полацкага вялікага княства й, пасьля ўпадку апошняга, жывучы сваімі незалежнымі інтарэсамі, дзесьці яшчэ з пачатку XIII стагодзьдзя становяцца тым ядром, каля якога ўзьнікае Вялікае Княства Літоўскае. У сувязі з гэтым мы й заўважаем наяўнасьць нацягнутых дачыненьняў між Вялікім Княствам Літоўскім і Жмудзяй, а ў вайне 1251—1254 гадоў яна навет выступае на баку Галіцка-Валынскага княства й Лівонскага ордану. Таксама, як мы маглі сьцьвердзіць, увесь цяжар як апошняе вайны, так і наступных паходаў галіцка-валынскіх князёў і татарскіх ваяводаў кладзецца вылучна на землі Наднёманшчыны. Дарэчы й цэнтр ВКЛ, праўдападобна, знаходзіцца ў Наваградку, супраць якога заўсёды ськіроўваюцца гэтыя паходы галіцка-валынскіх князёў і татарскіх ваяводаў. Пазьней гэты цэнтр быў перанесены ў Вільню ці тады яшчэ, магчыма, у Крывіч-горад. Нарэшце, гэта землі Наднёманшчыны, якія ў першую чаргу выступаюць у вабароне цэласьці Вялікага Княства Літоўскага пасьля забойства вялікага князя Міндоўга.

Вялікі князь Міндоўг із сваімі абыдвума сынамі быў забіты ў 1263 годзе агентамі нальшанскага князя Даўмонта й жмудзкага князя Трайняты. Ягоны старэйшы трэйці сын Вайшэлак яшчэ перад гэтым зрокся сьвецкай княжай улады й, прыняўшы хрысьціянства (праваслаўнага абраду) і аднача сна стаўшыся манахам, замкнуўся ў Лаўрашавым манастыры, які ён заснаваў сам недалёка ад Наваградку. Пасьля забойства бацькі Вайшэлак таксама змушаны быў уцячы ў Пінск. Тут ён атрымоўвае падмогу ад ту-

---

[126] Тамсама, кал. 876-878.

рава-пінскіх князёў[127] і, бясспрэчна, маючы за сабой Наваградчыну, у 1264 годзе ён вырушае да Наваградку, дзе да яго прылучаецца ўся Наднёманшчына. З гэтай сілай ён пасоўваецца далей на поўнач ды суровымі рэпрэсіямі прыводзіць да паслухмянасьці ня толькі сьціплую Літву (г. зв. Аўкштоту), але й Жмудзь.[128] Князь Даўмонт уцякае ў Пскоў, а Трайнята быў пакараны.

Пра ўдзел у гэтай нутранай вайне Менскага княства, як наагул пра ягоны ўдзел у працэсе ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, мы нічога ня ведаем. Аднак усё-такі цяжка дапусьціць, каб яно, творачы, фактычна, адно цэлае з Наднёманшчынай, заставалася дзесьці збоку. Што-ж тычыцца Полацкага княства, дык у пачатку 1260-х гадоў тут сядзіць князь Таўцьвіл, які падчас вайны 1251—1254 гадоў выступаў на баку галіцка-валынскіх князёў і Лівонскага ордану, але потым прымірыўся зь вялікім князем Міндоўгам. Ён таксама быў забіты агентамі князя Трайняты ў 1263 годзе.[129] Ягонае месца ў Полацку ў 1264 годзе займае князь Гердзень,[130] які, магчыма, быў ськіраваны сюды яшчэ князем Трайнятам, але які потым быў прызнаны й вялікім князем Вайшэлкам, бо князь Гердзень княжыць яшчэ ў Полацку ў 1266 годзе, дзе ён стрымоўвае набегі на ВКЛ псковічаў, ачоленых князем Даўмонтам.[131] Аднак ужо дзесьці ад 1267 году ў Полацку й Віцебску княжаць два Ізяславы, якія знаходзяцца «ў волі Бога й Вайшэлкі».[132] Магчыма, што гэта былі ўспомненыя вышэй Ізяслаў наваградзкі й Ізяслаў сьвіслацкі, пераведзеныя сюды вялікім князем Вайшэлкам з Наднёманшчыны. Аднак і княжаньне ў Полацку двух вышэй названых літоўскіх князёў — Таўцьвіла й Гердзеня — зусім не асноўвалася на сіле падбіцьця й заваёваў, але ў выніку ўзаемнай згоды ці на аснове ўмоваў з полацкім баярствам. Падобны выснаў вынікае з наступнага. Пры забойстве полацкага князя Таўцьвіла князь Трайнята адначасна палоніў шмат полацкіх баяраў. Пасьля гэтага ён патрабаваў таксама ад палачанаў выдачы Таўцьвілавага сына, што, аднак, яму было адмоўлена. Таўцьвілаў сын, праўдападобна, Канстантын, пасьля выехаў у Вялікі Ноўгарад. Больш таго, жадаючы пасадзіць свайго стаўленіка ў Полацку, ён, папершае, змушаны быў вызваліць захопленых ім у палон полацкіх баяраў, а, падругое, заключыць з палачанамі адмысловую ўмову, якой абмяжоў-

---

[127] Падмога гэтая, атрыманая Вайшэлкам ад турава-пінскіх князёў, ня ёсьць выпадковай. Ужо здаўна турава-пінскія князі сымпатызуюць Вялікаму Княству Літоўскаму й, ува ўсякім выпадку, застаюцца нэўтральнымі ў войнах супраць яго галіцка-валынскіх князёў. Удзел іх у паходзе на ВКЛ татарскага ваяводы Ягурчына ў 1275 годзе адбыўся пад прымусам. Дарэчы, паспрачаўшыся з галіцкім князем Львом Данілавічам, яны, як наагул смаленскі князь Глеб і бранскі князь Раман, адмаўляюцца ад далейшага ўдзелу ў гэтай вайне й ад Наваградку адыходзяць дамоў (ПСРЛ, т. II, кал. 873-874). Пра выразныя сымпатыі турава-пінскіх князёў да ВКЛ ды пра іхную скрытую дапамогу апошняму галіцка-валынскі летапісец гаворыць пад 1247 і 1253 годамі (ПСРЛ, т. II, кал. 798, 818).

[128] Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, б. 84-85.

[129] Тамсама, б. 83-84; ПСРЛ, т. II, кал. 861.

[130] K. Ed. Napiersky. Russisch-Livländische Urkunden. St. Petersburg, 1868, Nr. 25a, p. 13.

[131] Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, б. 85.

[132] K. Ed. Napiersky, opus cit., Nr. 25b, p. 13.

валіся ня толькі ўплывы ВКЛ у Полацкім княстве, але й правы прынятага на княжы пасад князя.[133]

Такім парадкам на гэтых прыкладах Наднёманшчыны, Полацкага княства й прыхільнасьці да ВКЛ турава-пінскіх князёў мы сьцьвярджаем, што першапачатковы працэс утварэньня Вялікага Княства Літоўскага праходзіў на беларускіх землях і пры ўдзеле гэтых земляў. Ён праходзіў не шляхам заваёваў і насільля, а шляхам дабравольнага аб'еднаньня.

Другі раз Вайшэлак зрокся сваей сьвецкай вялікакняжай улады дзесьці ў 1268 годзе. Вялікакняжы пасад у Вялікім Княстве Літоўскім ён перадаў свайму швагру князю Шварну Данілавічу. Аднак, пры наведваньні валынска-галіцкіх манастыроў у тым-жа 1268 годзе Вайшэлак быў забіты зрадніцкім спосабам галіцкім князем Львом Данілавічам.[134] Пасьля гэтага, ведама, і князь Шварна ня мог доўга ўтрымацца на літоўскім вялікакняжым пасадзе.[135] Ён пераходзіць у рукі князя Тройдзеня, які, праўдападобна, вялікакняжую ўладу разьдзяляе із сваімі чатырма братамі — Борзам, Сурпуцям, Лесям і Сьвелькеням. Апрача самога Тройдзена, усе ягоныя браты зьяўляюцца хрысьціянамі праваслаўнага веравызнаньня.[136] Тры зь іх загінулі ў змаганьні з валынскім князем Васількам Раманавічам.[137] Гэта павінна азначаць, што, калі гэтая княжая дынастыя (пасьля Тройдзеня дзесьці каля 1282 году пачаў княжыць ягоны сын Лютавер, часамі званы Пукуверам, які ў сваю чаргу меў сыноў Віценя, Гедыміна й Войну) не паходзіла з Крывічоў, дык, прынамся, із старажытных Ліцьвіноў, цесна зьвязаных з гэтымі Крывічамі. Дарэчы, і іхныя імёны, асабліва, як Тройдзень, Борза, Лесі, Лютавер, Віцень і Война, маглі быць чыста славянскімі імёнамі.

З далейшае гісторыі Вялікага Княства Літоўскага можна зьвярнуць увагу на наступныя факты. Як ужо зазначалася вышэй, з «Прускае хронікі» Пётры Дузбурскага вынікае, што гарадзенскі ваявода князь Давыд адыйгрывае першарадную ролю, як, праўдападобна, галоўнакамандуючы літоўскім войскам. Ён неаднаразова ачольвае літоўскае войска ў змаганьні супраць крыжакоў і ў паходах на Польшчу, а дзесьці з 1321 году выконвае абавязкі вялікакняжага намесьніка ў Пскоўскай рэспубліцы,[138] дзе таксама ачольвае змаганьне апошняе супраць Лівонскага ордану. Гарманічнае сужыцьцьцё Наднёманшчыны ў сыстэме ВКЛ вынікае таксама й з галіцкавалынскага летапісу, які заканчваецца 1292 годам. Праўда, як паведамляецца ў гэтым летапісу пад 1289 годам, дзеля падтрыманьня мірных дачыненьняў з валынскім князем Мсьціславам Васількавічам апошняму на некаторы час быў уступлены Ваўкавыск.[139] Гэтая ўступка з боку ВКЛ дыктавалася, бясспрэчна, нарастаньнем канфлікту ВКЛ з прускімі крыжакамі,

---

[133] Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, бб. 83-84.
[134] ПСРЛ, т. II, кал. 867-868.
[135] Летапісец цьвердзіць, што князь Шварна ўтрымоўваў літоўскі вялікакняжы пасад да свае натуральнае сьмерці: «княжив же лет немного и тако преставися». (Тамсама, кал. 869), аднак гэтаму цяжка паверыць.
[136] Тамсама, кал. 869.
[137] Тамсама, кал. 871.
[138] Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, б. 96-97.
[139] ПСРЛ, т. II, кал. 933.

і яна ні ў якім выпадку не азначала якойсь дызгармоніі, што магла існаваць між ВКЛ і землямі Наднёманшчыны. Дарэчы, Ваўкавыск хутка быў зьвернуты назад, а ў пачатку XIV стагодзьдзя да ВКЛ прылучаюцца таксама Берасьце, Драгічын і іншыя землі, якія раней уваходзілі ў склад Валынскага княства.

Што-ж тычыцца іншых беларускіх земляў і княстваў — Полацкага, Віцебскага, Менскага й Турава-Пінскага, — дык яны, захоўваючы мясцовыя княжыя дынастыі, усё больш і больш збліжаюцца зь Вялікім Княствам Літоўскім і ўдзельнічаюць у разбудаваньні ягонае палітычнае магутнасьці. Праўда, пасьля полацкага князя Ізяслава, які княжыў яшчэ пры Вайшэлку, летапісы ўспамінаюць толькі нейкага полацкага князя Канстантына Бязрукага, які княжыць тут у 1270—1280-х гадох. У канцы XIII і пачатку XIV стагодзьдзяў вярхоўная ўлада ў Полацкім княстве знаходзіцца ўжо ў руках полацкага ўладыкі, што вялікага князя Віценя ўважае «сваім сынам».[140] Пры вялікім князі Гедыміне тут ужо княжыць ягоны брат князь Война.[141] У Віцебскім княстве пад канец XIII стагодзьдзя сядзяць нейкі князь Канстантын, а потым ягоны сын Міхаіл.[142] У пачатку XIV стагодзьдзя тут княжыць князь Яраслаў Васілевіч, з дачкой якога быў ажэнены сын вялікага князя Гедыміна Альгерд. Пасьля сьмерці Ярослава Васілевіча ў 1320 годзе Віцебскае княства пераходзіць у рукі князя Альгерда Гедымінавіча. У Менскім княстве яшчэ ў 1326 годзе княжыў нейкі князь Васіль, які ўваходзіў у пасольства, якое было выслана ў гэтым годзе вялікім князем Гедымінам у Вялікі Ноўгарад.[143] У Турава-Пінскім княстве княжылі сыны князя Ўладзімера Юры й Дзямід,[144] сыны апошніх і шматлікія іншыя князі. Утрымоўвалі за сабой княжую ўладу лукомальскія, друцкія й іншыя князі. Гэта аднак не нарушала палітычнае цэласьці Вялікага Княства Літоўскага, а, наадварот, умацоўвала яе ды дапамагала тэрытарыяльнаму росту апошняга.

Вялікія зьмены ў дачыненьні да княстваў і асабліва мясцовых князёў наступаюць пры вялікім князю Гедыміне, які найважнейшыя княствы даручае сваім шматлікім сыном. На пачатку й вялікі князь Гедымін сваю палітыку праводзіў даволі асьцярожна, што відаць хоць-бы на прыкладзе замены княжае дынастыі ў Віцебску. Потым, магчыма, ён быў змушаны прыбегчы да ўжыцьця нейкае сілы, асабліва ў дачыненьні да турава-пінскіх князёў. У той-жа час апошняя ягоная дынастычная й адначасна цэнтралістычная палітыка ня ўносіла нічога новага ў дачыненьні да мясцовага насельніцтва й асабліва мясцовага баярства. Як правіла, сыны Гедыміна, пераймаючы ў свае рукі мясцовую княжую ўладу, прыймалі ў сувязі з гэтым праваслаўе, забавязваліся шанаваць мясцовыя звычаі й прывілеі ды пакідалі пры сабе ранейшыя мясцовыя баярскія рады. Дарэчы, і мясцовыя княжыя дынастыі ня зьнішчаліся. Яны, прызнаўшы вярхоўную ўладу сыноў Гедыміна, у большасьці выпадкаў заставаліся пры

140 K. Ed. Napiersky, opus cit., Nr. 38, pp. 19-20.
143 Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, б. 98.
142 K. Ed. Napiersky, opus cit., Nr. 49, pp. 25-28.
143 Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов, б. 98.
144 ПСРЛ, т. II, кал. 856, 938.

сваіх княствах або атрымоўвалі меншыя надзелы ў межах таго ці іншага княства. Падобны стан рэчаў трываў ажно да княжаньня вялікага князя Вітаўта, які толькі паступова прыступіў да ліквідацыі мясцовых найважнейшых княстваў, назначаючы ў іхныя цэнтры сваіх намесьнікаў, што потым агульна пачалі звацца ваяводамі.

Наагул-жа незалежна ад гэтых неабходных зьменаў і рэформаў у сваёй нутранай палітыцы вялікія князі літоўскія кіраваліся прынцыпам: «навізны ня ўводзім і старыны не нарушаем». У сувязі з гэтым іхныя дачыненьні зь мясцовым насельніцтвам і княствамі перш асноўваліся на двубаковых умовах, пасьлей-жа зь ліквідацыяй мясцовых княстваў паасобным землям яны пачалі выдаваць прывілеі, якімі пацьвярджалася непарушнасьць мясцовых звычаяў і наагул «старыны» ды абмяжоўваліся ўлада й правы вялікакняжых намеснікаў-ваяводаў.

Што-ж тычыцца вонкавае палітыкі вялікіх князёў літоўскіх і наагул Вялікага Княства Літоўскага, дык тут ня трэба прыбягаць да спэцыяльных довадаў, каб сьцьвердзіць, што гэтая палітыка была зьвязаная ў першую чаргу з вонкава-палітычнымі інтарэсамі беларускага народу. Усе падзеі й разьвіцьцё XIV, XV і XVI стагдзьдзяў праходзілі ў гэтым і толькі ў гэтым кірунку. У сувязі з гэтым зазначым толькі, што, калі пасьля Крэўскай вуніі 1385 году Вялікаму Княству Літоўскаму стала пагражаць небясьпека з боку Польшчы, у першуй чаргу на змаганьне з каралём Ягайлам і польскімі палітычнымі ўплывамі ў ВКЛ выступілі Полацкае й Смаленскае княствы. Пайменна, заключыўшы ў кастрычніку 1385 году саюз зь Лівонскім орданам, у лютым наступнага 1386 году полацкі князь Андрэй Альгердавіч з палачанамі ўзьнімае змаганьне супраць караля Ягайлы й ягонай злучанай літоўска-польскай арміі. У пляне князя Андрэя стаяла ў першую чаргу апанаваньне Сярэдняй і Ўсходняй Беларусяй, а таму сваю ваенную акцыю ён ськіроўвае на захоп Менску й на гэтым шляху ён здабывае Лукомаль і іншыя цьвярдыні. Адначасна смаленскі князь Сьвятаслаў Іванавіч таксама выступае ў паўднёвым кірунку ды здабывае Мсьціслаў. Праўда, гэтае выступленьне полацкага князя Андрэя Альгердавіча й смаленскага князя Сьвятаслава Іванавіча супраць прапольскае палітыкі польскага караля й вялікага князя літоўскага Ягайлы хутка было здушанае злучанымі польска-літоўскімі сіламі, аднак яно даволі вымоўна паказала, як была ўспрынятая паасобнымі беларускімі княствамі Крэўская вунія, што вяла да ліквідацыі незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага. Калі другі раз гэтае змаганьне за незалежнасьць ВКЛ было ўзьнятае князем Вітаўтам Кейстутавічам, дык апошняга падтрымалі ўсе без выключэньня беларускія землі, у выніку чаго незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага было забяспечана ажно да новае Люблінскае вуніі 1569 году.

Дарэчы, штосьці падобнае мы наглядаем таксама ў змаганьні за захаваньне незалежнасьці ВКЛ 1430—1435 гадоў. Як ведама, пасьля сьмерці вялікага князя Вітаўта ў 1430 годзе насуперак спадзяваньням Палякоў вялікім князем літоўскім быў выбраны князь Сьвідрыгайла Альгердавіч. На дамаганьне Вялікакняжае Рады й наагул усіх земляў ВКЛ новы вялікі князь Сьвідрыгайла парывае з Крэўскай і Гарадзельскай вуніямі ды на пярэчаньні Палякоў аб'яўляе вайну Польшчы з мэтай прылучэньня да ВКЛ

захопленых перад гэтым Палякамі земляў Падольля й Валыні. Аднак пры дапамозе інтрыгаў, подкупаў і простае ваеннае інтэрвэнцыі ў 1432 годзе Паляком удаецца высунуць на вялікакняжы пасад кандыдатуру князя Жыгімонта, брата вялікага князя Вітаўта. Беларускія землі ня прыймаюць гэтае кандыдатуры ды й найдалей падтрымоўваюць вялікага князя Сьвідрыгайлу ў ягоным змаганьні супраць злучаных сылаў князя Жыгімонта й Польшчы. Праўда, гісторыкі цьвердзяць, што вялікі князь Сьвідрыгайла меў гэтую моцную падтрымку беларускіх земляў у сувязі з тым, што ён скасаваў ганебныя для праваслаўнага насельніцтва, у тым ліку й для праваслаўных князёў, абмежаваньні прывілеяў гэтак званай Гарадзельскай вуніі з 1413 году. Так, гэта мела вялікае значаньне. Аднак вялікага князя Сьвідрыгайлу падтрымоўвала ня толькі праваслаўнае насельніцтва, але й каталікі, для якіх прывілеі Гарадзельскай вуніі забясьпечвалі шматлікія выгады. Навет тая частка паноў-каталікоў, якая перш ухапілася за кандыдатуру князя Жыгімонта, потым зноў пачала пераходзіць на бок вялікага князя Сьвідрыгайлы. Таксама, ажыцьцяўляючы гэтую палітычную дывэрсію ў ВКЛ, новымі прывілеямі з 1432 і 1434 гадоў кароль Ягайла й князь Жыгімонт пасьпяшылі скасаваць найбольш ганебныя для праваслаўных абмежаваньні, якія вынікалі з прывілеяў Гарадзельскай вуніі. Тым часам вайна супраць Польшчы й ейнага саюзьніка князя Жыгімонта працягвалася й далей, і прымірэньне паступова наступіла толькі пасьля вялікае паразы арміі вялікага князя Сьвідрыгайлы пад Вількомірам у 1435 годзе. У гэтай схватцы, як ведама, удзельнічала больш 50 князёў, зь якіх 13 ляглі на полі бітвы, а 42 трапілі ў палон. Дарэчы, апошні сацыяльна-рэлігійны фактар, пра які тут гавораць гісторыкі, зусім ня вымагаў аб'яўленьня вайны Польшчы й наагул скасаваньня актаў Крэўскай і Гарадзельскай вуніяў і іхных палітычных вынікаў. Пры ацэнцы падзеяў 1430—1435 гадоў трэба таксама не парываць сувязі й з падзеямі канца XIV стагодзьдзя ці з падобным змаганьнем за захаваньне незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага полацкага князя Андрэя й смаленскага князя Сьвятаслава, а потым князя Вітаўта, зноў-жа падтрыманага й полацкім князем Андрэем.

Нарэшце пытаньне пра тое, вонкава-палітычнымі інтарэсамі якога народу кіравалася ў першую чаргу Вялікае Княства Літоўскае, лёгка разьвязваецца пастаноўкай іншага пытаньня: які народ вынес на сваіх плячах увесь цяжар як змаганьня супраць «апякунскіх» прэтэнзіяў Польшчы, так і шматлікіх крывавых войнаў з Маскоўшчынай. Гэтым народам быў якраз беларускі народ. Бясспрэчна, Вялікае Княства Літоўскае было шматнацыянальнай дзяржавай і іншыя народы таксама пралілі шмат крыві за справу гэтае дзяржавы, аднак Беларусам усё-такі належыць першае месца між імі.

Для паўнаты гэтага малюнку, у якім наглядна магла-б выявіцца тая арганічаная сувязь, якая існавала між Вялікім Княствам Літоўскім і беларускім народам, выпадала-б таксама зьвярнуць увагу на *літоўскі патрыятызм* гэтага народу. Аднак нам тут прыдзецца назваць толькі некаторыя з тых пісаных помнікаў, у якіх можна знайсьці праявы гэтага патрыятызму. Такімі ёсьць, напрыклад, літоўскія хронікі XVI стагодзьдзя, у тым ліку й «Дзёньнік» Фёдара Еўлашэўскага, даведзены да 1604 году; «Прадмова»

Васіля Цяпінскага, якую ён напісаў для свайго «Евангельля»; вершы Андрэя Рымшы й асабліва ягоныя вершы пра гэрбы Льва Сапегі й Тодара Скуміна; «Прамова Мялешкі» — гэтая славутая палітычная сатыра няведамага аўтара з пачатку XVII стагодзьдзя; ды «Ліст да Абуховіча» Цыпрыяна Камунякі з палавіны XVII стагодзьдзя.

Затое, заканчваючы гэты маленькі гістарычны агляд станаўленьня й далейшага разьвіцьця Вялікага Княства Літоўскага, мы ня можам не адцеміць і наступнай ягонай немалаважнай асаблівасьці. Пайменна, узьнікаючы на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі й разьвіваючыся на асновах беларускае мовы й беларускае культуры наагул, Вялікае Княства Літоўскае яшчэ дзесьці ў XIII стагодзьдзі ў якасьці свайго нацыянальна-дзяржаўнага гэрбу асвойвае таксама й беларускую *Пагоню*. «Пагоня», што азначае «перасьлед ворага» — чыста славянска-беларускі тэрмін, ды яна ў якасьці таго-ж дзяржаўнага гэрбу служыла яшчэ полацкім князём, пра што сьветчыць хоць-бы пячатка з Пагоняй друцкага князя Івана, падвешаная да Салінскае ўмовы з 1398 году, заключанай між вялікім князем Вітаўтам і крыжакамі.

Неабходна таксама зьвярнуць увагу й на мамэнт наступнага характару. Пайменна, у той час, калі тэрміны «Літва», «Ліцьвін» і «літоўскі» распаўсюджваюцца на беларускія землі й прыймаюцца беларускім народам, яны застаюцца нібы чужымі для Жмудзі, якая разглядаецца ўсё-такі ў якасьці «кроўнай сястры» старажытных Ліцьвіноў. Пра гэты мамэнт даволі шмат гаварылася ў першай частцы артыкулу. Для дапаўненьня-ж гэтага малюнку просім нашых чытачоў зьвярнуцца да арыгінальных актаў дзяржаўна-дыпляматычнага характару, якія былі сабраныя й выдадзеныя хоць-бы ў гэтых зборніках, пералічаных у зносцы [145]. Асаблівую вартасьць у гэтым выпадку мае зборнік гістарычных дакумантаў, што выйшаў нядаўна пад назовам «Русско-белорусские связи». Дакуманты гэтыя, якія адлюстроўваюць адрэзак з 1570 да 1667 году, наглядна паказваюць, што ў тыя часы пад тэрмінамі «Літва» «Ліцьвіны» выступаюць пайменна Беларусь і Беларусы. Пры гэтым яны ўвасабляюць гэтыя назовы ня з прычыны іхнае прыналежнасьці да Вялікага Княства Літоўскага, але як творцы й нацыянальныя прадстаўнікі гэтае дзяржавы, наагул як носьбіты гэтых назоваў. Як вынікае з гэтых дакумантаў, навет простыя гандляры з Полацку, Віцебску, Магілева й іншых беларускіх гарадоў тут называюцца іншымі й самі сябе называюць Ліцьвінамі.[146] Дарэчы зазначыць, што гэтая традыцыя называць Беларусаў Ліцьвінамі ў нашых суседзяў існавала яшчэ ў XIX стагодзьдзі ды, напрыклад, сярод насельніцтва Курскай і Арлоўскай вобласьцей

---

[145] Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I-V. Изд-во Археографической Комиссии. С.-Петербург, 1846-1853; Ф. Н. Леонтович. Акты Литовской Метрики, т. I-II. Варшава, 1896-1897; Русская Историческая Библитека, т. 20, 27, 30, 33 (Литовская Метрика). Изд-во Археографической Комиссии. С.-Петербург, 1903-1915; Сборник Русскаго Историческаго Общества, т. 35, 59, 71, 137, 142 (Памятники дипломатических сношений Московскаго государства с Польско-Литовским государством). С.-Петербург, 1887-1913; Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы, т. I-III. Изд-во АН СССР. Москва, 1954.

[146] Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570-1667 гг.). Изд-во «Высшая школа». Минск, 1963.

цяў яна жыла яшчэ перад 2-ой сусьветнай вайной. Таму не павінна нас зьдзіўляць, калі, прыкладам, у «Кароткім Уладзімерскім летапісцу» з XVI стагодзьдзя мы сустракаемся з наступным выснавам, зробленым што да Драўлянаў:

> ...По нем (пасьля Алега) нача княжити Игорь и воева Деревскую землю, рекше Литву, иде пакы тамо в мале дружине, и убьен бысть от Древлян... Княгиня же его Олга с сыном своимь мьсти кровь мужа своего и князя уби, Мала именемь, и всю Литву высече...[147]

Што-ж датычыцца Жмудзі, дык апошняя ня толькі не асвойвае тэрміну «Літва», але нацыянальна ўсё больш і больш выдзялае сябе зь Вялікага Княства Літоўскага. Возьмем хоць-бы дакумант з 2 травеня 1506 году, які зьмяшчае ў сабе адказы вялікага князя Аляксандра лівонскім паслом і падае таксама інструкцыі што да ўпарадкаваньня дзяржаўных межаў між Лівоніяй, з аднаго боку, Жмудзяй і Вялікім Княствам Літоўскім, з другога. Апошняя інструкцыя сьветчыць:

> ...Нижьли, што ся дотычет вчиненья и початка границам, тыи панове, которыи на границы на оный рок выедуть, мають границы вчинити Жомойтской земли з Лифлянтскою землею, а початок мають взять от Святое реки, где в Солоное море впадывает, старыми границами, водле давных записов. А ктому теж на Литовскую границу, которая ся делит з Лифлянтскою землею, другии панове, которыи суть менованы, мають выехати, почон от Курчом, сторою теж границою, до Дрисвета и до Браславля, аж и до Псковского рубежа...[148]

Як бачым, у гэтым выпадку Жмудзь проста вылучана зь Літвы, у якую, аднак, уваходзяць Браслаўшчына, Полаччына й іншыя беларускія землі. Гэтае пытаньне апрычоных межаў Жмудзі ці дамаганьне, каб жмудзкія камісары наглядалі толькі за жмудзка-лівонскай мяжой ды не пасылаліся на літоўска-лівонскую мяжу, знайшло таксама адлюстраваньне й у вадказе вялікага князя Жыгімонта Старога на просьбу Жмудзінаў з 1542 году.[149] На Берасьцейскім сойме ў 1566 годзе яны нагул дамагаліся ад вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, каб ён нанава асобным прывілеем падцьвердзіў незачэпнасьць былое мяжы між Жмудзяй і Літвой ці Вялікім Княствам Літоўскім.[150] Як ведама, з часоў вялікага князя Вітаўта Жмудзь мела свае апрычоныя прывілеі ды карысталася даволі шырокай аўтаноміяй. У XVI стагодзьдзі, калі ў сувязі з апрацоўкай супольнага Літоўскага Статуту насьпела неабходнасьць уніфікацыі пры-

---

[147] *Исторический архив,* т. VII. Изд-во АН СССР. Москва, 1951, б. 209.

[148] Акты, относящиеся к истории Западной России, т. I (1846), бб. 371-374.

[149] Тамсама, т. II (1848), бб. 386-389.

[150] Документы Московского архива Министерства юстиции, т. I, Москва, 1897, бб. 200-202.

вілеяў і правоў паасобных земляў Вялікага Княства Літоўскага, Жмудзь адна зь першых і ў катэгарычнай форме выступае супраць падобных рэформаў. Напрыклад, на названым тут Берасьцейскім сойме, а таксама на Віленскім сойме, які адбыўся ў канцы 1565 і пачатку 1566 гадоў,[151] яна, згаджаючыся ў прынцыпе з увядзеньнем Літоўскага Статуту, патрабуе адначасна, каб апошні нічым не пашкодзіў і пацьвердзіў ейныя ранейшыя правы й прывілеі. На іншых соймах, як, напрыклад, на Віленскіх соймах з 1554 і 1559 гадоў[152] або ў названай вышэй просьбе з 1542 году, ськіраванай да вялікага князя Жыгімонта Старога, яна ня толькі дамагаецца захаваньня ў ранейшым стане свае тэрытарыяльна-адміністрацыйна-ваеннае апрычонасьці, але катэгарычна пратэстуе супраць назначэньня ў Жмудзь урадоўцаў зь «Ліцьвіноў» і «Русі» й выдзяленьня ім тут зямельных участкаў. Падобныя паводзіны Жмудзі рэзка розьняцца ад паводзінаў іншых земляў Вялікага Княства Літоўскага, асабліва ад паводзінаў беларускіх земляў, у тым ліку й Паноў-Рады ВКЛ, якія на названых тут соймах вітаюць ідэю уніфікацыі правоў і прывілеяў усіх земляў ВКЛ ці ўвядзеньне Літоўскага Статуту ды клапоцяцца найбольш не пра свае мясцовыя прывілеі, але пра захаваньне незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, пра ягоную абарону перад агрэсіяй Маскоўшчыны. Жмудзь-жа ў гэты час падае адну скаргу за другой, дамагаючыся ад вялікага князя, каб законам былі забароненыя сьціраваныя супраць яе закіды ў тым, быццам «яна не дабравольна прылучылася да ВКЛ, але была падбітая апошнім». І вось, калі ў 1574 годзе ў якасьці польскага караля й вялікага князя літоўскага быў выбраны францускі каралевіч Гэнрык, Жмудзь пасьпяшыла атрымаць ад яго асобны Акт, якім новы й недаўгавечны вялікі князь слова ў слова пацьвярджае ейныя ранейшыя правы й прывілеі. Пры гэтым Жмудзіны ня ўпускаюць добрага моманту ды апошнім афіцыйным Актам замацоўваюць за сабой славу апрычонага «вольнага народу», адносячы адначасна Ліцьвіноў да «людзей іншага народу».[153]

## III.

Гэты аналіз быў-бы няпоўны без насьвятленьня гісторыі тэрміну «Беларусь», які напасьледак і будзе прыняты нашымі землямі й народам. Трэба зазначыць, што гісторыя ўзьнікненьня апошняга тэрміну нам няведамая, і пытаньне гэтае застаецца неразьвязаным у гістарыяграфіі. Можна толькі прасачыць ягоную міграцыю, а таксама тыя абставіны й прычыны, якія нарэшце замацуюць яго за нашымі землямі.

Бясспрэчным ёсьць, што тэрмін «Беларусь» зьвязаны й беспасярэдня выцякае з тэрміну «Русь». Апошні тэрмін прыйшоў на нашыя землі й прывіўся тут з прыняцьцем хрысьціянства ці «рускае веры», бо хрысьціянства прыйшло да нас праз Кіеўскую Русь. Першапачаткова ды пераважна й

[151] Тамсама, бб. 182-184.

[152] Акты, относящиеся к истории Западной России, т. III (1848), бб. 50-66, 98-107.

[153] Тамсама, бб. 177-182.

пасьлей ён ужываўся тут у чыста рэлігійным значаньні. Прынамся гэта датычыцца тэрыторыі былога Полацкага вялікага княства, якая, за выняткам кароценькіх эпізадычных акупацыяў, ніколі не ўваходзіла ў склад Кіеўскай Русі. З гэтае прычыны ў старых летапісах мы не находзім тых прыкладаў, якія сьветчылі-б пра тое, што й да земляў Полацкага княства прымяняўся гэты тэрмін «Русь» не ў ягоным рэлігійным, але нацыянальным значаньні. У гэтых летапісах Полацкае княства выступае або пад гэтым-жа ягоным назовам, або як землі палачанаў ці полацкіх Крывічоў, або проста як княства й землі Крывічоў. Напрыклад, паведамляючы пра паход 1127 году злучаных сілаў Кіеўскай Русі супраць полацкіх князёў, летапісец пачынае: «В то же лето посла князь Мстислав братью свою на Кривиче четырми пути».[154] Праўда, пералічаючы ў вадным месцы тых, хто «токмо словенеск язык в Руси», да апошніх летапісец далучае таксама й палачанаў.[155] Гэтае сьцьверджаньне належыць, аднак, іншаму летапісцу, праўдападобна, манаху Несьцеру, які наагул славіцца сваімі «вялікарускімі» тэндэнцыямі й які з гэтае прычыны жаданае даволі часта апавіваў у павуціну рэальнага. Гэтак яму належыць няўдалая спроба гістарызаваць легенду пра сватаньне Ўладзімера Сьвятога да полацкае княжны Рагнеды або спроба прытачыць той-жа Полацак да Кіеўскай Русі пры дапамозе схвабрыкаванай гісторыйкі пра паход 907 году князя Алега на Канстантынопаль і пра заключэньне ў сувязі з гэтым «уніжальнае» для Бізантыі ўмовы, у якой, магчыма для наданьня большае «магутнасьці» Кіеўскай Русі, фігуруе таксама й Полацак, «под Олегом сущий».[156] Між тым сваю хроніку манах Несьцер пісаў на сьвежых сьлядох эпохі Брачыслава й Усяслава Чарадзея, якая ніяк не дазваляла рабіць той выснаў, што «се бо токмо словенеск язык в Русі: ... Полочане». Наагул манах Несьцер быў пад уплывам гэтае эпохі. Пайменна, пад уражаньнем магутнасьці Полацку ён як-бы сканфужана палачанаў выводзіць не ад Крывічоў, але Крывічоў ад палачанаў;[157] іншыя-ж усходнеславянскія плямёны ён мянуе іхнымі ўласнымі назовамі. Калі-ж пад «Русьсю» ў гэтым выпадку ён разумеў не дзяржаву (Кіеўскую Русь), а толькі «праваслаўна-рускі» сьвет, дык ён меў поўную слушнасьць.

Таксама, хоць Турава-Пінскае княства ад даўжэйшага часу ўваходзіла ў склад Кіеўскай Русі й такім парадкам тэрмін «Русь» хутчэй тут мог прыдбаць нацыянальна дзяржаўную існасьць, аднак і апошняе княства выступае звычайна пад сваім собскім назовам ды час-ад-часу называецца таксама зямлёй Дрыгвічоў. Напрыклад, паведамляючы пра змаганьне менскага князя Глеба Ўсяславіча за прылучэньне гэтага княства да Менскага княства, летапісец запісвае: «Глеб бо бяше воевал Дреговичи».[158] Штосьці падобнае можна сказаць пра Смаленскае княства й іншыя.

---

[154] ПСРЛ, т. I, кал. 297.

[155] Тамсама, кал. 11.

[156] I. Sorlin. Les traités de Byzance avec la Russie au Xe siècle. *Cahiers du Monde Russe et Soviétique*, vol. II. Mouton & Co. Paris- La Haye, Nr. 3, pp. 313-360; Nr. 4, pp. 447-475.

[157] ПСРЛ, т. I, кал. 10.

[158] Тамсама, т. II, кал. 282.

Дарэчы, у нацыянальна-дзяржаўным значаньні ў тыя часы «Русьсю» называлася, фактычна, даволі абмяжаваная тэрыторыя, якая прылягала да трыкутніка Кіеў—Чарнігаў—Пераяслаў.[159] Русь у гэтым значаньні пачынае пашырацца з упадкам і распадам самое Кіеўскае Русі. Апошняя сваім падбіцьцём затрымала працэс складаньня й кансалідацыі саюзаў ці саюзу найбольш блізкіх між сабой племяў. У выпадку Крывічоў яна дапамагала замацаваньню трох разрозьненых цэнтраў — Полацкага, Смаленскага й Пскоўскага. Упадак Кіеўскай Русі ня мог адразу абнавіць гэтага працэсу з тае прычыны, што ягоныя сілы ў сваю чаргу былі аслабленыя нутраным распадам ды навет і змаганьнем. Апынуўшыся ў такіх абставінах, характэрных адсутнасьцяй дзяржаўнай традыцыі, наяўнасьцяй нутранага змаганьня й няведамай будучыні ды сустрэўшыся хутка з вонкавай нямецкай і мангольскай загрозай, паасобныя землі й княствы паступова пачынаюць пранікацца «рускім нацыянальным пачуцьцём». Гэтаму ў вялікай ступені спрыяюць супольнасьць «праваслаўнае-рускае» веры, супольнасьць пачаткаў культурнага разьвіцьця й перадусім захаванае ў цэласьці царкоўнае жыцьцё.

Гэтае «рускае нацыянальнае пачуцьцё» не магло абмінуць таксама й земляў былага Полацкага княства, якое, ня выканаўшы свайго назначэньня па аб'яднаньню іншых беларускіх земляў ці княстваў і ў сваю чаргу распаўшыся на які дзясятак меншых мясцовых княстваў, ня здолела з свайго боку выпрацаваць моцнае дзяржаўнае традыцыі, а разам з гэтым і апрычонага нацыянальнага назову. Неўзабаве-ж на палітычнай арэне зьяўляецца новая сіла — Ліцьвіны. І, бясспрэчна, якімі ідэяльнымі ня былі-б дачыненьні гэтых земляў зь Ліцьвінамі й як-бы гарманічна не адбываўся працэс утварэньня Вялікага Княства Літоўскага, тут заўсёды існавалі таго ці іншага характару антаганізм і варожасьць, у тым ліку й антаганізм «нацыянальнага» характару ці зьвязаны з нацыянальным назовам. Ставячыся з засьцярогамі да гэтае новае палітычнае сілы, наагул, і да Ліцьвіноў яшчэ ў паганстве, у прыватнасьці, ды ня будучы пранікнутымі собскай нацыянальна-дзяржаўнай традыцыяй, гэтыя разрозьненыя землі былога Полацкага княства ў найлепшым выпадку маглі прыкрыцца гэтым запазычаным здабыткам — «рускай верай» і зьвязаным зь ёй «рускім нацыянальным пачуцьцём». У гэтым выпадку найбольшую ўслугу зрабілі, праўдападобна, самі Ліцьвіны. Як ведама, для Захаду ўвесь праваслаўны славянскі й неславянскі Ўсход быў Русьсю, а ўвесь Захад быў для гэтага Ўсходу «Лацінствам» ці «Лаціньнікамі». Таксама й для Ліцьвіноўпаганаў, а пасьлей пераважна каталікоў іхныя праваслаўныя суседзі выступалі ў першую чаргу, як «Рускія» ці «Русь».

Вось чаму, калі полацкі князь Гердзень ад імя Полацку й Віцебску заключае ў 1264 годзе часовае замірэньне з Рыгай і Лівонскім орданам наагул, ён дамагаецца, каб апошнія ня спрычынялі «пакостей» Полацкаму княству ці «што Руськая земля словесть Полочькая».[160] Не пазьней 1323

---

[159] А. Н. Насонов. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства. Изд-во АН СССР. Москва, 1951.
[160] K. Ed. Napiersky opus cit., Nr. 25a, p. 13.

году вялікі князь Гедымін таксама пачынае тытулаваць сябе, як „Dei gratia Letphinorum Ruthenorumque Rex“,[161] адносячы, ведама, да «Рутэнаў» палачанаў, віцяблянаў, мянчанаў і г. д. У некаторых актах вялікага князя Вітаўта канца XIV і пачатку XV стагодзьдзяў «Русьсю» называецца яшчэ Горадзеншчына, Райгорадзеншчына й іншыя. Дарэчы, нашыя вялікія гуманістыя палачане Францішак Скарына й Васіль Цяпінскі свае кнігі «тиснуть рускыми словами» й для «своей Руси» ды, хоць Статут Вялікага Княства Літоўскага называецца «Літоўскім Статутам», ён, як зазначае ў сваёй грамаце вялікі князь Жыгімонт III Ваза, складзены «водле права их Руского, письмом Руским».[162]

Наагул, хоць тэрмін «Літва» паступова пачынае выцясьняць тэрмін «Русь» і становіцца нарэшце агульна прызнаным дзяржаўна-нацыянальным назовам для беларускага народу, тэрмін «Русь» усё-такі ня зьнікае зусім з арэны. Адсунуты далёка на ўсход, ён працягвае захоўваць ня толькі сваё ранейшае чыста рэлігійнае значаньне, але й штосьці сярэдняе між тэрытарыяльным абазначаньнем і тым-жа запазычаным «рускім нацыянальным пачуцьцём». Ужо ў часы Яна Длугаша, як піша ён, «Літву ад рускіх земляў аддзяляла рака Беразіна».[163] Праўдападобна такі распадзел меў на ўвазе й супрасельскі архімандрыт Сяргей Кімбара, калі ён у сваім лісьце да кіеўскага мітрапаліты Макара II, пісаным дзесьці каля 1536 году, часта спасылаецца на «тут в Литве и на Руси», вырозьніваючы пры гэтым апошнюю «Русь» ад Маскоўшчыны й, магчыма, ад Украіны.[164] Абазначаная тут Янам Длугашам мяжа, якая дзяліла сьціплую Літву з «рускімі землямі», замацоўваецца й у афіцыйных дакумантах вялікакняжай канцылярыі, хоць часамі яна перасоўваецца або бліжэй на захад, або далей на ўсход. Гэтак у ваенных позвах з 7 верасьня 1563 году да «рускіх земляў» ці да «Русі» прылучаюцца Меднікі, Ашмяна, Крэва, Лукомаль, Слуцк. Тое самае сьветчаць і ваенныя позвы з 3 ліпеня таго-ж 1563 году.[165] Тым часам у «Ўставе на волоки Господаря короля его милости во всем ВКЛ» з 1 красавіка 1557 году мы чытаем, што да «волостей Руских» адносяцца Полаччына й усе іншыя беларускія землі на ўсход ад Беразіны, улучаючы Барысаў, Сьвіслач, Бабруйск, Глуск на рацэ Пцічы й Мозыр на Прыпяці. Усе землі, якія ляжаць на захад ад гэтае лініі, твораць Літву.[166] Аўтар Баркалабаўскага летапісу, даведзенага да 1608 году, Меншчыну таксама ўлучае ў сьціплую Літву, а пад Літвой наагул разумее цэласьць Вялікага Княства Літоўскага.[167]

З гэтага можна зрабіць выснаў, што сьціплую Літву тварылі толькі заходнія й цэнтральныя беларускія землі, пайменна колішнія Троцкае, Віленскае, Берасьцейскае, Наваградзкае й Менскае ваяводзтвы, г. зн. тыя землі, якія прынялі найбольш актыўны ўдзел ў утварэньні Вялікага Княст-

---

161 Id., Nr. 54, pp. 31-32.
162 Акты, относящиеся к истории Западной России, т. IV (1851), бб. 4-5.
163 Jana Długosza Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego, p. 131.
164 Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, бб. 161-168.
165 Русская Историческая Библиотека, т. XXX (1914), кал. 652, 716.
166 Акты, относящиеся к истории Западной России, т. III (1848), бб. 72-95.
167 Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, бб. 203-221.

ва Літоўскага. Іншыя паўночныя й усходнія беларускія землі прытрымоўваліся свае ранейшае традыцыі ці гэтага запазычанага «рускага нацыянальнага пачуцьця». Абставіны наступных стагодзьдзяў замацуюць гэты распадзел, і ён, замяніўшы толькі тэрмін «Русь» на «Беларусь», пратрывае ажно да канца XIX стагодзьдзя. Незалежна ад гэтага нутранога распадзелу, у цэласьці дзяржава называлася Вялікім Княствам Літоўскім ці Літвой, а народ — Ліцьвінамі.

Пра тое, што пад тэрмінамі «Русь» і «рускі» ў гэтым выпадку падразумлявалася ў першую чаргу насельніцтва праваслаўнага ці «рускага» веравызнаньня, сьветчыць найперш гандлёвая ўмова, заключаная ў 1229 годзе смаленскім князем Мсьціславам Давыдавічам з Рыгай і Гоцкім берагам. У ёй, фактычна, выступаюць толькі два бакі: «лаціняне» й «русіны»,[168] г. зн. абодвы бакі, якія дамаўляюцца між сабой, называюць сябе не паводля нацыянальных, але паводля рэлігійных прыкметаў. Нацыянальная прыналежнасьць тут захаваная ў выразах: «смаленскі князь», «у воласьці князя смаленскага» й «полацкага князя воласьці». Ведама, калі-б захаваліся паасобнікі гэтае й іншых умоваў, заключаных з Рыгай ад імя полацкага й віцебскага князёў, тое самае мы змаглі-б сканстатаваць што да Полаччыны й Віцебшчыны. Таксама ў «Напамінах» крыжакоў пра падзеі на Жмудзі з 1409 году мы знаходзім наступнае асьветчаньне:

> Гэта таксама ёсьць ведамым, што праз добрыя 23 гады ўладаньня караля Польшчы ў Літве й Русі вельмі-ж мала ўзрос культ Хрыста, а гэта таму, што ў вадной царкве тут знаходзяцца два япіскапы, зь якіх адзін, будучы хрысьціянінам (каталіком), жыве бедна й мізэрна, а іншы, Русін (праваслаўны), багата й зажытачна, і там, дзе спасярод Ліцьвіноў бывае ахрышчаным адзін паводля лацінскага абраду, там-жа магчыма добрая сотня будзе ахрышчаных сумыслу паводля рускага (праваслаўнага) абраду, і ў Літве шматлікія сярод князёў і паноў пакуль-што зьяўляюцца яшчэ Рутэнамі (праваслаўнымі) . . .[169]

Пра гэта самае сьветчыць адзін із дакумантаў вялікага князя Вітаўта з 1392 году, у якім ён дае сваім урадоўцам інструкцыі ў справе хрышчэньня Ліцьвіноў. Ён тут выразна піша, што тых Ліцьвіноў, якія знаходзіліся яшчэ ў паганстве, павінен ахрысьціць «згодна свае волі» япіскап; што-ж тычыцца тых зь іх, якія ўжо ёсьць «Русінамі», дык апошнія могуць быць перахрышчанымі толькі ў тым выпадку, калі гэтага яны пажадаюць самі.[170] Нарэшце ў Літоўскай хроніцы (сьпісак Быхаўца) мы таксама сустракаемся з наступнымі асьветчаньнямі:

> . . . І оставіл по собі (Мінгайла) двух сыноў своіх, одного Скірмунта, а другого Гінвіла, і Скірмунт начнет княжыці на Новогоро-

[168] Смоленские грамоты XIII-XIV веков, бб. 20-25.
[169] Codex epistolaris Vitoldi, Append. IV, pp. 972-1000.
[170] Codex Diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioceseos Vilnensis, t. I, fasc. I, Nr. 23, p. 39.

дцэ, а Гінвіл на Полоцку, а поймет Гінвіл дочку ў велікого князя Тверского в Борка іменем Марью, для котороеж охрысьцілся в Рускую віру, і далі імя ему Юрій, і тот Юрій пановал немного лет і ўмрэ. А по собі зоставіл сына своего Борыса на Полоцку, і тот князь Борыс вчыніл город на імя свое на рэцэ Бэрэзыні і назвал его Борысов. *І будучы ему Русіном* был вельмі набожон, і вчыніл цэрков каменную ў Полоцку Сьвятое Софіі . . .[171]

Перлічваючы сыноў князя Кейстута, аўтар гэтае хронікі працягвае:

. . . Первы Вітольт, *а калі Русіном остал,* далі былі імя ему Юрі і колісе охрэсціл в Лядцкую віру, тогды імя ему дано Александер . . .[172]

Апавядаючы пра жанімства караля Ягайлы з княжнай Сонькай Гальшанскай, ён таксама сьветчыць:

. . . мел есьмы (Ягайла) за собою тры жоны, две Ляховіцы, а трэцюю Немкіню, а плоду есьмы с німі не мел; а цепер прошу цебе (Вітаўта), зьеднай мі ў князя Семена (Сямён Дзьмітравіч Друцкі) сестрычну его меншую Софію, іжбы ее за себе понял, *а з поколеня Руского,* ачэйбы мі Бог плод дал . . . А тые сестрычны князя Семеновы (Сонька й Васіліса) былі дочкі князя Андрэевы Ольгімонтовіча Гольшаньского . . .[173]

У сваю чаргу папскі нунцы ў Варшаве, паведамляючы пра набор вучняў у Віленскую грэцкую калегію (каледж), піша ў сваім лісьце з 25 красавіка 1578 году, што «ўжо знайшлося два Рутэны зь Ліцьвіноў» („Et havendone gia trovati due Lituani Ruteni").[174] Наагул падобных прыкладаў можна было-б дадаць яшчэ больш, аднак і тут прыведзеныя выразна насьвятляюць тую сутнасьць, якая, прынамся на беларускіх землях, увасаблялася ў тэрмінах «Русь», «Рускі» ці «Рутэн». Пры гэтым варта таксама прыгадаць і той факт, што ўсе выхадцы із старажытных Ліцьвіноў, у тым ліку сыны, унукі й праўнукі вялікіх князёў Гедыміна й Альгерда, якія былі праваслаўнымі, заўсёды называліся іншымі й самі сябе ўважалі «Рутэнамі» ці «Рускімі».

Калі ходзіць пра тэрмін «Белая Русь» ці «Беларусь», дык сьпярша й даўжэйшы час ён прымяняўся вылучна да Маскоўшчыны й прылеглых да яе земляў. З гэтае прычыны маскоўскі вялікі князь Іван III часта тытулаваў сябе й як «князь Белай Русі». У нашых афіцыйных дакумантах гэты тэрмін прасочваецца ўпяршыню ў 1476 годзе, пайменна ў «Пасланьні» з гэтага году праваслаўнага духавенства, князёў і паноў Вялікага Княства

---

[171] ПСРЛ, т. XVII, кал. 479.
[172] Тамсама, кал. 501.
[173] Тамсама, кал. 518.
[174] Litterae Nuntiorum Apostolicorum Historiam Ucrainae Illustrantes (1550-1850), vol. I. Ed. A. G. Welykyj. Romae, 1959, Nr. 101, p. 100.

Літоўскага да папы Сікста IV. З князёў, якія падпісалі гэтае «Пасланьне», успамінаецца таксама й «благоверный князь Дмитр Вяземский сын князя Константинов з Белое Руси».[175] Такім парадкам да Белай Русі ў канцы XV стагодзьдзя адносілася таксама й Вяземская зямля, што тады ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Польскі архіяпіскап Ян Ласкі, які ў 1514 годзе прысутнічаў на Лятэранскім саборы й тут зрабіў адмысловую справаздачу пра ўвесь «Праваслаўны Ўсход», таксама «Белых Рутэнаў» атаесамлівае з Маскалямі.[176] Із свайго боку цытаваны вышэй Ян Багемскі называе дзьве «Белыя Рутэніі»: Верхнюю й Ніжнюю, якія, згодна ягонага асьветчаньня, прылягаюць да Польшчы й улучаюць на поўначы раку Пэйцэ (Peuce — Пячору?), на ўсходзе раку Маскву ды маюць з захаду Лівонію й Прусію (!).[177] Гэтае азначэньне Яна Багемскага даволі цьмянае й гэта тым больш, што, гаворачы далей пра Маскоўшчыну й улучаючы ў вапошнюю ня толькі рэчкі Волгу й Аку, але Дзьвіну, Дняпро й Беразіну, ён зусім не ўспамінае пра гэтыя дзьве «Белыя Рутэніі».[178] У сваей справаздачы пра Маскоўшчыну з 1557 году вэнэцыянскі пасланец Марко Фаскарыно гаворыць пра «Ніжнюю Русь», якая належыць Літве, і «Верхнюю Белую Русь», што падпарадкаваная Маскоўшчыне.[179] Выходзячы зь цьверджаньня пра дзьве Русі, адна зь якіх ляжыць дзесьці на ўсходзе, а іншая ў суседзтве з Польшчай, крыху далей ён таксама паўтарае: «праўдай ёсьць, што Верхняя Русь, званая Белай, падбіта Маскалямі, а іншая часткова належыць Маскалём і часткова Палякам».[180] Іншы вэнэцыянскі пасланец Франко Т'еполё ў сваей справаздачы з 1560 году гаворыць пра «Белую Русь», якая становіць уладаньні маскоўскіх князёў і цяпер «называецца Маскоўшчынай» ды якая мяжуецца з «Чырвонай Русьсю» па рацэ Дняпру.[181] Мацей Стрыйкоўскі ў вадным месцы свае «Хронікі» Белую Русь проста атаесамлівае з Маскоўшчынай,[182] а ў іншым месцы ён успамінае таксама й пра «літоўскіх Беларусаў», не ўдакладняючы аднак іхнага месца-

---

[175] Архив Юго-Западной России, ч. I, т. VII. Изд-во Комиссии для разбора древних актов. Киев, 1887, б. 199.

[176] „Rutheni albi quondam Colchitae dicti, modo vero Moscovitae, habent proprium Dominum seu Principem, qui titulatur Magnus Dux, vicinus in terra Regi Poloniae in Magno Ducatu Lithuaniae, item aliis dominis Livoniae et Gothiae..." (Historica Russiae Monumenta, t. I, Nr. 123, p. 123).

[177] Omnium Gentium Mores, p. 79.

[178] Id., pp. 83-84.

[179] Historica Russiae Monumenta, t. I, Nr. 135, p. 147.

[180] Id., p. 155 („vero e che la Russia ulteriore detta bianca e soggetta a Moscoviti, e l'altra e parte de Moscoviti, e parte di Poloni").

[181] „...Onde poili successori suoi non piu Duca di Moscovia, ma di Russia s'intitolarono, finche Giovanni Avo di questo si lebero dal Tributo de Tartari, pagatogli da suoi maggiori fino dal 1240. Il quale levati i State ad alcuni de suoi feudatarii, ad alcun'altre Provinzie a sua obbedienza ridotte, lasciato il titulo di Russia, ripresse il primo di Moscovia, percio tutta quella parte della Russia bianca da lui, e da Basilio suo fegliuolo posseduta, divisa dalla Russia Rossa per il gran fiume Neper, prese il nome di Moscovia..." (Id., Nr. 136, p. 162).

[182] Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi, p. 91 („A jeśliby to kto rzekł, iż dzisiejsza Moskwa, Białej Rusi naród, niedawnych wieków począł się zwać Moskwą od rzeki i miasta i zamku stołecznego, tedy tak jest").

знаходжаньня.[183] У «Хроніцы Эўрапэйскай Сармацыі» Аляксандар Гваніні ці, праўдападобна, той-жа Мацей Стрыйкоўскі, зазначыўшы, што Русь дзеліцца на Белую, Чорную й Чырвоную, пра «Белую Русь» піша наступнае:

> ...Белая (знаходзіцца) каля Кіева, Мозыра, Мсьціслава, Віцебску, Воршы, Полацку, Смаленску й у Северскай зямлі, што здаўна належылі Вялікаму Княству Літоўскаму...[184]

«Чорную Русь» ён памяшчае ў «Маскоўскай зямлі каля Белага возера», а «Чырвоную Русь» атаесамлівае з Галіцыяй.[185] Трэба адцеміць, што ў вапошняй хроніцы сьціплая Літва таксама абмяжоўваецца ваяводзтвамі Троцкім, Віленскім, Берасьцейскім, Навградзкім і Менскім.[186]

Між іншым, Кіеўская зямля ў якасьці складовай часткі Белай Русі выступае яшчэ ў палавіне XVII стагодзьдзя. Пайменна Кіеўшчына называецца так у шматлікіх даносах маскоўскіх ваяводаў і агентаў гэтага часу, а таксама ў карэспандэнцыі маскоўскага цара з казакамі й асабіста з гэтманам Багданам Хмяльніцкім.[187] У сваім лісьце з 27 жніўня 1649 году, пісаным да маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча, Македонскі мітрапаліт Галакціён, які асабіста бачыўся й гутарыў з Багданам Хмяльніцкім, навет тытулуе апошняга «великим гетманом Белой Руси».[188] Як бачым, тут заўважаецца тэндэнцыя атаесамліваць Белую Русь калі ня з ўсёй Украінай, дык, прынамся, з усходнімі ейнымі землямі. Дарэчы, у падобным шырокім сэньсе выступае Белая Русь у даносах з таго-ж 1649 году царскага ганца Кунакова й пасланца да Багдана Хмяльніцкага Грыгора Ункоўскага.[189]

Адным словам, хоць дзесьці з другое палавіны XVI стагодзьдзя тэрмін «Белая Русь» перавандроўвае з Маскоўшчыны бліжэй на захад, распаўсюджваючыся й на ўсходнія землі Вялікага Княства Літоўскага, ён аднак не абмяжоўваецца вылучна беларускімі землямі. Ды й на ўсходніх землях ВКЛ ён далёка не адразу быў прыняты насельніцтвам і наагул ягоная натуралізацыя тут праходзіла нібы пад прымусам і ўзьдзеяньнем вонкавага асяродзьдзя. Запраўды, у афіцыйных актах канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага з другой палавіны XVI і першае палавіны XVII стагодзьдзяў, наколькі нам ведама, ня сустракаецца тэрміну «Беларусь», прымененага да ўсходніх земляў ВКЛ. Не ўспамінаецца ён ні ў літоўскіх хроніках з канца XVI стагодзьдзя, ні ў «Дзёньніку» Фёдара Еўлашэўскага, ні ў Баркалабаўскай хроніцы, аўтар якое быў жыхаром Магілеўшчыны. І калі ў «Маскоўскай хроніцы» з пачатку XVII стагодзьдзя Канрада Буса-ва, нямецкага наёмнага жаўнера, які доўгі час служыў у маскоўскім войску, тэрмін «Беларусь» сустракаецца шмат разоў у прымяненьні да ўсход-

---

[183] Id., p. 111.
[184] Kronika Sarmacyi Europeskiey, p. 323.
[185] Тамсама.
[816] Тамсама, бб. 300-303.
[187] Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы, т. I, бб. 127-129, 299-300; т. II, бб. 60-62, 64-65, 77-78, 216-218.
[158] Тамсама, т. II, бб. 232-233.
[189] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов, т. II. Изд-во АН БССР. Минск, 1960, бб. 34-36.

ніх земляў ВКЛ (да мясцовасьцяў Шклова й Брагіна),[190] дык у «Диариушу» ігумена берасьцейскага Сымонаўскага манастыру Апанаса Філіповіча, напісаным дзесьці ў 40-х гадох XVII стагодзьдзя, пад «Белай Русьсю» разумеецца яшчэ Маскоўшчына.[191] Тым часам Апанас Філіповіч быў адным з тых, які ў вабавязковым парадку мусіў-бы ўжываць гэты тэрмін, калі ён запраўды быў пашыраны ў Беларусі. Справа ў тым, што Апанас Філіповіч быў прыхільнікам «маскоўскага праваслаўя» й наагул маскоўскіх цароў. У 1637 годзе з Купяціцкага манастыра (пад Пінскам) ён накіраваўся ў Маскоўшчыну («Белую Русь»), куды прыбыў у лютым 1638 году «дзеля збору грошаў», а ў запраўднасьці, каб пабачыць маскоўскага цара й намовіць яго выступіць супраць Рэчы Паспалітай з мэтай «вызваленьня» праваслаўнага насельніцтва ВКЛ ад польска-каталіцкага ўціску. Значыцца, тэрмін «Белая Русь» пашыраўся на землі Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчыны й пры дапамозе, можна сказаць, Маскалёў. Вось чаму ў дакумантах маскоўскага паходжаньня зь першае палавіны XVII стагодзьдзя, побач з тэрмінамі «Літва» й «Ліцьвін», мы вельмі часта сустракаемся таксама з тэрмінамі «Беларусь» і «Беларус», аднолькава ўжыванымі для абазначаньня ўсходніх земляў ВКЛ і насельніцтва гэтых земляў. Асабліва гэта заўважаецца на дакумантах, што апублікаваныя ў зборніку «Русско-белорусские связи». Прычым, успамінаючы «Белорусцев» з Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Магілеўшчыны, Мсьціслаўшчыны й г. д., у гэтых дакумантах даволі часта сустракаюцца такія дабаўленыя паясьненьні: «родом литвин» або «выходец литвин».[192] Сустракаецца ў іх і паясьненьне наступнага характару: «литвин белоруские веры».[193] Гэтая апошняя формула выразна паказвае на тую глебу, на якой паступова прырастаў у нас назоў «Белая Русь».

З другога боку, прывіцьцю гэтага тэрміну ў вялікай ступені садзейнічалі праваслаўнае духавенства й асабліва манахі ды наагул абставіны рэлігійнага жыцьця таго часу. Апынуўшыся ў мізэрным мат'эяльным становішчы й узваліўшы на сваё плечы ўсю ганебнасьць каталіцкае рэакцыі, якая нічым ня розьнілася ў тыя часы ад звычайнага барбарства, праваслаўнае духавенства й манахі ВКЛ шукалі, бясспрэчна, усемагчымае падтрымкі ў Маскоўшчыне, не задаючуся пытаньнем, якую небясьпеку магла несьці з сабой гэтая маскоўская падтрымка й што наагул уяўляла зь сябе маскоўскае праваслаўе. З гэтае прычыны першая палавіна XVII стагодзьдзя даволі багатая прыкладамі масавага «паломніцтва» ў Маскоўшчыну літоўскага праваслаўнага духавенства й манахаў, і ня толькі «дзеля збору грошаў», але й дзеля падмацаваньня духовага жыцьця ды, як гаворыць выпадак зь берасьцейскім ігуменам Апанасам Філіповічам, і «дзеля навязаньня палітычных сувязяў». Усё гэта, прытым з сантымэнтальна-палі-

---

[190] Конрад Буссов. Московская хроника (1584-1613). Изд-во АН СССР. Москва-Ленинград, 1961, бб. 93-94, 96, 100, 144, 175.

[191] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов, т. II, бб. 444-450; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии, бб. 194-206.

[192] Русско-белорусские связи. Сборник документов, бб. 102-114, 116-118, 128, 141-142, 155-156 і іншыя.

[193] Тамсама, б. 112.

тычнай ахвярбоўкай, вяло да таго стану, які быў выказаны ў Полацку ў 1656 годзе перад маскоўскім царом Аляксеям Міхайловічам вучнямі ведамага нашага «русафіла» ці «маскаляфіла» манаха Сымона Полацкага й словамі апошняга, выкладзенымі ў спэцыяльна напісаных ім з гэтае нагоды «Прывітальных мэтрах»:

...Радуйся, Белорусская земля, иж упадают
    ереси в тебе през Алексея прочь ищезают.
А церковь Христова в покою днесь зоставает
    всех врагов церковных православный царь побеждает.
. . . . . . . . . . . . . .
Витаем тя, православный царю, праведное солнце,
    здавна бо век прагнули тебе души наши и сердце.
Витаем тя, царю, от востока к нам пришедшаго,
    беларусский же от нужды народ весь свободшаго...[194]

Гэтыя вучні Сымона Полацкага й наагул літоўскае праваслаўнае духавенства й манахі, а таксама ўсё праваслаўнае жыхарства Вялікага Княства Літоўскага магчыма навет і не падазравалі, што гэтаму «праведному солнцу» зусім не хадзіла пра «белорусский же народ» і ягоныя «нужды», а патрэбныя былі толькі новая тэрыторыя й новыя «холопы». У гэтым яны ўпэўняцца празь якіх пару гадоў маскоўскай акупацыі краю. Аднак факт застаецца фактам: тэрміны «Беларусь» і «Беларус», прыменены да ўсходніх земляў ВКЛ, знатуралізаваліся пры актыўнай падтрымцы падобных Сымону Полацкаму энтузіястых маскоўскага праваслаўя й цара.

Як ведама, XVI стагодзьдзе ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага характарызуецца далёка зайшоўшай рэфармацыяй, спрычыненай упадкам каталіцкай і асабліва праваслаўнай цэркваў і наагул пашырэньнем прасьветніцтва й ідэяў гуманізму. Гэтая рэфармацыя, характэрная ўзьнікненьнем у ВКЛ каля паўсотні розных рэлігійных плыняў і асабліва сэктаў, поўнасьцяй ахоплівае Заходнюю й Цэнтральную Беларусь ды часткова пранікае таксама й у Ўсходнюю Беларусь, але тут усё-такі моцна трымаецца ранейшы кансэрватызм праваслаўнае царквы, спалучаны зь цемрай і прымітыўнасьцяй ейнага вышэйшага й тым больш ніжэйшага духавенства. З прычыны падобнае рэлігійнае разнастайнасьці Заходняя й Цэнтральная Беларусь не магла, ведама, даволі моцна супрацьпаставіцца контррэфармацыі, якая з часу заключэньня ў 1569 годзе Люблінскай вуніі ўсё больш і больш пачынае заваёўваць адну пазыцыю за другой. Дарэчы, каталіцкая царква й у прыватнасьці Польшча кінулі ў ВКЛ паважныя духоўныя сілы, якія пры падтрымцы вялікага князя й асабліва дзякуючы сваім вышэйшым школам найперш здабываюць для каталіцкае царквы пераважную бальшыню магнатаў і паноў ды навет і шляхты розных рэлігійных кірункаў, у тым ліку й праваслаўных, а потым з дапамогай апошніх вядуць наступ, пры гэтым часта паслугоўваючыся звычайным насільлем

---

[194] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии, бб. 228-229.

ці правам магнатаў што да сваіх падпарадкаваных, і на іншыя праслойкі жыхарства. Гэтым часам спахватваецца таксама й праваслаўнае духавенства ды бярэцца за справу духоўна-маральнае рэарганізацыі праваслаўнае царквы й прасьветніцтва ейнага духавенства й у сувязі з гэтым навет зарганізоўвае насьпех школы й акадэміі.

Але было ўжо позна. У 1596 годзе даходзіць да заключэньня ведамае Берасьцейскае царкоўнае вуніі, якая адкрывае эпоху яшчэ большага насільля й поўнага агаленьня каталіцкае рэакцыі, што ўсімі даступнымі мэтадамі імкнецца праглынуць ня толькі зьбяднелую праваслаўную царкву й ейных, фактычна, бяспраўных вернікаў, але й толькі-што ўзьніклую вуніяцкую царкву. Гэтыя кашмарныя ўовы й падрыхтоўваюць на ўсходніх землях Вялікага Княства Літоўскага, дзе яшчэ насельніцтва моцна трымаецца праваслаўнае царквы й дзе дае знаць пра сябе традыцыя «рускага нацыянальнага пачуцьця», спрыяльную глебу для прывіцьця новага тэрміну — *Беларусь,* які на пачатку мае выразную рэлігійную ахварбоўку ці зьяўляецца сымбалем праваслаўя й стойкасьці ягоных прыхільнікаў у гэтым рэлігійным змаганьні й бяспраўі. Нездарма гэты тэрмін перавандроўвае сюды з Маскоўшчыны ці з маскоўскага ўзьмежжа, якая яшчэ з часоў маскоўскага вялікага князя Івана III пераймае на сябе функцыі «адзінага» носьбіта й абаронцы праваслаўя, у тым ліку ды ў першую чаргу й «апякуна» над праваслаўнай царквой у Вялікім Княстве Літоўскім, ды у гэтым кірунку выпрацоўвае сваю далейшую палітыку ў дачыненьні да ВКЛ. Дарэчы, і тэрмін «белы» заўсёды азначаў штосьці *чыстае, традыцыйна-някранутае, прававернае.* Спалучаны з тэрмінам «рускі» ў ягоным рэлігійным значаньні, ён пачынае сымбалізаваць чыстату ці традыцыйнасьць праваслаўя або праваслаўнага веравызнаньня, наагул праваслаўнае царквы й падобную стойкасьць ейных вернікаў. Мы ня хочам гэтым сказаць, што маскоўская праваслаўная царква й запраўды ўяўляла зь сябе штосьці рэлігійна-чыстае й маральна-высокае, аднак у тых умовах, у якіх апынулася праваслаўнае насельніцтва й праваслаўная царква ВКЛ, маральны бок маскоўскае праваслаўнае царквы найменш цікавіў праваслаўных Ліцьвіноў і рэчы пераважна браліся імі ня так, як яны былі ў запраўднасьці, а так, як гэтага ім жадалася ці як яны ў ідэяльным выглядзе падносіліся звонку. Нарэшце, трэба адцеміць, прывіцьцю тэрміну «Беларусь» у ягоным квазінацыянальным значаньні памагалі палітычны ўпадак Вялікага Княства Літоўскага, спрычынены Люблінскай вуніяй, і паступовая палянізацыя й наагул паступовая польская калянізацыя краю. На Заходнюю й Цэтральную Беларусь гэты тэрмін не пашырыўся таму, што гэтыя землі здаўна звыкліся із сваім новым нацыянальным назовам «Літва» й «Ліцьвін» ды, ня трымаючыся моцна застылага ў сваіх літарах праваслаўя, вельмі актыўна адгукнуліся на рэфармацыю, хоць крыху павальней, але часткова прынялі контррэфармацыю й із заключэньнем Берасьцейскае царкоўнае вуніі бадай пагалоўна прымкнулі да новае вуніяцкае царквы.

* * *

Што-ж застаецца дабавіць на заканчэньне? Пайменна тое, што, незалежна ад нацыянальнага характару старажытных Ліцьвіноў і нацыянальнай прыналежнасьці вялікіх літоўскіх князёў, Вялікае Княства Літоўскае

з пачатку свайго ўзьнікненьня й тым больш пасьлей выступае, як славянская, беларуская, калі паслугоўвацца сяньняшняй тэрміналёгіяй, дзяржава. Іншага выснаву й іншых канцэпцыяў тут ня можа быць. Зьвязваць нацыянальны характар гэтае дзяржавы выключна зь сяньняшняй Летувой і Летувісамі, як гэта робяць савецкія гісторыкі, абсалютна няма ніякіх асноваў. Дарэчы, у гэтым выпадку трэба было-б і Кіеўскую Русь разглядаць, як дзяржаву Нарманаў, што, аднак, ня вытрымоўвае крытыкі. Нацыянальна-беларускі характар Вялікага Княства Літоўскага ці гістарычнай Літвы ня зьменьваецца й тым фактам, што нацыянальныя тэрміны «Літва» й «Ліцьвін» перапляталіся з тэрмінамі «Русь» і «Рутэн» і нарэшце «Беларусь» і «Беларус». Падобныя выпадкі былі ўласьцівыя й шматлікім іншым дзяржавам, асабліва дзяржавам у працэсе станаўленьня й прытым з рознымі рэлігійнымі асаблівасьцямі ці веравызнаньнямі. Гістарычная Літва — гэта гісторыя станаўленьня й разьвіцьця нашае дзяржаўнасьці, калыска аб’еднаньня й фармаваньня нашага народу, як нацыі, гэта, нарэшце, тая спадчына, якая захавала наш народ ад нацыянальнае сьмерці праз наступныя стагодзьдзі ліхалецьця ды жывіць яго яшчэ й сяньня.

# Савецкае асуджэньне „Нашай Нівы“ й спробы ейнае рэгабілітацыі

Станіслаў Станкевіч

У працэсе рэгабілітацыйнага руху ў Савецкім Саюзе апошніх гадоў займае важнае месца пытаньне перагляду дачыненьняў да газэты «Наша Ніва» й усяго нацыянальна-палітычнага й літаратурнага руху, званага нашаніўствам. Пытаньне гэтае мае асабліва важнае значаньне, бо «Наша Ніва» — гэта нятак сабе газэта, а вядучы орган беларускага нацыянальнага адраджэньня. «Наша Ніва» напрацягу дзевяцёх год — ад 1906 да 1915 году — гуртавала вакол сябе ўсе палітычныя, культурныя й літаратурныя сілы беларускага адраджэнскага руху, фактычна кіравала гэтым рухам ды на сваіх балонах шырака адлюстроўвала ягоную ідэялёгію.

Дыскусія вакол «Нашай Нівы» й нашаніўства, упяршыню паднятая ў Савецкай Беларусі ў 1956 годзе, яшчэ не закончаная. Наадварот, яна ўвайшла цяперака ў новую фазу, перанёсшыся зь літаратурна-крытычных нізінаў на партыйныя верхавіны. Асабліва цікава тое, што й на партыйных верхавінах гэтая дыскусія выклікала таксама супярэчлівыя пагляды.



За выходны пункт нашых разважаньняў мы бяром ацэны «Нашай Нівы», дадзеныя ў першым томе «Гісторыі БССР» у ейным першым выданьні 1954 году, а тады — у другім папоўненым выданьні 1961 году. «Гісторыя БССР», як і наагул гісторыі ўсіх саюзных рэспублікаў ды й самога СССР, як правіла, апрацоўваюцца калектыўна пры беспасярэднім удзеле й пад строгім кантролем ЦК камуністычных партыяў адпаведных рэспублікаў. Таму якраз гэтыя ацэны найбольш аўтарытэтныя, калі мець наўвеце партыйную лінію.

«Наша Ніва», як і газэта «Наша Доля», ейная блізкая папярэдніца, былі фактычнымі органамі ведамай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады. «Гісторыя БССР» у вабодвух выданьнях ацэньвае Беларускую Сацыялістычную Грамаду, як контррэвалюцыйную, рэакцыйную й

нацыяналістычную партыю, што быццам ніколі ня мела нічога супольнага із сацыялістычным рухам.[1] А вось і агульная ацэна газэты «Наша Ніва», дадзеная «Гісторыяй БССР»: «Органам беларускіх буржуазных нацыяналістых фактычна была газэта «Наша Ніва», што выходзіла ў Вільні ў беларускай мове з канца 1906 да сярэдзіны 1915 году. Газэта мела буржуазна-лібэральны нацыяналістычны кірунак».[2] У далейшым «Гісторыя БССР» намагаецца паказаць, як-жа выяўляўся гэты буржуазна-лібэральны нацыяналістычны кірунак «Нашай Нівы».

Найперш, паводля «Гісторыі БССР», у самой «Нашай Ніве» й сярод нашаніўцаў быццам-бы адбывалася ўвесь час войстрае й напружанае ідэялягічнае змаганьне. «Гісторыя БССР», а за ёй і іншыя савецкія выданьні цьвердзяць, што палітычныя кіраўнікі й публіцыстыя «Нашай Нівы», усе, як адзін, былі гэнымі буржуазнымі нацыяналістымі, затое сярод паэтаў і пісьменьнікаў, што друкаваліся ў «Нашай Ніве», быццам-бы выразна зарысоўваліся дзьве супрацьлежныя ідэйныя лініі. Некаторыя, быццам-бы менш важныя, другарадныя пісьменьнікі, як Алесь Гарун, Карусь Каганец і Ядвігін Ш., належалі да рэакцыйнага буржуазна-нацыяналістычнага кірунку. Затое-ж бальшыня паэтаў і пісьменьнікаў трымалася рэвалюцыйна-дэмакратычнага прагрэсыўнага кірунку. Гэта — Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Максім Багдановіч, Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, Канстанцыя Буйла ды іншыя. Друкавалі яны свае творы ў «Нашай Ніве» быццам-бы адно таму, што была яна адзінай газэтай, што выходзіла ў беларускай мове. Гэта, «аднак, не мяняла буржуазна-нацыяналістычнага кірунку «Нашай Нівы»[2] — робіць выснаў «Гісторыя БССР» і, на пацьверджаньне гэтага, прыводзіць цэлае мноства сваіх «довадаў».

«Довады» гэныя дваякага характару. Адныя зь іх зусім галаслоўныя й не пацьверджаныя ніякімі фактамі, бо такіх фактаў у запраўднасьці ня было. Другія-ж «довады» — гэта тэндэнцыйна-хвальшывыя інтэрпрэтацыі паасобных гістарычных фактаў і зьяваў, што датычылі «Нашай Нівы».

## 1. «Наша Ніва» й тэорыя бясклясавасьці беларускага народу

І «Гісторыя БССР» і ўсе іншыя савецкія публікацыі, што асуджаюць «Нашу Ніву» як рэакцыйную буржуазна-нацыяналістычную газэту, за найцяжэйшы ейны грэх уважаюць тое, што «Наша Ніва» праводзіла ідэю клясавага адзінства беларускага народу, а тым самым і ідэю «вонкаклясавай адзінай нацыянальнай культуры».[4] Гэтае асуджэньне, адно агульна прыведзенае ў «Гісторыі БССР», найшырэй разьвітае ў выдадзенай у 1956 годзе кнізе «Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры». Там, між іншым, чытаем:

---

[1] История БССР. Академия наук Белорусской ССР. Институт истории. Том I, Менск, 1954, б. 363; История БССР. Второе, дополненное издание. Том I, Менск, 1961, б. 470–471.
[2] История БССР першага выданьня, т. I, б. 464.
[3] Тамсама.
[4] Тамсама, б. 465.

У процівагу рэвалюцыйна-дэмакратычным пісьменьнікам, якія стаялі на пазыцыях непрымірымасьці клясавых супярэчнасьцяў і заклікалі народныя масы да ўзброенага паўстаньня, нацыяналістыя ў «Нашай Ніве» праводзілі ідэю бясклясавасьці беларускай нацыі, гармоніі нацыянальных інтарэсаў. Дакляруючы беспартыйнасьць кіруючым прынцыпам сваёй газэты, палітычныя кіраўнікі «Нашай Нівы» кляліся «бескарысна» служыць усяму беларускаму «мужыцкаму» люду, усёй нацыі. У перадавым артыкуле першага нумару газэты яны фальшыва заяўлялі: «Ня думайце, што мы хочам служыць толькі ці паном, ці адным мужыком. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу».[5] («Наша Ніва», № I, 1906 г.).

Адзін із супрацоўнікаў рэдакцыі «Нашай Нівы» Хв. Імшэньнік на бачынах № 7 часапісу «Полымя» за 1926 год зусім правільна выясьніў гэтыя словы перадавіцы «Нашай Нівы». Ён пісаў, што «пакрыўджанымі на Беларусі наогул былі рабочыя й сялянства, асабліва бядняцка-серадняцкая кляса». Выходзячы з гэтага, Імшэньнік сьцьвярджае: «Вось гэтыя батрацка-серадняцкія масы цалкам знаходзіліся пад яе («Нашай Нівы» — С. С.) кіраўніцтвам. Іх згуртоўвалі інтэлігенцкія сілы нашаніўцаў, сярод якіх самым найвышэйшым інтэлігентам на вёсцы быў настаўнік».[6]

Беларускае сялянства, якое й тварыла ў васноўным беларускі народ у часы «Нашай Нівы», ня ведала ані выразнай клясавай дыфэрэнцыяцыі, ані тым больш клясавага змаганьня, хаця некаторыя сацыяльныя супярэчнасьці сярод гэтага сялянства, пэўне-ж, існавалі. Але нашаніўскія адраджэнцы, ставячы ў цэнтр увагі нацыянальнае пытаньне, ня толькі не распальвалі сярод сялянства сацыяльных антаганізмаў, але навет, у мэтах нацыянальнага адзінства, стараліся гэтыя антаганізмы й супярэчнасьці прытупляць. Тэорыя бясклясавасьці й сацыяльнага адзінства беларускага народу сталася тады аднэй з галоўных ідэялягічных асноваў нацыянальнага, у тым ліку й нашаніўскага адраджэньня. І ня хто іншы ў гэтакай меры, як галоўны, паводля савецкага абазначаньня, «рэвалюцыйна-дэмакратычны» нашаніўскі паэта, Янка Купала паклаў гэтую тэорыю ў васнову й свае собскае ідэялёгіі.

З гэтага гледзішча маюць асаблівую вымову два раньнія вершы Купалы: «Любімось, мае суседзі!», напісаны не пазьней 1907 году,[7] і «За праўду», што ўпяршыню быў надрукаваны ў № 4 «Нашай Нівы» за 15 лютага 1908 году.[8] Першы з гэтых вершаў пачынаецца гэткай звароткай:

Любімось, мае суседзі!
Кіньма сваркі, звадкі;
Жыйма, як родныя дзеці
Адной нашай маткі!

---

[5] Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Інстытут літратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. Менск, 1956, б. 142.

[6] Хв. Імшэньнік. «Наша Ніва» і дваццацігадовы юбілей беларускае пэрыядычнае прэсы. «Полымя», № 7, 1926, б. 60.

[7] У першым томе юбілейнага выданьня «Збору твораў» Янкі Купалы, Менск, 1961. гэты верш фігуруе сярод вершаў 1905—1907 гадоў.

[8] Янка Купала. Збор твораў, т. II, Менск, 1961, б. 390.

У ваднэй з далейшых зваротак паэта выясьняе, што, калі запануе ў нас згода,

Ўрагом нашым прыступіцца
Трудна тады будзе,
Ды ў суседзяў ласку маюць
Згодлівыя людзі.

Гэты верш, відаць, з прычыны закліку да згоды ўсіх Беларусаў, а не да клясавага змаганьня між імі, ня быў уведзены ў шасьцітомны «Збор твораў» Янкі Купалы выданьня 1952-54 году. Зьмяшчаючы-ж гэты верш у юбілейным выданьні Купалавага «Збору твораў» 1961-63 году, выдаўцы застрахаваліся ў «Камэнтарах» гэткай заўвагай: «Верш зьяўляецца адказам Янкі Купалы на праявы рэлігійнай і нацыянальнай варожасьці, якую сеяла царскае самадзяржаўе паміж працоўнымі Беларусі і народамі братніх краін».[9] Для такой інтэрпрэтацыі праўдападобна паслужыла слова «суседзі» ў Купалавым вершы. Але слова гэтае ў беларускай мове можа быць зусім добра ўжытае як для абазначэньня людзей аднага й таго самага народу, гэтак і людзей суседніх народаў. У прыведзенай вышэй першай зваротцы Купалавага верша яно ўжытае якраз у першым значаньні, а ў другой зваротцы — у значаньні другім. Цэлы-ж верш не пакідае найменшага сумлеву, што Купала заклікае ў ім да згоды адно Беларусаў.

У вершы «За праўду» паўтараецца ня толькі тая самая думка, што выказаная ў вершы «Любімось, мае суседзі!», але навет і тыя самыя словы:

Кінь сваркі і звадкі, аднэй дзеці маткі —
Мы злучаны думкай аднэй;
Пры згодзе і ладзе ў нас доля засядзе,
Палічаць і нас за людзей.

Вось-жа й гэты верш ня быў уведзены ў «Збор твораў» Купалы 1952-54 году, затое ў юбілейным выданьні «Збору твораў» ён ужо перадрукаваны. Але й тут выдаўцы дадалі наступную заўвагу: «У Беларусі, у прыватнасьці, рускія і польскія нацыяналістыя імкнуліся стварыць атмасфэру варожасьці паміж Беларусамі-праваслаўнымі і Беларусамі-каталікамі».[10] Што расейскія й польскія нацыяналістыя імкнуліся ў гэным часе распаліць рэлігійную варожасьць сярод беларускага сялянства, гэта бясспрэчны гістарычны факт. Але з Купалавага верша зусім ня відаць, што паэта меў тут на думцы адно рэлігійную варожасьць паміж Беларусамі. Затое тут зусім выразны Купалаў заклік адкінуць усякія «сваркі і звадкі» ў імя адраджэнскіх ідэялаў — «праўды», «шчасьця» й «лепшай долі».

Сацыяльная варожасьць у творах Купалы была сьціраваная вылучна супраць нацыянальна чужога элемэнту, супраць усіх тых, як іх называе Купала ў сваіх нашаніўскіх творах, «чужакоў» (вершы «У чужой старане», Вясна за вясною», «Забраны край»), «чужынцаў» («Для зямлі прадзедаў маіх», «Ня шукай . . .»), «сілаў з усходу і захаду мсьцівых» («Тае сьнег»), «людзей

---

[9] Тамсама, т .I, 1961, б. 507.
[10] Тамсама, т. II, б. 390.

чужых» («Валачобнікі», «Над Нёманам»), «суседзяў паганых» («Як цені») і г. д. Вось дзеля гэтага ўсе пералічаныя вершы й былі апушчаныя ў шасьцітомным «Зборы твораў» 1952-54 году, а ў шасьцітомнае юбілейнае выданьне «Збору твораў» зь іх не ўвайшлі вершы «У чужой старане», «Забраны край», «Тае сьнег» і «Над Нёманам». Затое няма ў Купалы літаральна аніводнага верша, у якім-бы паэта паказваў клясавыя супярэчнасьці й сацыяльнае змаганьне сярод беларускага народу.

Падобна як Янка Купала, гэтаксама не разрозьніваў у беларускім народзе ніякіх клясавых супярэчнасьцяў і другі галоўны прадстаўнік «рэвалюцыйна-дэмакратычных», паводля савецкае тэрміналёгіі, паэтаў «Нашай Нівы» — Якуб Колас. Галоўны гэрой ягонай першай «казкі жыцьця», «Дудар», надрукаванай у 1906 годзе ў «Нашай Ніве», «Меншы брат» Дудар — гэта алегарычны вобраз усяго пакрыўджанага беларускага народу, а не якойнебудзь аднэй ягонай сацыяльнай клясы. Нацыянальнымі й сацыяльнымі прыгнятальнікамі «Меншага брата» выступае тут «Старэйшы брат» — алегарычны вобраз Расейца, і «Сярэдні брат» — такі-ж алегарычны вобраз Паляка. Відаць, з гэтае прычыны гэты важны з мастацкага й ідэйнага гледзішча Коласаўскі твор зусім ня перадрукоўваецца ў Савецкай Беларусі. Яго няма навет у юбілейным выданьні «Збору твораў» Якуба Коласа 1961-63 году.

Ня бачылі ў беларускім народзе клясавага падзелу й клясавага змаганьня таксама Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, навет Цішка Гартны ды й усе іншыя нашаніўцы, якіх савецкія аўтары залічаюць да рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменьнікаў. Дык груба тэндэнцыйнае цьверджаньне савецкіх аўтараў, што ідэя бясклясавасьці беларускага народу была праводжаная буржуазнымі нацыяналістымі «Нашай Нівы» ў процівагу рэвалюцыйна-дэмакратычным пісьменьнікам, бязьлітасна б'е па самых гэтых аўтарах. Гэта адзін з найбольш зыркіх прыкладаў савецкага хвальшаваньня гістарычнай праўды аб «Нашай Ніве» й нашаніўцах.

## 2. «Наша Ніва» й мінуўшчына беларускага народу

Адным з далейшых «довадаў» савецкіх гісторыкаў на падмацаваньне цьверджаньняў аб рэакцыйным буржуазна-нацыяналістычным характары «Нашай Нівы» зьяўляецца «довад» наступны:

> Беларускія буржуазна-нацыяналістычныя пісьменьнікі імкнуліся адцягнуць чытача ад войстрых сацыяльных пытаньняў, затушаваць клясавыя супярэчнасьці й змаганьне. З гэтай мэтай яны зьвярталіся да мінуўшчыны, ідэялізавалі фэадальна-прыгоньніцкую эпоху, апраўдвалі й прыхарошвалі панаваньне літоўска-польскіх паноў у Беларусі. Іхная творчасьць была зброяй у руках беларускай буржуазіі ў змаганьні супраць дэмакратычнага, крытычна-рэалістычнага кірунку ў беларускай літаратуры.[11]

---

[11] История БССР, т. I, 1954, б. 464.

Іншыя крыніцы, што базуюцца на «Гісторыі БССР», звычайна паклікаюцца на два вершы Алеся Гаруна, як на канкрэтныя прыклады такога ідэялізаваньня мінуўшчыны: на вершы «Як наступіць хвіліна» і «Ты, мой брат, каго звацъ Беларусам».[12] У вершы Алеся Гаруна «Як наступіць хвіліна» ўзапраўды гаворыцца аб Беларусі, як забраным і абяздоленым краі, які калісьці «Меў вялікія кляйноды, быў і моцны, і багаты, — задзіўляліся народы ..». А ў вершы «Ты мой брат, каго звацъ Беларусам» знаходзім наступныя радкі:

А даўней Беларус не падданы,
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у сьвеце быў знаны
За Літоўскай і Ляскай зямлёю ...

І гэта ўсё, што знаходзім пра мінуўшчыну Беларусі ў творчасьці Алеся Гаруна, гэтага, паводля савецкага абазначаньня, буржуазна-нацыяналістычнага паэты.

Каб пабачыць усю парадаксальнасьць гэтага абвінавачаньня, запамятаем сабе даты зьяўленьня абодвых Гаруновых вершаў. Верш «Як наступіць хвіліна» ўпяршыню быў надрукаваны ў «Нашай Ніве» ў самым канцы 1913 году — у вапошняй фазе існаваньня гэтае газэты.[13] Верш «Ты, мой брат, каго звацъ Беларусам» у сваёй першай рэдакцыі зьявіўся быў у «Нашай Ніве» ў канцы 1910 году[14] й меў загаловак «Беларусам у чатырохлецьце „Нашай Нівы"». Але ў першай рэдакцыі верша гэнай звароткі, у якой ідэялізавалася мінуўшчына Беларусі, яшчэ зусім ня было. Яна зьявілася адно ў другой рэдакцыі верша ў Гаруновым зборніку «Матчын дар»,[15] што быў выдадзены ажно ў 1918 годзе, калі «Нашай Нівы» даўно ўжо ня было.

Ды гэтая ідэя выступае ў «буржуазнага нацыяналістага» Алеся Гаруна адно ў гэтых двух вершах і адно між іншым. Затое ў творах галоўнага «рэвалюцыйнага дэмакрата» Янкі Купалы ідэялізацыя беларускай мінуўшчыны сталася аднэй з найважнейшых асноваў ягонае адраджэнскае ідэялёгіі ды выступіла яна ў Купалы значна раней, чымся ў Гаруна. Найшырэй яна разгарнулася ў ведамым Купалавым вершы «Над Нёманам», які ўпяршыню быў надрукаваны ў «Нашай Ніве»,[16] а пасьлей увайшоў у зборнік 1913 году «Шляхам Жыцьця». Вельмі праўдападобна, што адпаведныя радкі ў Гаруновых вершах аб мінуўшчыне Беларусі паўсталі пад уплывам Купалавых твораў.

---

[12] А. І. Фіглоўская. Творчасьць Якуба Коласа. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Менск, 1959, б. 32.

[13] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, выпуск 3. Петраград, 1922, бб. 352—357; Ант. Адамовіч. Алесь Гарун. Жыцьцё й творы — уступны артыкул да: Алесь Гарун. Матчын дар. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1962, б. 29.

[14] «Наша Ніва», № 47, 1910.

[15] Ант. Адамовіч. Цыт. уст. арт., б. 20-22.

[16] Нам не ўдалося ўстанавіць, у якім нумары й якой даты «Нашай Нівы» быў гэты верш надрукаваны.

Аб'ектыўнае адлюстраваньне мінуўшчыны, як слаўнай і шчасьлівай эпохі дзяржаўнага й культурнага жыцьця беларускага народу, знаходзім яшчэ ў наступных творах Купалы: у вершы «Зь мінуўшых дзён» і паэме «На куцьцю», што былі надрукаваныя ў зборніку «Шляхам жыцьця», ды ў вершы 1918 году «Свайму Народу». Усе гэтыя чатыры творы не зьявіліся ані ў шасьцітомным «Зборы твораў» Купалы 1952-54 году, ані ў ягоным юбілейным «Зборы твораў» 1961-63 году. Не зьявіліся таму, каб магчыма было ставіць хвальшывую тэзу, што толькі буржуазныя нацыяналістыя «Нашай Нівы» ідэялізавалі фэадальна-прыгоньніцкую эпоху Беларусі «ў процівагу рэвалюцыйна-дэмакратычным пісьменьнікам». Наўсуперак нашаніўскай і ў прыватнасьці Купалавай гістарычнай канцэпцыі, савецкая гістарыяграфія, сьвядома хвальшуючы гісторыю, як ведама, цьвердзіць, што ўвесь час у мінуўшчыне беларускі народ знаходзіўся ў палітычнай і нацыянальнай няволі й што толькі ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы Камуністычнай партыі ды пры выдатнай бескарысьлівай дапамозе вялікага рускага народу беларускі народ упяршыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасьць.

## 3. Дыскусія ў «Нашай Ніве» аб дачыненьнях літаратуры да рэчаіснасьці

«Гісторыя БССР» у сваім першым выданьні цьвердзіць, што «беларускія буржуазныя нацыяналістыя ўсяляк змагаліся супраць рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку ў творчасьці Янкі Купалы й Якуба Коласа ды іншых паэтаў дэмакратаў, прабавалі ... сьціраваць разьвіцьцё беларускай літаратуры на шлях дэкадэнцтва, служэньня «чыстаму мастацтву».[17] У другім выданьні «Гісторыі БССР» гэтае цьверджаньне сфармуляванае больш канкрэтна й на довад яго прыведзеная дыскусія аб дачыненьнях мастацкай літаратуры да рэчаіснасьці, што разгарнулася была ў «Нашай Ніве» ў 1913 годзе.[18] На гэтую дыскусію паклікаюцца ў сваіх цьверджаньнях аб наяўнасьці палітычнага змаганьня ў «Нашай Ніве» й нашаніўстве й усе іншыя савецкія аўтары, што асуджаюць «Нашу Ніву».[19]

Дыскусію гэтую распачаў «буржуазны нацыяналісты» Вацлаў Ластоўскі. Выступаючы пад псэўдонімам Юры Верашчака, ён зьмясьціў быў у нумарох 27-28 «Нашай Нівы» за 1913 год артыкул «Сплачвайце доўг». Замест сьлязьлівага прыніжэнства й прыбедніваньня, зь якімі нашаніўскія паэты малявалі Беларусь і ейную прыроду, Ластоўскі заклікаў у сваім артыкуле апяваць красу беларускага краю. Вось найбольш характэрная частка гэтага артыкулу:

---

[17] История БССР, т. I, 1954, б. 464.

[18] История БССР, т. I, 1961, бб. 603—604.

[19] Евг. Мозольков. Янка Купала. Жизнь и творчество. Москва, 1950, бб. 103—106; Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Менск, 1956, бб. 153—154; Л. І. Фіглоўская, цыт. праца, бб. 28-30.

Спомніліся мне вершы нашых беларускіх паэтаў, каторыя замест услаўляць нашу папраўдзе бязьмерна харошую прыроду, абесслаўлялі яе. Адзін зь іх кажа:

Куры, сьвіньні, гною кучы
Напаўняюць кажны кут.
Вокны затканы анучай —
Так і кажуць — ўсюды бруд (Цётка — С. С.).

Другі падпявае:

Край наш бедны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок... (Якуб Колас — С. С.).

Яшчэ іншы плача:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь:
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дрозд ды гусь... (Я. Купала — С. С.).

У канцы нехта чуткі з розпаччу крычыць:
Край ты мой родны, як выкляты Богам... (М. Багдановіч — С. С.).

Супакойцеся, ягамосьці, край наш не такі страшны, не такі сумны, брудны й бедны... Я разумею яшчэ (дый то з нацяжкай) енкі й плачы тых нашых бэлетрыстых і паэтаў, каторыя (цыбуляй хіба крыху націраючы вочы) плачуць над доляй селяніна, можа хочуць выказаць ня тое, што Янка ці Апанас сядзіць паўп'яны на печы, і ў яго гаспадарка ня спорыцца, «шнур травой зарастае», і ў вокнах «анучы» і «нямецена хата», а тое, што народ, увесь народнацыя жыве ў цяжкім бяспраўным палажэньні... То гэтым «паэтам» можна даравацъ іхныя няскладныя плачы... Але вы, каторыя пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысьль і весьці душу, чаму... ня вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму зьмеркаў, яснату ўсходаў... Плакаць і сыпаць словамі сьцёртымі, як дробная мядзянная манэта, як бачыце, і я ўмею...»[20]

На гэты артыкул Ластоўскага адказаў Янка Купала артыкулам «Чаму плача песьня наша», надрукаваным пад псэўдонімам «Адзін з парнасьнікаў» у № 30 «Нашай Нівы» за 1913 год. Купала, між іншым, пісаў:

Ці-ж маглі яны (паэты) у першых сваіх словах апяваць толькі хараство сваёй бацькаўшчыны, не заглянуўшы спачатку на рэальны быт яе сыноў?.. Ня думайце, што «парнасьнікі» ня бачылі й не адчувалі ўсёй багатай красы нашай зямелькі зь яе горамі, далінамі, рэчкамі й лясамі. Але што маглі казаць, калі большая палавіна гэтага прыроднага багацьця, гэтай неапетай красы была й

[20] Цытуецца паводля: Ул. Дзяржынскі. Янка Купал ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў. «Полымя», № 8, 1927, б. 156.

ёсьць ня наша, а нашых сытых «культурнікаў», крывавай працай на каторых Беларус асьляпіў сабе вочы, атуманіў думкі... І паэта воляй-няволяй ня можа абмінаць і замоўчваць цяперашняга жыцьця. Не да пацераў, калі хата гарыць...»[21]

Як можна бачыць з прыведзеных урыўкаў, гэтая дыскусія фактычна вялася ня ў роўніцы палітычнай ці сацыяльнай, але ў роўніцы літаратурна-эстэтычнай. Плачлівае абясслаўленьне беларускага краю, супраць чаго выступаў Ластоўскі, было якраз накінутае нашаніўскім адраджэнцам ды й шамт каму пазьней ворагамі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Яны гэтым намагаліся ўкараніць у сьвядомасьці самых-жа Беларусаў перакананьне аб беднасьці й забытасьці беларускага краю, які дзеля гэтага ня можа жыць самастойным і незалежным жыцьцём.

У выніку гэтае дыскусіі, у якой яшчэ прыняў удзел нашаніўскі літаратурны крытык Лявон Гмырак,[22] падтрымаўшы пазыцыі Купалы, усё-ж перамагла канцэпцыя Ластоўскага. Нашаніўскія «парнасьнікі» пасьлей грунтоўна перагледзелі свае пазыцыі ў кірунку зрачэньня заатакаванага Ластоўскім сьлязьлівага прыніжэнства й павароту да мастацтва нацыянальнае красы.[23] Гэтак, прыкладам, калі Якуб Колас у першым сваім друкаваным вершы «Наш родны край», зьмешчаным у першым нумары «Нашай Долі» ў 1906 годзе, іншых эпітэтаў для Беларусі яшчэ не знаходзіў, як «край наш бедны», «бедная старонка», «забыты Богам край», то ўжо частку трэйцюю паэмы «Сымон Музыка», якая была напісаная ў 1917 годзе, ён пачынае зусім іншым зваротам да роднага краю:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў.
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў?..

На довад таго, што між Купалам і Ластоўскім ня было ідэялягічных разыходжаньняў, можа служыць і тая акалічнасьць, што Купала ў 1909 годзе прысьвяціў быў Ластоўскаму адзін зь лепшых сваіх вершаў «Песьня Званара», у якім высака ацаніў заслугі Ластоўскага для беларускага адраджэньня.

Гэткім парадкам, дыскусія ў «Нашай Ніве» між Вацлавам Ластоўскім і Янкам Купалам у ніякім выпадку ня можа служыць довадам ані аб ідэя-

---

[21] Тамсама, бб. 156—157.

[22] У артыкуле «Яшчэ аб сплачваньні доўгу», надрукаваным у двух 33 і 34 нумарох «Нашай Нівы» за 1913 год, Лявон Гмырак, між іншым пісаў: «Нашы пісьменьнікі глыбока адчуваюць народнае гора, шчыра спагадаюць сярмняжнікам і дужа праўдзіва малююць іх жыцьцё, іх злыбеду, зь якой ім трэба змагацца. Творчасьць іх прнікнута здаровым аптымізмам і цьвёрдай верай у тое, што будзе ўнукам панаваньне там, дзе сягоньня плача дзед. Такімі настроямі пранікнута творчасьць Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, Галубка, Я. Журбы». Цытуецца паводля: Ул. Дзяржынскі, цыт. праца, б. 157.

[23] Р. Склют. Званар Адраджэньня (Вацлаў Ластоўскі). «Бацькаўшчына», № 14 (196), Мюнхэн, 4 красавіка, 1954; ён-жа ў уводным артыкуле да Якуба Коласа. Новая Зямля, Мюнхэн, 1952, б. XX.

лягічным змаганьні на балонах «Нашай Нівы», ані аб падзеле нашаніўцаў на рэакцыйных буржуазных нацыяналістых і прагрэсыўных рэвалюцыйных дэмакратаў.

### 4. «Наша Ніва» й праблема беларускай мовы

У сьвятле савецкіх крыніцаў ідэялягічнае змаганьне, што быццам-бы вялося між самымі нашаніўцамі, расьцягвалася й на праблему фармаваньня беларускай літаратурнай мовы. У першым томе «Гісторыі БССР» абодвых выданьняў чытаем аб гэтым даслоўна:

> Напружанае змаганьне йшло таксама за беларускую літаратурную мову. Янка Купала, Якуб Колас і іншыя перадавыя пісьменьнікі ўнесьлі вялікі ўклад у разьвіцьцё беларускае мовы.
>
> На афармленьне й замацаваньне беларускай літаратурнай мовы аказала магутны й дабрародны ўплыў вялікая расейская мова. Слоўнікавы фонд беларускай літаратурнай мовы ўзбагаціўся за кошт шырокага запазычэньня із сваяцкай расейскай мовы. Граматычная будова беларускай літаратурнай мовы ўдасканальвалася пад уплывам нормаў расейскае мовы.
>
> Гэты паказальны факт у разьвіцьці беларускай культуры адлюстраваў рэальна існуючую моўную й культурную блізіню й сваяцтва вялікага расейскага й беларускага народаў.
>
> Беларускія буржуазныя нацыяналістыя імкнуліся сарваць станаўленьне беларускай літаратурнай мовы, аснованай на народнай гутаркавай мове й блізкай да расейскай мовы. Яны імкнуліся зьнявечыць літаратурную мову беларускага народу, зрабіць яе як мага менш падобнай да мовы вялікага расейскага народу, збудаваць штучную сьцяну паміж блізка сваяцкімі мовамі расейскага й беларускага народаў. Беларускія нацыяналістыя прабавалі падмяніць народную літаратурную мову шляхоцка-буржуазным жаргонам. Яны нявечылі беларускія словы, засьмечвалі мову ўстарэлымі словамі й словамі лаціна-каталіцкай царкоўнай мовы.[24]

Мы прывялі даўжэйшую цытату зь «Гісторыі БССР» таму, што яна нязвычайна характэрная ў сваім настырлівым хвальшаваньні запраўднага стану беларускай літаратурнай мовы «Нашай Нівы» й нашаніўства. Проста дзіву даешся, як можна было стварыць падобную фантастычную легэнду. Кажны сказ, навет кажнае слова прыведзенай цытаты — гэта яўнае й галаслоўнае запярэчаньне гістарычнай праўды. Апрача гэтага, прыведзеная цытата зь «Гісторыі БССР» ня толькі ўсёй сваёй аргумэнтацыяй, але й ейным сфармуляваньнем ды нат паасобнымі выразамі прыпамінае

[24] История БССР, т. I, 1954, бб. 465—466; История БСС, т. I, 1961, бб. 605—606.

тэкст славутага дэкрэту ўраду БССР з 26 жніўня 1933 году «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу».[25]

Вось-жа, як у самой «Нашай Ніве», гэтак і наагул у нашаніўстве ў запраўднасьці ня было ніякага змаганьня, а тым больш ідэялягічнага, за кірунак разьвіцьця беларускай літаратурнай мовы ды й не магло яго быць хоць-бы з тае простае прычыны, што ў нашаніўскія часы пытаньні разьвіцьця новай беларускай літаратурнай мовы тэарэтычна яшчэ не закраналіся. У часы «Нашай Нівы» новая беларуская літаратурная мова яшчэ адно фармавалася. У гэтую мову трапляла тады шмат русыцызмаў — з аднаго боку, і шмат палянізмаў — з другога. Тыя пісьменьнікі, што ўзгадоўваліся пад расейскім культурным уплывам, як, прыкладам, Якуб Колас і асабліва Максім Багдановіч, зусім несьвядома ўносілі ў сваю мову ці мала русыцызмаў. Іншыя-ж пісьменьнікі, як Янка Купала або Цётка, у сувязі із сваім каталіцкім веравызнаньнем, выхоўваліся пад уплывам польскае культуры. Таму ў іхную мову, таксама несьвядома, трапляла ці мала палянізмаў.

Было, аднак, агульным імкненьнем і «Нашай Нівы», і ўсіх нашаніўцаў, каб ачысьціць беларускую літаратурную мову ў роўнай меры і ад русыцызмаў, і ад палянізмаў. Аснаўной-жа базай і крыніцай фармаваньня й разьвіцьця беларускай літаратурнай мовы была народная мова. Што магло быць інакш, што быццам-бы гэтак званыя рэвалюцыйна-дэмакратычныя пісьменьнікі «Нашай Нівы» арыентаваліся на мову «вялікага расейскага народу», як цьвердзіць «Гісторыя БССР», аб гэтым ня знойдзем аніводнага канкрэтнага довлду. Таксама ня знойдзем аніводнага доваду, што быццам гэтак званыя буржуазныя нацыяналістыя стараліся «падмяніць народную літаратурную мову шляхоцка-буржуазным жаргонам» ды «засьмечвалі яе ўстарэлымі словамі й словамі лаціна-каталіцкай царкоўнай мовы». Тут аўтары «Гісторыі БССР» маюць, відаць, на думцы спробы ўводжаньня ў беларускую літаратурную мову патрэбных ёй словаў із старой беларускай літаратурнай мовы. Гэткія спробы былі-б зусім натуральнымі й карыснымі, бо старая беларуская літаратурная мова была высака разьвітая, як дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага й мова асьвечаных колаў грамадзтва ня толькі на беларускай, але ўкраінскай ды жамойдзкай тэрыторыі гэтага княства. Але ані канкрэтных спробаў, ані навет тэндэнцыяў выкарыстоўваньня старой беларускай мовы ў часе «Нашай Нівы» яшчэ ня было. Гэтая тэндэнцыя й канкрэтныя спробы пачаліся адно ў дваццатых гадох, галоўна зь ініцыятывы Вацлава Ластоўскага, калі «Наша Ніва» адыйшла ўжо ў гісторыю.

---

[25] Гэтае падабенства паміж апошнім абзацам прыведзенай цытаты зь Истории БССР і тэкстам урадавай пастановы з 26 жніўня 1933 году найлепш відаць з наступных словаў пошняй: «Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарвць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі». Цытуецца паводля: Т. Ломцеў. Беларуская граматыка, Менск, 1935, б. 67.

Назойлівае ствараньне гэтай фантастычнай легэнды аб моўным змаганьні паміж нашаніўцамі мае, на нашую думку, дваякую мэту. Першае, ходзіць тут пра тое, каб паказаць, што ідэялягічныя супярэчнасьці ў «Нашай Ніве» былі нагэтулькі глыбокія й войстрыя, што яны расьцягваліся навет і на дзялянку мовы. Другое, аўтары «Гісторыі БССР» намагаюцца гэтай легэндай падмацаваць пазьнейшую русыфікацыйную палітыку ў дачыненьні да беларускай мовы, распачатую Камуністычнай партыяй ведамай рэформай беларускага правапісу ў 1933 годзе. Інакш кажучы, ходзіць пра тое, каб паказаць, што арыентацыя на расейскую мову існавала ўжо ў часох «Нашай Нівы» ды што душою гэтай арыентацыі былі такія вялічыні, як Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. Гэтакі выснаў пацьвярджаецца й успомненай ідэнтычнасьцяй як аргумэнтацыі, гэтак і ейнага сфармуляваньня ў урадавай пастанове аб рэформе беларускага правапісу 1933 году і ў «Гісторыі БССР».

З усіх савецкіх спробаў паказаць у хвальшывым сьвятле «Нашу Ніву» й нашаніўства, гэтая спроба хвальшаваньня, што датычыць пытаньняў мовы, найбольш прымітыўная й відавочная.

## 5. «Наша Ніва» й Беларуская Сацыялістычная Грамада

Газэта «Наша Ніва» была фактычным органам палітычнае партыі — Беларускае Сацыялістычнае Грамады, якая, спачатку пад назовам Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады, паўстала ў асяродзьдзі беларускіх студэнтаў у Пецярбургу ў 1902 годзе. Ейная дзейнасьць хутка перакінулася ў студэнцкае асяродзьдзе Масквы, а таксама ў Беларусь — у Менск і Вільню.[26] Гэта была рэвалюцыйная партыя сацыялістычнага характару. Ад іншых рэвалюцыйных партыяў, што дзеілі ў гэным часе ў Беларусі, Беларуская Сацыялістычная Грамада розьнілася ўжо тым, што яна ў цэнтры сваёй дзейнасьці паставіла вёску й сялянскія масы. Як засьветчыў адзін з галоўных лідэраў Грамады Аляксандар Бурбіс, «яна першая зьвярнула ўвагу на арганізацыю палітычнай работы ў вёсцы й на распрацаваньне аграрнай праграмы згодна зь мясцовымі абставінамі сельскагаспадарскага жыцьця».[27] Дзейнасьць сярод работнікаў у горадзе, паводля таго-ж Бурбіса, Грамада вяла «маючы адно на мэце стварыць моцную, узапраўды пралетарскую групу — «грамаду» работнікаў у вёсцы».[28]

На працягу першых год свайго існаваньня, асабліва ў часе найбольшага рэвалюцыйнага ўздыму 1905-1906 годоў, Беларуская Сацыялістычная Грамада галоўны націск клала ў сваёй дзейнасьці на эканамічна-сацыяльныя пытаньні вёскі. Гэтыя пытаньні, асьвятляныя ў войстра апазыцыйным тоне, складалі асноўную тэматыку артыкулаў першага ейнага органу —

---

[26] Н. Недасек. Большевизм в революционном движении Белорусии. Институт по изучению СССР. Мюнхен, 1956, б. 84.
[27] А. Бурбіс. Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903—1907). Зборнік «Беларусь», выд. ЦВК БССР, Менск, 1924, б. 179.
[28] Тамсама, б. 179—180.

газэты «Нашай Долі». Пазьней, асабліва з 1907 году, у сувязі із здушэньнем рэвалюцыйнага руху й перамогі рэакцыі, у дзейнасьці Беларускай Сацыялістычнай Грамады аддаецца ўжо перавага культурна-нацыянальным пытаньням. У вадпаведнасьці з гэтым мяняецца й ідэйны кірунак «Нашай Нівы», што паўстала на месцы закрытай царскім урадам «Нашай Долі». У сувязі з тэрорам успомненае рэакцыі, ахвярамі якога сталіся й некаторыя дзеячы Беларускай Сацыялістычнай Грамады, роля ейнага штабу перайшла да рэдакцыі «Нашай Нівы».[29] Аднак, наўсуперак цьверджаньням савецкіх гісторыкаў аб роспуску ў гэным часе Беларускай Сацыялістычнай Грамады,[30] яна йснавала й далей, хаця, у сувязі із сваёй свабоднай і слабкай арганізацыйнай структурай, штораз больш прыпамінала палітычную арганізацыю, чымся партыю ў сяньняшнім ейным разуменьні.

Нацыянальна-адраджэнскі характар Беларускай Сацыялістычнай Грамады быў найважнейшым мамэнтам, што вырозьніваў яе ад усіх іншых палітычных партыяў, што вялі сваю дзейнасьць у Беларусі, і найбольш ад бальшавіцкай РСДРП. У галіне палітычнай, першы зьезд Беларускай Сацыялістычнай Грамады прыняў патрабаваньне нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусі.[31] Грамада асаблівую зьвяртала ўвагу на загарантаваньне правоў беларускай мовы, тады калі РСДРП, галоўна сам Ленін былі супраць раўнапраўнасьці моваў.[32] Наагул Беларуская Сацыялістычная Грамада, як нацыянальная беларуская партыя, стаяла далёка ад бальшавіцкага руху, ня маючы зь ім нічагусеньнкі супольнага. Аб гэтым добра сьветчыць і той факт, што пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі толькі адзін зь дзеячоў Грамады, Зьмітрок Жылуновіч-Цішка Гартны прыстаў быў да бальшавіцкага руху, дый то ў ягоным нацыянал-камуністычным варыяньце. З галоўных-жа кіраўнікоў Грамады адзін Аляксандар Бурбіс перайшоў быў да бальшавікоў адно ў 1922 годзе перад самай сваёй сьмерцяй. Таму можна падазраваць, што гэты ягоны пераход мог быць пазьнейшым вынаходніцтвам беларускіх нацыянал-камуністых, дзеля падмацаваньня свайго аўтарытэту.[33] Дык і ня дзіва, што савецкая гістарыяграфія ацэньвае Беларускую Сацыялістычную Грамаду, як рэакцыйную партыю беларускіх буржуазных нацыяналістых. «Гісторыя БССР» гэтак фармулюе супраць яе сваё абвінавачаньне:

> З мэтай абману масаў і маскаваньня сваёй антынароднай дзейнасьці беларускія нацыяналістыя прынялі сацыялістычную вывеску, перайменаваўшы сваю арганізацыю ў «Беларускую Сацыялістычную Грамаду» (БСГ). У запраўднасьці-ж беларускія нацыяналістыя ніколі ня мелі нічога супольнага із сацыялізмам. Яны былі

---

[29] З. Жылуновіч. Аляксандар Бурбіс (Рэвалюцыйная характарыстыка). «Полымя», № 2, 1927, б. 182.

[30] История БССР, т. I, 1961, б. 606; Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка. За ідэйную чыстату ншых літаратурных пазіцый. «Зьвязда», № 10, 12 студзеня 1957.

[31] А. Бурбіс. Цыт. праца, б. 179.

[32] Глядзі пра гэта шырэй у: Ст. Станкевіч. Нацыянальная палітыка Крэмля ў Беларусі. «Беларускі Зборнік» Інстытуту для вывучэньня гісторыі й культуры СССР. Мюнхэн, 1955, № I, бб. 35—36.

[33] А. Недасек. Цыт. праца, б. 89.

агентамі й выказьнікамі інтарэсаў беларускай нацыяналістычнай буржуазіі й перадусім кулацтва. БСГ ніколі ня была масавай арганізацыяй і ня мела ніякай апоры сярод работнікаў і сялян.[34]

«Зь Беларускай Сацыялістычнай Грамадой, — піша «Гісторыя БССР», — бальшавікі вялі самае бязьлітаснае змаганьне».[35]

Цэнтральны камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады ўпяршыню сфармаваўся на другім ейным зьезьдзе ў 1906 годзе ў складзе братоў Івана й Антона Луцкевічаў, Аляксандра Бурбіса й Вацлава Іваноўскага.[36] Гэтыя вось сябры цэнтральнага камітэту Грамады ды, апрача іх, яшчэ Аляксандар Уласаў і былі кіраўнікамі й галоўнымі публіцыстымі «Нашай Нівы». Да гэтых, паводля савецкай тэрміналёгіі, «буржуазных нацыяналістых» савецкія аўтары й залічаюць зь пісьменьніцкага асяродзьдзя Алеся Гаруна, Ядвігіна Ш., Каруся Каганца ды пазьнейшага пісьменьніка Вацлава Ластоўскага-Власта. Затое ўсіх іншых паэтаў і пісьменьнікаў, а між імі й Янку Купалу ды Якуба Коласа, яны вырозьніваюць, як рэвалюцыйных дэмакратаў, назоўліва цьвердзячы, што між гэтымі абедзьвюма групамі існавалі ўвесь час войстрыя супярэчнасьці й вялося бязупыннае ідэялягічнае змаганьне.

У запраўднасьці-ж ніякага падзелу на гэтыя дзьве супраціўныя групы ня было, як таксама ня было ніякага ідэялягічага змаганьня ані на бачынах «Нашай Нівы», ані вакол яе. Галоўны прадстаўнік «рэвалюцыйных дэмакратаў», паводля савецкае тэрміналёгіі, Янка Купала ад 22 лютага 1914 году быў навет рэдактарам «Нашай Нівы» й астаўся на гэтым становішчы аж да спыненьня выхаду газэты на ейным нумары за 7 жніўня 1915 году. І гэта не зважаючы на тое, што, як цьвердзяць савецкія гісторыкі, фактычнымі гаспадарамі «Нашай Нівы» былі буржуазныя нацыяналістыя зь Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Праўда, сярод кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады й тым самым «Нашай Нівы»», а таксама сярод нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў існавалі розныя ідэялягічныя ўхілы або кірункі, зусім нармальныя й прыродныя навет у найбольш ідэйна маналітным грамадзтве. Адзін зь кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады й галоўны публіцысты «Нашай Нівы» Антон Луцкевіч у сваёй кнізе «Адбітае жыцьцё», што выйшла ў Вільні ў 1929 годзе, знаходзіў наступную ідэйную дыфэрэнцыяцыю сярод нашаніўскіх паэтаў і пісьменьнікаў:

> Агартаючы адным паглядам усю нашу дарэвалюцыйную літаратурную творчасьць XX стагодзьдзя, мы можам адзначыць тры галоўныя ідэялягічныя напрамкі ў ёй: чыста сялянскі з найвыдатнейшым сваім прадстаўніком у васобе Якуба Коласа — кірунак найбольш багаты (што зусім натуральна) па ліку песьняроў і твораў; слабенькі напачатку работніцкі, які выяўляў сьпярша бадай ці не адзін толькі Цішка Гартны; урэшце, калі можна так яго

[34] История БСС, т. I, 1954, б. 363.
[35] Тамсама.
[36] А. Бурбіс. Цыт. праца, б. 180.

назваць, кірунак сялянска-работніцкі, які даў сынтэз адраджэнскага руху на агульна-людзкіх падставах, і найвыдатнейшым прадстаўніком якога зьяўляецца Янка Купала».[37]

Да гэтае Луцкевічавае клясыфікацыі мы дадалі-б яшчэ чацьверты кірунак — інтэлігенцкі з галоўным сваім прадстаўніком у васобе Максіма Багдановіча. Падобныя ідэялягічныя плыні й кірункі ў роўнай меры можна было-б прасачыць і сярод дзеячоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У кажным выпадку, усе гэтыя кірункі й плыні выразна зарысоўваліся ў публіцыстыцы «Нашай Нівы». Але гэта ня былі нейкія супрацьлеглыя й выключаючыя сябе ўзаемна зьявы, паміж якімі магло-б разгортвацца ідэялягічнае змаганьне. Наадварот, гэта былі складовыя часткі аднаго вялікага арганічнага цэлага, імя якому — беларускае нацыянальнае адраджэньне.

## 6. Першая спроба рэгабілітацыі «Нашай Нівы».

У самым пачатку рэгабілітацыйнага руху ў Беларусі, што разгарнуўся ў сувязі з асуджэньнем культу асобы Сталіна й сталінізму, была пастаўленая на парадку дня й справа перагляду дачыненьняў да «Нашай Нівы» й нашаніўства. Першую спробу ў гэтым кірунку зрабіў доктар філялягічных навукаў Міхал Ларчанка. У сваім артыкуле «Некаторыя пытаньні гісторыі беларускае літаратуры»[38] Ларчанка, побач зь іншымі пытаньнямі, закрануў і пытаньне рэгабілітацыі «Нашай Нівы» ды некаторых нашаніўскіх паэтаў, абвінавачваных у буржуазным нацыяналізьме.

У сваіх рэгабілітацыйных патрабаваньнях Ларчанка захаваў далёка йдучую сьціпласьць і асьцярожнасьць, шмат у чым прыймаючы ранейшыя асуджэньні «Нашай Нівы» «Гісторыяй БССР» і іншымі савецкімі крыніцамі, на «Гісторыі БССР» базаванымі. За гэтай апошняй ён мэханічна паўтарыў пагляд, зусім не дасьледуючы самастойна гэтага пытаньня, што быццам у публіцыстыцы «Нашай Нівы» «задавалі тон буржуазныя нацыяналістыя, лібэралы-рэфармістыя, якія прапаведвалі нацыяналістычныя рэакцыйныя ідэі бясклясавасьці беларускай нацыі, ідэі «адраджэнізму», «залатога веку», ідэі супрацоўніцтва з самаўладзтвам, падтрымлівалі сталыпіншчыну, патрабавалі толькі нацыянальнай аўтаноміі з мэтай разьеднаньня рабочага руху па нацыянальнасьцях, прапаведвалі ідэялістычную тэорыю «мастацтва для мастацтва».[39] Такім парадкам, Ларчанка дакладна паўтарыў усе закіды, стаўляныя «Гісторыя БССР» пад адрысам «Нашае Нівы», адно, адрысуючы іх толькі «буржуазным нацыяналістым» у галіне публіцыстыкі, звузіў ды абмежаваў іхны засяг.

Затое сярод нашаніўскіх пісьменьнікаў правёў Ларчанка зусім іншую палітычную клясыфікацыю, чымся «Гісторыя БССР». Гэтая апошняя, як

---

[37] Антон Навіна. (А. Луцкевіч). Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929, бб. 21—22.

[38] М. Ларчанка. Некаторыя пытаньні гісторыі беларускай літаратуры. «Літаратура і Мастацтва», № 47, 17 лістапада 1956.

[39] Тамсама.

ведама, разрозьнівала дзьве групы нашаніўскіх пісьменьнікаў: прагрэсыўных рэвалюцыйных дэмакратаў і рэакцыйных буржуазных нацыяналістых. Гэтую апошнюю групу кваліфікаваў Ларчанка ўжо паводля іншых крытэрыяў. Ён пісаў:

> Зьяўляючыся па сьветапагляду буржуазнымі дэмакратамі, якія з сымпатыямі адносіліся да сялянскай рэвалюцыйнай дэмакратыі, яны ў сваёй дакастрычніцкай творчасьці былі ў васноўным прагрэсыўнымі пісьменьнікамі, вялі змаганьне за вызваленьне беларускага народу з-пад прыгнёту царскага самаўладзтва, хоць часта дапускалі памылкі нацыяналістычнага характару. Іх ня трэба зьмешваць з такімі рэакцыйнымі пісьменьнікамі, як А. Ельскі, В. Арлоўскі, А. Пшчолка, А. Зязюля, а таксама з буржуазна-нацыяналістычнымі публіцыстымі тыпу А. Навіны, В. Ластоўскага й інш.[40]

Паводля Ларчанкі, і «рэвалюцыйна-дэмакратычныя» пісьменьнікі, і «буржуазныя дэмакраты» ў роўнай меры былі прагрэсыўнымі пісьменьнікамі, адно з тэй розьніцай, што апошнія «часта дапускалі памылкі нацыяналістычнага характару» ды, як ён гаворыць у іншым месцы свайго артыкулу, «зрабілі пад канец свайго жыцьця буйныя палітычныя памылкі».[41]

У запраўднасьці-ж няма ня толькі ніякай ідэялягічнай розьніцы паміж гэтымі абедзьвюма групамі пісьменьнікаў, але навет тыя «памылкі ідэялягічнага характару», якія прыпісвае Ларчанка А. Гаруну, Ядвігу Ш. ды К. Каганцу, яшчэ ў большай меры выступілі ў творчасьці галоўнага прадстаўніка гэнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку Янкі Купалы. Як было намі даведзена вышэй, нічым неабаснаванае таксама вырозьніваньне Ларчанкам А. Навіны й В. Ластоўскага, як «буржуазна-нацыяналістычных» публіцыстых, тымбольш, што гэты апошні ў большай меры быў пісьменьнікам, чымся публіцыстым. Што-ж датычыцца А. Ельскага, В. Арлоўскага й А. Пшчолкі, зусім правільна клясыфікуе іх Ларчанка, як рэакцыйных пісьменьнікаў. Але, будучы храналягічна ранейшымі пісьменьнікамі, яны ў «Нашай Ніве» ўжо ня прыймалі ніякага ўдзелу й наагул не належылі сваёй творчасьцяй да нашаніўскае пары. Паэта Андрэй Зязюля, хаця й ня быў рэакцыйным пісьменьнікам, аднак прыймаў вельмі нязначны ўдзел у «Нашай Ніве».

Залічаючы, наўсуперак цьверджаньням «Гісторыі БССР», А. Гаруна, Ядвігіна Ш. ды К. Каганца да прагрэсыўных пісьменьнікаў, Ларчанка меў ужо магчымасьць зрабіць гэткі высnaў і ў дачыненьні да самой «Нашай Нівы»:

---

[40] Тамсама.

[41] Гаворачы пра «буйныя палітычныя памылкі», зробленыя «буржуазна-дэмакратычнымі пісьменьнікамі» «пад канец свайго жыцьця», Ларчанка, праўдападобна, мае на думцы «палітычныя памылкі» не ў літаратурнай творчасьці, але ў іхнай палітычнай дзейнасьці. Гэта датычыцца дзейнасьці Алеся Гаруна ў Радзе БНР і Беларускай Вайсковай Камісіі ды Ядвігіна Ш. у аляксюкоўшчыне й балахоўшчыне. Аб гэтым гаворыць зусім выразна такжа й Д. Палітыка ў № 32 «Литературной газеты» за 14 сакавіка 1957 г.: «У артыкуле (М. Ларчанкі — С. С.) не падчырківаецца й не знаходзіць правільнай ацэнкі, прыкладам, бясспрэчны факт, што А. Гарун і Ядвігін Ш. у рашальныя дні змаганьня беларускага народу зь белапольскімі акупантамі апынуліся па тым баку барыкадаў і жыцьцё сваё закончылі на эмігрцыі, у панскай Польшчы».

Гэтая група рэвалюцыйна-дэмакратычных і прагрэсыўных пісьменьнікаў надавала «Нашай Ніве» дэмакратычны характар, рабіла яе папулярнай сярод народу, ставіла важныя пытаньні разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры й літаратуры, словам, рабіла газэту прагрэсыўнай, патрэбнай і карыснай».[42]

Яшчэ паўней і выразьней фармулюе Ларчанка сваю думку ў наступных словах артыкулу:

Крытыкуючы й адкідаючы ўсё буржуазна-рэакцыйоае, нацыяналістычнае, лібэральна-рэфармісцкае ў дзейнасьці «Нашай Нівы», ня трэба закрываць вочы і на тое станоўчае, што рабіла газэта ў галіне разьвіцьця беларускай культуры, мовы, мастацтва і літаратуры.[43]

Не зважаючы на тое, што Ларчанкавы спробы рэгабілітаваць «Нашу Ніву» былі яшчэ вельмі абмежаваныя й асьцярожныя, можна сказаць, кампрамісовыя, былі яны адразу-ж перасечаныя партыйнымі гісторыкамі Л. Абэцэдарскім і А. Сідарэнкам. За няпоўныя два месяцы пасьля зьяўленьня Ларчанкавага артыкулу, выступілі гэтыя гісторыкі на бачынах газэты «Зьвязда» з артыкулам пад вымоўным загалоўкам «За ідэйную чыстоту нашых літаратурных пазыцый».[44] Усе Ларчанкавы довады аб пазытыўнай і прагрэсыўнай ролі «Нашай Нівы» ды аб прагрэсыўным характары творчасьці А. Гаруна, Ядвіга Ш. і К. Каганца яны закваліфікавалі, як адыход ад ленінскіх пазыцыяў. Аўтары артыкулу абвінавацілі Ларчанку ў тым, што «ён пераносіцць спрэчку аб літаратурнай спадчыне гэтых пісьменьнікаў і яе значэньні для разьвіцьця беларускай літаратуры на чыста абстрактную, схалястычную аснову, ігнаруючы па сутнасьці ленінскія прынцыпы партыйнасьці пры ацэнцы літаратурных зьяў».[45] Ня менш войстра было заатакаванае й цьверджаньне Ларчанкі аб тым, што «Наша Ніва» выконвала пазытыўную ролю «ў галіне разьвіцьця беларускай культуры, мовы, мастацтва і літаратуры». Л. Абэцэдарскі й А. Сідарэнка абвінавацілі Ларчанку яшчэ й у тым, што ён «лічыць станоўчымі, карыснымі, прагрэсыўнымі спробы беларускіх буржуазных нацыяналістых падмяніць рэвалюцыйны рух «культурніцтвам», якое ставіла мэтай устанавіць ідэялягічнае панаваньне буржуазіі над рабочымі і сялянамі Беларусі».[46]

Выступленьне М. Ларчанкі ў вабароне «Нашай Нівы» было ўспрынятае партыйнымі гісторыкамі, як нябывалая гэрэзія, што яны абвінавацілі навет газэту «Літаратуру і Мастацтва», якая Ларчанкаў артыкул надрукавала. «Трэба адзначыць, што рэдакцыя газэты «Літаратура і Мастацтва» увогуле не праяўляе неабходнай прынцыповасьці й патрабавальнасьці ў падборы матарыялаў»,[47] — пісалі яны.

---

[42] М. Ларчанка. Цыт. артыкул.
[43] Тамсама.
[44] Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка. За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый». «Зьвязда», № 10, 12 студзеня 1957.
[45] Тамсама.
[46] Тамсама.
[47] Тамсама.

Пастаўленае Ларчанкам пытаньне аб пераглядзе ацэны «Нашай Нівы» й нашаніўцаў сталася прадметам дыскусіі й у пісьменьніцкай арганізацыі. Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Пятрусь Броўка ў сваім дакладзе на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР у сакавіку 1957 году паставіў закід М. Ларчанку, што ён «імкнецца не заўважыць некаторых шкодных зьяў, якія былі ў літаратуры».[48] У дыскусіі падчас гэтага пленуму супраць Ларчанкі выступілі яшчэ пісьменьнікі Кандрат Крапіва й Пятро Глебка.[49] Аднак сам Ларчанка, як паведаміла «Літаратура і Мастацтва», у сваёй прамове на пленуме, «прызнаўшы сваю памылку ў ацэнцы дзейнасьці. А. Гаруна, ён аднак, адстойваў пазыцыю адносна «Нашай Нівы», выказаную ім у артыкуле «Некаторыя пытаньні ў гісторыі беларускай літаратуры».[50]

Гэны-ж самы закід пад адрысам Ларчанкі, што ён у сваім артыкуле «імкнуўся не заўважыць некаторых шкодных зьяў, што былі ў літаратуры», Пятрусь Броўка паўтарыў і два гады пазьней у сваім дакладзе на 4-ым Зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 12 лютага 1959 году.[51] Ды й сам першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі К. Мазураў не прамінуў нагоды, каб на гэным-жа зьезьдзе ня ўспомніць, што «ў некаторых літаратуразнаўчых работах былі і прынцыповыя памылкі», ды паказаць пальцам на Ларчанку, што гэныя памылкі «дапусьціў» якраз ён.[52]

У 1961 годзе выйшла другое «дапоўненае» выданьне «Гісторыі БССР». У гэтым другім выданьні ня толькі былі паўтораныя ўсе закіды супраць «Нашай Нівы» зь першага выданьня 1954 году, але навет былі яны яшчэ больш расшыраныя й завойстраныя. Гэта абазначала, што партыйныя органы цьвёрда прытрымліваліся ранейшых дагматычных пазыцыяў у дачыненьні да «Нашай Нівы», устаноўленых яшчэ ў часе культу асобы Сталіна. Але гэтыя партыйныя пазыцыі нагэтулькі тэндэнцыйныя й супярэчныя зь гістарычнай праўдай, што другое выданьне «Гісторыі БССР» усё-ж не перасекла далейшых спробаў рэвізіі ацэны «Нашай Нівы» й нашаніўства.

## 7. Другая спроба рэгабілітацыі «Нашай Нівы»

Наступную важную спробу перагляду дачыненьняў да «Нашай Нівы» зрабіў Мыкола Верабей у артыкуле «Ленінскі твор на старонках газэты „Наша Ніва"», надрукаваны ў № 2 часапісу «Полымя» за 1963 год. У параўнаньні да выступленьня М. Ларчанкі ў 1956 годзе Мікола Верабей зрабіў вялікі крок наперад. Верабей, зусім не закранаючы пытаньняў культурнае й літаратурнае ролі «Нашай Нівы», што было галоўнай тэмай Ларчанкавага артыкулу, зьвярнуў увагу вылучна на палітычны характар «На-

---

[48] «Літаратура і Мастацтва», № 23, 20 сакавіка 1957.
[49] «Літаратура і Мастацтва», № 24, 23 сакавіка 1957.
[50] Тамсама.
[51] «Літаратура і Мастацтва», 13 лютага 1959.
[52] «Літаратура і Мастацтва», 18 лютага 1959.

шай Нівы» — на ейную публіцыстычную дзейнасьць, паказваючы ўсю тэндэнцыйнасьць савецкіх гісторыкаў у гэтым пытаньні. Зрабіў гэта ня ў форме палемікі зь імі, а ў форме незалежных ад іх собскіх цьверджаньняў, абапёртых на канкрэтных фактах з друкаваных у «Нашай Ніве» артыкулаў.

Паставіўшы тэзу, што публіцыстыя й фактычныя гаспадары «Нашай Нівы» былі рэакцыйнымі буржуазнымі нацыяналістымі, «Гісторыя БССР» у сваім другім выданьні пісала:

> У палітычнай галіне газэта найперш асуджала рэвалюцыйны рух і выступала за падтрыманьне Дзяржаўнай Думы, цераз якую быццам-бы можна дабіцца справядлівых і карысных рэформаў і законаў для народу. Газэта падтрымлівала сталыпінскую хутарызацыю, да якой зводзіла ўсю разьвязку аграрнага пытаньня...
>
> Палітычная лінія «Нашай Нівы» была адбіцьцём палітычнай пазыцыі беларускай буржуазіі. Беларуская буржуазія пасьля рэвалюцыі адкрыта стала на шлях парадажніцтва інтарэсаў нацыянальнай свабоды беларускага народу. У імя сваіх клясавых інтарэсаў яна адмовілася ад усякіх дэмакратычных патрабаваньняў і стала на шлях супрацоўніцтва з царызмам».[53]

Усе гэтыя закіды пад адрысам «Нашай Нівы» ня былі падмацаваныя бадай што ніякімі фактамі або, у найлепшым выпадку, былі абапёртыя на тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў. Затое М. Верабей, паклікаючыся на паасобныя публіцыстычныя артыкулы «Нашай Нівы» й аналізуючы іх, пераконліва даводзіць, што «Наша Ніва» і ў сваёй палітычнай сьціраванасьці была газэтай наскрозь прагрэсыўнай і карыснай. Выходным пунктам быў для М. Вераб'я артыкул «Навуковая сыстэма выціскання поту», зьмешчаны ў № 19 «Нашай Нівы» за 10 травеня 1913 году. Верабей выснунуў цьверджаньне, што гэты артыкул — «гэта разгорнуты пераказ аднайменнага ленінскага твору», які ўпяршыню быў надрукаваны ў бальшавіцкай газэце «Правда» ў № 60 за 13 сакавіка 1913 году».[54] У вабодвых артыкулах — і ў «Правде», і ў «Нашай Ніве» — паказаная эксплятарская існасьць сыстэмы амэрыканскага інжынера Фрэдэрыка Тэйлера. Тэйлер распрацаваў быў цэлую «навуковую» сыстэму, як пры мінімальных затратах павялічыць максімальную прадукцыйнасьць працы работнікаў. У вабодвых артыкулах М. Верабей знаходзіць ня толькі аднолькавыя думкі, але й аднолькавае іх сфармуляваньне. З гэтага ён зрабіў пасьпешлівы выснаў, што быццам «у рэдакцыі («Нашай Нівы» — С. С.) былі людзі, якія падзялялі марксысцкія думкі і таму згадзіліся надрукаваць пераказ ленінскага твору на першай старонцы газэты».[55]

Пры гэтай нагодзе М. Верабей паклікаецца на шмат якія іншыя артыкулы «Нашай Нівы», друкаваныя ў розных гадох (ад 1907 да 1914), у якіх газэта наважана выступіла ў вабароне працоўных, паказвала экспля-

---

[53] История БССР, т. I, 1961, бб. 606–607.
[54] Мікола Верабей. Ленінскі твор на старонках газэты «Наша Ніва». «Полымя», № 2, 1963, б. 133.
[55] Тамсама, б. 135.

атарскі характар сындыкатаў і трэстаў хвабрыкантаў і купцоў, выступала супраць дзейнасьці Сялянскага зямельнага банку, хутарызацыі й перасяленскай палытыкі Сталыпіна ў Сібір ды супраць эміграцыі беларускага сялянства ў Амэрыку. Верабей на канкрэтных дадзеных, узятых з «Нашай Нівы», паказаў, што газэта рэгулярна інфармавала сваіх чытачоў пра забастоўкі ў Расеі й Беларусі. Ён паклікаўся й на некаторыя артыкулы «Нашай Нівы», у якіх войстра крытыкавалася палітыка Дзяржаўнае Думы. На падставе ажно некалькіх артыкулаў «Нашай Нівы» з 1907, 1911 і 1912 гадоў Верабей сьцьвердзіў, што «Наша Ніва» «вельмі войстра выступала супраць шавіністычнай палітыкі царскага ўраду й польскіх памешчыкаў, якія панавалі ў Беларусі, заклікала да дружбы паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяў, пісала, што Беларусам неабходна пазнаваць лепшыя здабыткі навукі й культуры рускага, польскага, украінскага й іншых народаў».[56]

Але выступленьне Вераб'я й ягоныя цьверджаньні аб прагрэсыўным і рэвалюцыйным характары «Нашай Нівы», падобна як і выступленьне М. Ларчанкі, было адразу-ж войстра заатакаваныя партыйнымі аўтарытэтамі. Першым заатакаваў іх былы сакратар, а тады сябра ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, ён-жа й акадэмік Акадэміі навукаў БССР, Ц. Гарбуноў. Выступаючы на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных работнікаў у красавіку 1963 году ў Менску, значную частку сваёй прамовы ён прысьвяціў крытыцы быццам памылковых паглядаў некаторых навуковых працаўнікоў на газэту «Наша Ніва», перадусім крытыцы артыкулу Вераб'я. Надрукаваньне гэтага артыкулу ў «Полымі» Гарбуноў схарактарызаваў, як «буйную памылку», а паступак ягонага аўтара — як «абуральны». Вось найбольш вымоўныя словы Гарбунова, прыведзеныя часапісам «Коммунист Белоруссии» паводля стэнаграфічнага запісу ягонае прамовы:

> У гістарычна-літаратураведных працах і падручніках зь гісторыі літаратуры ўжо даўно дадзеная навуковая абаснаваная ацэна гэтай газэты. Я ня буду паўтараць партыйнага друку, дзе «Наша Ніва» характарызуецца, як лібэральна-буржуазная газэта. Гэтая газэта прапагавала шлях дробных лібэральных рэформаў у разьвязаньні заданьняў буржуазнай рэвалюцыі. Кіраўнікі «Нашай Нівы» былі буржуазнымі нацыяналістымі — Антон і Іван Луцкевічы, яны былі выхаджэнцамі з памешчыкаў і ў пэрыяд сацыялістычнай рэвалюцыі зусім прыродна апынуліся ў лягеры контррэвалюцыі».[57]

Гарбуноў зазначыў, што памылка Вераб'я «выплывае зь ягонай тэарэтычнай нясьпеласьці, зь вельмі слабага, павярхоўнага веданьня прадмету, пра які ён узяўся пісаць».[58]

Месяц пазьней прыйшлі на дапамогу Ц. Гарбунову партыйныя гісторыкі — супрацоўнікі Інстытуту Філязофіі й Інстытуту Гісторыі Акадэ-

---

[56] Тамсама, б. 136.

[57] Противоречивые суждения по одному вопросу. «Коммунист Белоруссии», № 9, 1964, б. 74.

[58] Тамсама.

міі Навукаў БССР. Яны, у колькасьці чатырох — Л. Абэцэдарскага, О. Ефрэмава, Е. Карнейчука й К. Шабуні — надрукавалі ў № 5 «Коммуниста Белоруссии» за 1963 год супольны артыкул пад загалоўкам «Наперакор гістарычным фактам».

Ужо адно калектўнае аўтарства артыкулу паказвае, што ён мусіў быць інсьпіраваны зьверху — партыйнымі органамі. Артыкул пачынаецца катэгарычным цьверджаньнем, што «пытаньне аб клясавым і палітычным твары газэты «Наша Ніва» ў літаратураведнай і гістарычнай літаратуры трэба ўважаць разьвязаным».[59] Партыйныя аўтары цьвердзяць далей, што надрукаваны ў «Нашай Ніве» артыкул «Навуковая сыстэма выціканьня поту» быў не «разгорнутым пераказам аднайменнага ленінскага твору», як даводзіў М. Верабей, але кампіляцыяй адпаведных артыкулаў з кадэцкай газэты «Речь» і меншавіцкай газэты «Луч», якія дзеля чыста тактычных меркаваньняў таксама выказвалі на сваіх бачынах радыкальныя думкі. Што-ж датычыць усіх іншых выступленьняў «Нашай Нівы» ў вабароне працоўных масаў Беларусі, дык партыйныя гісторыкі кваліфікуюць іх, як «лібэральнае, дэмагагічнае заігрываньне з работнікамі й сялянамі, ігру ў дэмакратызм у ўгоду буржуазіі й ейных клясавых інтарэсаў».[60]

Вельмі характэрна інтэрпрэтуюць партыйныя гісторыкі нацыянальную праграму «Нашай Нівы»:

> Праграмным патрабаваньнем «Нашай Нівы» ў нацыянальным пытаньні быў лёзунг «нацыянальна-культурнай аўтаноміі». Пашыраньне лёзунгу «нацыянальна-культурнай аўтаноміі» прадстаўляла сабой найбольш тонкі («утонченный») і таму найбольш шкодны нацыяналізм. Гэты лёзунг абманываў працоўных прывідам адзінства нацыі. Падпарадкаваць працоўных буржуазнай культуры, якая падавалася за культуру ўсяго беларускага народу, разгарадзіць працоўных паводля нацыянальнага прывіду з тым, каб весьці іх на повадзе буржуазіі — гэткую мэту ставілі гаспадары «Нашай Нівы».[61]

Паказаўшы супярэчнасьці з партыйнымі догмамі ў шмат якіх выступленьнях «Нашай Нівы», аўтары калектыўнага артыкулу робяць гэткі высноў:

> ...М. Арабей у сваім артыкуле не патрапіў правільна разабрацца ў гістарычных фактах, даць партыйную ацэну важным грамадзкім зьявам мінулага. Ягоная памылковая спроба выдаць буржуазна-лібэральную й нацыяналістычную «Нашу Ніву» за рэвалюцыйную газэту, якая быццам-бы прапагавала марксыцкія ідэі ў Беларусі, ня толькі выкрыўляе гістарычную праўду, але, калі яе пакінуць бяз увагі, можа ўнесьці шкодную блытаніну ў гістарычна-эканамічную й літаратураведную навуку.[62]

---

[59] Л. Абецедарский, О. Ефремова, Е. Корнейчук, К. Шабуня. Вопреки историческим фактам. «Коммунист Белоруссии», № 5, 1963, б. 64.

[60] Тамсама, б. 66.

[61] Тамсама, б. 67.

[62] Тамсама, б. 69.

Як-жа тады аб'ектыўна ацаніць цьверджаньні М. Вераб'я аб прагрэсыўным і рэвалюцыйным характары палітычнае лініі «Нашай Нівы»?

На нашую думку, не падлягае ніякаму сумлеву, што выснаў, які робіць М. Верабей аб тым, што артыкул «Навуковая сыстэма выцісканьня поту», зьмяшчаны ў «Нашай Ніве», быў «разгорнутым пераказам аднайменнага ленінскага твору» й што ў Рэдакцыі «Нашай Нівы» «былі людзі, якія падзялялі марксыцкія думкі», пасьпешлівы й неабаснаваны. Калі сыстэме амэрыканскага інжынера Тэйлера прысвячалі шмат увагі навет кадэцкія й меншавіцкія газэты, як сьцьвярджаюць і партыйныя гісторыкі, дык «Наша Ніва», як газэта высока прагрэсыўная, і пагатове не магла абмінуць маўчаньнем гэтага пытаньня. Гэта тым больш, што ў гэным часе шмат безьзямельных і малазямельных беларускіх сялянаў у пошуках кавалка хлеба масава выэмігроўвала ў Амэрыку, і «Наша Ніва» жыва цікавілася іхнай доляй за акіянам. Таму зусім нармальна, што артыкул «Навуковая сыстэма выцісканьня поту» мог зьявіцца ў «Нашай Ніве» зусім незалежна й бязь ніякай сувязі з артыкулам Леніна. Затое М. Верабей зусім аб'ектыўна й у поўнай згодзе зь гістарычнай праўдай сьцьвердзіў, што «Наша Ніва» ўва ўсіх актуальных і надзённых тады сацыяльных і палітычных пытаньнях заўсёды выступала ў вабароне беларускага працоўнага народу. Такая палітычная ськіраванасьць «Нашай Нівы» ня мела, аднак, нічога супольнага ані з марксізмам, ані наагул з бальшавіцкім рухам. Наадварот, яна заставалася ў поўнай згодзе з праграмай Беларускай Сацыялістычнай Грамады й выцякала зь ідэйных асноваў беларускага нацыянальнага адраджэньня нашаніўскае пары.

## 8. Трэйцяя спроба рэгабілітацыі «Нашай Нівы»

Трэйцяя й на сяньняшні дзень апошняя спроба рэгабілітацыі «Нашай Нівы» й нашаніўства выйшла ад успомненага ўжо Ц. Гарбунова ў 1964 годзе, таго Гарбунова, які год назад, як ужо гаварылася, выступаючы на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных работнікаў у красавіку 1963 году ў Менску, войстра заатакаваў і «Нашу Ніву», і ўсіх тых, што патрабавалі ейнае рэгабілітацыі. Пры гэтым, ня ў прыклад сваім папярэднікам, якія, як М. Ларчанка й М. Верабей, задавольваліся адно часткавай рэвізіяй дачыненьняў да «Нашай Нівы», Гарбуноў першы зрабіў спробу рэгабілітаваць яе поўнасьцяй.

Свае пагляды Гарбуноў выказаў у артыкуле, зьменшчаным у першым томе выдадзенай у 1964 годзе ў Маскве юбілейнай кнігі, прысьвечанай 400-годзьдзю расейскага друку.[63] Ён даў кароткі агляд і ацэну ня ўсіх газэтаў, што выходзілі ў дарэвалюцыйным часе ў Беларусі, а толькі газэт бальшавіцкіх і тых, што спадарожнічалі, як ён выражаецца, з бальшавіцкім рухам ды наагул мелі «прагрэсыўны» характар. Выходзячы з гэтага прынцыпу, аўтар засярэджваецца адно на трох газэтах ды іхных ад-

---

[63] Т. С. Горбунов. Книгопечатание в Белоруссии конца XIX — начала XX в. «400 лет русского книгопечатания. 1564—1964». Академия наук СССР. Отделение истории. Издательство «Наука», т. I, Масква, 1964.

меньніках, выдаваных з розных прычынаў, перадусім цэнзурных, пад іншымі назовамі. За першую газэту Гарбуноў уважае «Северо-Западный Край», што выходзіла ў Менску ад 1902 году, а ад 1905 году «знаходзілася пад вялікім уплывам рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі»,[64] далей «Нашу Ніву», якую ацэньвае, як «саюзьніка бальшавіцкага друку ў тыя часы»,[65] ды чыста бальшавіцкую газэту «Зьвязда», што была створаная М. В. Фрунзам і А. Ф. Мясьніковам і выходзіла ў Менску ад 27 чэрвеня 1917 году.[66]

Варта прывесьці тыя прынцыповыя ацэны «Нашай Нівы», якія дае ёй Гарбуноў. Ён піша:

> У гісторыі змаганьня беларускага народу за стварэньне сваёй дзяржаўнасьці (пад гэтай «сваёй дзяржаўнасьцяй», ясна, Гарбуноў мае на думцы пазьнейшую савецкую дзяржаўнасьць — С. С.), а таксама за стварэньне народнай нацыянальнай літаратуры й культуры «Наша Ніва» згуляла важную ролю. Яна імкнулася несьці ідэі нацыянальнай свабоды й незалежнасьці ў васяродзьдзе сваіх чытачоў, сталася цэнтрам беларускай літаратуры . . .[67]
>
> Калі ўзяць на ўвагу, што бальшыня народу была няграматнай, а польская й расейская інтэлігенцыя ня прыймала ўдзелу ў гэтай газэце, дык можна зрабіць выснаў, што амаль кажны граматны Беларус стараўся супрацоўнічаць у газэце. Газэта мела цесную сувязь з народнымі масамі, заўсёды імкнулася яе ўмацаваць і расшыраць . . .[68]
>
> Газэта «Наша Ніва» памагала разьвіцьцю рэвалюцыйнай сьведамасьці працоўных масаў. Яна праводзіла значную работу сярод салдатаў фронту, што праходзіў у Беларусі . . .[69]
>
> «Наша Ніва» прапагавала ідэю задзіночанага змаганьня ўсіх працоўных супраць царызму . . .[70]

З прыведзеных цытатаў, як і іншых выснаваў Гарбунова бачым, што ён цяперака поўнасьцяй адклікаў усе свае абвінавачаньні супраць «Нашай Нівы» й усіх тых, што патрабавалі ейнае рэгабілітацыі, і вызнаў «Нашу Ніву» за прагрэсыўную й рэвалюцыйную газэту. У ягоным артыкуле ўжо не знаходзім ані ценю крытыкі «Нашай Нівы», нямашака ў ім навет напаміну аб тым, што «Наша Ніва, хоць-бы часткава й хоць-бы адно ў некаторых пытаньнях і друкаваных у ёй публіцыстычны артыкулах, выяўляла рэакцыйны або буржуазна-нацыяналістычны характар.

Мала гэтага. Як ведама, усе тыя гісторыкі й літаратуразнаўцы, што асуджаюць «Нашу Ніву», залічваюць выдатнага нашаніўца Алеся Гаруна да групы рэакцыйных буржуазна-нацыяналістычных паэтаў і спыняюць уся-

---

[64] Тамсама, б. 565.
[65] Тамсама, б. 566.
[66] Тамсама, б. 568.
[67] Тамсама, б. 565.
[68] Тамсама, б. 566.
[69] Тамсама.
[70] Тамсама.

кія спробы ягонае рэгабілітацыі, робленыя аж да апошняга часу. Вось-жа Гарбуноў гэтага вырозьніваньня ў дачыненьні да Алеся Гаруна ўжо ня робіць і ставіць яго ў вадным радзе з г. зв. прагрэсыўнымі рэвалюцыйнымі дэмакратамі. Ён піша: «На ейных («Нашай Нівы» — С. С.) бачынах друкаваліся Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, Максім Багдановіч. Алесь Гарун і іншыя».[71]

Дзеля таго, што Ц. Гарбуноў, як былы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, а сяньня сябра ЦК, належыць да партыйных вярхоў у Беларусі, здавалася, што ягоная цяперашняя выдатна пазытыўная ацэна «Нашай Нівы» й нашаніўства — гэта ацэна й самой партыі. Аказваецца, нічога падобнага. У вадказ на ягоны артыкул зьявіўся ў № 9 за верасень 1964 году органу ЦК Камуністычнай партыі Беларусі «Коммунист Белоруссии» артыкул пад загалоўкам «Супярэчлівыя меркаваньні пра адно пытаньне». Артыкул нікім не падпісан, значыцца рэдакцыйны. У ім, між іншым, чытаем:

> Супярэчлівыя меркаваньні тав. Гарбунова пра адзін і той самы прадмет у шмат якіх чытачоў выклікалі скрайняе зьдзіўленьне. І гэта прыродна. Бо-ж такія самавольныя тлумачэньні толькі дэзарыентуюць грамадзкасьць, уводзяць блытаніну ў навуку. Узьнікае законнае пытаньне: у што-ж верыць, што ў большай ступені адказвае праўдзе — ці тое, што гаварыў тав. Гарбуноў вясной мінулага году на нарадзе, ці тое, што зьмяшчаецца ў ягоным артыкуле, апублікаваным у кнізе ў бягучым годзе?[72]

І тут-жа на гэтае пытаньне даецца й нядвузначны адказ:

> Нам здаецца, што перад тым, як высоўваць які-небудзь новы прынцып ацэны, трэба давесьці няправільнасьць або ўстарэласьць прынцыпу, што існаваў раней. А ў дадзеным выпадку папярэдняя ацэна «Нашай Нівы», як цьвердзіў і сам тав. Гарбуноў, зьяўляецца «навукова абаснаванай». Які-ж сэнс сяньня адкідаць гэтую навукова абаснаваную ацэну «Нашай Нівы» й высоўваць якуюсь новую? Тым больш, што яна нічым не абаснованая — ні аналізам канкрэтных матарыялаў, надрукаваных у газэце, ні архіўнымі дакумэнтамі.[73]

У нармальных абставіах, дзе існуе свабода навуковай думкі, такі дыскрэдытуючы й вызываючы артыкул, як у «Коммунисте Белоруссии» супраць Гарбунова, ня мог-бы астацца без адказу. Тымчасам, мінула ўжо многа часу, як гэны артыкул быў надрукаваны, а Гарбуноў так і ня даў ніякага адказу на яго. Гэта абазначае, што ў пытаньнях «Нашай Нівы» й нашаніўства артыкулам у «Коммунисте Белоруссии» партыя сказала сваё апошняе аўтарытэтнае слова й гэтым перасекла ўсякую далейшую дыскусію. Тым ня меней, скрайна супярэчлівыя пагляды на гэтае пытаньне на партыйных вярхох — гэта вельмі характэрная й сымптаматычная зьява для сяньняшняй палітычнай сытуацыі ў Савецкім Саюзе.

---

[71] Тамсама, б. 565.

[72] Противоречивые суждения по одному вопросу. «Коммунист Белоруссии», № 9, 1964, б. 75.

[73] Тамсама, б. 75.

Астаецца тады пытаньне, чаму Гарбуноў на працягу ўсяго аднаго году гэтак дыямэтральна зьмяніў свае пагляды? Калі-б ён меў магчымасьць адказаць на артыкул «Коммуниста Белоруссии», дык быў-бы змушаны адказаць і на гэтае пытаньне. Дзеля таго, што гэтага ён не зрабіў, астаецца адно дадумляцца, што ў першым сваім выступленьні супраць «Нашай Нівы» на нарадзе ідэялягічных работнікаў Гарбуноў, як гісторык, ня быў шчыры й, вінавацячы «Нашу Ніву» ў нязробленых ёй праступках, стараўся папасьці ў тон генеральнай лініі ў гэтым пытаньні. Адклікаючы-ж у сваім другім выступленьні ўсе ранейшыя абвінавачаньні, пастаўленыя ім пад адрысам «Нашай Нівы», Гарбуноў, відаць, уважаў, што ўжо, у сувязі з агульным працэсам лібэралізацыі палітычнага курсу, насьпеў час сказаць пра «Нашу Ніву» й нашаніўства аб'ектыўную праўду. Аказалася, аднак, што з гэтай сваёй рэвізіяй ацэны «Нашай Нівы» Гарбуноў пасьпяшыўся.



Справа асуджэньня «Нашай Нівы» й спробы ейнае рэгабілітацыі высоўвае яшчэ іншае, кардынальнае й прынцыповае пытаньне. Пададзеныя вышэй асуджэньні «Нашай Нівы», зробленыя «Гісторыяй БССР» й пазьней паўтораныя й разгорнутыя групай партыйных гісторыкаў, былі сфармуляваныя яшчэ ў часы г. зв. культу асобы Сталіна й мелі ўсе характэрныя азнакі гэтага культу. Сяньня-ж, пасьля афіцыйнага асуджэньня культу Сталіна й сталінізму, адбываецца ў БССР, як і ў цэлым Савецкім Саюзе, даволі шыбкі працэс лібэралізацыі палітычнага курсу й звьязаны зь ім працэс рэгабілітацыі асуджаных і здэградаваных раней культурных каштоўнасьцяў нерасейскіх народаў. У Беларусі сяньня ўжо зрэгабілітаваныя імёна й некаторы творы некалькіх дзесяткоў паэтаў і пісьменьнікаў, зьліквідаваных або ізаляваных у часы сталінскага тэрору, дзеячоў іншых галінаў мастацтва й культуры, навет некалькіх палітычных дзеячоў Беларусі. Адбываецца таксама працэс рэгабілітацыі плянава й сыстэматычна русыфікаванае раней беларускае літаратурнае мовы й навукі аб Беларусі й ейнай мінуўшчыне.

Артыкул у «Коммунисте Белоруссии», аднак, сьветчыць, што, дапускаючы магчымасьць рэгабілітаваньня шмат якіх нацыянальных каштоўнасьцяў і дзялянак нацыянальнага жыцьця, у дачыненьні да «Нашай Нівы» й нашаніўства партыя яшчэ цьвёрда стаіць на сталінскіх пазыцыях. Тым ня меней, няма падставаў думаць, што артыкул «Коммуниста Белоруссии» — гэта апошні й нязьменны голас у справе «Нашай Нівы». Гэтая справа нагэтулькі важная й для гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня, нагэтулькі прынцыповая й ключавая, а ўсе партыйныя асуджэньні «Нашай Нівы» й нашаніўства нагэтулькі тэндэнцыйныя й ненавуковыя, што пытаньне перагляду дачыненьняў да Нашай Нівы», трэба спадзявацца, напэўна будзе ўзноў пастаўленае на парадку дня.

# Да пытаньня пра месца Праньцішка Багушэвіча ў гісторыі беларускае літаратуры

Ант. Адамовіч

1965 год — год 125-годзьдзя ад дня нараджэньня, а 65-годзьдзя ад дня сьмерці Праньцішка Багушэвіча — папраўдзе, мусіў-бы стацца для нас «багушэвіцкім годам». Ня варта загадвацца наперад над тым, як выпадзе гэты год на бацькаўшчыне й у замежжы беларускім, хочацца адно ня вельмі прыпазьніцца із злажэньнем хоць невялічкае свае данінкі ў дэпазыт гэтаму году, прычыняючыся гэтта да насьвятленьня пытаньня пра месца Праньцішка Багушэвіча ў гісторыі беларускае літаратуры. Пытаньне-ж гэтае — ня толькі завяршальнае пытаньне ацэны Багушэвічавае спадчыны, але й кардынальнае пытаньне навуковае пабудовы самое гсторыі беларускае літаратуры, дык заадно дасца мо хоць неяк прычыніцца й да гэтае апошняе вялікае справы, для якое калі не на год, то на нейкую адмысловую «пяцігодку», была-б найвышэйшая ужо пара.

Што Багушэвічу належыцца вылучнае й вызначальнае месца ў гісторыі беларускае літаратуры — так ці накш вычувалі й адзначалі ўсе, каму толькі даводзілася мець нейкае дачыненьне да гэтае галіны веды. Найадпавяднейшае аднак да абраза навукова ўнятае гісторыі беларускае літаратуры вызначэньне Багушэвічавага месца ў ёй, хоць адразу й у вельмі скрайнім, завойстраным і ўжо таму ня зусім дакладным першым сфармуляваньні, даў Адам Бабарэка. У 1927 г., у артыкуле «Аб разуменьні мастацкай творчасьці й аб некаторых пытаньнх у вывучэньні беларускае літаратуры», уводным да першае вялікае працы крытыка (пра паэзію Уладзімера Дубоўкі), у заключным разьдзеле (VII), Бабарэка ўпяршыню сьцьвердзіў: «Фактычна, гісторыя беларускае літаратуры пачынаецца з пары Ф. Багушэвіча», крыху далей надаўшы Багушэвічу «такое-ж значаньне, якое мае Тарас Шэўчэнка ў гісторыі ўкраінскай літаратуры. Ня дарма некаторыя лічаць Ф. Багушэвіча, і не без падставы, бацькам беларускае літаратуры» і яшчэ крыху далей канчальна замацаваўшы тэзаю:

«З Багушэвіча пачынаецца *жыцьцё* (падчыркнена ў арыгінале. А. А.) беларускай літаратуры, якое выносіць на сьвет такіх таленавітых паэтаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля й інш.».[1]

За пару год па тым, у сваіх лекцыях у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце Адам Бабарэка канчальна ўдакладніў сваю тэзу, замяніўшы крыху непрадумана, неадпаведна ўжытыя ім у першых сфармуляваньнях тэрміналягічныя словазлучэньні «гісторыя беларускае літаратуры», «беларуская літаратура» ды напоўмэтафарычны выраз «жыцьцё беларускае літаратуры» зусім дакладнай тэрміналягічнай формулай *беларускі літаратурны працэс,* у вадпаведнасьці да тае агульнае канцэпцыі гісторыі літаратуры, да якое прыйшоў пад той час крытык. Пры гэткім удакладненьні Бабарэкава тэза зводзілася-б ужо да прызнаньня таго, што «фактычна беларускі літаратурны працэс пачынаецца з пары Ф. Багушэвіча», што Багушэвіча трэба ўважаць «бацькам беларускага літаратурнага працэсу» ды што «з Багушэвіча пачынаецца беларускі літаратурны *працэс,* які выносіць на сьвет такіх паэтаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля й інш.».

Канцэпцыя літаратурнага працэсу, у роўніцы якой Адам Бабарэка канчальна сфармулваў сваё вызначэньне месца Франьцішка Багушэвіча ў гісторыі бларускае літаратуры, разглядалася ім як аснова для навуковае пабудовы гісторыі беларускае літаратуры, з заданьнем якое ён беспасярэдня й практычна сутыкнуўся, пачаўшы кіраваньне сэмінараў і чытаньне лекцыяў з гэтае галіны ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску ад 1928—29 акадэмічнага году. Тагачасны кіраўнік катэдры гісторыі беларускае літаратуры ў унівэрсытэце, прафэсар М. Пятуховіч, асыстэнтам якога афіцыйна лічыўся Бабарэка, быў тады ў самым гарце свае «перабудовы» на грунт сацыялягічнае марксыстаўскае мэтадалёгіі літаратуразеды, афіцыйна й катэгарычна вымаганае ад усіх. «Перабудова» гэная дайшла ўжо ў прафэсара да таго, што ён больш не ўспамінаў ня толькі пра якуюнебудзь «характарыстыку літаратурнага працэсу на Беларусі», як некалі яшчэ на Акадэмічнай канфэрэнцыі ў 1926 г., але й пра якія-хоць працэсы, хай сабе й сацыяльна-эканамічныя, да якіх тады прывязваў літаратурныя факты, як іхныя ідэялягічныя адлюстроўкі,[2] а цяпер само ўважаньне іх за працэсы, нешта нясталае й зьменлівае, пачаў хіба ўспрыймаць як нейкае паніжэньне непарушнага й нярухомага абсалюту ўсевызначальнае марксапляханаўскае «социяльна-эканамічнае базы».

Пэўна-ж, ува ўсім гэтым прафэсар Пятуховіч ня быў ані першым ані адзіным, ён проста засвойваў як мог сярэднюю лінію тагачаснае савецкае літаратураведы, што ймкнулася (дакладней — змушалася ймкнуцца) як мога стацца «марксыцкай», прычым «марксыцкасьць» гэная стаяла тады пад знакам неразьвенчанага яшчэ, хоць і на самым пярэдадні такога разьвенчаньня, Пляханава. Фактычна-ж і практычна ўсё ейнае «пляханаўства»

---

[1] Гл. часапіс *Узвышша,* Менск, 1927, бб. 143, 144.

[2] Гл. у нашым артыкуле «Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры» ў папярэдняй кнізе. (*Запісы,* Мюнхэн, 1963, кн. 2, б. 55).

зводзілася тады да двух установішчаў, вызнаваных за кардынальныя: да палажэньня пра «сацыяльна-эканамічную базу» й «ідэялягічныя надбудовы» над ёй, у якім было дадзенае ў гэткіх мэтафарычных тэрмінах разгортаньне асноўнае формулы марксавага матарыялізму «быцьцё вызначае сьведамасьцьца», ды да высноўнага адсюль палажэньня пра знаходжаньне «сацыялягічнага эквіваленту», «ідэялягічных», «надбудоўных» зьяваў і фактаў як пра мэту дасьледваньня іх, а знакам тым — і мэту літаратурнае крытыкі ды літаратуразнаўцы. Няйначай як мэтафарычная тэрміналёгія Пляханава тут, выклікаючы ўяўленьне пра гатовую «будыніну» з «базаю» й «надбудовамі», як нейкую «нярухомасьць», а не пра само «будаваньне» й «надбудоўваньне», не пра працэс (пра які выразны ход у сухіх, ды дакладных тэрмінах марксавае формулы, асабліва ў сярэднім дзеяслове «вызначае»), і сугэравала сярэдняму савецкаму літаратураведу, прафэсару Пятуховічу ў тым ліку, статычнасьць іхнага падыходу з фактычным адмаўленьнем ад канцэпцыі працэсу ў тарнаваньні як да «надбудоваў», так нат і да самое «базы». З другога боку, формула «эквіваленту» магла сугэраваць і кірунак гэтага падыходу ад «базы», як ад гіерархічна першага й вызначальнага носьбіта самое, так-бы сказаць, «валентнасьці» — да шуканьня «эквівалентаў» ёй у гіерархічна другаплянавых і ёю-ж вызначваных «надбудовах», а не наадварот, як гэтага патрабаваў-бы сэнс словазлучэньня «сацыялягічны эквівалент», у дадзеным канкрэтным выпадку — кірунак ад сацыялёгіі да літаратуры, а не наадварот, да нейкага «літаратурнага эквіваленту» сацыялягічных тэзаў, а не да самога таго пляханаўскага «сацыялягічнага эквіваленту» літаратурных зьяваў і фактаў. Зразумела, што пры гэткіх абставінах гісторыя літаратуры не магла прэтэндаваць на годнасьць навет «або сацыяльнае гісторыі, або гісторыі думкі, як яна праілюстраваная ў літаратуры ... або гісторыі цывілізацыі»[3], а проста абарачалася нейкай запраўднай антыгісторыяй, прытым і не зь літаратурай, а з сацыялёгіяй як асноўным аб'ектам цікавасьці.

І ня менш зразумела, што займацца гэткай, у існасьці, антынавуковай дзейнасьцяй Адам Бабарэка проста ня мог, і таму адразу-ж з афіцыйнага асыстэнта прафэсара Пятуховіча стаўся поўным ягоным апанэнтам. У аўтара гэтых радкоў сярод жмені папераў, прыемным выпадкам выцалелых з усіх жыцьцёвых перагасаў, захаваліся ягоныя студэнцкія запісы з апошняга Бабарэкавага курсу, чытанага ім у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску зусім напярэдадні арышту абодвых, і лектара й слухача, паміж іншых «нацдэмаў» (у вадну й тую-ж ноч з 24 на 25 ліпеня 1930 г.). Курс быў пад афіцыйным назовам «Сучасная беларуская літаратура» й чытаўся ў травені-чырвені 1930 г. на тагачасным IV курсе літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьня пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, запісы ведзеныя ў звычайнай тады аўтару як студэнту канспэктыўнай, сынаптыкальнай форме занатоўваньня асноўных тэзаў.[4] У запісе

---

[3] Тамсама, б. 76.

[4] Захаваўся запіс уводнае лекцыі (на асобным шматку паперы, бяз даты) і наступных па ёй лекцыяў, задатаваных 27, 29 травенем ды 8, 28, 29 чырвенем 1930 г. (у сшытку, першыя балоны якога пакінутыя пустымі на плянаваны перанос на іх запісу ўводнае лекцыі із таго шматка, так і ня зроблены. Усе запісы перадаюцца ў архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку).

першай, уводнай лекцыі да курсу, пад першай-жа рубрыкай «Азначэньне сучаснае беларускае літаратуры», у заключным пункце 5 занатавана:

> 5. Літаратура як ператварэньне матар'яльнага ў ідэальнае[5]. Літаратура як працэс, а ня рэч[6]. Законы руху як формы быцьця матэрыі. Твор як зьняты працэс (вынік і зьнятая прычына ў ім). Літаратурны працэс у папярэчным разрэзе — як працэс тварэньня-адтварэньня (твор — другі, сярэдні тэрмін у ім між крайніх: першага — творцы-аўтара ды трэйцяга — адтваральніка — чытача й крытыка, чытача-крытыка)[7]. Літаратурны працэс у наўздоўж-

---

[5] Гэтую тэзу Бабарэка выставіў, паклікаючыся пры тым на адно з выказваньняў Караля Маркса, у сваім дакладзе на трэйцім гадавым сходзе беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Узвышша» 26 травеня 1929 г. у Менску, выдрукаваным у часапісе *Узвышша*, № 6 за 1929 г., пад загалоўкам «Узвышэнская паэзія (Аналіз паняцьця)» (гл. разьдзел IV, на б. 88). Яшчэ больш разьвіваў ён яе ў дакладзе на наступным, чацьвертым гадавым сходзе згуртаваньня 26 травеня1930 г., але тэкст гэтага дакладу (пад загалоўкам «Паэзія як уяўленьне») ня быў ужо прапушчаны цэнзураю да друку й пасьля стаўся аб'ектам зьдзеку высакапастаўленага партыйнага крытыка якраз за гэтую тэзу й нат за Марксавыя словы ў ёй (пра гэта гл. у нашым артыкуле, паданым вышэй у зносцы 2, на б. 93).

[6] Калі гэтыя тэзы пра літаратуру як працэс, а ня рэч, не расьціну, Бабарэка разьвіваў яшчэ год раней, на кіраваным ім сэмінары зь беларускае літаратуры XJX в., студэнты падалі яму, што якраз і праф. П. Бузук у сваіх лекцыях з моваведы згадваў пра крытыку традыцыйных уяўленьняў пра мову як пра рэч, расьціну, арганізм, а не працэс, у тагачаснай заходняй лінгвістыцы. Добра памятаецца, як Бабарэка, зацікаўлены (і пэўна-ж, задаволены) гэткім неспадзяваным падтрыманьнем, тут-жа зазначыў, што гэта зусім супадае зь ягонай лініяй, бо літаратура, як паясьніў ён, ужо нат паводля этымалёгіі слова — збор літараў, ці бо значкоў, што замацоўваюць пісьмова гукі мовы, — значыцца, мову наагул, дык у найбольш агульным сэньсе літаратура — гэта найперш мова, адно замацаваная ў літарах. Ужо апыніўшыся ў ЗША, колькі год таму давялося набрысьці на адпаведнае выказваньне ведамага лінгвістага, праф. Отто Еспэрсэна, і якраз прыблізна з таго-ж часу (з 1928 г.) з крытыкаю уяўленьняў пра мову як пра «нейкую самаісную рэч або субстанцыю, або — ужыўшы часта ўжываны выраз — як пра арганізм, што жыве й памірае як нейкая расьціна ці кажны іншы арганізм» (гл. Otto Jespersen. *Mankind, Nation and Individual from a Linguistic Point of View,* Harvard University Press, 1928, p. 4). Да гэтага выказваньня амэрыканскі аўтар найгрунтаўнейшага й найпраніклівейшага дасьледваньня пра прыроду літаратуры (дзе й напаткалася цытата з гэтым выказваньнем упяршыню) зазначае: «Еспэрсанаў прыціск гучыць важнай перасьцярогай супраць тэндэнцыі глядзець на верш або на раман як на нейкую рэч, жывую й закончаную ў сабе», і крыху далей: «Добрае правіла, каб высьцерагчыся вялікае памылкі ў думаньні пра літаратуру — гэта папытацца, калі толькі выглядае, што стала станьгом ці абарачаецца ў крытычную недарэчнасьць: „А ці разглядае гэты ход думкі літаратурныя творы як *рэчы,* ці як часткі людзкіх працэсаў?"» (Thomas Clark Pollock. *The Nature of Literature*. Princeton University Press, Princeton, 1942, pp. 13, 14, падчыркваньне ў арыгінале).

[7] Цікава прыраўнаваць да тэзы цытаванага кагадзе (у папярэдняй зносцы [6]) амэрыканскага аўтара: «Працэс, зь якім мы маем дачыненьне ў літаратуры, складаны, а складаецца ня толькі зь літаратурнага „твору", што становіць другую фазу цэлага працэсу, але таксама зь дзейнасьці пісьменьніка, што становіць першую фазу, і з водгуку чытача, што становіць трэйцюю» (цытаваная праца на б. 203). Трэба дакінуць таксама, што як і гэты аўтар (асабліза на наступных па цытаванай балонах 203—206), Адам Бабарэка заўсёды вялікую ўвагу аддаваў на «трэйці тэрмін» (ці «фазу») — на чытача (а за ім, у Бабарэкі, і крытыка — «адтваральніка» наагул). Гэты аспэкт зўсёды закранаўся ў ягоных разглядах асоб-

ным разрэзе — як зьвязнасьць і цягласьць (дадатная або адмоўная — праз антытэзу, адпіханьне, адмаўленьне) раду літаратурных твораў (няма гэтага — няма літаратурнага працэсу — няма *літаратуры*, адно літаратурныя творы, рад твораў найвышэй).

Пад наступнай рубрыкай — «іншыя пагляды» — у пункце 2 запіс:

> 2. Літаратура як расьціна.[7a] Адмоўленьне літаратурнага працэсу. Літаратура як нарост. Адмаўленьне разьвіцьця базы й надбудовы — адно зьмена базы, якая стылізуецца ў надбудове. Адмаўленьне шляху ад надбудовы да базы — ад літаратуры да сацыялягічнага эквіваленту — адно ад базы да надбудовы, ад сацыялёгіі да «літаратурнага эквіваленту» (адмаўленьне навук пра надбудовы — пра літаратуру).

Напрыканцы уводзінаў у курс, у трэйцяй лекцыі (29 траўня 1930 г.) яшчэ адзін запіс з разьвіцьцём тых-жа тэзаў:

> Твор як вынік працэсу (зьняты працэс) і пачатак новых працэсаў. Твор як выражэньне літаратурнага працэсу ў папярэчным разрэзе яго — як сярэдні тэрмін, у якім зьнятыя й абодвы крайнія (першы — аўтар — застаўся, зьняўся, трэйці — адтваральнік — дастаўся праз аўтара — як чытач, на якога аўтарава арыентацыя, так ці іначай засьветчана ў творы; часам — як і частковы суаўтар, калі

---

ных твораў у форме рэцэньзіяў (прыкладам, на аповесьць Зьмітрака Бядулі «Салавей» — гл. часапіс *Узвышша*, № 2 за 1929 г., на б. 97, або на паэму Якуба Коласа «Новая Зямля», у тым-жа часапісе, № 3 за 1929 г., на б. 101, або на раман Кузьмы Чорнага «Зямля» — пашыраная рэцэньзія — «нарыс сынтэтычнага разуменьня твору» — у тым самым часапісе, № 4 за 1929 г., на б. 78—79), або ў вагульных аглядах (як, прыкл., «Беларуская літаратура да X гадавіны БССР», *Узвышша*, № 6, за 1928 г., на б. 101—102; прынцыповыя выказваньні маем і ў згадванай працы пра паэзію Уладзімера Дуброўкі, у цытаваным уводным артыкуле да яе, у вапошнім разьдзеле VIII — *Узвышша*, № 5 за 1927 г., на б. 144—145, і ў наступным артыкуле — той-жа часапіс, № 6 за 1927 г., на б. 146). І ў дадзеным дачыненьні Адам Бабарэка папраўдзе быў адзіным у сваім часе — савецкая літаратураведа таго часу наагул уважала гэткі падыход за «немарксыстаўскі», дый дасюль ён застаецца там занядбаны, як і ўвесь падыход да літаратурнага працэсу «ў папярэчным разрэзе». Тым-жа часам канцэпцыя літаратурнага працэсу «ў наўздоўжным разрэзе» пакрысе ўсё-ж набыла пэўныя правы грамадзянства і ў савецкай літаратураведзе, яшчэ нат за сталінскімі часамі, і цяперака ёй апэруюць ужо нат у падручніках — як, прыкладам, у вадным з апошніх зь іх — Ф. М. Головенченко. *Введение в литературоведение*. Издательство «Высшая школа», Москва, 1964 — дзе гэтак, прыкладам, апісваецца гісторыя літаратуры: «Гісторыя літаратуры сыстэматызуе й дасьлядуе ўвесь працэс літаратурнага разьвіцьця, азначае значаньне кажнага літаратурнага факту й зьявы ў гэтым працэсе, вызначае месца кажнага літаратурнага твору, кажнага пісьменьніка, літаратурнага кірунку» (на б. 4) ды цэлы разьдзел (II) азагалоўлены «Літаратурны працэс» (бб. 57—82). Паранейшаму аднак цікавяцца ня гэтак самым літаратурным працэсам, як тым, што вонках яго, за ім, што ён «адлюстроўвае», бо бач, «літаратурны працэс — гэта своеасаблівае адлюстраваньне жыцьцёвых працэсаў, разьвіцьця клясавага змаганьня» (на б. 57) — паранейшаму займаюцца найперш і найбольш «літаратурным эквівалентам» гэных «жыцьцёвых працэсаў», клясавага змаганьня» ...

[7a] Гл. зноску [6].

толькі такі бывае — рэдактар, цэнзар, выдавец (заказчык). У наўздоўжным разрэзе. Твор як зьява мастацкай культуры. Твор як зьява сацыяльнай псыхалёгіі, ідэялёгіі. Твор як тэза, антытэза. Твор як «рэпліка», адказ на пытаньне.

Думаецца, што кажны, зацікаўлены ў навуковай пабудове гісторыі беларускае літаратуры, ацэніць апублікаваньне тут гэтых запісаў і выбачыць змушаны гэтым адыход ад беспасярэдняе тэмы, які, зрэшты, і акупіцца ў далейшым выкладзе яе, пры абгрунтаваньні й разьвіцьці падзялянага й намі, а паданага вышэй Бабарэкавага вызначэньня месца Праньцішка Багушэвіча ў гісторыі нашае літаратуры, да чаго й належыць цяпер зьвярнуцца.

Абгрунтаваць Бабарэкава вызначэньне месца Праньцішка Багушэвіча ў гісторыі беларускае літаратуры як заснавальніка беларускага літаратурнага працэсу ў ёй — значыцца, першым чынам, паказаць, што да Багушэвіча, да ягонае пары ў літаратурнай гісторыі Беларусі ня было такога літаратурнага працэсу, які з поўным правам можна было-б назваць беларускім. Сам Адам Бабарэка абгрунтаваньня свае тэзы ў гэтым першым, адмоўным мамэньце не пакінуў ані ў сваіх друкаваных працах, ані ў лекцыях ці іншых нядрукаваных матар'ялах. Літаратурны крытык найперш, ён найбольш займаўся сучаснай яму літаратурай, яна-ж была галоўным аб'ектам ягонага занятку гісторыяй літаратуры і ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, хоць тамака, апрача яе, яму даводзілася мець дачыненьне (асабліва, як кіраўніку сэмінараў) і з ранейшымі пэрыядамі — але, ізноўжа, ніжэй за XIX стагодзьдзе й тутака спушчацца ня было нагоды; ужо на выгнаньні зьявілася была адзін час у яго цікавасьць да літаратуры канца XVIII ст., але задаволіць яе ў тых абставінах проста ня было магчымасьці. Таму гэты мамэнт абгрунтаваньня — прагляд літаратурнага працэсу (ці, лепш адразу дакладней — працэсаў) на Беларусі да Багушэвіча з гледзішча магчымай беларускасьці іх — давядзецца зрабіць гэттака насьвежа, з Бабарэкавае спадчыны прыцягваючы адно агульныя тэзы прынцыповага характару, ці выпадковыя прынагодныя зазначэньні.

Гістарычна першы літаратурны працэс быў прынесены на Беларусь разам із самой пісьменнасьцяй у канцы IX веку хрысьціянствам у ягоным славяна-кірылаўскім варыяньце, і самы гэты працэс мо найлепш і было-б зваць «славяна-кірылаўскім», хоць пашыраней і звычней гучыць назоў «царкоўна-славянскага», паводля агульнапрынятага абазначэньня выпрацаванай ды ўжыванай гэтым працэсам літаратурнай мовы («царкоўнаславяншчына» як тэрмін і для мовы і для літаратуры ў першага нацыянальнага літаратурнага гісторыка нашага Максіма Гарэцкага). Мова гэтая, як ведама, была заснаваная на саляніцкім дыялекце македонскае мовы[8], родным для самых запачаткавальнікаў і дадзенага варыянту хрысьціянства

---

[8] Зваць «за старой памяцяй» гэтую мову «баўгарскай», хоць-бы й з прыстаўкай «стара-», ня прыстала-б тым, што абураюцца званьнем нашае беларускае мовы «наречіем» нейкае іншае, бо матывы тут гэтак-жа не навуковыя, а палітычныя, імпэрыялістычныя, дарма, што не расейскія толькі, а баўгарскія.

і ягонага літаратурнага працэсу, «славянскіх апосталаў» св. Кірыла й Мэтода. Аж да часоў першага крыжовага паходу (1096—99 г.) мова гэтая, дакладней для таго пэрыяду абазначаная тэрмінам «старацаркоўнаславянскай», была адзінай стандартнай літаратурнай мовай для ўсіх Славянаў, і рэалізаваны ў ёй літаратурны працэс таксама быў прынцыпова й фактычна ўсеславянскім: «Ня было ніякіх міжславянскіх літаратурных бар'ераў на працягу старацаркоўнаславянскага пэрыяду, ды йснавала адна адзіная стандартная мова й адна літаратура з рэгіянальнымі адценьнямі», як сьцьвярджае сучасны заходні аўтарытэтны літаратуравед, знавец-дасьледнік і ў галіне параўнальнае гісторыі славянскіх літаратураў, прафэсар Гарвардзкага унівэрсытэту Раман Якабсон[9]. Ад часоў першага крыжовага паходу ад працэсу гэтага адпадаюць заходнія Славяне — Чэхі, Славакі, Палякі, адарваныя лаціньніцтвам ад самога славяна-кірылаўскага хрысьціянства, але Беларусы яшчэ на сьцяг вякоў застаюцца пры ім, як пры супольным разам зь іншымі Славянамі, як суседнімі (Украінцамі найперш і найбольш), гэтак і далейшымі, ды «адзінавернымі» паўдзённымі Славянамі.

З усяго гэтага само сабой зразумела, што ўважаць гэны гістарычна першы літаратурны працэс на Беларусі за беларускі не даводзіцца, але бачыць у ім, сказаць-бы, працэс і беларускі, паколькі быў гэта адзіны сваім часам на Беларусі літаратурны працэс, што даваў адзіна даступную, у тым і моўна, літаратуру беларускаму чытачу, гэтаму Бабарэкаваму «трэйцяму тэрміну літаратурнага працэсу ў папэярэчным разрэзе» (хай сабе й вельмі маталічнаму, паводля абставінаў часу), ды асабліва, паколькі і беларускія аўтары — першы Бабарэкаў «тэрмін» — узялі ў ім удзел, напару нат вельмі выдатны (як Кірыла Тураўскі хоць-бы) — ды займацца гэтым працэсам у гісторыі беларускае літаратуры (у межах кагадзе вылічаных «паколькі» і з упорам на крыху вышэй згаданыя «рэгіянальныя адценьні») зусім заканамерна, і Максім Гарэцкі меў тут поўную рацыю супраць, скажам, прафэсара Карскага, што пакідаў усе гэныя часы вонках свайго агляду гісторыі беларускае літаратуры. І пачынаць гэтую гісторыю ад гэнага, першага ў часе літаратурнага працэсу на Беларусі проста мус яшчэ й таму, што найдаўжэйшае з усіх, кольківекавое — дый пачынальнае — трываньне яго на Беларусі ў якасьці адзінага ў сваёй дзялянцы не магло прамінуць бяльсьледна для далейшае гісторыі. Даволі згадаць тут адну агульную й чыста прынцыповую, але вельмі вызначальную на далейшы ход спадчыну ягоную, прадстаўленую ў тым, узгадаваным ды ўкарэненым ім настаўленьні, дый узвычаеньні і аўтара і асабліва чытача — разглядаць літаратурны працэс як справу, супольную зь іншымі, хай сабе й Славянамі, хай і суседзьмі ды найбліжэйшымі, асабліва — бачыць у функцыі літаратурнае мовы ня родную, хоць і ня зусім чужую — не неславянскую, але ўсё-ж іншаславянскую, з панадай, аўтарытэтам і нат арэолем чагось і шырэйшага (што да аўдыторыі-форуму) і вышэйшага (аж да эмпірэяў самое сьвятасьці, у кажным разе — мастацкасьці, дый проста літаратурнасьці). Дзеяньне гэ-

---

[9] Roman Jakobson. „The Kernel of Comparative Slavic Literature", *Harvard Slavic Studies*, Volume I, Harvard University Press, Cambridge, Massachusetts, 1953, p. 48.

тага настаўленьня й узвычаеньня, хай часта й адно падсьведамае, сягае ня толькі да запачаткаваньня беларускага ўжо літаратурнага працэсу, за Бабарэкаваю тэзай, Багушэвічам, але прарываецца нат сяды-тады й сям-там і ў гэтым працэсе, і то аж да апошніх часоў (а ў іх мо й асабліва, узмоцнена, пад рознымі іншымі штуршкамі ў тым-жа кірунку).

Ад канцоў XIII — пачаткаў XIV веку Чехі, адштурхваючыся ад накінутага ім, адзінага ўсёй каталіцкай Эўропе сярэднявечнага лацінскага літаратурнага працэсу, зачынаюць новы, заходнеславянскі літаратурны працэс у выпрацоўванай на лацінскім падкладзе (супраць грэцкага ў царкоўнаславяншчыне) старачэскай літаратурнай мове, у што неўзабаве ўцягваюцца й Палякі[10]. Хоць Беларусам з усіх бакоў і далекавата было да самага загнету гэтага працэсу, але прасяканьне дзеяньня яго на літаратурную Беларусь, хай, як быццам-бы, і мала засьветчанае канкрэтнымі матар'яльнымі фактамі (як-бы й нічога больш апрача пары-другой рыцарскіх аповесьцяў з катэгорыі «Александрыі або Трої» ды стымуляцыйных сувязяў якраз да іх і няпрыхільнага Праньцішка Скарыны) — у вагульным абсягу не да адмаўленьня, адно чакае на сваё адмысловае дасьледваньне й асьвятленьне. Дзеяньне гэтае не ў вапошнім паддае пад тое перараджэньне, дый выраджэньне славяна-кірылаўскага літаратурнага працэсу, што разьвіваецца на самым беларускім грунтце ў гэных-жа, з большага, часох. Старабеларуская мова, стаўшыся пад той-жа час мовай канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага, мовай урадавай, дзяржаўнай, літаратурнай мовай, мовай літаратурнага працэсу аднак не стаецца[11], у якась-ці апошняе практыкуецца, паўсталы падобна да таго чэска-польскага гібрыду, „gwatmaniny dwuch językowej", гібрыд царкоўнаславянска-беларускі (а на Украіне, супольнасьць літаратурнага працэсу зь якой толькі яшчэ й застаецца ў літаратурнай Беларусі — і ўкраінскі наверх). Гібрыд гэны часам у некаторых сучасьнікаў дастае трапнага назову «славяна-рускага» (ато нат і «славяна-расійскага»), і ўвесь літаратурны працэс гэных часоў, аж пакуль не зьмірае ён зусім дзесь пад сярэдзіну веку XVII, найлепш было-б зваць «славяна-рускім».

---

[10] «Чэская мова й літаратура люксэмбурскага й гусыцкага пэрыядаў былі ў поўніцы адаптаваныя Палякамі. Аж да шаснаццатага стагодзьдзя ўсе формы дзьвюмоўя бытавалі ў польскіх культурных колах, як паказалі мадэрныя польскія філялёгі, ад ужываньня чэскае як мовы культуры й гожы. манераў да ведамага чэска-польскага гібрыду („gwatmanina dwujęzykowa"), ужыванага элітаю ў літаратуры й гутарцы — канстатуе той-жа праф. Раман Якабсон тамсама-ж (на б. 56; перад гэтым, ад пачатку разьдзелу і на папярэдняй бал. 55 — супастава старацаркоўнаславяншчыны, як узараванай на старагрэцкай мове й традыцыі, із старачэшчынай, узараванай ужо на лаціне).

[11] Хоць і магла-б стацца, як сталася, скажам, нямецкай літаратурнай мовай мова канцылярыі курфюрста саксонскага — дзякуючы Лютэру, за якога ў нас аднак ня мог стацца нат ягоны сучасьнік і магчымы знаёмы Праньцішка Скарына, паколькі Лютэрава вага заснавальніка новае царквы, што ўмагчыміла яму ўдачу й у заснаваньні новае літаратурнае мовы, не магла аніяк быць набранай у вабставінах праваслаўя, пазбаўленага гэткіх выклікальнікаў пратэсту з разьвіцьцём у царкоўны сэпаратызм, як папа рымскі, індульгенцыі, цэлібат і да г. п.

Гэта ўжо куды больш *беларускі* літаратурны працэс, чымся ягоны папярэднік, працэс «славяна-кірылаўскі», асабліва ў моўным дачыненьні, але й тутака застаецца яшчэ і згаданая супольнасьць з Украінаю (толькі-ж зь ёю й няма цяпер гэных «міжславянскіх літаратурных бар'ераў», якіх зусім ня было ў старацаркоўна-славянскім пэрыядзе), і галоўнае — арыентацыя на чытача ня толькі беларускага, плюс украінскі, але яшчэ й на маскоўскага наверх, як на такога-ж «рускага» ў рэлігійна-веравызнаўным і шырэй — цывілізацыйным сэньсе[12] («міжславянскі літаратурны бар'ер» з гэтым найдальшым славяна-моўным Усходам пільна падтрымваецца зь ягонага боку, хоць рэдчас праскокваюць празь яго асобныя творы, як, прыкладам, «Сказаньне аб Мамаевым пабоішчы» ці «Задоншчына» — адтуль сюды, а тады й цэлыя аўтары жыўцом, як Сымон Полацкі ды падобныя — адсюль туды, ды дармо — без асаблівае ўдачы ў перакіданьні праз гэны бар'ер свайго айчыннага літаратурнага працэсу).[13] Пэўна-ж, займацца гэтым працэсам, хоць і ня поўніцай, ня чыста яшчэ беларускім, гісторыя беларускае літаратуры ўжо проста павінна, апрача вылічваных вышэй у сваім месцы «паколькі» зважаючы яшчэ й на «наколькі» што да мовы — на тое, наколькі прасякаецца беларушчынай літаратурная мова аўтароў і твораў.

Тым-жа часам, выпрабляючыся (не безь беларускай, і часам ці малой дапамогі[14]) з чэскага палону й стаючы цьвёрда на собскія ногі, зьяўляецца на Беларусь і польская літаратурная мова, прыцягваная сюды, фаварызаваная й фарсаваная рэфармацтвам перш, як каталіцтвам, як добра паказаў на гэта сваім часам Вацлаў Ластоўскі[15]. Яна ня толькі прыносіць новы даплыў яшчэ аднае іншаславянскае крыві (у дамешку да царкоўнаславянскае, беларускае, украінскае) гібрыдызаванай мясцовай «славяна-рускай» літаратурнай мове — і даплыў наймацнейшы за ўсе папярэднія ды штораз больш інтэнсыўны — але й насаджае над мясцовым «славяна-рускім» свой польскі літаратурны працэс (у якім ужо й «такія цуды, як паэзія Яна Каханоўскага», кажучы йзноў-жа словамі праф. Якабсона[16]), прыці-

---

[12] Што рэлігійна-веравызнаўны, а ня этнічны, нацыянальны ці іншы які сэнс тэрміну «рускі» быў на Белрусі адзіным (і то ад пачатку) — заўсёды ясна было тут усім і ці раз увыдатнялася беларускімі аўтарамі, асабліва Вацлавам Ластоўскім, дый інш. Апошнім часам гэты мамэнт дастаў сабе аўтарытэтнае дакумэнтальнае абгрунтаваньне і ў салідных небеларускіх гістарычных працах (гл. *The Origin of Russia* by Henryk Paszkiewicz. George Allen and Unwin Ltd. Rustin House, Museum Street, London 1954, 556 p.; *The Making of the Russian Nation* by Henryk Paszkiewicz. Chicago. H. Regnery Co, 1963, 509 p.). Варта было-б увыдатняць і шырэйшы аспэкт гэтага сэнсу — аспэкт цывілізацыйны, паколькі рэлігія, паводля трапнага выразу Арнольда Тойнбі, гэта «вопрадзень цывілізацыі».

[13] Зь іншымі былымі партнэрамі із славяна-кірылаўскага літаратурнага працэсу ня тое, каб «літаратурныя бар'еры» паўсталі, але проста ўрваліся літаратурныя кантакты, за некаторым выняткам, хіба, Сэрбаў, ад якіх сяды-тады залётвалі гэткія-ж ластаўкі перакладных рыцарскіх аповесьцяў, як і ад Чэхаў.

[14] Пра гэта сваім часам падавалася ў ковенскім часапісе *Крывіч* В. Ластоўскага (нажаль, у дадзены мамэнт няма пад рукамі).

[15] Гл. *Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі.* Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Апрацаваў В. Ластоўскі. Выдана коштам Беларускага Цэнтру ў Ліцьве. Адціснута ў друкарні Сакалоўскага й Лана. Коўня, 1926 год, на б. 248—249.

[16] Roman Jakobson, *op. cit.*, p. 57.

скаючы таго й жывой вагой гэных ды іншых «цудаў» мастацкага слова ды нарэшце, ад сярэдзіны XVII веку, выціскаючы яго й зусім зь літаратурнага быцьця. Польская мова стаецца літаратурнай мовай Беларусі яшчэ раней, як урадавай, дзяржаўнай, афіцыйна замацаванай у вапошняй ролі ў Літоўскім Статуце талькі ў 1697 г., — у чым, зрэшты, не апошняй перадумовай было згаданае ў сваім месцы ўзгадаванае й укарэненае яшчэ першымі вякамі царкоўнаславяншчыны настаўленьне й узвычаеньне бачыць у функцыі літаратурнае мовы не мясцовую, а хоць і не неславянскую, дык усё-ж іншаславянскую мову з надаваным ёй арэолам шырэйшасьці й вышэйшасьці — умовы, якім якраз і адпавядала як найлепш мова польская.

Беларусы, як ведама, ня вельмі марудзячы, пайшлі ў польскі літаратурны працэс, і то штораз масавей, пачаўшы праводзіць у яго аж на вызначальныя становішчы гэткія фігуры, як, скажам, Праньцішак Багамолец, Адам Нарушэвіч, а тады й сам Адам Міцкевіч, ня згадваючы ўжо пра бадай легіён меншых. Сярод-жа гэтых апошніх сёй-той пачаў зварачацца ў польскай літаратуры й да свае роднае беларускае мовы ў якасьці характарыстычнае падмовы ў вадпаведных мясьцінах твораў, ато ў у цэлых творах малых і «нізкіх», сублітаратурных жанраў[17]. На гэтай лініі, пачынаючы яшчэ хіба ад віленскай сатыры «Вітаньне на ўезд» 1642 г., у якой Максім Багдановіч бачыў «бадай ці ня першы беларускі верш»,[18] выростаюць інтэрмэдыі «школьных драмаў» ды школьныя-ж «камэдыі» XVII—XVIII вякоў, а ў веку XIX — і цэлая чарада «дудароў беларускіх» ад Яна Баршчэўскага аж па Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, якога наш Адам Бабарэка назваў быў «найвышэйшым пунктам прадвесьня беларускае літаратуры», «завяршальнікам дабагушэвіцкага кругабегу»[19]. Усё гэта паўтараецца й дублюецца, хоць і ў беспараўнальна вузейшых памерах, калі ў тым-жа XIX веку Беларусь, ужо й як тэрыторыя Расейскае імпэрыі, асвойваецца зь яшчэ адным, моўна таксама іншаславянскім, літаратурным працэсам — расейскім, у які таксама йдзець сёй-той зь Беларусаў (ды ўжо й бязь відомае масавасьці, і не на вызначальныя становішчы), і таксама-ж здараецца сяды-тады выкарыстаньне беларускае мовы ў якасьці падмовы-«наречія» на сублітаратурным узроўні, часам і ў даўжэйшых тэкстах, як у тэй першай на гэтай лініі «Энэідзе навыварат» (ды йзноў-жа, ня ў масавых, а ў разрозьнена-адзінкавых выпадках).

---

[17] «Літаратура пэўнае нацыі плывець заўсёды ў прынамся дзьвюх плынях, вышняй і ніжняй, літаратурнай і сублітаратурнай», — добра канстатуе сучасны гісторык амэрыканскае літаратуры (Fred Lewis Pattee, „A Call for a Literary Historian“, *The Reinterpretation of American Literature.* Some contributions toward the understanding of its historical developments. Edited by Norman Foerster for the American Literature Group of the Modern Languages Association. New York, Russel and Russel, 1957, p. 16). У польскім «краёвым» літаратурным працэсе на Беларусі (а пасьля й у расейскім) сублітаратурнасьць твораў, пісаных пабеларуску, была падвойнаю — і па лініі жанраў, як звычайна, і па лініі мовы, разгляданай за «падмову» літаратурнае (польскае) мовы — твораная ў «падмове» да мовы, яна ў літаратуры тым самым ставалася «падлітаратураю» (тэрмін, да якога прыйшоў Адам Бабарэка, раздумоўваючы над беларускай літаратурай XVIII в. ужо на выгнаньні) — сублітаратураю (у вагульнапрынятай тэрміналёгіі).

[18] *Творы* М. Багдановіча. Том II. Менск, 1928 г. (на б. 125).

[19] Гл. часапіс *Узвышша,* цытаваны № 5 за 1927 г., на б. 143.

Ці можна бачыць аднак у гэткіх праявах выкарыстаньня беларускае мовы апрычоныя літаратурныя працэсы — нейкі беларуска-польскі (ці польска-беларускі), або беларуска-расейскі (ці расейска-беларускі) — на асновах нейкае супольнасьці, нешта наводля, скажам, таго беларуска-ўкраінскага літаратурнага працэсу, што згадваўся намі вышэй пад назовам «славяна-рускага»? Наўдачу, ужо хоць-бы таму, што «супольнасьць» тут, супраць тае беларуска-ўкраінскае, не выглядала ані на раўнапраўную, ужыцьцяўляючыся не пад сьцягам нейчага трэйцяга, нейкага задзіночаньня на нейкім вышэйшым ды нэўтральным міжславянскім узроўні «славяна-рускага» (ці хай сабе й проста «рускага» ў рэлігійна-цывілізацыйным сэньсе), а пад знакам аднаго — ды як першага (дый ня «між роўных» навет!), на асновах інтэграванасьці, інкарпараванасьці ў ім як у толькі «польскім», ці толькі «расейскім», бязь нейкіх, нат падразумявальна-магчымых «беларускіх» суфіксаў, а наверх на ўсё гэта — на ўзроўні, што бадай ніколі ня ўздымаўся тут над ардынарам субліітаратуры, «літаратуры краёвай», «для простага люду», «пасярэдніцкай літаратуры» (паводля аднаго з трапных вызначэньняў таго-ж Адама Бабарэкі[20]).

З другога-ж боку, хіба яшчэ важнейшага, уся зьвязнасьць і цягласьць між творамі — гэтыя канечныя, паводля Бабарэкі, умовы наяўнасьці літаратурнага працэсу «у наўздоўжным разрэзе» — назіраецца тут першым і галоўным чынам у дачыненьні да небеларускіх, і моўна і ўсяляк наагул, масаў твораў, сканцэнтраваных у васноўных і цэнтральных, сказаць-бы, ядрах дадзеных літаратурных працэсаў, адпаведна польскага ці расейскага, а ня між самымі, разрозьнена-адзінкавымі найчасьцей, творамі з ужываньнем беларускае мовы ў «краёвых» атожылках гэтых працэсаў. Праўда, у пары выпадкаў як-бы й паўставала ўжо нейкая ўзаемная зьвязнасьць і між гэткімі творамі, але тыя ці іншыя вонкавыя фактары нішчылі яе яшчэ пры зародку. Гэтак было, прыкладам, у руху вакол паэмы Яна Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў» у дваццатых гадох XIX веку, у якім выбліснула была яскравая фігура Паўлюка Багрыма, што меў выразныя дадзеныя стацца заснавальнікам беларускага літаратурнага працэсу яшчэ да Багушэвіча,[21] або яшчэ шырэй — у руху «дудароў беларускіх» школы «лірніка вясковага» Уладыслава Сыракомлі «міжпаўстанскімі» сараковымі-шэсьцьдзесятымі гадамі таго-ж веку, дзе цікавым вонкавым сьветчаньнем паўставаньня літаратурнай зьвязнасьці застаўся, пры пагінулых у вялікай і важнай частцы самых творах, ведамы альбом Арцёма Вэрыгі-Дарэўскага[22].

---

[20] Вызначэньне было дадзенае яшчэ на сэмінары зь беларускае літаратуры XIX в., пры аналізе творства Марцінкевіча ў поўным абсягу, як беларускага, гэтак і польскага, на чым настойваў Бабарэка. У запісе лекцыі ад 27 травеня 1930 г. таксама ёсьць пункт: «Літаратура пасярэдніцкая — пасярэдніцтва культурна-асьветніцкае заміж адміністратарскага».

[21] Гл., між іншага, Я. Віж, «Новае пра Паўлюка Багрыма (Бахрыма)» у часапісе *Конадні*, № 3, 1955 г., Нью-Ёрк, на б. 82—83.

[22] Школа Сыракомлі наагул ужо на мяжы заснаваньня беларускага літаратурнага працэсу, і сам Сыракомля, што, як ведама, сяды-тады карыстаўся й роднай беларускай мовай, пры адпаведных абставінах мог-бы стацца ягоным заснавальнікам. Перадумовы былі па лініі ўсіх трох «тэрмінаў літаратурнага працэсу ў папярэчным разрэзе» — і найбольш мо па найважнейшай у да-

Ды ў вабодвых гэтых выпадках няспрыяльныя вонкавыя фактары ня толькі зьнішчылі завязі зьвязнасьці, але й перасеклі ўстанаўленьне цягласьці самога працэсу (найпладнейшы з «дудароў беларускіх» Марцінкевіч, па паўстаньні 1863 г. застаўшыся ў літаратуры — дый то рукапіснага адно пашырэньня — адзінцом, ніякае далейшае цягласьці сваёй творчасьцяй выклікаць ня ўздолеў, нат і пасьля, у заснаваным ужо Багушэвічам беларускім літаратурным працэсе).

Усё гэта зусім выразна вычуваў Адам Бабарэка, яшчэ даючы сваё першае вызначэньне Багушэвічавага месца ў гісторыі беларускай літаратуры ў цытаваным намі напачатку артыкуле «Аб разуменьні мастацкай творчасьці . . . » Там, якраз перад гэтым вызначэньнем, як выходнае да яго, Бабарэка даў сваё ўняцьце агульнага абраза гісторыі Беларусі з так часта характэрным для ягонага выкладу спалучэньнем матар'ялістычнае дыялектыкі з нацыянальна-беларускім установішчам і сяганьнем у глыбіні паэтычнасьці як у існасьці, гэтак і ў выражэньні:

> У геаграфічным становішчы Беларусь займае цэнтральнае месца Эўропы — гэта стык Усходу й Захаду, Поўначы й Паўдня яе. Гісторыя Беларусі ведае не адну плынь, што праходзіла празь Беларусь з кажнага з усіх гэтых бакоў у процілежны. Празь Беларусь праходзіла не адна плынь імпэрыялізму, што імкнулася захапіць гэты стык пад сваю абладу. Адгэтуль спрэчкі за Беларусь, цяганьне яе то на Поўдзень, то на Поўнач, то на Захад, то на Ўсход. Адгэтуль-жа й наплывы на яе як эканамічнага, так і культурнага характару. Запраўды, гісторыя Беларусі гэта гісторыя крыжа — вобраза й сымбаля, які так часта фігуруе ў беларускай творчасьці, асабліва ранейшае пары.

І далей, пераходзячы ад гісторыі агульнай да літаратурнай, Бабарэка разважаў гэтак:

> Гэта ўсё зьяўляецца агульнай асаблівасьцяй быцьця Беларусі, якое вызначае сабою ў васноўных рысах асаблівасьці як сьведамасьці, так і характару беларускае мастацкае творчасьці ў той ці іншы

———

дзеным дачыненьні лініі «трэйцяга тэрміну» — чытача, дзе літаратурны бар'ер, за якім апыніўся чытач чыста польскі, у ваччу аўтарытэтных выказьнікаў выглядаў нат на «духовую мяжу між Літвой а Каронай», ці бо Беларусяй і Польшай у звычайных у нас сяньня тэрмінах (пра гэта гл. Сымон Брага. *Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры.* Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк, 1957 (на б. 14-16, або ў тым-жа тэксьце ў часапісе *Конадні*, № 4 за 1955 г., на б. 62-64). У паасобных творах гэтае школы пабеларуску ёсьць і выразны ўздым ад сублітаратуры да поўнае літаратуры (у самога Сыракомлі, у Вінцука Каратынскага), а таксама спробы наданьня літаратурнай годнасьці беларускай мове перакладамі ў яе высакалітаратурных паэтычных твораў (Міцкевічавых «Конрада Валенрода» Арцёмам Вэрыгам-Дарэўскім ды «Пана Тадэуша» В. Дунінам-Марцінкевічам, хоць пераклад апошняга яшчэ й тхне сублітаратураю — у ладнай меры перакладнік «перавярнуў», за ягоным собскім выразам, гэны Міцкевічаў літаратурны шэдэўр ня толькі ў беларускую мову, але й у сублітаратуру . . .). І ўсё-ж разрыву з польскім літратурным працэсам, хоць-бы нясьведамага ці неафішаванага, гэтак і не адбылося.

кругабег і якое стварае ўрэшце самабытнае літаратурнае быцьцё. Адгэтуль выплывае неабходнасьць у вывучэньні гісторыі беларускае мастацкае літаратуры вызначыць зьмест разуменьня «самабытнасьці», што адрозьнівае беларускую літаратуру ад самабытных літаратур іншых краёў. Тут ужо патрэбна вялікая, навет чарнавая яшчэ, праца па вывучэньні літаратурна-мастацкіх твораў на беларускай мове. Болей таго, я-б сказаў, патрэбна «рэвізія» ўсяго, што напісана пабеларуску... у выніку якое напэўна шмат што адсеецца ад гісторыі беларускае літаратуры, або набудзе праўдзівае значаньне ў яе разьвіцьці.[23]

І нарэшце, хоць яшчэ й асьцярожна, але прадракаў, як адзін з вынікаў тае прапанаванае ім «рэвізіі»:

> Я не сьцьвярджаю, але, быць можа, што ў выніку такой працы прыдзецца такіх пісьменьнікаў, як Баршчэўскі, Рыпінскі й інш., аднесьці да гісторыі польскай літаратуры на Беларусі, а такіх, як Шпілеўскі, Пшчолка й інш. да гісторыі расейскай літаратуры на Беларусі.[24]

Пэўна-ж, гэткая асьцярожнасьць тут не ў вапошнім выплывала з тае тэрміналягічнае недакладнасьці ў тагачасным ужываньні крытыкам такіх словазлучэньняў, як «гісторыя беларускае літаратуры» ды наагул «беларуская літаратура», пра што ўжо быў у нас ход напачатку. Ужываньне гэтае тутака спрычыняецца нат да выяўнага нонсэнсу, тады не дагледжанага крытыкам: як бо можа «адсеяцца ад гісторыі беларускае літаратуры» хоць адзін «літаратурна-мастацкі твор на беларускай мове», хоць нейкае мастацкае слова «з усяго, што напісана пабеларуску», калі паводля собскага-ж крытыкавага расшыфраваньня «літаратура — гэта найперш мова, адно замацаваная ў літарах»[25]. Але замяніўшы й тут недакладна ўжытае словазлучэньне «гісторыя літаратуры» на «літаратурны працэс», як гэта мы зрабілі напачатку ў самой першай Бабарэкавай фармулёўцы Багушэвічавага месца ў гісторыі беларускае літаратуры, зьменшылася-б і тая патрэба ў васьцярожнасьці, дый усё стала-б таксама на сваё месца, супаўшы з паданымі намі кагадзе апошнімі выснавамі.

Такім парадкам, варочаючыся йзноў да нашае тэмы, даводзіцца канчальна канстатаваць, што да Багушэвіча аніводзін зь літаратурных працэсаў, штс паступова зьмяняліся ў літаратурнай гісторыі Беларусі — у ўжытай намі тэрміналёгіі, ані працэс «славяна-кірылаўскі» X—XIV в.в., ані «славяна-рускі» XIV—XVII в.в., ані польскі «краёвы» літаратурны працэс на Беларусі з сублітаратурнымі адыходамі ў беларускай мове XVII—XIX в.в., ані падобны расейскі працэс у веку XIX — ня можа з поўным

---

[23] Гл. часапіс *Узвышша*, цытаваны № 5 за 1927 г., на б. 142.

[24] Тамсама, на б. 143 (да гэтае мясьціны й зноска [1]): «Пар. з думкамі Ўсевалода Ігнатоўскага аб «беларускай школе» ў польскай літаратуры («Кароткі нарыс культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі» — «Вольны Сьцяг», №№ 3, 4, 5, і 6)».

[25] Гл. вышэй у зноcцы 6.

правам прэтэндаваць на годнасьць працэсу беларускага.[26] Цяпер-жа, ад гэтае адмоўнае канстатацыі, належылася-б перайсьці да пазытыўнага канчальнага абгрунтаваньня вызначанага Бабарэкам а падтрымванага намі Багушэвічавага месца ў гісторыі беларускае літаратуры. Такое абгрунтаваньне, пэўна-ж, мае базавацца на літаратурных фактах Багушэвічавае спадчыны, якая мусіла-б стаць у цэнтр асаблівае ўвагі «багушэвіцкага» 1965 году. Калі-б увага гэтая сьціравалася й пад кутом пастаўленага ў нашых зацемках пытаньня, дык завяршальны пазытыўны адказ на яго, які нам тут застаўся, напэўна мог-бы хоць неяк, а скарыстаць з гэтага для свае паўніні-вычарпальнасьці й пераканальнасьці.

У кажным разе, нат калі й без асаблівае надзеі на апошнюю магчымасьць, а выпадае адкласьці гэнае пазытыўнае завяршэньне на пасьля «багушэвіцкага году» ды ўжо ў наступной кнізе нашага гадавіка — «Запісаў» (на выйсьце якой ужо ёсьць зусім пэўная надзея) даць адмысловым нарысам якнайвычарпальнейшы абраз Праньцішка Багушэвіча як заснавальніка беларускага літаратурнага працэсу, мо нат і ў пляне некаторага падагульненьня вынікаў таго «багушэвіцкага году».

---

[26] Вырозьненьне літаратурных працэсаў славяна-кірылаўскага, славяна-рускага й г. д. не пакрывае ўсяе пэрыядызацыі гісторыі беларускае літаратуры (у славяна-кірылаўскім працэсе, прыкладам, выразна вылучаецца пэрыяд да XII в., які праф. Д. Чыжэўскі, скажам, завець «парой манумэнталізму» у вадрознасьць ад наступное за ім «пары арнамэнталізму» й г. д.).

# Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 г.

**Дакумэнты й матар'ялы*)**

Я. Запруднік

У нацыянальным адраджэньні Беларусі Ўсебеларускі Зьезд 1917 г. — падзея, бясспрэчна, вехавая. Яна стаіць у цэнтры гістарычных 1917—1919 гадоў — гадоў Беларускай Рэвалюцыі.

Шырокаму грамадзтву пра Ўсебеларускі Зьезд ведама дасюль больш з традыцыі незалежніцкіх юбілеяў або з антынацыялістычных выпадаў, чымся з дакумэнтаў і аб'ектыўнага вывучэньня.

Савецкая гістарыяграфія пасьлясталінскага часу ўсё яшчэ выказваецца пра Зьезд 1917 году неахвоча й галаслоўна. Гэтак, прыкладам, у другім томе «Гісторыі БССР» (Інстытут гісторыі АН БССР, Менск, 1958, бб. 71—73) Усебеларускаму Зьезду прысьвечана ўсяго паўтары балонкі прапаганды, пры гэтым пустое. На адно з асноўных пытаньняў, прыкладам, — колькі было ўдзельнікаў на Ўсебеларускім Зьезьдзе? — «Гісторыя БССР» вам не адкажа. На іншае ня менш важнае пытаньне — хто склікаў Зьезд і хто быў на ім? — ад «Гісторыі БССР» вы пачуеце звужаны, тэндэнцыйны: «нацыяналістыя й правыя эсэры». Апошнім часам, праўда, пытаньне Ўсебеларусскага Зьезду 1917 г. савецкія гісторыкі пачынаюць закранаць больш канкрэтна. Летась у ліпенскім (7-м) нумары часапісу «Вопросы истории» (бб. 33—46) беларускі савецкі гісторык В. Круталевіч апублікаваў дакумэнтаваны артыкул «Да гісторыі ўтварэньня БССР». Тут ужо пытаньні, на якія не адказвала або якія выкрыўляла «Гісторыя БССР» 1958 году, закранутыя грунтаўней, хоць і не без «партыйнасьці» ў насьвятленьні. Круталевіч прызнае ўжо — і ці ня першы гэта выпадак у савецкай гістарыяграфіі — што «ў працы Зьезду ўзяло ўдзел 1.915 чалавек, зь іх 1.175 з пастанаў-

---

* Глядзі таксама дакумэнты й матар'ялы да гэтага самага пытаньня ў «Запісах», кн. 2 (1963), бб. 181-204.

ляючым голасам».[**] І былі гэта не адно «беларускія нацыяналістыя й правыя эсэры» з балонак «Гісторыі БССР», а галоўным чынам прадстаўнікі валасных, паветавых і губэрскіх земстваў, гарадзкіх самаўрадаў, паветавых і губэрскіх зямельных камітэтаў, настаўніцкіх арганізацыяў, саюзаў земскіх і паштова-тэлеграфных службоўцаў, рознага роду нацыяналістычных арганізацыяў. Ня былі забытыя навет дарожныя й уцякацкія камітэты».[***]

Тэма Ўсебеларускага Зьезду 1917 году чакае йшчэ на сваё распрацаваньне. Першай фазай у гэткім распрацаваньні мусіў-бы быць як мага паўнейшы збор дакумэнтаў. Пазьбіраць трэба ўсё, што мага — усе «за» й «супраць» — бо толькі тады можна будзе зразумець багатую й трагічную складанасьць гэтае падзеі, усю ейную гістарычную важнасьць.

У папярэдняй кнізе «Запісаў» зьмешчаная частка матар'ялу да гэтага пытаньня. Тут даецца яшчэ крыху — узятага ў бальшыні зь менскага выданьня двухтомнага збору дакумэнтаў «Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии». Адлюстроўваецца тут пераважна адмоўнае стаўленьне бальшавікоў і савецкае гістарыяграфіі да Ўсебеларускага Зьезду 1917 г., але й гэткія матар'ялы патрэбныя дзеля паўніні вобразу й зразуменьня. Бязумоўна, што дакумэнтаваньне Ўсебеларускага Зьезду на гэтым ня можа скончыцца: яшчэ шмат матар'ялаў чакае свае радоўкі на дзённае сьвятло і, трэба спадзявацца, дачакаецца.

*

## СКАРОТЫ

«ВОСРБ» — «Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии» — двутомны збор дакумэнтаў, апублікаваны ў Менску ў 1957 г.

«ДОКУМЕНТЫ» — «Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. IV: Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР» (Минск, 1954).

---

** «Вопросы истории» № 7 (1964), б. 39.

*** Тамсама.

*Макар Краўцоў (Косьцевіч)*

# 20 ГАДОЎ НАЗАД

*(Успамін пра Ўсебеларускі зьезд 1917 г. З часапісу «Шлях Моладзі», Вільня, 1938 г.*)*

Шмат хто зь цяперашняе нашае моладзі чуў напэўна, што быў у Менску некалі Зьезд з усяе Беларусі, які хацеў лепшае долі свайму народу, што дасягнуць яе не ўдалося, бо сіла перамагла права: бальшавікі Зьезд разагналі, дэмагагічна трубячы, быццам складаўся ён... з памешчыкаў і буржуазіі. А тымчасам навет і цяпер, праз 20 гадоў, лягчэй хіба было-б сустрэць сярод Беларусаў нэгра, як абшарніка або запраўднага капіталістага.

Што-ж гэта быў за Зьезд? Як і скуль папаў на яго я? Што там рабіў, чуў і бачыў?

Шмат можна было-б паставіць падобных пытаньняў, шмат што напісаць. Хочацца ўспомніць пра кардынальнае зьявішча ў незайздроснай долі роднага народу, успомніць тое, што моцна трымаецца ў памяці.

Дый ці можна гэта з памяці выкінуць?..

Густы, малады хваёвы лес каля Рожышча (на Валыні). У зямлянках і бараках сярод гэтага лесу стаяў штаб 44-га расейскага корпусу, у якім мяне ўсе добра знալі, як старшыню корпуснага камітэту. Знալі таксама, што я — Беларус, маю кантакт зь менскімі Беларусамі, атрымліваю сваю родную літаратуру й г. д.

Украінцаў у корпусе была цэлая 72-я дывізія. А Беларусаў трудна было выявіць. Аказаліся яны самі. У першых чыслах сьнежня (паводля старога стылю) клічуць неяк мяне на сход Беларусаў, быўшых у корпусе. Сход сабраўся недалёка ад корпуснага штабу ў 46-м інжынерным палку. Заходжу ў прасторны барак. Каля сотні паўтары чалавек (а можа й больш) пад прэзэсоўствам штабс-капітана (прозьвішча ня помню, раз у жыцьці тады яго я толькі й бачыў); радзяцца, каго пасланць у Менск на Ўсебеларускі Зьезд, а таксама і ў Кіеў на зьезд Беларусаў-ваякаў был. расейскага паўдзённа-заходняга фронту (абодва зьезды зьбіраліся ў вадзін і той-жа самы час). Павінен зазначыць, што корпусны камітэт, на чале якога я тады стаяў, выбраны быў месяцы за два да бальшавіцкага перавароту. На 20 зь нечым сяброў сваіх меў гэты камітэт толькі 2-х бальшавікоў, органам новае (бальшавіцкае) ўлады ня быў... Землякі мае, сабраныя (ня ведаю з чые ініцыятывы) у 46-м інжынерным палку, таксама ня былі бальшавікамі. Сярод сабраных пераважана былі салдаты, пара ахвіцэраў, некалькі вайсковых вураднікаў і пісароў. Ськідаю шапку, вітаю землякоў, пабеларуску. Нейкі

---

* «Шлях Моладзі» № 4 (120), 5 лютага 1938 г.; № 6 (122), 26 лютага 1938 г.

вураднік заікнуўся пра тое, што Беларусь, дык справа зразумелая, але каб мову сваю ў яе інстытуцыях заводзіць, дык гэта можа й крыху нешта лішняе. За родную мову выступіў адзін маладзенькі пісар і прачытаў цэлую лекцыю пра слаўную мінуўшчыну нашае мовы ў старадаўнай Ліцьве... Мне запрапанавалі на выбар: ехаць дэлегатам у Менск або ў Кіеў, а калі спраўлюся, дык пабываць на абодвых зьездах. Я выбраў Менск. У Кіеў паехалі іншыя дэлегаты.

У Менск прыехаў я, калі Зьезд яшчэ зьбіраўся. Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Ня было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала-б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца. Думку гэткую я выказаў старшыні Цэнтральнае Беларускае Вайсковае Рады Рак-Міхайлоўскаму. Ад яго пачуў, што няма навет вартых жалю фінансаў, каб паслаць чалавек пару ў Кіеў на зьезд фронту. Цешыла толькі тое, што прафэсіянальныя саюзы паштавікоў і чыгуначнікаў, а таксама іншая працоўная інтэлігенцыя, ня выключаючы акружнога камітэту расейскіх эс-эраў і гарадзкіх ды губэрніяльных самаўрадаў (яшчэ тады бальшавікамі непаразганяных) былі на баку Беларускага Кангрэсу.

Адкрыць Зьезд у гарадзкім тэатры 5(18)-га сьнежня 1917 году выпала на долю Рак-Міхайлоўскага. Ад прыроды не-аратар, гаварыў ён неяк вяла, пачаў пабеларуску, зьехаў на расейскую мову... Энтузіязм, любоў да свае роднае зямлі, да лепшага заўтра свайго народу выклікалі сярод блізка што двухтысячнага Зьезду прывітальныя прамовы армейскіх дэлегатаў і прадстаўнікоў розных менскіх арганізацыяў. Гром воплескаў пакрываў Зьезд прывітаньне Украінца Кавэрдынскага, калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: «Нашае гора — вашае гора, нашае сьвята — вашае сьвята...» Грымеў Зьезд на словы нашага паэты Алеся Гаруна, прамаўляўшага ад імя Беларускае Сацыялістычнае Грамады. Паважна, на другі дзень (ужо ў залі былога Шляхоцкага Дому) віталі Зьезд два прамоўцы ад мясцовага польскага грамадзтва.

Сьвяточны бок справы мінуў, і Зьезд пачаў энэргічна працаваць у розных сэкцыях. Дыспанаваў Зьезд вялікім будынкам Шляхоцкага Дому, у залі якога зьбіраўся яго пленум, сэкцыі й камісіі Зьезду працавалі ў былым губэрнатарскім доме. Бальшавікі стараліся, як маглі, раскласьці Зьезд у нутры яго, зманулі на свой бок Шантыра й Фальскага ды аднаго з магілеўцаў. Кідалася ў вочы русафільства магілеўцаў з «Областного Белорусского Комитета», існаваўшага ў часе кераншчыны ў Петраградзе. Земскія (самаўрадавыя) дзеячы з гэтага Камітэту — Канчар, Вазіла й іншыя абвясьцілі навет збор Беларускага Зьезду ў Менску на 10 дзён пазьней (Вялікая й Вайсковая Беларусія Рады склікалі Ўсебеларускі Зьезд на 5, а гэтыя паны на 15 сьнежня (паводля старога стылю). Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць меншую палавіну Зьезду, якую ён сам ахрысьціў, як «левое течение». Вазіле з кампанамі ўдалося разьбіць Зьезд на гэтак званыя «зямлячаствы» (паводля губэрняў — Менскае, Магілеўскае, Віленскае, Гарадзенскае й г. д.).

Мушу ўспомніць, што, у часе прывітаньняў, віталі Зьезд і два народныя камісары «Западной области и фронта»: Бэрсон (нацыянальных справаў) і

Рэзаўскі (унутраных справаў). Першы зь іх выступаў ад ППС левіцы, а другі — ад імя партыі бальшавікоў. Прамова Бэрсона была выслухана Зьездам спакойна, Рэзаўскаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадзкога Тэатру) нацыянальнага беларускага штандару, назваў гэты штандар «национальной тряпкой» і заклікаў замяніць яе «красным знаменем интернационала», дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін зь іх вядомы ўсяму Зьезду сваім грымотным голасам левы эс-эр Дулін), узялі фігуру наркома Рэзаўскага пад рукі й вывелі вон. Адзін зь менскіх наркомаў, таксама левы расейскі эс-эр і матрос, Муха (сацыяльнай апекі), як дэлегат і Беларус, быў увесь час на Зьезьдзе.

Характэрным было тое, што ніводзін з выступаўшых на Зьезьдзе магілеўцаў пабеларуску не гаварыў. Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, «прэзыдэнт» Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым неадрозьніваючыся ад цэлага мора сялянскіх шэрых сьвітак і кажушкоў ды ня менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых-жа сялянскіх сыноў Беларусі. Чорнаю вопраткаю выдзяляліся работнікі-петраградцы, жменя народных настаўнікаў, ня ўзятых на вайну, ды яшчэ меншая колькасьць прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафэсіяў, а таксама й групка матросаў. Дзьве-тры адзінкі жанчын напэўна чуліся сіратліва сярод вялізарнага Зьезду. Некаторыя зь менскіх Беларусаў, з наіўнасьцю чэхаўскіх герояў зь мяшчанскага вясельля, цешыліся з таго, што быў на Зьездзе навет запраўдны генэрал (генэрал-лейтэнант Аляксееўскі — былі начальнікі артылерыі ўсяе Фінляндыі), выбраны дэлегатам ад сваіх салдатаў і Беларусаў-маракоў Балтыцкага флёту.

Быў мамэнт, калі нашэпты бальшавікоў зрабілі немалы ўплыў на загадковы сфінкс, маўклівае наагул, сялянскае масы Зьезду і, апаражніўшы ад правізіі свае торбачкі, дзядзькі голасна заяўлялі, што ім пара ўжо ехаць дамоў. Адкрытыя контр-выступленьні лепшых аратараў Зьезду сярод сялян пераканалі іх, што галоўная задача яшчэ ня вырашана.



Надыходзіў фатальны мамэнт — ноч з 30-га на 31-га сьнежня (нов. стыль). Справа будучыні Беларусі абгаворана была ў «зямлячаствах» і ў кажным зь іх апрацованы былі дэклярацыі. Зарысаваліся два кірункі: смаленцы, мянчукі, віленцы й горадзенцы выказваліся за якнайбольшую самастойнасьць Беларусі, а віцебляне й магілеўцы не маглі разьвітацца із сваім усерасейскім патрыятызмам, снуючы думкі аб Расеі дэмакратычнай, якая надоўга, як аказалася, была пахована бальшавікамі. Ясна помніцца, што на паседжаньні горадзенцаў Я. Варонка заявіў: «Я ўжо цэлы тыдзень нашу ў партфэлі праект унівэрсалу аб незалежнасьці . . .»

Пад канец Зьезду зьявіліся зь Петраграду эмісары Сталіна-Джугашвілі (ён быў тады ўсерасейскім наркомам па справах нацыянальнасьцяў). Рознымі абяцанкамі нейкі салдат і два ці тры работнікі-Беларусы стараліся дабіцца ад Зьезду прызнаньня ўсерасейскаю ўладаю Петраградзкае рады народных камісараў. З гэтых стараньняў нічога ня выйшла.

Дэклярацыі «зямлячаствау» зводзіліся юрыстымі ў вадну абшырную рэзалюцыю, і гэткія кампрамісныя людзі, як адвакат Цьвікевіч, стараліся хоць на паперы прымірыць масквафілаў-магілеўцаў з самастойнікамі. У баковым пакоі вялікае залі Шляхоцкага Дому ішлі гарачыя спрэчкі сяброў Рады Зьезду вакол усялякіх формулаў Цьвікевіча. Каля гадзіны першай уначы з 30-га на 31-га сьнежня, як быццам, быў знойдзены нейкі кампраміс. Янка Серада — старшыня Зьезду — адкрыў яго пленум. У нарадзе над формулай Цьвікевіча (пункт першы, як-бы дэкляратыўна-ўступны, рэзалюцыі) умоўлена было, што «за» й «процi» гэтага пункту рэзалюцыі (з папраўкай аб поўнай беларускай самастойнасьці) выступіць толькі па адным аратары. Гаварыць за рэзалюцыю Цьвікевіча вызначаны быў магілеўскі Жыдок (здаецца, Гольдман), процi формулы Цьвікевіча, значыцца проці фэдэрацыі зь нейснаваўшай Расейскай дэмакратычнай рэспублікай, выступіць вызначылі мяне. Старшыня даў слова Гольдману. Той пачаў гаварыць. Я зыйшоў уніз, пад эстраду Прэзыдыюму, скуль Гольдмана вельмі добра было чутно, і натаваў слабыя месцы яго аргумэнтацыі, адначасна накідаючы кароткі канспэкт свае прамовы. Да мяне спусьціўся магілевец Канчар і, з буйнымі сьлязьмі на вачох, прасіў не падрываць кампрамісу, прыдуманага Цьвікевічам. Мамэнт высока-драматычны. Нейкі маліцьвенны настрой. Маўчу й лаўлю кажнае слова з трыбуны. Хвалі нявымоўных адчуваньняў расьпіраюць грудзі... Ні я, ні Канчар ня ведаем, што над Зьездам павіс фатум.

Гольдман гаварыў мінут пяць ці дзесяць. Раптам сьціх... Каля Прэзыдыюму вырасьлі дзьве шэрыя фігуры: успамінаны ўжо тут нарком унутраных справаў Рэзаўскі й п'яны, у шапцы зь вялізарным бліскучым брылём, нязвычайна хамаваты выглядам, начальнік менскага бальшавіцкага гарнізону Крывашэін.

— Кто вы? Ваш мандат, товарищ? — энэргічна пытаецца старшыня Зьезду др. Серада.

— Я начальник гарнизона! — крыкнуў сярод агульнага гоману Крывашэін... — Прошу слова! — паўтарае ён...

Старшыня звоніць. На залі крыху цішэй.

— Я под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели... — пляце нейкую бязглузьдзіцу Крывашэін.

Магутны гул пратэсту заглушае яго... Віцэ-старшыня Вазіла закрывае Зьезд... Серада звоніць, пазбаўляе Крывашэіна слова і ўзнаўляе паседжаньне, на якім усе трымаюцца стоячы, не вылучаючы самога старшыні. Сядзіць толькі сакратар Калядка і ўвесь час піша. З маестатычнай павагаю ўзносіцца сярод прэзыдыюму фігура прафэсара Карскага. Вазіла брыкнуў назад галавою... Прыкінуўся ці запраўды самлеў... Страшэнны гоман і мітусьня... Улавіўшы мамэньцік некаторай цішыні, Рэзаўскі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзыдыюм яго арыштованым... Матрос Муха голасна пратэстуе і заяўляе, што ён больш не камісар апекі... Тымчасам урываюцца ў залю азброеныя салдаты Рэмнёва і, разыходзячыся направа й налева, стараюцца ахапіць Зьезд. Дэлегаты супраціўляюцца, на-

стаўляючы грудзі, іншыя пасярэдзіне грымяць крэсламі, барыкадаю адгароджваючы Прэзыдыюм. Калёнаю ў два рады салдаты ўціскаюцца ў сярэдзіну Зьезду. Дайшоўшы да барыкадаў, Рэмнёў вымае з похвы рэвальвэр, паднімае ўгару й колькі разоў націскае цынгель ... Але стрэлу ня чутно ... Пара трусьлівых сьвітак бяжыць за раяль, што стаіць па левай руцэ Прэзыдыюму. Магутная фігура селяніна ў жоўтым расшпіленым кажусе становіцца на крэсьле пасярэдзіне залі, сьціскае свае за мазалістыя кулакі й крычыць: «Раззброіць іх!» — паказваючы на чырвонаармейцаў ...

Усё бачанае апісаць немагчыма ... Зьезд разганяецца пагрозаю штыхоў. Нехта запяяў беларусскую марсэльезу. Зь ёю выходзім, паміж шпалерамі збройных салдатаў, па сходах на Падгорную вуліцу ... На скрыжаваньні Скобелеўскай і Падгорнай ваякі на белых конях ... Два панцырнікі грозна маўчаць ...

Паход разагнанага Зьезду ськіроўваецца ў бок рэзыдэнцыі бальшавіцкае ўлады — будынку Камэрцыйнае Школы ... 3 тысячы грудзей разьлягаецца матыў хаўтурнага маршу: «Вы жертвою пали в борьбе роковой ...»

З заміраньнем гукаў чужое трагічнае песьні гінула воля народная, сярод мяккае зімовае ночы, ахінаўшай сэрца Беларусі ценямі рабства ...

## УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС У МЕНСКУ, 18-31 (5-18 СТ. СТ.) СЬНЕЖНЯ 1917 Г.

*(Успаміны дэлегата Кангрэсу)*

Заснаваньне адроджанага беларускага гаспадарства прыпадае на канец 1917 і пачатак 1918 году. Першыя крокі нацыянальнага абуджэньня былі зробленыя яшчэ ў XIX ст., але выбухам яго стаўся 1905 год. Ад таго часу, крок па кроку, беларускі рух пашыраўся аж да Першай сусьветнай вайны. З пачаткам гэтай вайны маладыя беларускія арганізацыі пачалі звужацца й заміраць, бо іхных супрацоўнікаў расьцярушылі па сьвеце: адны былі мабілізаваныя на фронт, другія ў тылавыя арганізацыі на працу дзеля абароны, а іншыя сталіся ўцекачамі на Ўсход, бо ўвосень 1915 году вялікія прасторы Заходняй Беларусі акупавалі Немцы.

У часе Першай сусьветнай вайны расейская царская ўлада крыху адпусьціла лейцы самаўладнага свайго кіраваньня. Нацыянальнасьці заходняй часткі Расейскай імпэрыі пазакладалі камітэты, каб дапамагаць уцекачом свае нацыянальнасьці. Гэтае права выкарыстала й беларуская інтэлігенцыя ды заснавала Камітэт дапамогі уцярпелым ад вайны, каб дапамагаць Беларускім уцекачом. У часе вайны аж да выбуху Лютаўскай Рэвалюцыі адзінай беларускай арганізацыяй на Ўсходнім баку фронту й быў толькі гэты Камітэт.

У часе вайны расейскі ўрад змушаны быў мець, апрача дзейнай арміі, яшчэ й рэзэрвавую вартаўнічую армію. Гэтая тылавая армія вербавалася з рэкрутаў старэйшага веку, якія ў войску ня служылі, ды часткава із старых запасавых жаўнераў і падахвіцэраў. Яна вербавалася насьпех з пэўнай тэрыторыі, што належала да тае ці іншае губэрні. Гэтая тылавая армія камплектавалася ў дружыны, а дружыны дзяліліся на роты. Паколькі дружыны камплектаваліся паводля тэрытарыяльнага прынцыпу, дых іхны склад быў нацыянальны. З часам некаторыя дружыны былі названыя батальлёнамі й палкамі. Зь іх патварыліся з часам нацыянальныя вайсковыя адзінкі: прыкладам, польскія палкі (легіёны), або латыскія батальлёны, што потым сталіся палкамі ды змагаліся на фроньце ў складзе дзейнай арміі.

Мне былі ведамыя колькі дружынаў Менскіх і Віленская дружына, укамплектаваныя вылучна Беларусамі, як жаўнерамі, гэтак і ахвіцэрамі. Сярод іх было шмат ахвіцэраў, што ў вайсковых школах ня вучыліся, а йменаваліся «заўрад-ахвіцэрамі». Гэта былі настаўнікі, аграномы, каморнікі, паштавікі. Дружыны гэтыя несьлі вартавую службу ды зь іх часчасом пасылаліся маршавыя роты на фронт. Яны кватэравалі на Беларусі. Асноўная маса гэтага войска іншай мовы ня ведала, апрача беларускай, і яна тут была пануючай мовай. Тут з нашай мовы ніхто ня строіў кпінаў, а наадварот: часамі Беларусы зь іншых жартавалі. Мне давялося чуць, як адзін стары падахвіцэр-Беларус жартаваў з Расейца ці змаскаленага мясцовага Беларуса: «Ты, чалавеча, дзяціны бацька ды ўжо век зжыў, а яшчэ ня ведаеш, што гэта ,суніца'». Мне давялося чуць іхныя службовыя заняткі, калі стары падахвіцэр пытаўся ў старога жаўнера, як завецца цар і царская жонка, дык той адказваў: «Цара я ведаю, ён завецца Мікалай, а яго маладзіца, дык ніяк мне ў галаву ня лезе». Дарэчы тут трэба ўспомніць ахвіцэра Вечаслава Адамовіча, сьведамага Беларуса з Ковеншчыны. Гэта быў паштовы ўрадавец. Спачатку ён быў камандантам дружыны. У гадох 1918—1920 быў супрацоўнікам беларускіх газэтаў у Менску, пісаў цікавыя артыкулы.

У канцы 1917 г. некаторыя беларускія патрыёты меркавалі, каб гэтыя менскія дружыны ўзяць за аснову, укамплектаваць іх Беларусамі зь іншых палкоў, каб гэткім парадкам утварыць беларускія кадравыя палкі, але гэтага ўжыцьцёвіць ня давялося, бо яны неўзабаве дэмабілізаваліся. Толькі Віленскай дружыне, што ў канцы 1917 году стаяла ў Віцебску, далося паказаць сябе. Камандант гэтай дружыны паручык Лапа напачатку 1918 году абвесьціў мабілізацыю. Сюды пачалі прыбываць Беларусы зь іншых палкоў. Дружына была перайменаваная ў Беларускі полк і была добра ўзброеная кулямётамі й стрэльбамі, што пакідалі сібірскія палкі, калі дэмабілізаваліся ды ехалі дамоў.

Калі ў лютым 1918 г. былі спыненыя Берасьцейскія перамовы бальшавікоў зь Немцамі ды Немцы рушылі на ўсход, дык бальшавікі із сваім войскам былі змушаныя пакінуць Віцебск. У гэтым часе Беларускі полк застаўся адзінай узброенай сілай места й трымаў уладу ў ім больш за два тыдні.

Калі выбухнула Лютаўская Рэвалюцыя, беларуская інтэлігенцыя была расьцярушаная па франтох і тылох вялізарных прастораў Расейскае імпэрыі, а сама Беларусь была разьдзеленая ваенным фронтам. Як у Менску, прыфрантавым цэнтры, гэтак і ў ягоных ваколіцах ды далейшых местах, мястэчках і селішчах было поўна вайскоўцаў-Расейцаў, што ад пачатку рэвалюцыі захапілі кіраўнічыя становішчы ды падпарадкавалі сабе ўсё жыхарства. Гэтыя чужынцы ўзводзілі паклёпы сярод масаў на беларускіх інтэлігентаў, абзываючы іх панамі-абшарнікамі й буржуямі.

У Менску, як прыфрантавым цэнтры, месьцілася шмат арганізацыяў, што абслугоўвалі фронт: Саюз Земстваў, Саюз Гарадоў, розныя абозы й штабы, а таксама наехала з цэнтру Расеі шмат цывільных асобаў, ахвотнікаў да лёгкае нажывы, а ў тым ліку й падонкаў грамадзтва. Калі да вайны Менск меў каля 90.000 жыхароў, дык у 1917 г. тут было ўжо 230.000 жыхароў. Прыблізна гэткі-ж працэнт чужынцаў у часе вайны можна было пабачыць і ў іншых прыфрантовых населеных пунктах Беларусі. І вось у руках гэтага чужацкага натоўпу — у руках «Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов» — апынулася тагачасная заканадаўная й выканальная ўлада.

У першых днёх рэвалюцыі была паклікана да жыцьця «Народная міліцыя». На кіраўніка гэтае міліцыі быў высунуты гэтым-жа натоўпам «таварыш» Міхайлаў (зь Івана-Вазьнясенска). Ён акружыў сябе бандай рабаўнікоў, разьязджаў па ваколіцах Менску, рабаваў і паліў маёнткі й хвальваркі ды падбухторваў да гэтага й мясцовае жыхарства. Нарэшце, калі ўлады агледзеліся ды пачалі лавіць гэтага «начальніка», дык ён уцёк на Случчыну й там рабіў тое самае пад мянушкаю «Лебедзь». Гэты самы Міхайлаў-Лебедзь, пасьля звальненьня Троцкага, быў вайсковым камісарам у Расеі ды зваўся ўжо Фрунзэ.

У ладнай меры нам шкодзілі ў нацыянальнай працы і заходнія суседзі — Палякі. У часе вайны ўцекачы з цэнтральнай Польшчы разьмяшчаліся на Беларусі, і, маючы грашовы фонд, закладалі свае пляцоўкі, школы й камітэты з цэнтрам у Менску. Яны пачалі весьці прапаганду сярод нацыянальна нясьведамых Беларусаў-каталікоў, заклікаючы іх падтрымваць іхныя камітэты й пасылаць сваіх дзяцей ў іхныя пляцоўкі й школы. Палякі арганізавалі сваё войска (лягіёны), якое было раскватэраванае на Беларусі і ў якім было ад 40% да 60% нацыянальна нясьведамых Беларусаў-каталікоў.

Тымчасам, калі больш спрытныя нашыя суседзі расьселіся із сваймі арганізацыямі на нашых землях, нашыя нацыянальныя арганізацыі былі ў зародкавым стане.

У сакавіку месяцы 1917 г. беларускія дзеячы ўтварылі Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску. Неўзабаве з высылкі з усходняга Сібіру вярнуліся Язэп Лёсік і Алесь Гарун (А. Прушынскі), якія пачалі працаваць у гэтым Камітэце й выдаваць газэту «Вольная Беларусь».

Расьцярушаная па франтох і вялікіх прасторах Расейскае імпэрыі беларуская інтэлігенцыя пачала пераклікацца, каб пазьбіраць свае сілы й арганізавацца. У тым часе, аднак, быў ужо абвешчаны загад Керанскага, што забараняў склікаць на фроньце й каля фронту розныя зьезды ды ўтвараць новыя арганізацыі. Такім парадкам, Беларусам-вайскоўцам праз усё лета 1917 году было немагчыма мець свае арганізацыі. Керанскі толькі тады адклікаў свой гэты загад, калі натоўп пад кіраўніцтвам бальшавікоў пачаў перахапляць ад яго ўладу ды тварыць анархію й разбурэньне.

Дазвол на скліканьне зьездаў у прыфрантовым абшары прыпадае на пачатак кастрычніка. На пачатку кастрычніка Беларусы-вайскоўцы хапіліся за свае арганізацыі. Па ўсім фроньце й тылох пачалі паўставаць беларускія арганізацыйныя адзінкі. На пачатку лістапада ўжо дзеілі моцныя беларускія арганізацыі: у Адэсе — Румынскага фронту, у Кіеве — Паўдзённага фронту, у Менску — Заходняга фронту, у Віцебску — Паўночнага фронту. Дзякуючы напорнай энэргіі паручыка Я. Макарэвіча, не зважаючы на забарону Керанскага, яшчэ ў верасьні месяцы была зарганізаваная «Беларуская Рада 12-ай Арміі» ў месьце Валк (Прыбалтыка). У Менску йснавала «Беларуская Вайсковая Рада», якая абагульняла ўсе беларускія вайсковыя арганізацыі. Апрача гэтага было шмат драбнейшых беларускіх арганізацыяў (палкавых, дывізійных, гарнізонных і інш.). А над усімі беларускімі арганізацыямі стаяла ў Менску Вялікая Беларуская Рада.

### *Зьезд вайскавікоў-Беларусаў Паўночнага фронту*

На пачатку кастрычніка 1917 г. Беларусы-ініцыятары пачалі рыхтавацца, каб склікаць зьезд вайскавікоў-Беларусаў Паўночнага фронту ў месьце Віцебску. З гэтае прычыны яны рааслалі паведамленьні па ўсіх вайсковых адзінках: палкох, брыгадах, батальлёнах, дывізіёнах, эскадронах, гарнізонах, камандах і інш., каб Беларусы-вайсковікі абралі па адным прадстаўніку ад кажнае асобнае вайсковае адзінкі ды з адпаведнымі дакумэнтамі ськіравалі іх на 25 кастрычніка (7 лістапада н. ст.) у Віцебск. Нашая 5-я Сібірская стралковая артылерыйская брыгада разаслала адпаведныя паведамленьні па ўсіх батарэях і лёгкіх парках, каб жаўнеры-Беларусы абралі па адным выбаршчыку ад кажнае батарэі й парку, якія ў прызначаны дзень і гадзіну зыйдуцца ў управу брыгады, абяруць із свайго ліку аднаго дэлегата ад Беларусаў брыгады ды ськіруюць яго ў места Віцебск на вышэйназваны беларускі зьезд. Калі гэтае паведамленьне дайшло да нашае батарэі, дык камандант батарэі даручыў гэтую работу правесьці мне, бо ў тым часе быў у нашай батарэі беларускі гурток, якім кіраваў я. У нашай батарэі, як і ў іншых батарэях нашае брыгады, было шмат Беларусаў, больш за 25% усяго складу. У нашай батарэі частка гэтых Беларусаў была ўжо нацыянальна сьведамая. Я выпісваў газэту «Вольная Беларусь» ды меў кніжкі віленскага й пецярбурскага выданьня, якія мы чыталі.

Яшчэ ўлетку 1917 году, калі нашая батарэя стаяла на рыскіх балотах, да нас прыяжджала польская дэлегацыя ад цэнтральнай польскай арганізацыі. Яны склікалі Беларусаў-каталікоў Меншчыны й Віленшчыны ды

запрашалі іх запісвацца ў польскую арганізацыю, якая пастараецца пера-весьці гэтых жаўнераў у польскае войска (легіёны). Я тут-жа на гэтай зборцы сваім мянчуком і віленцам растлумачыў, што Часовы ўрад Керанскага выдаў загад аб незалежнасьці Польшчы, і пасьля вайны Палякі будуць мець сваю незалежную дзяржаву, а Беларусы-каталікі не пакінуць-жа сваіх наседжаных мясьцінаў ды ня пойдуць за Буг шукаць зямлі. А каб яны туды й пайшлі, дык там ніхто ім зямлі ня дасьць. А з гэтага выплывае, што Беларусам, і праваслаўным і каталіком, трэба разам трымацца ды будаваць сваю дзяржаву й ладзіць новае жыцьцё на сваёй зямлі. Што да рэлігіі, дык на вольнай беларускай зямлі й каталіцкая рэлігія ня будзе пераськледвацца.

Беларусы-каталікі нашае батарэі не пайшлі за Палякамі. А калі ў іншых батарэях нашае брыгады некаторыя былі й запісаліся, дык пачуўшы нашую развагу, адмовіліся паехаць у польскія легіёны.

У 1917 г. у вайсковых частках, як цьвярды парадак, усе выбары, малыя й вялікія, праводзіліся патаёмным галасаваньнем. Усім раздаваліся роўныя паперкі, зварочваліся гэтыя паперкі ў трубкі й зьбіраліся ў шапку. І вось гэткім парадкам выбараў я й быў абраны ад свае батарэі на брыгадныя выбары дэлегата на зьезд вайскавікоў Паўночнага фронту.

Калі я ў прызначаны дзень і час прыбыў у ўправу брыгады, дык там прадстаўнікоў ад іншых батарэяў не засьпеў, і, праседзеўшы шмат часу, нікога не прычакаўся. Я ведаў, што ўва ўсіх батарэях нашае брыгады ёсьць шмат Беларусаў, а выбаршчыкі на брыгадны сход не зьявіліся. Я ахвяраваўся абыйсьці ўсе батарэі й паркі, каб даведацца, чаму не зьявіліся кандыдаты на брыгадны сход. На другі дзень я ўстаў рана й пайшоў шукаць па фроньце батарэяў свае брыгады.

Восенскі дзень малы, а надвор'е выдалася вельмі кепскае: ішоў дождж із сьнегам. Лацьвійская разгруджаная гліняная глеба ліпла да ног. Трэба было рабіць вялікія намаганьні, каб боты ўтрымаць на нагах. Як я ні стараўся, але за дзень здолеў абыйсьці толькі тры батарэі. На другі дзень — ізноў тры батарэі. А на трэйці дзень — тры лёгкія паркі.

Выявілася, што ў некаторых батарэях паведамленьне ня было даведзенае да Беларусаў, бо начальнікі быццам ня ведалі, што гэта за «Беларусы» й хто «Беларус». А ў іншых батарэях, хоць гэтае паведамленьне й было даведзенае да людзей, але не знаходзілася ініцыятараў зьбіраць жаўнераў і праводзіць сход. Пры маім удзеле ўсюды былі праведзеныя сходы, дзе былі абраныя кандыдаты на брыгадны сход.

На прызначаны дзень і гадзіну ўсе выбаршчыкі зыйшліся ў брыгадную ўправу і там, таксама патаёмным галасаваньнем, быў абраны дэлегат на зьезд ваякаў-Беларусаў Паўночнага фронту. Гэтым дэлегатам быў я. На аснове выбарных пратаколаў брыгадная ўправа выдала мне адпаведныя дакумэнты, і на трэйці дзень пасьля гэтага я паехаў у Віцебск на зьезд вайскавікоў-Беларусаў Паўночнага фронту.

Гэты зьезд адбыўся якраз у тых днёх, калі бальшавікі ў Петраградзе бралі ўладу. Уначы на станцыі Пскоў газэтнікі разносілі газэты й лістоўкі-

тэлеграмы: паведамленьне із Смольнага, што Зімні палац узяты бальшавікамі. У лістоўках быў апублікаваны першы склад бальшавіцкага ўраду. У іх навет паведамлялася імя праф. Чарнова (камісара земляробства) і М. Горкага (камісара народнае асьветы). Далей на станцыі Дно чытаем новыя паведамленьні й новы склад бальшавіцкага ўраду, без Чарнова й бяз Горкага. Тут-жа чытаем экстраную тэлеграму газэты «Новая жизнь»: М. Горкі абвінавачвае бальшавікоў у руйнаваньні культурных каштоўнасьцяў, гістарычных помнікаў і пагалоўным нішчэньні інтэлігенцыі. І за гэта ён адмаўляецца ад пасады камісара народнае асьветы.

Раніцой, прыехаўшы ў Віцебск, я на станцыі даведаўся, што зьезд мае адбывацца на Замкавай вуліцы на беразе Дзьвіны ў залі Талмуд-Тора. Я хутка гэтую залю знайшоў.

Пачатак зьезду, як і заўсёды: выбары прэзыдыюму, выбары мандатнай камісіі, прывітаньні. Дэлегатаў было шмат: ня помню, колькі, але здаецца, каля 200. Разыходжаньня поглядаў дэлегатаў што да кірунку працы зьезду ня было. Усе яны выказваліся, што трэба ратаваць бацькаўшчыну ад бальшавіцкае анархіі й весьці яе да вольнае й сьветлае будучыні. Тут на гэтым зьезьдзе ўдзялялася вялікая ўвага надыходзячаму Ўсебеларускаму Кангрэсу.

На зьезьдзе выявілася й акцыя, варожая беларускаму нацыянальнаму адраджэньню. Выступаў настаўнік Барысаўскай гімназіі Пячорын. Ён імкнуўся давесьці, што беларускае мовы няма. Ён казаў, што добра ведае Барысаўшчыну й запэўняе, што там навет і сяляне гэтай мовай не гавораць. Калі на беларускім бел-чырвона-белым сьцягу быў напісаны кліч «Няхай жыве вольная Беларусь!» — ён назваў гэты кліч нявыразным і слабым: «Няхай сабе жыве, калі здолее», была ягоная гіронія. Калі яго папыталіся, які ён запрапанаваў-бы кліч, заміж гэтага, дык ён адказаў: «Да здравствует свободная Белоруссия!» Як выявілася, ён быў Расеец, але ў часе вайны працаваў у Барысаўскай гімназіі.

Другі выступаў з прывітальнай прамовай расейскі эс-эр Карпаў. Ягоны й выгляд быў нейкі дзівацкі: валасы даўгія, калматыя, аж па каўнер, рэдкая калматая бародка. Апранены ў даўгую чорную кашулю «касаваротку», слаба падперазаную круглым паяском, каўнер кашулі расшпілены. Гаварыў ён далікатным («елейным») галаском. Ён раіў беларускай моладзі не захапляцца ні беларускай мовай, ні беларускай культурай, ні незалежнасьцяй Беларусі, бо можа здарыцца так, як здарылася ў Малдаванаў: яны абвесьцілі незалежную Малдавію, але не патрапілі напісаць канстытуцыі. Далей ён казаў, што беларуская мова някультурная, а беларускі народ неадукаваны, дык ня толькі не патрапіць канстытуцыі напісаць, але ня здолее кіраваць сваю дзяржаву.

З адказам на ягоную прамову выступіў Тамаш Грыб. Ён у сваёй кароткай, але палкай прамове разьбіў довады Карпава. Карпаў пасунуўся за дзьверы, а дэлегаты зьезду кароткую, але трапную прамову Грыба пакрылі авацыяй.

Быў і яшчэ адзін выпадак расейскай правакацыі. Нейкі нявысокі чалавек у паношаным шынэлі з шыракаватай акладзістай бародкай, гадоў пад сорак, аж зь месца ўскокваў і пратэставаў, калі хто выказваўся за неза-

лежнасьць Беларусі, ці калі выказваліся супраць расейскага панаваньня над Беларусяй. Было прапанавана мандатнай камісіі спраўдзіць ягоны мандат. Выявілася, што ён запраўды мае мандат ад нейкага палка, але сам быў не Беларус, а Расеец ніжнегародзкай губэрні. Калі яго пазбавілі мандату, дык ён пратэставаў.

Добрае ўражаньне на ўсіх зрабіла прамова доктара мэдыцыны — жанчыны, якая ў сваім слове казала, што мае трох сыноў і невялікую нярухомую маемасьць. Яна абяцала, што будзе із сваймі сынамі працаваць на карысьць беларускага народу. Жанчына гаварыла прыгожай беларускай мовай, што на той час было рэдкім. Ейная прамова была пакрытая шумнай авацыяй.

Калі мы, дэлегаты-вайскавікі, у першым дні зьезду абедалі на інтэнданцкім этапным пункце, дык да нас заходзіла група матросаў-бальшавікоў. Гэтая-ж група ўвечары ў Віцебску хадзіла па магазынах Замкавай вуліцы, забіраючы скураныя курткі й іншыя дарагія рэчы, а ўвечары паехала ў Магілеў у Стаўку Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. На другі дзень мы чыталі ў газэтах, што самасудам матросаў забіты Галоўнакамандуючы генэрал Духонін.

Зьезд, абраўшы выканальны камітэт вайскавікоў-Беларусаў Паўночнага фронту й дэлегатаў на Ўсебеларускі Кангрэс у Менск, разьехаўся.

Выканальны камітэт Беларусаў-вайскавікоў 12-е Арміі йснаваў ад верасьня месяца 1917 году. Калі колькі асобаў гэтага камітэту былі абраныя ў Выканальны камітэт Паўночнага фронту, дык дэлегаты вайсковых частак, што ўваходзілі ў 12-ю Армію, зрабілі сход ды абралі папаўненьне ў камітэт 12-е Арміі, каб замяніць тых, што выбылі з камітэту. У ліку дабраных апынуўся й я. Неўзабаве я перабраўся працаваць у вышэйуспомнены камітэт, які кватэраваў у месьце Валк на мяжы Лацьвіі й Эстоніі. На прапанову паручніка Макарэвіча гэты камітэт пасьля майго прыезду быў перайменаваны ў «Беларускую Раду 12-е Арміі».

### *Падарожжа на Ўсебеларускі Кангрэс*

За час даўгое вайны чыгуначны транспарт расейскіх чыгунак быў разьбіты, а ў 1917 годзе праз свавольства расейскіх жаўнераў і зусім разбураны. Часта цягнікі на ходу разрываліся, а таксама сярод поля спыняліся й замярзалі, бо не ставала паліва, а што й было, дык было дрэннае якасьці. Часьцей за ўсё цягнікі апальваліся сырымі дрывамі.

На фроньце ў канцы 1917 году праходзіла дэмабілізацыя салдатаў старэйшых гадоў, а да гэтага, хто куды хацеў, той туды й ехаў, бо ніхто не адважваўся пытацца дакумэнтаў на праезд.

У залях станцыяў заўсёды было поўна салдатаў, і яны там былі запраўднымі гаспадарамі. На станцыях было брудна: яны ніколі ня прыбіраліся, бо заўсёды былі занятыя салдатамі.

Улічваючы дарожныя цяжкасьці, дэлегаты на Ўсебеларускі Кангрэс у Менск з паўночных ускраінаў змушаныя былі выяжджаць загадзя, каб да 5 сьнежня (ст. ст.) быць у Менску. Я быў дэлегаваны на Кангрэс ад Бела-

рускае Рады 12-е Арміі й быў затрымаўся на нейкі час, каб дачакацца адказу на тэлеграму, высланую Глаўкаверху Крыленку, а копія камісару па нацыянальных справах Сталіну. Тэлеграма была гэткага зьместу: «Глаўкаверх Крыленка. Копія камісару па нацыянальных справах Сталіну. Мы, вайскавікі-Беларусы 12-е Арміі, патрабуем вылучыць нас у асобныя беларускія адзінкі: палкі, батальлёны, дывізіёны, батарэі, эскадроны, каманды й сьціраваць нас на бацькаўшчыну. Калі вы гэтага ня зробіце дабраахвотна, дык мы гэта зробім рэвалюцыйным парадкам. Калі вы па ўзурпатарску захапілі ўладу, патаптаўшы ўсе людзкія правы, дык мы, Беларусы, будзем дамагацца сваіх нацыянальных і чалавечых правоў сваймі ўласнымі сіламі».

Ведама, што мы на гэтую тэлеграму адказу не атрымалі. 9-га сьнежня (ст. ст.) я паехаў у Менск на Кангрэс і павёз копіі гэтае тэлеграмы, каб прадэманстраваць яе на Кангрэсе. Яна там была прачытаная й выклікала моцную авацыю.

У тым часе езьдзіць па расейскіх чыгунках было пакутліва, але затое маё падарожжа ўзбагаціла мяне дарожнымі ўражаньнямі. Сеўшы на цягнік у Валку, я бястурботна даехаў да Пскова. Там на станцыі я даведаўся, што цягнік на станцыю Дно пайшоў ужо, а другі этапны цягнік мае пайсьці праз Апочку на Полацак. Калі я дайшоў да таго эшалёну, дык пабачыў шмат салдатаў-пасажыраў у вагонах і каля вагонаў. Ад іх я даведаўся, што цягнік ня можа пайсьці, бо паравозу няма, але дэлегацыя ад салдатаў пайшла да начальніка станцыі патрабаваць паравозу. Я тут прыпыніўся. Неўзабаве вярнулася дэлегацыя ад начальніка й паведаміла, што паравоз павінен быць і цягнік, хоць з прыпазьненьнем, але пойдзе. Тут дэлегат пачаў апавядаць, як ім вялося ў начальніка. Калі яны прыйшлі да яго, дык той адказаў, што ня мае ніводнага прыгоднага да язды паравозу: усе ў рамоньце. Дэлегаты яму паказалі на тыя паравозы, што перацягваюць на станцыі вагоны з аднае каляіны на другую й загадалі яму чапляць такі паравоз. Начальнік станцыі пачаў адмаўляцца й даводзіць, што той паравоз маленькі й гэткага вялікага эшалёну не пацягне. Яму заявілі: «Калі паравоз не пацягне, дык цябе падпражом». Пачалі пагражаць самасудам. Начальнік абяцаўся даць паравоз. Ён змушаны быў узяць з дэпо недарамантаваны паравоз і падаць да гэтага эшалёну. Я падумаў: «Чымся чакаць заўтрашняга дня, дык лепей ехаць сяньня. Усё-ж гэты эшалён пойдзе ў паўдзённым кірунку. Куды колечы, а завязе». І паехаў праз Апочку на Палацак. Ехалася добра й ня зусім марудна. Крыху не даяжджаючы да Апочкі, наш цягнік у чыстым полі спыніўся. Стаём гадзіну, другую й трэйцюю. У вагонах для печак ня стала дроваў. Зрабілася холадна, а тут у нашым вагоне было колькі «лётчыкаў» (гэтак звалі тады вечных вандраўнікоў па этапных пунктах), якія былі бадай у вадным нацеліве. Некаторыя пасажыры пачалі пытацца, дзе тут ёсьць бліжэйшая вёска. Аж нарэшце прыйшоў з Апочкі паравоз, падхапіў наш цягнік. У Апочцы адкінулі папсуты паравоз ды паехалі на Полацак. У Полацку я даведаўся, што да раньня наступнага дня ня будзе ніякага цягніка. А гэта было каля 12 гадзіны начы. Я пайшоў на станцыю, каб там знайсьці прыпынак да заўтрашняга дня. А там сьцюдзена ды набруджана, бо заўсёды занята. Частка

салдатаў-пасажыраў ляжыць на брудней падлозе, а рэшта седзячы сьпяць. Мяне зацікавіла адна праява: чалавек сярэдніх гадоў у форме заўрад-вайсковага ўрадоўца, але без пагонаў, стаіць за сталом на лаўцы ды расьпінаецца із сваёй прамовай. Перад ім на стале на клунках ляжаць салдаты: хто сьпіць, а хто дрэмле. Прамова нікога ня цікавіць. Мне здалося, што гэты чалавек памешаны. Але пасьля зразумеў, што ён-ткі быў памешаны — на бальшавіцкай прапаганьдзе. Відаць, бальшавікі яго паслалі на вузлавыя станцыі для прапаганды.

Пасьля нейкага часу ён спыніў сваю прамову й пытаецца: «Можа ў каго ёсьць нейкае пытаньне?» Маўчаць. «Чаму-ж вы хоць не вазражаеце?» (пярэчыце). Але ніхто яму ні спачуваў, ні супярэчыў.

Тут я пратаптаўся да раньня, а раніцой перайшоў на Дзьвінскі вакзал. Адтуль вечарком здолеў выехаць на Маладэчна. Зь вялікай натугай удалося ўціснуцца ў вагон. У гэтым вагоне было так цесна, што не ўсьцярогся ды апаліў рукаво й крысо шынэлі ад печкі, што была пасярод вагону ды ня была абгароджаная краткамі.

Апоўначы прыехалі ў Маладэчна. Тут ізноў усе залі станцыі былі заваленыя салдатамі. Але іх было поўна й на пэроне. Я тут на вуліцы прашпацыраваў да раньня.

Позным раньнем адыходзіў цягнік на Менск. Людзей, што хацелі ехаць на Менск было гэтулькі, што не маглі-б стоўпіцца і ў тры гэткія эшалёны. Колькі людзей месьцілася ў вагонах, гэтулькі іх месьцілася на стрэхах вагонаў і на буфэрах. Там пашэньціла прымайстравацца й мне.

Наш цягнік прыйшоў у Менск пазнавата ўжо. Дэлегатаў Кангрэсу ськіроўвалі нанач на Брэскі вакзал у санітарныя вагоны. Беларускія дзеячы мелі добрыя дачыненьні з управаю чыгунак, якая магла забясьпечыць дэлегатаў Кангрэсу больш-менш хоць добрым адпачынкам. Пасьля трох турботных дзён і дзьвюх бяссонных ночаў я нарэшце палюдзку адпачыў.

Раніцой прыйшоў у дом Кангрэсу (б. Дом Шляхоцкага Збору) на розе Падгорнай вуліцы й вялікага Сквэру (супраць Гарадзкога тэатру). Тут я дастаў мандат на Кангрэс і хунт (400 грамаў) салдацкага хлеба. Гэта былі дзённыя харчы дэлегата Кангрэсу.

## *На Кангрэсе*

Старшынём Кангрэсу быў др. Янка Серада, чалавек палітычнага розуму й дыпляматычнай вытрыманасьці. Магчыма, што дзякуючы ягонай пільнасьці й разважлівасьці праца Кангрэсу была даведзеная да пэўных вынікаў. Дэлегаты Кангрэсу сваім складам абыймалі ўсе пласты жыхарства Беларусі: сялянства, работнікаў, службоўцаў, уцекачоў, а асабліва шмат было вайскоўцаў. Гэта былі тыя самыя сяляне, работнікі ды інтэлігенцыя, пераапраненыя ў салдацкія шынэлі. У складзе вайскоўцаў пераважала моладзь. Гэтыя дэлегаты належылі да розных палітычных партыяў і групаў: Беларуская Сацыялістычная Грамада, Беларуская Народная Грамада, Беларускія хрысьціянскія дэмакраты, Беларуская Рэспубліканская Партыя,

абласьнікі (Віцебскія й Магілеўскія зямляцтвы — сэкцыя «Всероссийского Крестьянского Союза»), беларускія бальшавікі, Беларусы-ўцекачы й Беларусы беспартыйныя. Гэтая апошняя група была найбольшая, яна складалася зь Беларусаў-вайскоўцаў, сялянаў і работнікаў.

Кангрэс меў парляманцкую форму арганізацыі. Тут, апрача Прэзыдыюму, была Рада Старэйшынаў. Дэлегаты былі падзеленыя на сэкцыі або камісіі. Адбываліся нарады партыяў і групаў, нарады старэйшынаў і пленарныя паседжаньні. Сталай сялібаю Ўсебеларускага Кангрэсу быў былы Дом Шляхоцкага Збору. Дэлегаты розных беларускіх партыяў і групаў, апрача абласьнікоў і бальшавікоў, трымаліся аднаго палітычнага кірунку. Яны стаялі супраць бальшавізацыі Беларусі й за незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах.

Тут трэба ўспомніць аб самых абласьнікох і іхным трыманьні на Кангрэсе. Гэтая арганізацыя была ня гэткая ўжо вялікая, але грызьлівая. Яна ўтварылася наступным парадкам: Неўзабаве па выбуху Лютаўскае рэвалюцыі ў Расеі быў скліканы Ўсерасейскі Сялянскі Зьезд. На зьезд гэты прыбылі дэлегаты й ад некаторых беларускіх губэрняў. Зьезд абраў свой Выканальны камітэт, із сядзібаю ў Петраградзе. Прадстаўнікі ад беларускіх губэрняў утварылі пры гэтым Выканальным камітэце сваю сэкцыю. Як самі Расейцы, гэтак і дэлегаты-прадстаўнікі ад беларускіх губэрняў не прызнавалі Беларусь за асобны край, а Беларусаў за асобны народ. Дык вось такую сэкцыю пры Выканальным камітэце Ўсерасейскага Сялянскага зьезду, якая складалася з прадстаўнікоў ад беларускіх губэрняў, і празвалі «абласьнікамі». З паходжаньня яны былі або Расейцы, або біялягічныя Беларусы, а з прафэсіі — найбольш расейскія ўрадаўцы ці інтэлігенцыя вольных прафэсіяў, але не сяляне.

Вялікая Беларуская Рада заплянавала склікаць Усебеларускі Кангрэс на 18 сьнежня ў Менску. Абласьнікі-ж заплянавалі склікаць гэткі самы канграс у Рагачэве на 20 сьнежня. Яны таксама запрашалі беларускія арганізацыі прысылаць сваіх дэлегатаў на іхны кангрэс. Гэта рабілася дзеля таго, каб увесьці ў блуд беларускае грамадзтва, каб яно ня ведала, на каторы кангрэс пасылаць сваіх дэлегатаў ды гэтым зырваць ці паслабіць той кангрэс, што меў адбыцца ў Менску.

Вялікая Беларуская Рада пачала перамовы з абласьнікамі, каб задзіночыцца зь імі ды склікаць адзін Усебеларускі Кангрэс. Пасьля даўгіх перамоваў абласьнікі згадзіліся із сваймі дэлегатамі прыехаць у Менск. Яны згадзіліся паехаць у Менск не дзеля таго, каб злучыцца ў адзін кангрэс з усімі дэлегатамі ад беларускіх арганізацыяў, але паехалі дзеля таго, што спадзяючыся на свае сілы, думалі павесьці працу Кангрэсу на шкоду беларускага нацыянальнага адраджэньня. Яны мелі добрых прамоўцаў ды атрымалі ад бальшавікоў вялікія сумы грошай, каб праводзіць на Кангрэсе правакацыі.

Абласнікі, што былі на Ўсебеларускім Кангрэсе, належалі да ўсіх расейскіх палітычных партыяў, — ад чарнасоценцаў-манархістых аж да бальшавікоў. Хоць некаторыя зь іх былі й беларускага паходжаньня, але яны бадай усе былі варагамі беларускага нацыянальнага адраджэньня й бела-

рускіх адраджэнцаў. Калі нехта зь Беларусаў пачынаў прамаўляць пабеларуску, дык яны аж шалелі ад злосьці. Асабліва-ж ня любілі яны беларускага дзеяча-нашаніўца Бурбіса. Калі толькі Бурбіс пачынаў прамаўляць пабеларуску, дык яны крычэлі й лаяліся, каб перапыніць яго, а ён прававаўся: «Чаго-ж вы крычыцё? Я-ж прадстаўнік ад міліёнаў Беларусаў!» Ён быў старшынём Беларускай Уцякацкай Грамады, цэнтраля якое была ў Маскве. Калі аднаго разу пры выбары нейкае камісіі была выстаўленая кандыдатура ўцекача з Горадзеншчыны Станіслава Тэсецкага, дык абласьнікі, пачуўшы імя Станіслаў, абурыліся й справілі гвалт. Яны патрабавалі, каб Тэсецкага зусім пазбавіць мандату, што ён — каталік. А Тэсецкі прававаўся, што ён пры жанімсьцьве пасварыўся з ксяндзом ды шлюб браў у праваслаўнага сьвятара, а ягоная жонка й дзеці — праваслаўныя. Пачуўшы гэта, абласьнікі памягчэлі.

На адным пленарным паседжаньні абласьнікі ўнесьлі прапанову, што на Беларусі пануючай рэлігіяй павінна быць праваслаўная рэлігія, бо на Беларусі бальшыня праваслаўнага жыхарства. Супраць гэтага Тамаш Грыб унёс сваю тэзу: «У будучай вольнай Беларусі ўсе рэлігіі павінны быць раўнапраўнымі. Школа павінна быць адлучаная ад царквы, а царква — ад дзяржавы. У будучай вольнай Беларусі ўсе палітычныя й рэлігійныя эмігранты павінны мець прытулак і гасьцінасьць». Прапанова Грыба была прынятая гучнай авацыяй.

Аднаго разу абласьнікі патрабавалі, каб на Кангрэсе зь імі лічыліся, як з адзінымі прадстаўнікамі Віцебскай і Магілеўскай губэрняў. Вайсковая моладзь гэных губэрняў запратэставала. Калі мандатная камісія падлічыла склад дэлегатаў гэных губэрняў, дык выявілася, што вайскоўцаў, сялянаў і работнікаў гэных губэрняў куды больш, чамся самых абласьнікоў. Пасьля гэтага на адным пленарным пасаджаньні дэлегат зь Віцебшчыны Езавітаў выказаўся, што ў сам'і віцяблянаў ёсьць вырадкі, і што гэта ўсім ім няпрыемна, пры гэтым дадаў прыказку: «Адна паршывая авечка ўсё стада брудзе». Абласьнікі абурыліся й пагражалі пакінуць Кангрэс назаўсёды, калі Езавітаў ня возьме сваіх словаў назад. Езавітаў папрасіў слова й выказаўся, што калі дэлегаты Кангрэсу пажадаюць, дык ён возьме свае словы назад. А ён перапрашаць абласьнікоў ня будзе, бо абласьнікі зьняважылі ўсіх віцяблянаў, калі іх меншыня, а хацелі накінуць сваю волю бальшыні.

Аднаго разу, пад канец Кангрэсу ўжо, прыехаў новы дэлегат ад Віцебскае губэрні, сьвятар. Ён у палкай прамове вітаў Кангрэс ад імя «Савету салдацкіх, рабочых і сялянскіх дэпутатаў». Адна мясьціна ягонае прамовы: «... Вялікаросы, Маларосы й Беларусы складаюць адзін непадзельны расейскі народ. Як ня можна Сьвятое Тройцы разьдзяліць на тры асобныя боствы, гэтак ня можна й рускага народу падзяліць на Вялікаросаў, Маларосаў і Беларосаў». Ён гаварыў доўга з захапленьнем, даводзячы, што беларускага народу няма, што гэта выдумка ворагаў «единой святой и неделимой Руси». Паводля дакумэнтаў, дык гэта быў бальшавіцкі агент, а паводля зьместу прамовы, дык чарнасоценец. Сярод моладзі пачалося хваляваньне. Старшыня заклікаў да спакою й цярплівасьці. Аратар часта падкрэсьліваў, што ён выказвае волю Віцебскага Савету салдацкіх, рабочых

і сялянскіх дэпутатаў. Гэта значыць — прадстаўнік бальшавіцкае арганізацыі. Тут Тамаш Грыб ня вытрываў і выгукнуў: «Ура! Поп-бальшавік!» Прамоўца зыйшоў з трыбуны й падаўся проста за дзьверы, толькі яго й бачылі.

Група бальшавізуючых на Кангрэсе ня выступала із сваймі патрабаваньнямі. За лідэра яе ўважаўся З. Жылуновіч. Калі аднаго разу выступалі лідэры ўсіх фракцыяў з Кангрэсу із сваймі прапановамі й патрабаваньнямі, дык Жылуновіч на паседжаньне не зьявіўся, а перадаў сваё лідэрства Фальскаму. Фальскі адмовіўся выступаць з прамовай, бо яму ня было часу, ён праводзіў рэпэтыцыю й рыхтаваў хор да канцэрту, які меўся быць дадзены для дэлегатаў Кангрэсу. Фальскі перадаў сваё лідэрства Ф. Шантыру. Шантыр адмовіўся выступаць, быццам таму, што позна даведаўся й ня здолеў дарыхтавацца да выступу. Трэба думаць, што гэтыя лідэры дамовіліся між сабой, каб ня выступаць з прамовамі. Гэтую справу трэба так тлумачыць: некаторыя нацыянальна маласьведамыя Беларусы на вялікіх петраградзкіх хвабрыках папаліся ў бальшавіцкае асяродзьдзе й апынуліся пад бальшавіцкім уплывам. Калі пасылалі дэлегатаў на Ўсебеларускі Кангрэс у Менск, дык і тыя беларускія бальшавікі рыхталіся да выбараў. Вось якраз сярод бальшавізуючых Беларусаў і апынуліся вышэй успомненыя тры лідэры: З. Жылуновіч, Фальскі й Ф. Шантыр, якім саветы й грошы далі на дарогу, і якія на Кангрэсе заапекаваліся над невялічкай групкай беларускіх бальшавікаў, каб яны не папаліся пад чужацкі (расейскі) ўплыў. Гэтыя выдатныя тры Беларусы ў тых часох належалі да Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а пасьля ў розным часе ўсе тры й загінулі ад бальшавіцкіх рук.

На Кангрэсе была невялікая група, чалавек да дваццацёх, із Смаленшчыны. Восем ад места Смаленску, а рэшта ад земстваў. Дзядзькі былі паджылыя, апраненыя проста ў кажухох. Яны трымаліся сваёй групкай і да абласьнікоў не далучыліся. Як я пабачыў у бурную апошнюю ноч, яны былі зацятыя варагі бальшавікоў і актыўна змагаліся супраць іх.

У Менску ўжо тады беларуская моладзь была згуртаваная ў «Вучнёўскую Грамаду», якая мела свайго дэлегата на Ўсебеларускім Кангрэсе. Ім быў гімназісты Садоўскі. Гэтая Вучнёўская Грамада выступала з хорам і дэклямацыямі. За час працы Кангрэсу было дадзена колькі беларускіх канцэртаў для дэлегатаў Кангрэсу. Гэтыя канцэрты былі жывой беларускай прапагандай. Бальшыня дэлегатаў ня бачыла беларускае мастацкае літаратуры й ня чула беларускага мастацкага слова. І вось гэтае жывое мастацкае слова захапляла глядача й несла яго ў новы, але яму даўна знаёмы й блізкі сьвет. З дэклямацыяй выходзіла маленькая дзяўчынка Б. Галубок, якая дэклямавала патрыятычныя вершы Янкі Купалы: «Прарок», «Над Нёмнам», «Ворагам беларушчыны» й іншыя. Гэтыя вершы прасякалі ў душы й надавалі чалавеку сілы й адвагі на змаганьне за волю, за права нацыі на сваю незалежнасьць, за вызваленьне спад чужацкае няволі ды выклікалі яго на помсту за зьдзек і векавечную крыўду. Канцэрты гэтыя далі больш, як самыя палкія прамовы самых лепшых прамоўцаў. Тут выходзіў і хор пад кіраўніцтвам Фальскага. Тут дэманстравалі работнікі, як яны будуць будаваць хвабрыкі й машыны для свайго краю, сяляне — як яны будуць

паляпшаць зямлю й здабываць больш прадуктаў для краю й на экспарт. Транспартнікі дэманстравалі, як яны будуць будаваць дарогі й перавозіць тавары. Матросы абяцалі пабудаваць флёт на нашых рэках: Дняпры, Прыпяці, Дзьвіне, Нёмне — ды перавозіць тавары. Усе дэманстравалі вызваленьне й адбудову роднага краю.

Кангрэс падыходзіў да канца. Правадыры рыхтаваліся на 17 сьнежня (старога стылю) абвесьціць Беларусь незалежным краем, які будзе кіраваць сам беларускі народ. Гэтае паседжаньне меліся зрабіць урачыстым у Менскім Тэатры. Але вось новая бяда. Згодна бальшавіцкага апошняга закону зямля — сялянам, хвабрыкі — работнікам, а тэатры — артыстым. У гэтым часе ў Менску засталася нейкая прыфрантовая трупа. Менскі тэатр і стаўся ейнай уласнасьцяй. Колькі Прэзыдыюм ні стараўся, але ніяк ня мог адваяваць памешканьне тэатру на гэтае ўрачыстае паседжаньне. Нейкая паджылая маладзіца, старшыня гэтае трупы, была няўступлівай. Яна сказала: «Тэатр — гэта артыстых хлеб, і ніхто ня мае права адабраць у іх гэтага хлеба».

Калі паўднём Прэзыдыюм яшчэ раз пайшоў у тэатр, каб усё-ж дамовіцца з артыстымі што да залі тэатру для вячорнага паседжаньня Кангрэсу, дык пайшлі матросы, пайшла й група моладзі ў салдацкіх шынэлях. Тут у тэатры напаткалі новую правакацыю. Збоку ў тэатры стаяў столік, а ля яго маладая стрыжаная жанчына: гэта была ўсім ведамая эсэраўка Юр'ева, дэлегатка Кангрэсу ад групы абласьнікоў. Яна абменьвала чырвоныя мандаты на белыя. Чырвоныя мандаты мелі тыя дэлегаты, што мелі права пастанаўляючага голасу, сінія мандаты мелі дэлегаты дараднага голасу, а белыя мандаты мелі госьці, якія проста наведвалі Кангрэс. Юр'ева забірала ў дэлегатаў чырвоныя мандаты з пастанаўляючым голасам, а выдавала ім білеты на праезд чыгункай да хаты. Матрос Муха папытаўся ў Юр'евай, на чыё распараджаньне яна выконвае гэтую работу. Яна не дала адказу. Тады ён сказаў: «Зачыні сваю крамку» ды абярнуў ейны столік з паперамі. Юр'ева выхапіла пісталет спад паліта, але ўзноў схавала. Усе пачалі сьмяяцца, а яна пачала зьбіраць свае паперы на доле й зыбраўшыся пайшла.

Для ўрачыстага паседжаньня тэатру так і не ўдалося дамагчыся. Старшыня Кангрэсу др. Серада супакойваў моладзь, што і ў былым Доме Шляхоцкага збору паседжаньне будзе ня менш важным, чымся ў тэатры, што месца паседжаньня Кангрэсу ня зьменіць ягонае гістарычнае важнасьці.

Пленарнае паседжаньне пачалося 17 сьнежня 1917 году (ст. ст.) пад вечар. На гэтым паседжаньні меліся абмеркаваць і прыняць самыя важныя пастановы аб будучыні Беларусі. Гэтыя пытаньні папярэдне абмяркоўваліся на фракцыйных паседжаньнях. Сьпярша выступалі некаторыя дэлегаты, як-бы з уступнымі прамовамі і падкрэсьлівалі важнасьць надыходзячага гістарычнага паседжаньня. Неўспадзеўкі падыйшоў да Прэзыдыюму нейкі незнаёмы высокі чарнамазы з ускалмачанымі валасамі ў простым салдацкім шынэлі чалавек і просіць у Прэзыдыюму слова для прывітаньня Кангрэсу. Ён назваў сябе камандантам места Менску, але дакумэнтаў не паказаў. Прэзыдыюм пачаў адмаўляць у ягонай просьбе. Адзін дэлегат Кангрэсу з групы абласьнікоў, Жыд, які быў ужо ў 1917 годзе ўзьведзены ў

прапаршчыкі (першая ахвіцэрская ранга), сказаў, што знае гэтага чалавека, што гэта запраўды камандант места Менску Крывашэін. Прэзыдыюм даў яму слова для прывітаньня. Крывашэін узыйшоў на трыбуну й гаварыў доўга, але бяз сэнсу, бяз сувязі словаў у сказе, паўтараючыся й зайкаючыся. Як я ні стараўся злавіць сэнс ягонае прамовы, але толькі зразумеў, што ён жаліўся, што яму няма часу ні спаць ні есьці, бо мае надта шмат работы. Дэлегаты ўжо даўно пакінулі яго слухаць ды пачалі гутарыць адзін з адным. А нарэшце пачалі наракаць на Прэзыдыюм і пратэставаць, што ён пушчае розных прыблудаў на трыбуну й гэтым марнуецца дарагі час. У залі чуліся галасы: «Гнаць п'яніцу з трыбуны!» Калі Прэзыдыюм пачаў патрабавальна гнаць таго з трыбуны, дык ён загаманіў: «Абвяшчаю сход зачыненым. Таварышы, разыйдзецеся!»

Хто-ж гэта такі Крывашэін? Аб ім мянчукі расказвалі, што ў сваім часе ён служыў у нейкім транспарце і бадай штодня яго можна было спаткаць п'яным на Нізкім Рынку прадаючы то папонку, то нейкі рамень, то нейкую салдацкую вопратку.

Трыманьне Крывашэіна вельмі абурыла дэлегатаў Кангрэсу. Пад буру выкрыкаў і сьвістаў Крывашэін пайшоў за дзьверы. Пасьля ягонага выхаду старшыня Кангрэсу пачаў заклікаць залю да парадку. Дэлегаты абурыліся на Прэзыдыюм, што ён праз свой недагляд змарнаваў дарагі час.

Калі заля супакоілася й Кангрэс ізноў пачаў працу, дзьверы залі рашчыніліся насьцеж і ў залю ўварваліся чырвонагвардзейцы на чале із сваім начальнікам Рэмнёвам. Яны раптам занялі ўсе праходы, абступілі Прэзыдыюм, пачалі арыштоўваць яго й выводзіць. Калі выводзілі Прэзыдыюм, дык дэлегаты ў залі сьпявалі расейскую рэвалюцыйную песьню «Вы жертвою пали в борьбе роковой» . . . Крывашэін і Рэмнёў думалі, што яны гэтым сваім брутальным актам ужо й разьвязалі Кангрэс, але дэлегаты ў залі не ўдаліся ў роспач. Яны абралі новы Прэзыдыюм і вынеслі пратэст супраць нячуванага гвалту над абраньнікамі беларускага народу. Праца Кангрэсу пайшла далей. Першым чынам прыцягнуты быў да грамадзкае адказнасьці той жыдок-ахвіцэр, што зарэкамэндаваў Прэзыдыюму Крывашэіна. Як відаць, ён, хочучы перапрасіць Кангрэс за сваю памылку й паказаць сваю бязьвіннасьць, ускочыў на стол і разарваў сваю блюзу разам із кашуляй ды стаяў на стале з голымі грудзьмі. Прыйшла вестка, што крывашэінцы зноў ідуць у памешканьне Кангрэсу. Дэлегаты сьпярша скупіліся ў дзьвярох, каб ня ўпусьціць іх у памешканьне. Тыя ўсё-ж уварваліся. Прэзыдыюм ужо не сядзеў за сталамі, а стаяў на сталох. Дэлегаты перад імі ўмомант збудавалі барыкады з крэслаў. Калі крывашэінцы пачалі разьбіраць гэныя барыкады, дык ім праз галовы паляцелі новыя крэслы й барыкада яшчэ павышэла. Крывашэінцы зьмяшаліся з дэлегатамі Кангрэсу й стукалі кольбамі аб падлогу, патрабуючы, каб дэлегаты выходзілі. Дэлегатаў на залі было шмат больш, чымся крывашэінцаў. Па нейкім часе выявілася, што частка крывашэінцаў раззброеная. Гэта сталася проста. Калі стаяў крывашэінец і стукаў стрэльбай аб падлогу, трымаючы яе дзьвума рукамі, дык за гэтую самую стрэльбу бралася яшчэ чатыры рукі. Крывашэінцы прапанавалі дэлегатам зьвярнуць ім стрэльбы, дык яны пойдуць дамоў. Ім стрэльбы зьвярнулі, і яны пайшлі. Гэта падтрымала нас на духу. І зноў пратэстуем. Прэзыдыюм стаіць на сталох, а барыкады неразбураныя.

Крывашэінцы йзноў уварваліся ў залю. Яны ўжо не мяшаліся з дэлегатамі Кангрэсу, а імкнуліся абступіць іх. Рабілі спробу йзноў дабрацца да Прэзыдыюму, але дэлегаты, скупіўшыся каля барыкадаў, не дапусьцілі іх туды. Валтузьня трывала ўсю ноч. Бальшавікі больш цырымоніліся з тымі дэлегатамі, што былі ў простым салдацкім адзеньні. Урэшце, бальшавікі надумалі спосаб высяленьня дэлегатаў з залі. Яны бралі ад дзьвярэй па два дэлегаты з парадку ды па сходах зводзілі надол, на вуліцу, ды там пакідалі іх. На гэткае высяленьне патрабавалася шмат часу.

Маё месца было каля барыкадаў, а дзеля гэтага пры высяленьні мая чарга была блізка да апошніх. Я быў у ваднэй пары з Мамонькам. Калі нас вялі па сходах, дык ён лаяўся з бальшавіцкім канвоем і вымагаў, каб яго звольнілі, бо ён сухотнік. Мы думалі, што нас усіх будуць ськіроўваць у вязьніцу, але тымчасам нас вывялі на вуліцу дый пакінулі.

Пасьля гэтага я не пайшоў начаваць на Брэскі вакзал у санітарныя вагоны, але падаўся на Старажоўку шукаць свайго знаёмага. Калі я прыйшоў да яго, дык быў ужо досьвітак. Крыху адпачыўшы, я пайшоў на Пляц Волі. Там, у былым Губэрнатарскім Доме, зьмяшчалася Вялікая Беларуская Рада й Вайсковая Рада. Прыходжу. Аж там пры дзьвярох стаіць бальшавіцкая варта. Я пачаў праходжвацца па пляцы. Сустрэў свайго знаёмага, дэлегата Кангрэсу, Я. Хвяцковіча. Папытаўся ў яго аб долі правадыроў Кангрэсу (д-ра Серады, Езавітава, Прушынскага й інш.). Ён сказаў мне, што яны жывыя й на волі. Пры гэтым ён паведаміў, што ўчарашняга вечару, калі бальшавікі разганялі Ўсебеларускі Кангрэс, дык другая група бальшавікоў зрабіла напад на Губэрнатарскі Дом на гасподу Вялікай Беларускай Рады й Вайсковай Рады. Яны забралі Беларусаў, што там былі, іхнюю маемасьць і канцылярыю ды перавезьлі ўсё на Захараўскую вуліцу ў Настаўніцкі Інстытут (пасьля Пэдтэхнікум), а гэнае памешканьне абставілі сваёй вартай. Ён папрасіў мяне перадаць іншым дэлегатам, каго я спаткаю, каб яны наведалі новае памешканьне Вялікай Беларускай Рады й Вайсковай Рады на Захараўскай вуліцы, дзе атрымаюць патрэбныя даведкі. Калі я прыйшоў у тое памешканьне, дык пабачыў, што там рэчы параськіданыя, бо яшчэ не пасьпелі ўпарадкаваць. Там спаткаў шмат із сваіх знаёмых і кіраўнікоў Кангрэсу. Мне далі адрыс і сказалі пайсьці папаўдні на Віленскі вакзал у клюб чыгуначнікаў былое Лібава-Роменскае чыгункі, дзе будзе адбывацца далейшае чароднае паседжаньне Ўсебеларускага Кангрэсу.

Калі я 31 (18 ст. ст.) сьнежня прыйшоў у клюб чыгуначнікаў, дык шмат дэлегатаў было ўжо там. Хутка зыйшлася й рэшта. Пачалося паседжаньне.

Першым чынам аформілі пратэст супраць нячуванага бальшавіцкага гвалту над прадстаўнікамі беларускага народу. Пасьля Кангрэс прыняў шэраг пастановаў аб арганізацыі ўлады на Беларусі. Тут-жа Кангрэс вылучыў Выканальную Раду Ўсебеларускага Кангрэсу, якая будзе рэпрэзэнтаваць беларускі народ аж да таго часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм на вольнай беларускай зямлі, якому Выканальная Рада й зложа свае паўнамоцтвы. Гэтаму выканальнаму органу было даручана арганізаваць уладу на Беларусі: кааптаваць, паклікаць і ўпаўнаважваць адпаведных для гэтае справы людзей. Складаць урады й рады ды праводзіць выбары ў Устаноўчы Сход.

У самым гарце працы Кангрэсу ў памешканьне увайшлі тры маладыя хлапцы, якія назвалі сябе «камісарамі западнай абласьці». Гэта былі: Дандар, Рэзаўскі й Мясьнікоў. Яны патрабавалі ад чыгуначнікаў высяліць Усебеларускі Кангрэс з памешканьня чыгункі.

Тады ўзьняўся таўсты голены дзядзька і, бліснуўшы акулярамі, загаманіў: «Пайшлі вон, мярзаўцы!» Калі тыя нешта хацелі сказаць, дык ён дадаў: «Хутчэй выбірайцеся, каб вашага тут і духу ня было! Калі будзеце больш назаляцца, ўдык за два дні будзе спынены рух па ўсіх чыгунках». «Камісары» паціснуліся за дзьверы. Дэлегаты да вечара закончылі сваю працу й разьехаліся. У Менску застаўся Выканальны Камітэт Усебеларускага Кангрэсу. Гэты Выканальны Камітэт, папоўніўшы свае шэрагі новымі дастойнымі людзьмі, і абвесьціў Акт 25 Сакавіка 1918 году ды ўтварыў урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які прабыў на эміграцыі да нашых дзён і цяпер рэпрэзэнтуе Беларускі Народ.

*

На Кангрэс зьехалася каля 1.800 дэлегатаў. Першымі днямі сярод гэткай вялікай грамады незнаёмых між сабой людзей панаваў хаос ды назіралася відавочная прарасейская тэндэнцыя. Варочаючыся дахаты з паседжаньняў Кангрэсу, беларускія дзяўчаткі-патрыёткі плакалі з роспачы, бо не спадзяваліся, што Кангрэс дасьць для беларускай адраджэнскай справы пажаданыя вынікі. Але мы цяпер бачым, што справа была выратаваная і Кангрэс даў бліскучыя вынікі, а гэта — Акт 25 Сакавіка. Гэтаму спрыяла добрае кіраўніцтва, якое залежала ад колькіх асобаў. Успомнім тут колькі прозьвішчаў.

ЯЗЭП ВАРОНКА. З прафэсіі настаўнік. Два разы абіраўся сябрам Дзяржаўнае Думы ад сялянаў. Бачачы гэткі вялікі збор дэлегатаў, ён правёў пастанову арганізаваць Кангрэс на парляманцкі лад. Яму было даручана распрацаваць парадак працы Кангрэсу, і ён гэтую работу ўдала выканаў. Усе дэлегаты належылі або да існуючых партыяў, або тварылі асобныя групы. Гэта дало кожнай фракцыі магчымасьць падрабязна абмяркоўваць тое ці іншае пытаньне на сваім вузкім паседжаньні, каб ведаць, за што галасаваць на пленарным паседжаньні. Гэткі парадак дапамог беспартыйным вайскавіком, сялянам, уцекачом ці работнікам трымацца свайго сталага месца. Тут навет мала сьведамыя ці й нясьведамыя ў нацыянальным пытаньні ўсьведамляліся й на пленарных паседжаньнях галасавалі так, як было пастаноўлена на паседжаньні фракцыі. Гэткі парадак працы Кангрэсу ня даў магчымасьці абласьніком загарнуць у свае рады маласьведамых у нацыянальным пытаньні вайскавікоў, сялянаў ці работнікаў, на што яны спачатку спадзяваліся.

ТАМАШ ГРЫБ. Студэнт, пасьля лідэр партыі Беларускіх Сацыялістых-Рэвалюцыянераў. Гэта быў шчыры беларускі патрыёт, добры прамоўца, часамі ня вытрыманы, здольны на калючыя рэплікі. Ён вельмі ўдала разьбіваў довады расейскіх шавіністых і беларускіх рэнэгатаў, калі яны даводзілі, што нявартa траціць часу на беларускае нацыянальнае адраджэньне. Ягоныя прамовы дзеілі ня толькі на моладзь, але й на старых сялянаў.

ЯНКА СЕРАДА. Вэтэрынарны доктар. Быў старшынём Кангрэсу й лідэрам бадай што найбольшай фракцыі — беспартыйных вайскавікоў, сярод якіх была бальшыня вясковае інтэлігенцыі. Доктар Серада — чалавек палітычнага розуму й дыпляматычнай вытрыманасьці. Магчыма, што толькі дзякуючы ягонай пільнасьці й разважлівасьці праца Кангрэсу пры такіх цяжкасьцях была даведзеная да пажаданых вынікаў. Ён быў найздальнейшы арганізатар. Яго любілі й шанавалі ня толькі ягоныя прыхільнікі, але й ягоныя палітычныя варагі. Шмат разоў абласьнікі ў часе канфлікту дэманстрацыйна пакідалі залю паседжаньня. Тады Кангрэс упаўнаважваў свайго старшыню на перамовы з абласьнікамі. Той ішоў і улажваў канфлікт. Арганізацыйная здольнасьць д-ра Серады была адкрытая на Зьезьдзе Вайскавікоў-Беларусаў Паўночнага фронту, дзе ён быў абраны на старшыню зьезду. Там-жа яго абралі дэлегатам на Ўсебеларускі Кангрэс, які абраў яго на свайго старшыню, а тады на старшыню Выканальнае Рады Ўсебеларускага Кангрэсу. На гістарычным паседжаньні 25 сакавіка 1918 г. ён быў абраны на першага Старшыню (ці, як цяпер кажуць, Прэзыдэнта) Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Апрача вышэй успомненых трох дэлегатаў Кангрэсу, трэба ўспомніць і чацьвертага — Уладыслава Галубка. Бязумўна, шмат было дэлегатаў Кангрэсу, не азнаёмленых зь беларускай мастацкай літаратурай, зь беларускім мастацкім словам. Але калі яны пабывалі на канцэртах Галубка, дык захапляліся беларускім нацыянальным рухам і адраджэнскаю ідэяю.

Некаторыя часам пытаюцца: «Ці выносіў Кангрэс пастанову на сваім паседжаньні аб незалежнасьці Беларусі?» На гэтае пытаньне можна адказаць і «так» і «не». Як ужо казалася вышэй, усе пытаньні, што мелі праходзіць праз Кангрэс, абмяркоўваліся раней і пастанаўляліся на фракцыйных паседжаньнях. Дык вось якраз гэтае пытаньне аб незалежнасьці Беларусі на франкцыйных паседжаньнях прайшло пераважнай бальшынёй галасоў. Яно мела быць пастаўленае на пленарным паседжаньні Кангрэсу 31 сьнежня 1917 году. Калі-б галасаваньне адбылося, дык пастанова гэтая была-б фармальнай. А што пастанова такая прайшла-б бальшынёй галасоў, аб гэтым ведалі й дэлегаты Кангрэсу, і бальшавікі. І калі пачалося ўрачыстае паседжаньне, дык Крывашэін і Рэмнёў прывялі сваіх узброеных чырвонаармейцаў, якія блізка ўсю ноч вялі фізычнае змаганьне з дэлегатамі Кангрэсу.

Магчыма, у кагосьці можа паўстаць пытаньне, чаму гэта на гістарычным паседжаньні 25 сакавіка 1918 году аж 12 гадзінаў (ад 6 гадзіны вечара 24-га сакавіка да 6 гадзіны раніцы 25 сакавіка) давялося йзноў абмяркоўваць гэтае пытаньне, калі фактычна Кангрэс на сваіх фракцыях вынес пастанову аб незалежнасьці Беларусі? Вось-жа, калі абіралі Выканальную Раду Ўсебеларускага Кангрэсу, дык у яе ўвайшоў гэткі працэнт абласьнікоў, які быў на Кангрэсе. Гэтая Выканальная Рада пасьля была папоўненая прадстаўнікамі ад местаў, земстваў і нацыянальных меншыняў (Жыдоў, Расейцаў і Палякоў). А з новымі людзьмі трэба было нанова абмяркоўваць гэтае пытаньне й даводзіць ім аб праве Беларусаў кіраваць сваю долю. Хоць некаторым з гэтых новых радных-чужынцаў і не хацелася бачыць вольнай

і незалежнай Беларусі, але нарэшце пераважнай бальшынёй была абвешчаная незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі й падпісаны Акт 25 Сакавіка. Пасьля гэтага дэлегаты-абласьнікі злажылі свае мандаты ўраду БНР, тлумачачы тым, што той, хто паслаў іх на Ўсебеларускі Кангрэс, ня даў ім права галасаваць за незалежную Беларусь. Гэтта яны сказалі праўду: іх паслалі на Кангрэс бальшавікі, якім няміла было бачыць Беларусь незалежнай.

Заходняя Нямеччына, 1949 г. *А. В.*

⁕

*1917, сакавіка 23.* — Паведамленьне газэты «Известия Минского Совета» аб пастанове сходу менскіх студэнтаў стварыць дэмакратычны клюб.*

23 марта состоялось организационное собрание минского студенчества. На собрании присутствовало несколько сот студентов и курсисток. Приветствовали собрание: представители от Совета рабочих и солдатских депутатов, левого крыла Белорусской громады, еврейской социал-демократической партии Бунда, сионистской молодежи.

Появившегося на собрании С. Ф. Ковалика избрали в почетные председатели и приветствовали, как «дедушку» русской революции.

Собрание постановило создать демократический клуб студентов; при клубе организовать: лекторскую комиссию, читальню по политическим, социальным и национальным вопросам, бюро рабочей печати и бюро для связи с общественными учреждениями.

Предложено товарищам с выясненной политической платформой работать в местных партийных организациях. Были произведены выборы во временный исполнительный комитет. На собрании была почтена вставанием память жертв революции и постановлено послать приветствие Петроградскому и местному Совету рабочих и солдатских депутатов.

Газэта «*Известия Минского Совета*» № 10, 28. III. 1917;
паводля ВОСРБ, I, 139-140.

---

* Даты — старога стылю.

*1917, красавіка 6. — Пастанова Менскага камітэту Ўсерасейскага Сялянскага Саюзу аб дачыненьні да Ўсебеларускага Зъезду й Беларускага Нацыянальнага Камітэту.*

Минский комитет Всероссийского крестьянского союза, обсудив вопрос о деятельности так называемого «белорусского национального с'езда» и избранного на нем «Белорусского национального комитета», единогласно постановил следующее:

1) «Белорусский национальный комитет» ни в коем случае не может быть признан выразителем мнений всего белорусского народа и не имеет никакого права говорить от его имени, т. к. белорусский народ в лице своих трудовых классов — крестьян и рабочих — в работах «национального с'езда» никакого участия не принимал.

2) «Белорусский национальный комитет», являясь по составу своему организацией имущих слоев белорусского народа и особенно поместного землевладения, а по характеру своих выступлений чисто националистическим, угрожает интересам крестьян и рабочих стремлением оторвать их, на почве усиленно подогреваемого национализма, от трудящихся масс всей России и подчинить идейному руководству помещиков.

3) Минский комитет Всероссийского крестьянского союза, стоящий на страже интересов крестьянства, будет вести с этими попытками беспощадную борьбу, т. к. деятельность «Белорусского национального комитета», если будет иметь успех, неминуемо должна привести к розни в рядах трудового народа и тем помешать ему добиться коренного изменения его экономического и политического положения.

4) Данное постановление опубликовать в газетах и довести о нем до сведения Временного правительства, а также Петроградского, Московского и Минского Советов рабочих и солдатских депутатов.

Газэта «*Минский голос*» № 2396, 6. IV. 1917;
паводля ВОСРБ, I, 168-169

*1917, красавіка 20. — Удзел Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Першым сялянскім зъезьдзе Менскае й Віленскае губэрняў.*

20 апреля в помещении Миского городского театра открылся с'езд крестьянских делегатов.

С'ехалось 800 делегатов.

Председателем избран тов(арищ) председатель Совета рабочих и солдатских депутатов М. А. Михайлов.*

Избран президиум в составе 18 чел.

С'езд приветствовали представители Совета рабочих и солдатских депутатов, Фронтового комитета, крестьянского союза, соц(иал)-дем(ократов),

соц(иалистов)-революц(ионеров), белорусского комитета, губ(ернского) комиссара и других организаций.

Газэта *«Минский голос»*, № 2409, 22. IV. 1917, паводля ВОСРБ, I, 244-245.

---

* М. В. Фрунзе.

*1917, травеня 11. — Заява ад выканальнага Савету сялянскіх дэпутатаў Менскае й Віленскае губэрняў у вадказ на абвінавачаньні з боку Беларускага Нацыянальнага Камітэту.*

Исполнительный комитет Совета крестьянских депутатов, состоящий исключительно из крестьян и собравшийся 7 мая, в первый раз после появления в печати открытых писем «Национального белорусского комитета» и украинской громады с целым рядом обвинений по поводу обвинения председателя с'езда и исполнительного комитета М. А. Михайлова, считает своим долгом сделать следующее заявление:

1. Тов. Михайлов не вел никакой агитации против белорусского языка ни на с'езде, ни до его созыва.

2. Культурно-просветительной секцией с'езда, в работах которой тов. Михайлов участия не принимал, действительно была принята резолюция о преподавании на русском языке в начальных белорусских школах Минской и Виленской губ., но такое постановление было принято по настоятельному требованию крестьян, которые заявляли, что белорусского языка, как такового, нет, а потому и преподавание на нем вести невозможно.

3. Неправда и то, что тов. Михайлов не давал на с'езде слова представителям «Национ(ального) белорусского комитета» и украинской громады. Слово получал каждый, желавший говорить по существу затронутого вопроса, а если некоторым не удавалось окончить своих речей, виноват в этом не тов. Михайлов.

Всем участникам с'езда и следящим за его работами по газетным отчетам памятен случай с г. Петрусевичем, приветствие которого на белорусском языке собрание не захотело слушать, и только благодаря настоятельным требованиям тов. Михайлова с'езд дал возможность оратору закончить речь.

Все обвинения в проведении обрусительной политики и демагогии, возводимые на тов. Михайлова, ни на чем не основаны и являются злостной выдумкой «Белорусского нац(ионального) комитета» и украинской громады, которые в своем раздражении не постеснялись даже об'явить тов. Михайлова врагом народа. Но мы знаем, что человек, в течении 20 лет боровшийся за свободу народа в рядах социал-демократической рабочей партии, 2 раза приговоренный к смертной казни и отбывший 6 лет тяжелой каторги, не был и не может быть врагом народа. И те, кто сопоставляет имя тов. Михайлова с епископом Евлогием, должны сказать, кто они сами и что ими сделано для освобождения белорусского или иного народа.

С'езд своим настроением и резолюциями ясно показал, что он не разделяет взглядов и стремлений «Белор(усского) нац(ионального) комитета» и не считает его выразителем мнений большинства белорусского народа.

Ввиду того, что деятели «Белор(усского) нац(ионального) комитета» и украинской громады в своих открытых письмах извратили хорошо известные им факты, чтобы возвести на тов. Михайлова гнусную клевету, исполнительный комитет Совета крестьянских депутатов постановил:

во-первых, ни в какую полемику с этими организациями не вступать и

во-вторых, предложить тов. Михайлову от третейского суда, предложенного ему г-ном Смоличем, отказаться.

Просим другие газеты перепечатать.

Исполнительный комитет
Совета крестьянских депутатов
Минской и Виленской губ.

Газэта *«Минский голос»*, № 2425, 11. V. 1917,
паводля ВОСРБ, I, 294-295.

*1917, чырвеня 9. — Паведамленьне газэты «Оршанский вестник» пра змаганьне паміж Беларускім Нацыянальным Камітэтам і Менскім камітэтам Сялянскага Саюзу што да будучыні Беларусі.*

Вопрос о будущем Белоруссии вызвал серьезные трения между представителями «Минского национального комитета» и представителями местного комитета крестьянского союза. Страсти разгорелись до того, что привели к ряду резких столкновений. В конечном результате группы настолько раскололись, что одновременно созвали два с'езда.

«Белорусский национальный комитет» определил будущее Белоруссии следующим образом. Согласно постановлению с'езда государственный строй России должен вылиться в форму федеративно-демократической республики. В этой республике Белоруссия должна занимать вполне автономную область, как национально-культурная самостоятельная единица. Аграрный вопрос, однако, выделяется и передается компетенции Учредительного собрания с тем условием, что способы разделения устанавливаются «Белорусской краевой радой». Относительно войны комитет высказался, что он стоит за мир без аннексий и контрибуций, но, основываясь на праве самоопределения народов, стоит на возвращении Белоруссии части территории, захваченной врагом.

Крестьянский союз на своем с'езде вынес иные требования. Он выступил очень враждебно против «национального комитета» и высказался против национальной автономии Белоруссии, считая ее неразрывной частью России в культурном и национальном отношении. Борьба обеих организаций достигла такого напряжения, что после закрытия с'ездов президиум «национального комитета» вызвал на третейский суд президиум крестьянского союза. В спор были втягнуты местная украинская рада, вставшая на сторону

«национального комитета», и местный Совет рабочих и солдатских депутатов, взявший сторону крестьянского союза. Положение пока остается неопределенным.

Газэта *«Оршанский вестник»*, № 815, 9. VI. 1917,
паводля ВОСРБ, I, 359-360.

*1917, ліпеня 4. — Пастанова прадстаўнікоў ад Беларусі на Ўсерасейскай нарадзе сялянскіх дэпутатаў супраць дзейнасьці Беларускае Сацыялістычнае Грамады.*

Белорусская область, как часть Всероссийского Совета крестьянских депутатов, состоящая из представителей всех уездов Минской, Могилевской, Витебской, Виленской и Гродненской губ., на основании полномочий и наказов, данных трудовым крестьянам с мест, а также на основании резолюции по национальному вопросу Минского областного крестьянского с'езда, заявляет всему российскому трудовому народу, что белорусское крестьянство во все времена русской истории чувствовало себя как нечто целое и неделимое с русским народом и в своей массе ни в песнях, ни в обычаях, ни в сокровенных чаяниях не выявляло стремлений к отделению от России.

С болью в душе нам, депутатам Белоруссии, приходится констатировать факт существования, не имеющей ничего общего с белорусским крестьянством, Белорусской социалистической громады, которая состоит из крупных помещиков и кучки навербованных на их средства лиц, ставящих своей целью отделение Белоруссии от России.

Рассмотрев этот вопрос, Белорусская область постановила сделать следующее заявление:

1. Существующая политическая организация, именующая себя Белорусской социалистической громадой, является представительницей интересов крупных аграриев Белорусского края, на средства которых она и содержится, и поэтому ни в коем случае не может быть выразительницей интересов трудовой демократии Белорусского края.

2. В своих действиях и заявлениях Белорусская социалистическая громада не имеет права выступать от имени Белоруссии, т. к. на это трудовой народ нашего края названную организацию не уполномочивал.

3. Несмотря на резко отрицательное отношение к стремлениям этой «громады», выраженное на областном крестьянском с'езде в Минске, эта организация пытается в своих выступлениях опираться на этот с'езд. Подобные поступки мы считаем основанными на самозванстве и идущими во вред интересам крестьянства Белорусского края в их борьбе за землю и волю.

4. К своему чрезвычайному изумлению мы узнали, что от Белорусской социал(истической) громады посылается 2 представителя в комиссию по выработке законопроекта по созыву Учредительного собрания. Зная, что эти лица не являются уполномоченными от народа, а лишь от кучки помещиков и навербованных на их средства лиц, мы заявляем, что все выступления этих делегатов должны быть рассматриваемы только с этой точки зрения.

5. Со своей стороны представители Белорусской области Всероссийского крестьянского Совета считають, что для истинных отражений чаяний белорусского народа необходимо в комиссию по выработке законопроекта об Учредительном собрании включить 2 представителей от Белорусской области Всероссийского Совета крестьянских депутатов, о чем возбудить соответствующее ходатайство.

6. От имени белорусского населения, избравшего и пославшего нас во Всероссийский Совет крестьянских депутатов, мы заявляем, что трудовой народ Белоруссии не желает отмежевываться в каком бы то ни было отношении от общей для нас родины России и всякие попытки к отмежеванию рассматривает, как стремление имущих классов Белоруссии захватить в свои руки власть и не дать крестьянам земли и воли.

7. Исполнительному комитету Всероссийского Совета крестьянских депутатов белорусская группа поручает предпринимать соответсвующие шаги в духе означенной резолюции.

8. Означенное постановление поместить в газетах для широкого оповещения.

Делегат Всероссийского крестьянского с'езда

Д. Оношко

Газэта *«Наше свободное слово»*, № 59, 4. VII. 1917,
паводля ВОСРБ, I, 439-441.

*1917, ліпеня 9. — Ліст выканальных камітэтаў Саветаў сялянскіх дэпутатаў Менскае й Віленскае губ. і Менскага губэрнскага настаўніцкага зъезду ў рэдакцыю «Крестьянской газеты» супраць дзейнасьці Беларускага Нацыянальнага Камітэту.*

Ввиду того, что так называемый «Белорусский национальный комитет» развивает свою деятельность якобы под общенациональным флагом и даже организует такой же фонд путем разного рода сборов, у многих, незнакомых с действительным положением дела, может создаться впечатление, что это комитет действительно представляет собой белорусскою народность и является выразителем ее воли.

В интересах демократии всей Белоруссии мы считаем своим долгом заявить, что «Белорусский национальный комитет» со стоящими за ним крупными помещиками не является ни выразителем воли белоруссов, ни их представителем, что выразилось в постановлениях крестьянского с'езда Минской и части Виленской губ., Минского губернского учительского с'езда и группы учителей-военных, уроженцев Минской, Виленской, Могилевской, Витебской и Гродненской губ. — участников фронтового учительского военного с'езда.

Все эти с'езды, являющиеся истинными выразителями мнений демократических элементов края, признали, что притязания «Белорусского национального комитета» представлять собой белорусскою народность являються ни на чем не основанными и осудили его деятельность, признав ее не соответствующей интересам трудящихся классов края.

Ввиду этого исполнительные комитеты крестьянских депутатов в Минской губ. и Минского губернского учительского с'езда заявляют, что они никакого отношения к сбору, организованному «Белорусским национальным комитетом», не имеют и такового не поддерживают.

Председатель исполнительного комитета
Совета крестьянских депутатов М. Михайлов

Председатель ис(полнительного) ком(итета)
губ(ернского) учит(ельского) союза
А. Сцепуржинский

Группа учителей-военных белоруссов из западных губ.

*«Крестьянская газета»*, № 9, 9. VII. 1917,
паводля ВОСРБ, I, 459-460.

*1917, жнівеня 8. — Пратэст настаўнікаў, дэлегатаў ад Беларусі на зъезьдзе Ўсерасейскага Настаўніцкага Саюзу, супраць Беларускага Нацыянальнага Камітэту.*

Мы, представители об'единенного учительства Белоруссии на VI делегатском с'езде Всероссийского учительского союза, выслушав доклад В. А. Герда об организации Государственного комитета по народному образованию, заявляем, что мы ни в коем случае не можем согласиться на участие в Государственном комитете в качестве представителей белорусского народа тех лиц, которые являются представителями в совещании по составлению закона о выборах в Учредительное собрание, по следующим мотивам:

1. В указанное совещание от имени белорусской национальности послал своих представителей «Национальный белорусский комитет», образованный незначительной группой лиц, в большинстве не белорусской национальности, лишь живущих на территории Белоруссии, всегда действовавших не в интересах широких демократических масс. Эти лица (кн. Радзивилл, гр. Тышкевич, Скирмунт и др.), крупные местные аграрии и люди, вокруг их группирующиеся, никогда раньше не считали себя белоруссами, на белоруссов смотрели с глубоким презрением и всегда действовали глубоко ненационально в белорусском смысле.

2. Крестьянская белорусская масса и демократическая интеллигенция считают чрезвычайно опасными и вредными для белорусского народа те идеи разделения и сепаратизма, которые выдвинул «Национальный белорусский комитет», встретивший всеобщее осуждение и под давлением общественного мнения несколько раз менявший и платформу и свое название и ныне прекративший свое существование.

3. Если есть наши особенные белорусские интересы, то мы их будем защищиать со всей энергией и настойчивостью. В данный момент у белорусского народа одна цель и задача со всем русским народом: «Земля и воля», и раз'единение демократических белоруских сил, которого и доби-

ваються деятели «Национального белорусского комитета», мы не допустим и будем энергично бороться против тех лиц, кои в своих личных и классовых интересах присвоили себе имя представителей Белоруссии.

4. С самого возникновения «Национального белорусского комитета» подлинные представители Белоруссии в лице крестьянских и учительских с'ездов протестовали против присвоения комитетом имени «Белорусский» и против допущения представителей этого комитета по выборам в Учредительное собрание, и вот почему мы считаем, что допущение этих лиц в Государственный комитет по народному образованию глубоко неправильно, против которого учительский союз должен протестовать.

5. Выборы представителей в Государственный комитет от белорусского населения должны быть представлены областному с'езду представителей всех краевых исполнительных комитетов и Советов крестьянских депутатов или представителей земства, избранных всем населением. Настоящее заявление подписали представители Минской, Могилевской, Витебской, Виленской и Гродненской губ.

Протасевич, Масюкевич, Лекант, Лобанов, Померанцев, Фиглович, Ромашкевич, Шолонкевич, Николаюк, Островцов, Раковский, Михайлов, Михалкович, Селиванов, Зорин, Высоцкий, Санцов, Сташенюк, Романов, Новиков, Косяк, Емельянов и Волчков.

Белорус-делегат Всероссийского учительского с'езда.
Другие газеты прошу перепечатать.

Газэта *«Вестник Минского губернского комиссариата»*, № 139, 24. VIII. 1917; паводля ВОСРБ, I, 545-546.

*1917, жнівеня 10. — Паведамленьне газэты «Оршанский вестник» аб пратэсьце зьезду сялянскіх дэпутатаў Менскае й Віленскае губэрняў супраць аўтаноміі Беларусі.*

С'езд крестьянских депутатов Минской и Виленской губ. вынес резолюцию, в которой осуждает идею политической автономии Белоруссии, проповедуемую «Белорусским национальным комитетом», считает ее не соответствующей интересам труддящихся классов белорусского народа и находит, что областное самоуправление края в пределах демократической республиканской России явится найлучшим разрешением вопросов общественной и политической жизни при условии, что каждой народности края будет обеспечена возможность культурно-национального развития.

Газэта *«Оршанский вестник»*, № 867, 10. VIII. 1917; паводля ВОСРБ, I, 561.

*1917, жнівеня 18. — Друкарня газэты «Вольная Беларусь» і забастоўка друкароў Менску паводля паведамленьня газэты «Вестник Минского губернского комиссариата».*

Третьего дня забастовали рабочие местных типографий ввиду отказа владельцев типографий повысить в связи с вздорожанием жизни заработную плату.

По этой причине большинство местных газет вчера не вышло.

Типографии некоторых газет требования рабочих удовлетворили, и газеты эти вышли.

Газеты эти след(ующие):

Соц(иал)-дем(ократическая) газета «Звезда», белорусская газета «Вольная Беларусь»*, польская газета «Дзенник минский» и еврейская газета «Веккер» (бундовская).

Из больших газет выходит с одобрения союза печатников «Вестник Минского губернского комиссариата», дабы город не остался без газет.

Согласительная камера из представителей хозяев и рабочих к соглашению не пришла, и забастовка продолжается.

Газэта *«Вестник Минского губернского комиссариата»*, № 134, 18. VIII. 1917; паводля ВОСРБ, I, 589.

---

* Газэта «Вольная Беларусь» была органам Беларускага Нацыянальнага Камітэту, выбранага на зьезьдзе беларускіх арганізацыяў у Менску ў сакавіку 1917 г., і выходзіла ад 28 траўня 1917 г. па лістапад 1918 г.

*1917, кастрычнік-сьнежань. — Праца беларускіх зьездаў 1917 году ў галіне асьветы. З артыкулу М. Сабалеўскага «Школа Белоруссии» ў часапісе «Чырвоны шлях» (Петраград, 1918 г.).*

Наиболее ярко обозначившийся в дальнейшем ходе поступательного развития национальной идеи процесс углубления национального самосознания белорусских народных масс выдвинул наиболее желательный и наиболее целесообразный принцип организации белорусской школы. В этом отношении харатерны постановления, касающиеся организации белорусской школы, как I всебелорусского с'езда, состоявшегося 15-17 декабря 1917 г. в Минске, так и постановления остальных больших белорусских военных фронтовых с'ездов, имевших место в 1917 г.

Для наибольшей ясности и наглядности необходимо целиком привести постановления этих больших белорусских с'ездов в части положений и постановлений, касающихся организации белорусской школы.

Так, всебелорусский с'езд и одновременно с ним состоявшийся тоже в г. Минске с'езд учителей-белоруссов фронтовиков, рассматривая вопрос школьного дела в Белоруссии, констатировал печальный факт распада белорусской школы; касаясь же вопросов организации школы в крае, всебе-

875. **Ніколі ня спозьнішся аддаць стары доўг і памерці.** Прыказваюць, калі аддаюць стары доўг.

876. **Ніколі ня спозьнішся памерці й пайсьці ў калгас.** Гэтак прыказвалі сяляне, калі іх у 1930-31 гадох заганялі ў калгасы.

— Чаму ты, Мордух, ня ідзеш у калгас?
— Пайду, пайду! Будзе парой.
— Глядзіш, каб ні было позна! (пагроза, што вышлюць у Котлас).
— Памёрці й пайсьці ў калгас ніколі ні спазьнішся.

877. **Ні красна хата вугламі, а красна пірагамі.** Гаспадарка й гаспадар славяцца ня прыгожым выглядам, але сваей гасьціннасьцяй.

878. **Нікому роту ні завяжыш.** Прыказвае той, якога няпраўдай зьнеслаўляюць.

879. **Ні крычы, алі научы.** Ня крыкам і лаянкай трэба вучыць таго, хто недаўмее нечага, але добрым словам.

880. **Ні к сялу, ні к гораду.** Калі нехта нешта скажа не да ладу.

881. **Ні куецца ды плешчыцца.** Калі няма ладу ў рабоце або калі ў жыцьці ня ладзіцца.

882. **Нік! — як сучка ў жбан.** Прыказваюць таму, хто заглядае туды, дзе яму няма патрэбы заглядаць.

883. **Ні ладу, ні складу.** Аб ламакаватым работніку, у рабоце якога няма парадку.

884. **Німа горшай балесьці, як калі хочыцца есьці.** Прыказвае той, хто шмат і часта галадаў.

885. **Німа за што рук заццаць.** Прыказвае той, у каго ў гаспадарцы прапала рабочая жывёліна, ці той, хто пазбыўся працы.

886. **Ні май сто коп, а май сто сяброў.** Сто добрых сяброў хутчэй выратуюць чалавека ад бяды, чымся сто коп грошаў. Сто коп даўней была вялікая сума грошаў.

887. **Ні май хворага за памёрлага, а палага за прапалага.** Як хворы можа паправіцца, гэтак падупалы на маемасьці можа разжыцца, а падупалы на благіх налогах можа іх пазбыцца.

888. **Ні май чалавека за поўчалавека.** Прыказваюць таму, хто паніжае ў чалавека людзкую годнасьць.

889. **Ні маніся ды Богу маліся.** Заўважаюць таму, хто занадта самапэўны ў сваіх будучых удачах.

890. **Німа патрэбы здаровага лячыць, а разумнага вучыць.** Кажуць да тых, што бяруцца вучыць разумнейшых за сябе.

891. **Німа тэй крамкі, дзе-б прадаваліся родныя мамкі.** Роднае маці нідзе ня знойдзеш і ня купіш за грошы.

892. **Німа тэй хаткі, каб ні было звадкі.** Звадка як-бы натуральная зьява ў сям'і, хоць яе й ня выносяць навонкі.

893. **Німа чаго сабак дражніць.** Калі справа безнадзейная й нyварта пускаць лішніх погаласак па сьвеце. «А каб ты пасватаў Пранукову Альжбету? — Не, цётка, няма чаго сабак дражніць. Я ведаю, што яна ня пойдзе».

894. **Ні мачыся, бо голіны ня будзіш.** Аб тым, хто пэўны сваіх будучых удачаў і для гэтага чыніць вялікія прыгатаваньні, хоць ведама, што яны не ажыцявяцца.

895. **Ні нам папоў судзіць, а на гэта чэрці ёсьць.** Парахвіяне не павінны ўмешвацца ў прыватнае жыцьцё папоў, бо калі яны будуць сябе дрэнна паводзіць, дык на тым сьвеце адпакутуюць у пекле.

896. **Ні пакаіўся ды паправіўся.** Гавораць аб тым, хто хоць і прыцерніў кару за сваю віну, але ізноў тое самае робе.

897. **Ні па кані, ні па аглабнях.** Суд адбыўся, але ніводзін бок не пакараны.

898. **Ні піражваўшы слова ні пускай на вецір.** Трэба заўсёды добра перадумаць тое, што маеш гаварыць.

899. **Ні плаця багаты, а плаця вінаваты.** Аб тым, хто адмаўляецца плаціць доўг, бо ён бедны.

900. **Ні плач — мама сьпячэ хахлач, маслам памажа й табе ні пакажа.** Жарт пры гульні зь дзецьмі, калі яны плачуць.

901. **Ні просьбаю, ні грозьбаю.** Калі некага ня можна ні ўгаварыць, ні прымусіць.

902. **Ні пры людзях казана.** Папярэджваюць, калі хочаць сказаць няпрыемную навіну: — «Ні пры людзях казана — там чалавек павесіўся».

903. **Ні пытай старога, а пытай бывалага.** Прыказваюць, калі радзяць звярачвацца за парадай не да старых бабак, але да дактароў.

904. **Ні радзіся краснай, а радзіся щаснай.** Калі прыгожая жанчына гаруе на сьвеце праз сваю прыгожасьць.

905. **Не радзіся хвасьліў, а радзіся шчасьліў.** Хвасьлівы, хто любе прыгожа адзецца й выглядаць прыгожа, але на гэта патраце ўсе сяродкі ды бывае бедны й нешчасьлівы.

906. **Ні рак, ні рыба.** Аб нечым ці некім нявыяўленым, але дзе ня відаць нічога добрага.

907. **Ні рыба, ні мяса.** Аб нечым ці некім нявыразным, што ад благога адыйшло, а да добрага не дайшло.

908. **Ні рыбкі ні хачу, ні лыткі ні мачу**. Калі нехта ня хоча ні прыкрай работы, ні добрай узнагароды за яе.

909. **Ні самому паглядзець, ні людзям паказаць.** Аб рэчы ці чалавеку, што нічога нявартыя.

910. **Ні села, ні пала, захацела баба сала.** Калі нехта беспадстаўна нечага дамагаецца.

911. **Ні скупосьць, алі нязмога.** Перапрашае той, хто ня можа даць нейкай ахвяры або падарунку.

912. **Ні сораму, ні ўвагі.** Гэтак адклікаецца аб бессаромным чалавеку.

913. **Ні стуку, ні груку, пацягнулі як суку.** Прыказваюць, калі вясельле бяз музыкаў або калі абмяжоўваюць волю няпрошаных гасьцей.

914. **Ні ступай, чалавеча, Богу на пяты.** Калі нехта зьдзекліва высьмейвае нешта паважнае й дарагое для іншых.

915. **Ні сьпячэцца ды звалачэцца.** Прыказваюць, калі няма часу нейкую работу доўга цягнуць, каб яе лепш зрабіць, а стараюцца скончыць яе абы як, каб якнайхутчэй ужыць ці спажыць. Прыказка паходзе з казкі пра лісіцу: — Лісіца злавіла жука ды пякла на леташнім вогнішчы. Калі жук спаўзаў з вогнішча — лісіца адкідала яго назад лапай. Нарэшце яна сказала: «Ні сьпячэцца ды звалачэцца» — ды зьела.

916. **Ні тады сабак карміць, як на паляваньня іці.** Да ўсякае справы трэба загадзя рыхтавацца.

917. **Ні так бойся злодзія, як п'яніцы, бо злодзі цягня дамоў, а п'яніца з дому.** Гэтак перасьцярагаюць дзеўку, калі да яе сватаецца п'яніца. Параўнаньне зробленае не дзеля таго, каб злодзея пахваліць, але каб паказаць, што п'яніца ў сямейным жыцьці стаіць ніжэй і за злодзея.

918. **Ні так жывём, як хочым, але як выпадая.** Жыцьцёвыя патрэбы прымушаюць людзей абмяжоўваць свае жаданьні.

919. **Ні так чорт страшан, як яго малююць.** Прыказваюць часта аб тым, якога натоўп зганіў.

920. **Ня так шкода, як нявыгода.** Калі згубіцца нейкая недарагая, але патрэбная рэч.

921. **Ні ў гаршку, ні ў мяшку.** Калі нешта страчана бязь ніякай карысьці — зь мяшка ўзята, а ў гаршчок не паложана.

922. **Ні ўздыхай: чаго німа — таго ніхай.** Разважаюць таго, хто крыўдзіцца, што ў яго шмат чаго не хапае.

923. **Ні умірая стары алі паравы.** Гэтак разважаюць сваякі пры сьмерці маладой асобы ў іхнай радні.

924. **Ні ўрадзіў мак — прабудзім і так.** Прыказваюць пры малой страце ў гаспадарцы.

925. **Ні ўцяць, ні ўзяць.** Калі ў гаспадарцы выйдуць усе харчы й наступае голад. «Нашы Прахорчыкі абяднелі, што — ні ўцяць, ні ўзяць».

926. **Ніхай Бог бароня.** Прыказваюць пры адпіраньні — «Ніхай Бог бароня, каб я да іх у спулку прыстаў».

927. **Ніхай лепі астанецца, як ністаня.** Заўвага ашчэднага гаспадара.

928. **Ніхай твая сьвіньня войтам будзя.** Прыказвае той, хто ня хоча далей вясьці пустой спрэчкі ды ўступае свайму праціўніку.

929. **Ніхай той сірадзіць, хто на печы сядзіць.** Гэтак адказвае той работнік, які ідзе на цяжкую работу, калі яму напамінаюць аб посьце.

930. **Ніхацела сабача нага ліжаць на стале, дык ніхай ляжыць пад сталом.** Калі нехта праз свае дрэнныя паводзіны губляе месца між паважных людзей ды апыняецца ў падонках грамадзтва.

931. **Ні хаці (ні бяры) чужога й нябойся нічога.** Навука-папярэджаньне дзецям і падлеткам, каб ня квапіліся на чужыя рэчы. Прыказваюць таму, хто пагаліўся на чужое ды посьле баіцца, каб не засудзілі.

932. **Ні хачу ні мёду, ні смуроду.** Прыказвае той, хто ня хоча ўмешвацца ў нячыстую справу ані мець добрай платы за гэткую работу.

933. **Ніхачу рук паскудзіць.** Прыказвае той, хто хацеў-бы правучыць нейкага гіцьля ды навет і фізычна яго пакараць, але ўважае, што гэтым самым ён сябе ўнізіць.

934. **Ні хаваўшы малога, ня мець і вялікага.** Прыказваюць у сельскай гаспадарцы, пускаючы на хоўлю малады статак — цялят, парасят, — хоць гэта шмат клопату.

935. **Ні хваліся нажаўшы, пахваліцца намалаціўшы.** Прыказваюць таму, хто загадзя хваліцца сваімі будучымі дасягненьнямі.

936. **Ні хваліся сам, ніхай цябе людзі пахвалюць.** Аб тым, што хваліцца дасягненьнямі, якіх ня меў.

937. **Ні хватай рыбы пірад невадам.** Аб тым, хто ў гутарцы ня пілнуецца парадку, а забягае з пытаньнямі наперад.

938. **Ні хватайся перш за бацьку.** Перасьцярога падлеткам няўмешвацца ў гутарку старэйшых.

939. **Ні хорт, ні сабака.** Аб тым, хто ад простых людзей адбіўся й да багатых не дайшоў.

940. **Ніхто ні бача, што ў мне, а кожны бача, што на мне.** Ніхто ня ведае, што чалавек еў, але кажны бача, што ён надзеў.

941. **Ніхто ні бача, калі сірата плача, а калі сірата засьмяецца, дык увесь сьвет здрыгнецца.** Ніхто ня цікавіцца, калі нейкі галетнік гаруе. Але калі гэты самы галетнік упартаю працай дайшоў да лепшага жыцьця, дык тады ўсім стане зайздросна.

942. **Ні цягні чалавечай нагі з балота, а цягні коньскую, бо коньская нага цябе вывізя з гразі, а чалавеча нага цябе ўтопча ў гразь.** Прыказваюць, калі нехта за зробленае дабро адплачвае свайму дабрадзею злом.

943. **Ні чапай бруду, бо сьмярдзець будзя.** Не заводзься й ня зьвязвайся з благім чалавекам, бо прыкрасьці набярэшся.

944. **Ні шукай мора, бо ў лужыня ўтопішся.** Ня ідзі на вялікую рызыку, бо і з малой загінеш.

945. **Новая мітла току ні дзярэ.** Калі прыдзе новы ўрадовец на ўрадавую працу, дык спачатку ён не бярэ шмат магарыча.

946. **Новая ня порыцца, а добрая ні валочыцца.** Прыказваюць, калі нехта стане хваліць таго чалавека, які бадзяецца па сьвеце ды стане радзіць узяць яго на работу ці сватае ў прымы.

947. **Новая сіцца на калочку вісіцца, а староя пад лаўкай валяіцца.** Новы чалавек у сям і ці грамадзе заўсёды ў пашане, а стары часта не шануецца ці й пакінены дажывае веку.

948. **Носіцца як дурань з дзьвярыма.** Калі нехта пілнуецца нечага непатрэбнага й бескарыснага. З казкі: Пайшлі красьці разумныя й дурны. Разумныя набралі ў сьвірне збожжа й сала, а дурны бача, што ў сьвірне ўсяго шмат і ўсяго не забярэш, дык ён выняў дзьверы ды панёс у лес. Ён думаў, што калі ў сьвірне ня будзе дзьвярэй, дык калі хаця можна будзе прыйсьці ў сьвіран і набраць, чаго трэба.

949. **Носіцца як кот зь сілядцом.** Калі нехта ня спускае зь языка гутаркі аб нейкай сваей улюблёнай рэчы ці аб сваім улюблёным чалавеку.

950. **Носіцца як падсмаліны.** Калі нехта борзда, бяз развагі, бегае, мітусіцца, калі аб нечым моцна заклапочаны.

951. **Ноч пагоня, ноч прыгоня.** Аб тым, хто на працу ідзе досьвіта й дамоў ідзе посьле зьмярканьня.

952. **Ну, брацьця, за кій брацца.** Прыказваюць, калі наўрэлася нейкая цяжкая работа грамадзкага характару, якую трэба на некага ўзваліць. «Брацца за кій» знача — лясаваць. Кажны па чарзе бярэцца за кій, а каму прышлося накрыць канец кія, той нешта й вылясаваў — добрае ці благое.

953. **Нуда горш каросты.** Жарт. Калі малады чалавек паслужа ў маскалёх ці так пажыве ў Расеі, дык вярнуўшыся дамоў часта пачынае патакаваць словамі: «Ну, да!». А стары тады яму заўважае: «Нуда — горш каросты». Нудой у Беларусаў называецца смутнае адчуваньне, мэлянхолія, а таксама й вашывасьць. Стары ўяўляе, што малады чалавек, які вярнуўся з Расеі, скардзіцца на тое, што ў яго нуда, — вошы.

954. **Ня бойся зімы, а бойся зазімка.** Зіма для людзей ня страшная, бо да яе людзі падрыхтаваліся. Але калі вясной выпадзе зазімак, калі харчы ўжо вышлі ды няма чым статку карміць, гэта куды страшней.

955. **Ня бойся пана, а бойся падпанка.** Прыказка паходзе з часоў прыгону. Ня гэтак страшныя самыя дэспаты, як іхныя паслугачы-падхалімы.

956. **Ня бойся п'яніцы, а бойся нідбаліцы, бо п'яны прасьпіцца, а гультай гэткім будзе да веку.** Гэткія параўнаньні робяць дзеўцы, калі яе сватае замуж гультай.

957. **Ня будзь ні войтам, ні сватам, дык ня будзіш чалавекам праклятым.** Парада ня ісьці на такую пасаду, дзе трэба аднаму дагаджаць, каб крыўдзіць іншых. Войта клялі за тое, што на прыгон выганяў, а свата клянуць, што благую жонку высватаў.

958. **Ня будзь ні горак, ні салодак.** Навука дзецям і падлеткам, каб яны ня былі ні апрыкронікамі ні падхалімамі.

959. **Ня будзя Гірша, дык будзя чорт іншы.** Прыказваюць, калі нейкі ўрадовец палохае, што не застанецца на далейшы час.

960. **Ня быць казе на лазе, ня есьці брэду.** Калі зайздрывы квапіцца на ласы кавалак, але ня можа дастаць.

961. **Ня вер каню ў дарозя, а жонцы дома.** Прыказваюць таму, каму жонка зрадзіла.

962. **Ня вер нікому, дык ніхто ні зрадзя.** Перасьцярога ня быць даверлівым.

963. **Ня вінна сьвінка, а вінна дзірка.** Калі гаспадар дбайна глядзіць свае маемасьці, дык у яго ня будзе шкоды.

964. **Няволя плача й скача.** Плача, бо цяжка жыць, скача, бо да гэтага яго прымушаюць.

965. **Ня голад бабовая каша.** Прыказваюць бацькі, калі дзеці ганяць страву, што нясмачная.

966. **Ня голіна, а стрыжана.** Калі ўпарты ў спрэчцы хоча давесьці, што ягоны верх. З казкі: Мужык і жонка ішлі дарогай ды ўбачылі сучку з апараным бокам. Мужык кажа — «Як брытвай выгалена!» А баба кажа: «Не.

Як ножніцамі выстрыжана!». Яны ішлі ўсю дарогу й спрачаліся. Нарэшце мужык узлаваўся ды піргнуў жонку ў раку. Жонка й тапілася, але два пальцы выстаўляла з вады, як ножніцы, каб быў ейны верх.

967. **Ня гэта сіла, хто ўтрымая палкага каня, а гэта сіла, хто ўтрымая сваё палкая сэрца.** Не таму слава, хто мае моцную фізычную сілу, а таму слава, хто мае сілу волі.

968. **Ня добра, калі жыд пазная грунт, а мужык пазная хунт.** Селянін павінен пілнавацца зямлі, а жыд гандлю.

969. **Ня дзіва, што карова чорна, а малако сіва.** Калі нехта дзівіцца з натуральнай зьявы.

970. **Ня дзіва, што ў караля дачка хараша.** Прыказваюць, калі багаты мае дарагія й прыгожыя рэчы або калі ў багатага гаспадара дзеці добра адзетыя й прыбраныя.

971. **Ня дурань здумаў прыказку.** Гэтай прыказкай папяраджаюць прыказку.

972. **Ня зыч ліха другому, каб ні давялося самому.** Прыказваюць таму, хто цешыцца з чужой бяды.

973. **Ня зьведаўшы броду, ня сунься ў воду.** Папярэджаньне, каб быць асьцярожным і прадбачлівым. Прыказваюць, калі нехта па сваёй неразважлівасьці апынуўся ў прыкрым і сьмяхотным палажэньні.

974. **Ня еў — ня мог. Пад'еў — ні рук, ні ног.** 1. Аб гультаі, які перш ня мог працаваць, бо быў галодны, а посьля — бо аб'еўся. 2. Гэтак жартуе той, хто па абедзе хоча паляжаць.

975. **Ня мела баба клопату, дык купіла парася.** Аб тым, хто па сваей неразважлівасьці ды за свае грошы нажыў вялікі клопат.

976. **Ня мы хлебам зямлю кормім, а зімля нас.** Прыказвае гаспадар сваім дзецям, каб яны ня сеялі густа збожжа.

977. **Ня мы хлеб носім, алі хлеб нас.** Прыказваюць тыя падарожныя, што за плячыма хлеб у дарозе носяць.

978. **Ня мыўся — ляніў. Памыўся — хвасьліў.** Аб благіх людзях, якім цяжка дагадзіць, і якія абы за што знайдуць прычыну прычапіцца.

979. **Ня пі, ня еш, і з хаты ня лезь.** Аб тым, які ў благое навор'е выбіраецца ў дарогу.

980. **Ня плюй у стары калодзіж, бо можа прыдзецца калі зь яго вады напіцца.** Аб тым, хто зьневажае свайго былога дабрадзея, бо можа ізноў прыдзецца да яго зьвярнуцца за дапамогай.

981. **Нясі, Божа, ні жанатага ды багатага.** Жарт. Гэтак прыказваюць дзеўкі, калі нехта позна стукае ў дзьверы, бо можа гэта ідуць сваты.

982. **Ня сучка брэша, а карытца.** Просты сэнс: Калі сучку будзеш добра карміць, дык яна будзе добра брахаць. Сучкай завуць і чалавека, які за магарыч гатоў ачарніць, збэсьціць, зьняважыць нявіннага чалавека. Прыказваюць, калі гэткі падкуплены чалавек за добрае «карытца» добра брэша за свайго гаспадара.

983. **Ня сьлепа бяло, што ў вадзе было.** Жартаўлівы адказ прачкі, калі ёй заўважаюць, што бялізна ня бела памыта.

984. **Ня сьлепа карова, што на страсе салома.** Аб нярупным гаспадару, які ня прывядзе да парадку хатніх рэчаў: не намеле мукі, не наробе круп, не насячэ дроў, а кажа: «Вун усё ёсьць, а толькі прыгатуй ды звары».

985. **Ня сьмейся брудзя, бо й табе будзя.** Ня можна сьмяяцца над няшчасьцем чалавека, бо й самому можа тое самае стацца.

986. **Ня сьпіцца ваўку пад сялом.** Аб тым, каму ў нейкім месцы трывожна.

987. **Ня той чарвяк, што мы зьядзім, а той чарвяк, што нас зьесьць.** Жартуюць старыя, калі ім дзеці напамінаюць, каб хаця чарвівых грыбоў у ежу не наклалі.

988. **Ня толькі дурань вала губляя.** Калі й у разумнага здарыцца няшчасная прыгода ці памылка.

989. **Ня тут казана.** Прыказваюць перад апавяданьнем жахлівага выпадку: «Ня тут казана, там у лесе на дарозе разбойнікі чалавека забілі».

990. **Ня ўвесь той сьвет, што ў вакне.** Ня толькі тое ёсьць на сьвеце, што перад намі. Далей, магчыма, ёсьць цікавейшыя й прыгажэйшыя рэчы. Прыказваюць, калі некаму пры сватаньні адмовіць дзеўка ці калі ня купіцца тую рэч ці жывёліну, якую таргуецца.

991. **Няўмеку рукі ні баляць.** Гэтак дакараюць таму, які недаўмее рабіць нейкае работы й яму даводзіцца перарабляць яе колькі разоў.

992. **Няўрымшчу, стаю як на жары.** Прыказвае той, хто хоча хутчэй скуль-небудзь пайсьці, бо моцна турбуецца аб лёсе блізкіх людзей ці за бясьпеку свае маемасьці.

993. **Ня ўсе тыя краскі цьвітуць, што рана распускаюцца. Ня ўсе дзеўкі замуж ідуць, што змалада кахаюцца.** Аб той дзеўцы, якая змоладу была стройная й павабная, але замуж ня выйшла.

994. **Ня ўсё тоя золата, што блішчыць.** Аб штучна аздобленай таннай рэчы. Прыказваюць і аб чалавеку, які хоць і добра выглядае, але благі й бязвартасны.

995. **Ня ўсё тоя смачна, што соладка.** У простым сэнсе аб страве: страва, якая сама сабой усаладжае, ня смачная й нездаровая. Хлеб недакіслы салодкі й несмачны. Прыказваюць аб чалавеку, у якога лісьлівыя словы, а падступныя й здрадлівыя чыны.

996. **Ня ўсё тоя хараша, што чырвана.** Нашыя прашчуры чырвоным колерам прыбіралі свой белы адзетак, жычкай завязвалі белую сарочку, чырвонымі ніткамі адтыкалі вузоры на жаночых сарочках, чырвонай істужкай абкладалі сярмягі. Але суцэльнага чырвонага адзетку ненавідзелі, бо толькі каты ўбіраліся ў чырвоны адзетак.

997. **Ня ў тым дзіва, што кабыла сіва, а ў тым дзіва, што возу ні вязе.** Калі няма ўдачы ў нейкай справе ці рабоце, дык трэба ня ў вонкавым выглядзе яе шукаць, але ў нутраных якасьцях.

998. **Ня цешся чужой бядзе, бо свая ідзе.** Аб тым, хто цешыцца з чужога няшчасьця.

999. **Ня цешся, калі знашоў, і ні смуціся, калі згубіў.** Цешыцца сваей знахадкай, гэта цешыцца бядой таго чалавека, хто згубіў. Свая-ж згуба вуча быць пільнейшым і асьцеражнейшым.

1000. **Па адном, па адном, ды ўсе памром.** Прыказваюць на хаўтурох, каб разважыць сям'ю памерлага.

1001. **Павер — памер.** Даючы нешта на павер, трэба добра падумаць, каму можна даваць.

1002. **Па вясьне рукамі сьплясьне.** Спляснуць рукамі — апынуцца ў роспачы. Гэтак папяраджаюць гульлівую дзяўчыну.

1003. **Пагаворым дзедзька аб людзей, бо аб нас людзі ўжо даўна гаворуць.** Прыказваюць таму, хто пачынае гаварыць аб дрэнных паводзінах іншых, каб гэтым прыцьміць свае яшчэ горшые.

1004. **Па гаспадару плача клець, а па гаспадыні плача печ.** Калі благі гаспадар, дык няма парадку ў клеці й яна часта пустуе. Калі благая гаспадыня, дык сям'я ў сваю пару ня будзе накормленая, а часам і галодная.

1005. **Паглядзім, дзе каго пасадзім.** Кажны дастане месца паводля яго-ных заслугаў.

1006. **Пагода як дым — аж вушы кураць!** Прыказваюць, калі гарачая й вельмі сухая пагода.

1007. **Пагрэў рукі.** Прыказвае гандляр, калі шмат зарабіў на перапрададзенай рэчы, або той, што дастаў добры магарыч.

1008. **Пагуляць ці зьесьці, дык, калі няма часу, можна пакінуць і да заўтрашняга, а пілную работу трэба кончыць сяньня.** Прыказка бацькоў у навуку дзецям.

1009. **Падай тоя рагатоя.** Жартам прыказваюць, калі просяць нешта падаць ці прынесьці ды калі ня ведаюць, як яно называецца. Паўстала з казкі аб цыгану й бортніку: — Цыган прасіў у бортніка мёду. Бортнік прыставіў да борці лясу (верхавіну дрэва з абцярэбленым на доўга суччом). Калі цыган палез на палаці да борці, дык бортнік адкінуў лясу набок. У борці, тымчасам, былі ня пчолы, а шэршні, і яны напалі на цыгана. Цыган тады стаў крычаць на бортніка: — «Баця, баця! — падай тоя рагатоя!».

1010. **Падарожны за сабой хаты ня ནося.** Прыказваюць, калі пускаюць начач падарожнага. Прыказвае гэтак і падарожны, калі просіцца начач.

1011. **Падбівай вілы ды бяры на ўсе жылы. Падымай вышэй носу ды кідай на калёсы.** Жарт. Прыказваюць, калі вывозяць з хлява гной.

1012. **Пад бокам багацьця ня выліжыш.** Прыказваюць гультаю, які хоча збагацець.

1013. **Пад ляжачы камінь вада ні цячэ.** Кажуць гультаю, які марыць аб багацьці, але не працуе, а ляжыць.

1014. **Падынялі на гук,** або **паднялі на языкі.** Калі грамадою аб кім-небудзь загаворуць няпрыемныя рэчы.

1015. **Пад старасьць і кот дурнея.** Аб старым, калі ён памыліцца, ці нешта недарэчнае скажа або зробе.

1016. **Пад чужую дудку скача.** Аб тым, хто сьлепа выконвае чужыя загады.

1017. **Паехалі глухія, павязьлі дровы сухія.** Гэтак жартуюць з таго, хто не дачуўшы нейкага слова, паверне яго на другое, падобнае па вымове.

1018. **Пажывём далі, пачуім болі.** Прыказваюць, калі няпэўную навіну пачуюць.

1019. **Пазірая, як мыш з патрэп'я.** Калі нехта вызірае зь нейкага схо-вішча.

1020. **Пазнаюць сокала па палёту, а саву па пагляду.** Па вонкавым вы-глядзе й рухах пазнаюць характар чалавека.

1021. **Пазычаць — сакольля вочы, а аддаваць — савіны.** Калі нехта па-зычае, глядзіць весела, як сокал. А калі трэба аддаваць пазычанае, гля-дзіць панура, бо шкадуе.

1022. **Пазычай — благі звычай.** Прыказваюць таму, хто пазычае дзеля таго, каб скруціць.

1023. **Пазычоны хлеб еш ды аглідайся.** Пазычоны хлеб ня спорны.

1024. **Пайдзі да людзей, дык пачуіш, што дома робіцца.** Як-бы хто пільна ня трымаў сакрэтаў аб сваёй хаце, людзі даведаюцца й будуць аб іх гаварыць.

1025. **Пайдзі ў чужоя сяло, дык пачуіш, што ў сваім робіцца.** Людзі болей цікавяцца чужымі далёкімі навінамі, чымся сваімі блізкімі.

1026. **Па Калядах сонца ўгору, а сьнег далоў.** Сялянская заўвага аб тым, што калі сонца падымаецца на небе вышэй, яно зганяе сьнег.

1027. **Па Калядах (тыдняў) двойчы пяць — да дня сьпяць.** Сялянская заўвага аб тым, што да пачатку сакавіка ніхто досьвіту не ўстае.

1028. **Па Калядах (тыдняў) трэйчы пяць — у полі ліпяць.** У пачатку красавіка сяляне пачынаюць выходзіць у поле, хто пасьціць статак, хто араць.

1029. **Пакольлю вочы носіць.** Калі нейкі вырыванец усюды разглядае, дзе што ляжыць, каб посьля ўкрасьці.

1030. **Пакроў пакрыя зямлю ці сьняжком, ці лістком.** Сялянская заўвага аб набліжэньні зімы.

1031. **Пакуляў вочы.** Шырака расчыніў вочы.

1032. **Пакуль бедны зайдзя, дык багаты заедзя.** Прыказваюць, калі ра-зойдзецца чутка, што далёка нешта танна прадаецца. Беднаму ня варта туды ісьці, бо «пакуль бедны зайдзя, дык багаты заедзя», і ўсё забярэ.

1033. **Пакуль дзед мову згукаў, баба клёцкі зьела.** Матар'ялісты заўсё-ды ашукае ідэялістага.

1034. **Пакуль жаніцца — загаіцца.** Прыказваюць таму, хто мае малую больку на целе ці малое пашкоджаньне, якое хутка зажыве.

1035. **Пакуль з багатага пух, дык зь беднага дух.** Прыказваюць беднаму, калі ён пачынае судзіцца з багатым.

1036. **Пакуль сонца ўзойдзя, раса вочы выісьць.** Адказвае чалавек га-ротны, калі яго разважаюць, што посьля яму будзе добра жыць.

1037. **Пакуль цэп, патуль і хлеб.** У беднага селяніна хлеб толькі во-сеняй, пакуль малоцяць.

1038. **Пакуль чужы сабака забрэша, дык свой і ўкуся.** Пакуль чужы слова благое скажа, свой цяжка пакрыўдзе.

1039. **Па ласым куся я й вады нап'юся.** Прыказвае практыкоўны селянін, які ня гоніцца за дарагім, смачным пітвом, але яму пасьля смачнай ласай ежы добра й вады напіцца.

1040. **Палезшы за жукам, будзіш у брудзя.** Калі прыстанеш у сяброўства зь нячыстым на паводзіны чалавекам, апынешся ў вялікай няпрыемнасьці.

1041. **Паліц аб паліц ні ўдара.** Выказваньне аб гультаю.

1042. **Пальца німа чым завінуць.** Прыказваюць, калі хочаць выказаць нейчую беднасьць на адзежу.

1043. **Палкая сэрца скора пірагарая.** Шчырыя, з палкай натурай людзі доўга ня жывуць.

1044. **Памажы падняць, дык будзім міняць.** Прыказваецца таму, хто ў вачавідкі хоча ашукаць. З казкі: Гандляр коньмі прасіў гаспадара памагчы падняць ягонага каня, і тады ён памяняе гэтага каня на гаспадаровага.

1045. **Памёрці ні памрэш, а часы патрэш.** Жартуюць найчасьцей з таго, які прыкідаецца хворым ды час траце бяз працы.

1046. **Паміняў быка на індыка.** Калі нехта, мяняючы, моцна ашукаўся.

1047. **Паміняў гаршчок на гліну.** Калі нехта пры гандлі чыста ашукаўся.

1048. **Па мне ніхай хоць воўк траву есьць.** Гавора, той, хто ня хоча ўмешвацца ў чужыя справы.

1049. **Памог, як кашаль у хваробя.** Калі нехта, памагаючы, пашкодзіць.

1050. **Пана клянуць, а ў пана бруха расьце.** Сама клёнка шкоды ня робе.

1051. **Па нітачца клубочка шукаюць.** Калі па ледзь значных адзнаках і здагадках вінавайцу даходзяць.

1052. **Пан кладзе пічаць, а мужык глядзіць, адкуль пачаць.** Аб спрыце селяніна, які й багатага ды вучонага пана хоча ашукаць.

1053. **Пану верна ні служы, жонцы праўды ні кажы, з жыдам шчыра ні дружы й здольнікаў ні бяры.** З казкі: — Панскі лясьнік прызнаўся ў сакрэце жонцы. Жонка пахвалілася суседцы-жыдоўцы. Жыд данёс пану. Пан прысудзіў лясьніка павесіць. Вешаць яго згадзіўся лясьнікоў здольнік, каб яму засталася лясьнікова гаспадарка. Лясьнік тады й аб'явіў гэтую прыказку.

1054. **Паны сваруцца, а мужыкоў чубы трашчаць.** Прыказка бадай што з часоў прыгону, калі абшарнікі рабілі адзін на другога заезды й бралі да гэтага сваіх сялян. Прыказваюць, калі валадары дзеляць народ на дзьве партыі або на дзьве веры, ды правакуюць біцца адзін з другім.

1055. **Па няволі ні плачуць.** Гэтак прыказвалі сяляне, калі ў 1941 годзе бальшавікі зь Беларусі ўцякалі.

1056. **Папа ўсе знаюць, а поп нікога.** Аб тым, да каго ў патрэбе зьвяртаецца ўся грамада.

1057. **Папова вока.** Жартуюць зь дзяцей, калі каторае набірае поўную лыжку стравы ды пасьля разьлівае.

1058. **Папова ня высахла, ня вымакла.** Поп аднолькавую плату бярэ за сваю абслугу, хоць у сялян і недарод.

1059. **Папраў кумя — каты лазюць! А калі кум паправіў, дык і сабакі палезьлі.** Гэтак высьмейваюць благога майстру.

1060. **Парабак першы год кажа «Ваша», другі год кажа «Наша», а трэйці год кажа «Маё».** Адраджваньне трымаць доўга парабка.

1061. **Парадак, як у жыда на таку.** Аб тым месцы, дзе німа ніякага парадку.

1062. **Па́ра касьці ня ломя.** Прыказваюць бацькі, калі радзяць дзецям цёпла адзявацца ці калі забараняюць ім адчыняць вокны.

1063. **Па Саўку й Шапка.** Калі нехта па сабе й сваю кампанію падбірае.

1064. **Пасеіна ў сьвінны голас.** Аб познай сяўбе. У вёсцы познай восеняй і раньняй вясною сьвіньні ходзяць па полі, знаходзяць сабе пажыву. Толькі пасьля першай сяўбы вясной запіраюць сьвіней у хлеў, і яны там галасуюць.

1065. **Пасі Божа асталцо.** Прыказвае гаспадар, калі рэжа на мяса нейкае скацьцё.

1066. **Пасланца ня б'юць, ні караюць.** Пасланец — незачэпная асоба. Гэтак прыказвае свацьця, калі прыходзе да дзеўкі пытацца, ці можна прыйсьці да яе ў сваты.

1067. **Пастаўлёна баслаўлёна.** Гэткім жартам гаспадыня запрашае гасьцей сядаць за стол, калі паставе страву.

1068. **Паставіць на сваім.** Дамагчыся, каб усе іншыя зь ім згадзіліся.

1069. **Патрэбін ты мне, як сабаку пятая нага.** Адказваюць таму, хто нахабна навязваецца ў сяброўства.

1070. **Паўзе, як вош па каўняры.** Зьняважліва аб маруднай хадзе.

1071. **Паўзе, як рапуха.** Лаюць за ціхую хаду.

1072. **Паціры ў маціры.** Жартам адказваюць тэй маці, якая наракае, што яе дзеці ня ўмеюць пацяраў.

1073. **Пашанцавала, як жыду з гары едучы.** Калі нехта меў недаўгавечнае шчасьце, якое хутка кончылася. З казкі: У жыда быў ляны конь, што ніколі ня бег. Але калі з гары напёр воз, дык конь пабег. Жыд быў рад, ды радасьць была нядоўгая, бо конь з возам і жыдам паляцеў у канаву.

1074. **Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву.** Прыказваюць паняволеныя свайму прыгнятальніку, калі ён кажа, што іх шкадуе.

1075. **Пашлі дурнога, а за ім другога.** Калі пасланец ня выканаў свайго заданьня.

1076. **Пашло мілая на пастылая.** І мілае стала праціўным, калі яно апынулася ў варожых руках.

1077. **Пашло рукой.** Стала шанцаваць, паручыла.

1078. **Пашоў гандаль на пындаль.** Прыказваюць пры банкруцтве гандлю.

1079. **Пашоў па бацьку.** Удаўся гэткім, як бацька й па выглядзе, і па натуры.

1080. **Пашоў пасол, уваліўся ў расол.** Калі пасланец пашоў ды аб ім няма ніякіх вестак.

1081. **Пашоў сваім трыбам.** Жыве паводля свайго надуму ды ня слухае рады іншых.

1082. **Пашоў сьвет на сьвет.** Вялікая вандроўка з прымусу, калі людзі кідаюць свае дамы ды ідуць у сьвет.

1083. **Пашоў, як мыла зьеўшы.** Калі нехта пашоў ад сораму.

1084. **Па што, воўча, ідзеш? — Па астатняя.** Калі некаму забіраюць апошняе за падаткі ці апошняе ўкралі.

1085. **Пей песьні хоць трэсьні, алі есьці ні прасі.** Жартуюць зь дзяцей, асабліва калі хлеба не хапае.

1086. **Пень вялік, алі дуплінат.** Аб тым, хто вырас вялікі, але нідачога ніздатны або дурны.

1087. **Першага торгу ні мінай.** Прыказваюць пры гандлі. Таксама прыказваюць і дзеўцы, калі яе сватаюць першыя сваты.

1088. **Перш за грэх, як за праўду.** Калі чалавека ў нечым зьвінавацяць, а посьля выяўляецца, што ён нявінны.

1089. **Перш зьядзім тваё, а тады хто сваё.** Прыказка таму, хто ў вачавідкі ашуквае, нешта выманьвае.

1090. **Перш тпрулячка, тпрулячка, а потым: Стой, воўча дух!** Гэтак ласкава гаспадар кліча каня, пакуль яго за аброць ня возьме, а потым аблае й абсьцёбае. Прыказваецца аб тых валадарох, якія пакуль чалавека ня возьмуць у рукі, абыходзяцца зь ім ласкава, а потым і пагражаць пачынаюць.

1091. **Першы блін комам.** Пры няўдачы на пачатку работы.

1092. **Пёрціся на ражон.** Калі нехта самахоць лезе ў небясьпеку.

1093. **Пірабіваіцца з хлеба на квас.** Жыве ў цяжкіх матар'яльных умовах ды што раз горшых — «быў хлеб ды зышло на квас».

1094. **Перад панам Тодарам разхадзіўся ходарам.** Аб тым, хто з прымусу дагаджае свайму валадару-ворагу, навет паніжаючы сваю людзкую годнасьць, каб гэтым захаваць сваё існаваньне. З казкі: — У двор прыехаў новы пан Фёдараў. Ён для зьдзеку ў суботу прымусіў свайго карчмара скакаць і пець, і карчмар скакаў і пеў:

Пірад панам Хвёдарам  
Расхадзіўся ходарам.  
Ні я скачу — няволя,  
Ня Бог вялеў — панова.

1095. **Перахрысьціся ды пусьціся.** Парада быць адважным, калі пасылаюць у небясьпечнае месца.

1096. **Піця жылы, пакуль жывы, а як памром, дык і колам ня ўб'ём.** Жартуюць пры выпіўцы.

1097. **Пішы паня, што прапала.** Калі няма надзеі на спагнаньне нейкага доўгу.

1098. **Плакаў, плакаў, — усё Бог аднакаў, а як стаў сьпіваць — стаў Бог даваць.** Плачам свайго жыцьця не паправіш.

1099. **Пла́та ў ка́та, абы душа ня ў пні.** Аб тым, хто не клапоціцца аб добрай плаце за работу, абы ежа была добрая.

1100. **Плаціць сухой лазы.** Загадзя выкупляецца ад зладзеяў, каб ня кралі.

1101. **Плачця вочы, хоць пазылазьця, бо бачылі, што куплялі.** Гэтак жартуюць з таго, хто купіў нейкую няпрыгодную рэч.

1102. **Плюнь ды нагой затры.** Прыказваюць таму, на каго нарабілі нейкіх зводаў, каб ён не зьвяртаў увагі на гэту выдумку, бо яна столькі-ж вартая, як выплюненая й зацёртая сьліна.

1103. **Поля роўна ляжыць ды гуляць ні вяліць.** Палявая гаспадарка патрабуе, каб гаспадар ня гуляў, а працаваў на полі.

1104. **Поп сваё, а чорт сваё: аддай маю малітву.** Калі два праціўнікі ўступяць у бясконцую спрэчку ды адзін аднаму ня ўступаюць.

1105. **Порыцца, як старац у торбя.** Аб тым, хто марудна выконвае работу ці доўга мацаецца, калі нечага шукае.

1106. **Посьля гэбля ды тапаром папраўляя.** Калі нявучаны бярэцца папраўляць работу вучонага.

1107. **Посьля кашы німа пашы.** У звычаі Беларусаў падаваць кашу апошняй стравай.

1108. **Посьля сьмерці мной хоць плот падапры.** Прыказвае той, каго пры жыцьці крыўдзяць ды цешаць, што яго ўславяць посьля ягонай сьмерці.

1109. **Потарч носа.** Носам проста ўніз.

1110. **Поўная бруха да вучэньня глуха.** Бяднейшы вучань, які часта не даядае, лепей вучыцца за багатага.

1111. **Прабой пацалаваў.** Прыходзіў да некага ды хата была замкнёная.

1112. **Правіцца, як скурат на агні.** Калі нехта з усіх бакоў вінны, але ўсё намагаецца ўнявіньніцца.

1113. **Прадаць можна ў вадных лапцях, а каб купіць, дык трэба сямёра стаптаць.** Прадаць лягчэй, бо ў прадаўца толькі адна думка — добрую цану ўзяць. Хто-ж купляе, дык думае, каб танна заплаціць і каб на тавары не ашукацца.

1114. **Прадзе ды няведая, дзе кладзе.** Аб работніку, які хваліцца, што шмат робе, але ягонай работы нідзе ня відаць.

1115. **Празь сілу й конь ні вязе.** Каб чалавеку звыж ягонай сілы работы не давалі.

1116. **Прайшлі зіма й лета, пройдзя й гэта.** Разважаюць таго, хто мае нейкую бяду ці зазнаў крыўду.

1117. **Прапала кароўка, дык ніхай прападая й вяроўка.** Калі прапала вялікая рэч, няма што шкадаваць драбніцаў.

1118. **Прапалі, як рудыя мышы.** Аб нечым ці некім, што прапала дашчэнту.

1119. **Прапаў з скуркай.** Аб тым, што аб ім і ніякой весткі не засталося.

1120. **Праўда, як на вярбе ігрушы.** Аб відавочнай мане.

1121. **Прапаў, як лазовы лапаць на пагодзя.** Калі нешта гіне раптам і канчаткова.

1112. **Праўда вочы коля.** Калі хто злуе, як яму праўду кажуць.

1123. **Праўду й у касьцеля можна гаварыць.** Калі каму забараняюць праўду казаць.

1124. **Працуй нябожа, дык і Бог дапаможа.** Парада гультаю.

1125. **Працуя абы дзень да вечара.** Аб гультаі.

1126. **Працуя, а поту ня чуя.** Аб павольным работніку.

1127. **Працуя, а спагады ня чуя.** Калі няма належнай увагі й пашаны за добрую працу.

1128. **Працуя духу паслухаючы.** Працуе пад пільным наглядам прыганятага.

1129. **Працуя на чорта лысага.** Працуе на свайго ворага.

1130. **Працуя, як чорны вол.** Аб вельмі працавітым.

1131. **Просім-ядзім, а падлезіш — ложкай у лоб дадзім.** Жарт. Калі нехта прышоў пры ядзе ды сказаў: «Сыць вам!» — дык гаспадар гавора: «Просім у полудзінь». Сусед-жа, што прышоў, дадае: «Просім-ядзім, а падлезіш, дык ложкай у лоб дадзім».

1132. **Проці ліха на ўзгорачку.** Жартаўлівы адказ пытаючаму, дзе нехта жыве: — Тата, а дзе злодзі жыве? — Проці ліха на ўзгорачку!

1133. **Проці вады цяжка плысьці.** Цяжка змагацца зь вялікай сілай.

1134. **Проч ідзі, а жыта сей.** Калі нехта ня хоча брацца за ніякую работу, бо ладзіцца праз нейкі час пакінуць хату. Даўней быў гэткі закон у Ліцьве (Беларусі), што калі арандатар пакідаў нейкую сялібу, жыта мусеў засеяць. Бадай што ад гэтага й пайшла гэтая прыказка.

1135. **Проша пані Калоша.** Гэтак жартаўліва запрашаюць сядаць за стол, хоць чалавек і не называецца Калошам.

1136. **Проша ў кут, дзе ўсе тут.** Гэтак просяць гасьцей сядаць за стол.

1137. **Прыбяры пень, дык і пень харош.** Калі ганарысты, але тупы чалавек добра прыбярэцца. Адзежа чалавека аздабляе, але розуму не дадае.

1138. **Пры гатовай калодзя добра й агонь класьці.** Калі нехта, маючы запас грошы, гаспадарку ці прадпрыемства закладае.

1139. **Прыдзі да мяне тады ў госьці, калі мяне дома ня будзя.** Жартуюць з таго, хто запрасіў гасьцей ,а сам нейдзе пашоў з дому.

1140. **Прыдзя каза да лазы, папрося брэду.** Прыдзе такі час, што й ты будзеш прасіць ласкі. Брэд — шышачкі на вербалозе, якія козы надта любяць. Прыказвае той, каму адмовілі ў дапамозе.

1141. **Прыкусі языка.** Папярэджаньне падлетка, каб непатрэбнага не гаварыў.

1142. **Прымацкі хлеб сабацкі.** Прымаку трэба цярпець шмат крыўды ня толькі ад жонкі, але ад усей жончынай радні, а найболей ад цешчы.

1143. **Прыняць ласку.** Не адмовіцца сесьці за стол, калі запрашаюць.

1144. **Прыстаў у пень.** Замарыўся, што й кроку далей ступіць ня можа.

1145. **Прычапіўся, як смала.** Прыказваюць, калі нехта прыстае зь нейкай просьбай.

1146. **Прычапіўся, як сьляпы к колу.** Калі нехта прыстае да другога, каб уступіць у лаянку ці звадку.

1147. **Прышла Ільля, чалавек пашоў па гародзя, як свіньня.** Прыказваюць таму, што на Ільлю — 20 ліпеня — гародніна гатовая да спажываньня.

1148. **Прышла Прачыстая, дык і бярозка чыстая.** Бо каля Другой Прачыстай — 8 верасьня — ліст зь бярозы асыпаецца.

1149. **Прышлі Калядкі, блінкі ды аладкі.** Даўнейшае ўсхваленьне Калядаў, калі іх сьвяткавалі два тыдні ды пяклі бліны й аладкі.

1150. **Прышоў май, каню сена дай, а сам нáпеч уцікай.** Аб холадзе ў месяцы траўні, як прыдуць зазімкі й каня трэба карміць у хляве, а самому грэцца на печы.

1151. **Прышоў мужык зь сіла ды гоня пана з двара.** Прыказваюць, калі зайдзе вялікае нахабства ў парушэньні ўласнасьці.

1152. **Прышоў на ўздабыткі.** Калі нехта прыходзе нешта патрэбнае купіць ці пазычыць.

1153. **Прышоў ні званы й пашоў ні сланы.** Калі няпрошаны госьць прыходзіў у хату.

1154. **Прышоў Пятрок — адпаў лісток, прышла Ільля — адпалі два.** Аб паступовым надыходзе восені.

1155. **Прыйшоў Спас — усяго з нас.** На Спаса, 6 жніўня, сяляне маюць да ўжытку гародніну й садавіну, а навет і новы хлеб.

1156. **Прышый кабыля хвост, а ў яе й свой ёсьць.** Калі хто набывае зусім непатрэбную рэч, якая будзе толькі замінішчам.

1157. **Прэціляў пазьбіраў.** Калі нехта памрэ й зьбяруцца прыяцелі — сваякі й сябры — дзяліць маемасьць.

1158. **Пустыня ніколі ня стыня.** Пустыняй называюць пустога чалавека, у якога ўсё пустое — і гутарка, і чыны. Прыказка кажа, што пусты чалавек ня стане паважным.

1159. **Пусьці павалюся, падымі ні ўстану.** Аб бездапаможным, апушчоніку ці гультаю, які сам сябе не дагледзе.

1160. **Пусьці сьвіню за стнл, дык іна й ногі на стол.** Калі бязуважнага, грубога чалавека прыняць у паважную кампанію, дык ён там сваімі паводзінамі няпрыемнасьцяў наробіць.

1161. **Пусьці злыдня на тры дні, а ён і за тры тыдні ня выйдзя.** Калі пусьцяць у хату благога кутніка ці кватаранта.

1162. **Пчала ляціць на любы цьвет.** І сярод людзей ня можа быць ні прымусу, ні абмежаваньня ў падбіраньні сяброўства як у васабістым жыцьці, гэтак і ў грамадзкім.

1163. **Пыл ды дым, як ляцім.** Прыказваюць дзеці пры гульні-бегу.

1164. **Пытаецца люты, ці добра абуты.** Бо ў лютым месяцы бываюць вялікія маразы й ногі мерзнуць.

1165. **Пытаіцца вата, ці далёка хата, а кажушок дзяржыць душок.** Прыказваюць сяляне, калі высьмейваюць адзетак пашыты на ваце.

1166. **П'янаму й мора па калена.** Высьмейваньне адвагі п'янога.

1166а. **П'янаму й чорт з дарогі саступая.** Лепей абыходзіць п'янага ды ня ўступаць зь ім у спрэчкі.

1166б. **П'яны прасьпіцца, а дурань ніколі.** Хоць дрэнна жыць з п'яніцай, але з дурням яшчэ горай.

1166в. **П'яніцы й капля дарага.** Прыказвае бедны, калі дзеля нястачы ня дасьць загінуць на полі й аднаму каласку ці бульбіне.

1166г. **Пярэ, як у дошку.** Калі нехта бязупынна кашляе.

1166д. **Пятая празь дзісятая.** Калі нехта пры рабоце сьпяшаецца й робе вялікія хібы.

1167. **Рабі нябожа, дык і Бог дапаможа.** Прыказваюць таму, хто скардзіцца на свой лёс, што ён ня можа пабагацець.

1168. **Рабіці ні прыбіці.** Аб тым падлетку, што ня хоча прывучацца да ніякай работы.

1169. **Работа дурня любя.** Аб такім работніку, які працуе шчыра, але не дамагаецца належнай платы за сваю працу.

1170. **Работа ня воўк, у лес ні ўцячэ.** Прыказвае гультай, што выкручваецца ад работы.

1171. **Работы аж да суботы.** Жартуюць з таго, хто хваліцца, што шмат мае работы.

1172. **Рада-б душа ў рай, ды грахі ні пускаюць.** Прыказвае той, хто хацеў-бы нечага дасягнуць, але ня мае магчымасьці.

1173. **Радня да паўдня, а як сонца зайдзя, дык і чорт яе знайдзя.** Прыказвае стары, якога радня пакінула. Радня толькі тады прызнаецца, калі чалавек малады, здаровы ды багаты. Людзі райнуюць сваё жыцьцё з днём: раньне — маладосьць, паўдня — сталыя гады, вечар — старасьць.

1174. **Радыі ў гады.** Калі нешта бывае надта рэдка.

1175. **Разадралася, разлапсардачылася, вылапсардачылася.** Гульня словаў, скарагаворка. Тры словы аднолькавага значаньня, якія цяжка вымавіць. Даецца дзецям да вымовы, каб сказалі хутка й без памылкі.

1176. **Разгудніца на сьвіньні прыехала.** Калі прышла нейкая жанчына да маладой ці да маладога, каб вясельле разрабіць. Яна маладому гане маладую або маладой гане маладога, а сватае іншага ці іншую. Разгудніца — ад слова «гудзіць», значыць ганіць.

1177. **Раздайся лахамоцьця.** Аб тым, хто заўзята танцуе або шпарка бяжыць.

1178. **Разіньку прадаць.** Калі нехта на кірмашы разглядаецца па баках бязь ніякае зацікаўленасьці.

1179. **Рана росна, а ў дзень** млосна, а ў **вечара камары, — ані з кута галавы.** Гэткія прычыны дае гультай, калі ў яго пытаюць, чаму ён сена не накасіў летам.

1180. **Рана ўстаў, алі дзень насьпяшыўся.** Жартуюць з таго, хто хваліцца, што зараньня ўстаў, але ў ягонай рабоце посьпеху ня відаць.

1181. **Раньняга дажджу ня бойся.** Заўвагі сялян аб надвор'і. Калі дождж пойдзе ўсходам сонца, дык ён хутка спыніцца. Калі дождж пойдзе ў познае сьняданьне, дык ён будзе ісьці блізка да вечара.

1182. **Ранняя птушка зубкі цярэбя, а позная вочкі трэ.** Гэтак жартуюць з гультая, які позна спаў ды сьнеданьне праспаў.

1183. **Раса, як вір.** Пра вялікую расу.

1184. **Раскапусьціўся, як старая баба.** Калі нехта, сеўшы, заняў шмат месца.

1185. **Распусьціў язык, як старэцкую пугу.** Упікаюць гэтак падлетка, які дае волю свайму языку ды абы што, і недарэчнае, і няпрыстойнае, вярзе.

1186. **Рассыпаіцца драбней маку.** Калі нехта лісьліва гавора, падпускае лёстачкі, прыдобраваецца.

1187. **Расхадзіліся, як жыды на дождж.** Кажуць, калі дзеці раздурэліся. Жыды на кірмашы шпарка рухаюцца, каб закупы да дажджу зрабіць.

1188. **Расхадзіўся, як Марка па пекля.** Калі нехта нецярпліва ходзе, сьпяшаецца, мятусіцца.

1189. **Расьхініся гразь — бруд плыве.** Калі праходзе ганарысты чалавек, які народ называе гразьзю.

1190. **Расьце на лес гледзючы.** Кажуць аб падлетку, які гадуецца дзіка, бязь ніякага выхаваньня.

1191. **Расьце ў роця.** Калі нехта бяз смаку есьць або яго гадзіць ці страва ня глытаецца.

1192. **Рэдзька кажа: «Я зь мёдам добра». А мёд кажа: «А я бяз рэдзькі яшчэ лепі».** Калі несамавіты чалавек набіваецца ў сяброўства да прыстойных людзей.

1193. **Рэдзьку есьці з панамі, а спаць легчы зь сьвіньнямі.** Жартуюць з таго, хто рэдзьку еў, бо посьля доўга з роту чуваць рэдзькай.

1194. **Родам куркі хахлатыя.** Калі дзеці дасталі ад бацькоў спадчынныя налогі.

1195. **Род бяз вырадку ні бывая.** Гэтак спагадаюць тэй радні, якая мае ў сваім асяродзьдзі нейкага вырадка — дурнога ці разбэшчанага.

1196. **Рука руку мыя й абедзьвя чыстыя.** Трэба адзін аднаму памагаць, дык абодвум будзе добра.

1197. **Рукі на замок.** Калі складаюць пальцы між пальцамі, каб у далонях нешта моцна сьціснуць.

1198. **Рыцэр то рыцэр, алі мех ня цэл.** Прыказваюць, калі й таго ашукалі, хто запэўніваў, што яго ніхто не ашукае. З казкі: Ішла грамада людзей у дарогу і кажны нёс на плячах у мяшку ежу. Раніцай то той, то сёй скардзіцца, што ў яго пакрадзена то хлеб, то сала. Іхны-ж кіраўнік зь іх сьмяецца, кажучы, што толькі ў дурняў крадуць, а ў яго не ўкрадуць, бо ён завязвае свой мяшок рыцарскім вузлом. Аднэй раніцы й ён стаў клясьці, што й яго абакралі. А спадарожнікі ў яго пытаюцца: — «А як-жа твой рыцэр?» «Рыцэр то рыцэр, але мех ня цэл!» — адказаў кіраўнічы. Ягоны мех прарэзалі нажом.

1199. **Рыхтуй летам сані, а зімой калёсы.** Практычная заўвага сялян, каб снасьць заўсёды на пару была гатовая. Прыказваюць таму, у каго няма ніякіх запасаў, а які бярэцца за падрыхтоўку толькі тады, калі трэба із снасьці карыстацца.

1200. **Рыхцік увесь бацячка — і крошачкі пабраў.** Калі сын падобны да бацькі да малой рыскі.

## С

1201. **Сабака й на Бога брэша.** Развважаюць гэтак нявіннага чалавека, якога нейкі злыдзень нізавошта зьневажае й лае.

1202. **Сабака, ні пакачаўшы, ня зьесьць.** Жартам прыказвае той, хто незнарок упусьціў нейкую ежу, а потым падымае ды есьць.

1203. **Сабака сам сена ня есьць і каню не дае.** Калі нехта па зайздрасьці захопіць нешта, што яму зусім няпрыгодна, але не дае й таму, каму яно патрэбна.

1204. **Сабаку выбіраюць па псярні, а жонку па радні.** Прыказваюць старэйшыя, калі радзяць сваяку-дзяцюку браць жонку з добрай радні, бо вераць, што калі добрыя бацькі, дык і дзеці будуць добрыя.

1205. **Сабацкая доля.** Скардзіцца той, каго ганяюць, папіхаюць, з каго зьдзекваюцца.

1206. **Сабацкая служба.** Аб службе, пры выкананьні якой трэба апастыляцца зь людзьмі.

1207. **Сабачча вузёл.** Косы вузёл, у якім канцы наўкос пастаўлены.

1208. **Сабраліся два Юр'і ды абодва дурні, адно халодная, а другоя галодная.** Прыказка сялян, бо восенскае Юр'е 26, лістапада, халоднае, а веснавое, 23 красавіка, галоднае, бо харчоў для статку не стае.

1209. **Сава ня родзя сакала.** Аб радавой спадчыннасьці — ад благіх бацькоў родзяцца благія дзеці.

1210. **Сам дзямідзя, а мяне ня відзя.** Гэтак дацінаюць таму, хто сам есьць, а сябры ці знаёмага не частуе.

1211. **Сам скапаў хлеб з лапаты.** Аб тым, хто сам пашкодзіў свайму шчасьцю ці прыбытку.

1212. **Сарaкі пагналі сьнег да ракі.** Сялянская прыказка аб тым, што на Саракі, 10 сакавіка, сьнег пачынае гінуць.

1213. **Сарваў на ваўка.** Прыказваюць сяляне, калі лясны купец пры разьліку з работнікамі — секачамі ці вазакамі — не даплачвае нейкую суму грошаў.

1214. **Сарвігалава.** Клічка лятучага вырванца-бандыты.

1215. **Сатры час.** Бескарыснае марнаваньне часу, — «гэта ні работа, а сатры час».

1216. **Свае будзім.** Гэтак перапрашаюць жартам адзін аднаго, калі нехта на нагу ўступе.

1217. **Сваей галаве розуму ні прыстаўлю.** Прыказвае, хто шукае ды ня можа знайсьці выйсьця зь бяды.

1218. **Свайго ня меўшы, трэба спаць легчы ня еўшы.** На пару не дастанеш, калі свайго няма.

1219. **Свайго нішчасьця ні абойдзіш, ні аб'едзіш.** Доля наканаваная, няшчасьця не абмінеш.

1220. **Свайго розуму нікому ні прыставіш.** Кажуць таму, хто дамагаўся ўгаварыць упартага.

1221. **Сваім адумам.** Самавольна. «Марыля сваім адумам пашла жыта зажынаць».

1222. **Свату першая чарка й першая палка.** 1. Пры сватаньні, на запоінах сват першы п'е да маладой. 2. На вясельлі сват гаспадар — да яго п'юць першую чарку. Калі на вясельлі п'яныя дзяцюкі завархоляцца, а сват стане разбараньваць, дык і першую палку пападзе.

1223. **Свая воля дае долю.** Лёс чалавека залежыць ад яго самога, як ён пра сваю будучыню дбае.

1224. **Свая сарочка бліжэй к целу.** Калі нехта наракае, што хто-небудзь лепей аб сабе ці аб сваіх сваякох клапоціцца.

1225. **Свая сірмяжка нікому ні цяжка.** Клопаты аб самым сабе й сваіх рэчах нікому не дакучаюць.

1226. **Свая хатка, як родная матка.** Аб дзіцяці ніхто іншы гэтак не клапоціцца й не дагаджае, як родная матка. Нідзе чалавек ня чуецца так вольна, як у сваёй хаце.

1227. **Свой бійся, сячыся, а чужы ні мішайся.** Ня трэба ўмешвацца ў звадку ці бойку чужой сям'і. Свае пасварацца, паб'юцца, ды скора й паяднаюцца, а чужому будзе сорамна да іх паказвацца.

1228. **Свой квас дзяцей паеў.** Аб тым, хто сам вінен свайму няшчасьцю. З казкі: у ваўчыньніка паўміралі дзеці, дык ён зьвярнуўся да знахара, каб той угадаў, хто навёў чары на ягоных дзяцей. Знахар ведаў, што аўчыньнік паіў сваіх дзяцей тым квасам, у якім моклі аўчынкі, дык ён і сказаў: «Свой квас дзяцей паеў».

1229. **Сем год нявестка была й ня ведала, што сучка біз хваста.** Аб тым, хто доўга на адным месцы жыве й ня ведае тутэйшых парадкаў.

1230. **Сем жыдоў ня воз, абы конь павёз.** Жартам прыказваюць, калі на адзін воз насядзе шмат людзей.

1231. **Сем мужоў ды ўсе біз нажоў.** Калі нейдзе шмат людзей, але ніводзін не адказвае патрэбе.

1232. **Сем раз адмер, а раз адрэж.** Кажную справу перш трэба добра праверыць, а потым прыводзіць яе ў выкананьне.

1233. **Сеўшы між вароны, трэба ґраґаць як і воны.** Трэба прыстасоўвацца да звычаяў і парадкаў асяродзьдзя, у якое трапілася.

1234. **Сёньня ні свята, а заўтра ня будні дзень.** З гэтымі словамі бацькі прыганялі дзяцей да працы перад сьвяточным днём.

1235. **Сёрбай, сёрбай ды ідзі з торбай.** Жарт-заахвочаньне пастушка, каб хутчэй еў ды гнаў статак на пашу.

1236. **Сілай ня быць мілай.** Прыказваецца, калі нехта хоча сілком убіцца ў сяброўства.

1237. **Сілай узяць — возьміш, а даць — ні дасі.** Прыказваюць таму, хто адмаўляецца ад падарунку ці ад пачосткі.

1238. **Сірата — вечная дурата.** Сірату няма каму навучыць і прымусіць да добрых паводзінаў і звычаяў.

1239. **Сіроцкія сьлёзы дарма ні мінуцца.** Гэтак вайцяюць таму, хто крыўдзе сіротаў.

1240. **Сістра сястры кляцьбу нося, каб прапала, Бога прося.** Калі дзяўчаты між сабой канкуруюць і навет сястра сястры зыча загубы.

1241. **Скажы мой мілютачка, ці высака сонца.** 1. Гэтак сяляне высьмейваюць мяшчан, якія ня ўмеюць ар'ентавацца ў часе па сонцы. 2. Гэтак высьмейваюць таго, хто не разумее зусім простай зьявы ды пра яе выпытвае.

1242. **Сказаў, як зьвізаў.** Прыказка на ўдалую рэпліку, калі другому няма што й адказаць.

1243. **Сказаў казку з прыказкай.** Калі нехта паставіць цяжкія ўмовы.

1244. **Сказаў ні к сялу, ні к гораду.** На сказаную недарэчнасьць.

1245. **Скоры пасьпех людзям на сьмех.** Калі нехта сьпяшаючы работу псуе.

1246. **Скруцілася, як Саўрыцкага запусты.** Калі нешта доўгачаканае доўга рабілася й посьля марна гіне ня кончаным.

1247. **Скрывіўся, як сірада на пятніцу.** Калі нехта ад няпрыемнасьці зморшча твар.

1248. **Скрыпучая дрэва доўга скрыпіць.** Аб хваравітым, слабым чалавеку, які доўга жыве.

1249. **Скупы два разы траця.** Аб тым, хто трымаўся дарагой цаны за свой тавар, не прадаў яго, і гэты тавар посьля прапаў, змарнаваўся.

1250. **Скупы шылам сыту мачая.** Гэтак насьміхаюцца над скупым. Сыта — засалоджаная мёдам вада.

1251. **Слаўны бубны за гарамі, а як выйдуць — роўны з намі.** Аб расхваленым далёкім чалавеку, які, пры бліжэйшай знаёмасьці, выяўляецца ні чым ня лепшы за іншых.

1252. **Слова ні вірабей, пусьціўшы ня зловіш.** Аб тым, хто не перадумаўшы, сказаў непатрэбнае слова, а потым каецца.

1253. **Слова — вецір.** Разважаюць гэтак таго, якога нехта незаслужана панізіў благімі словамі.

1254. **Служка служца, а пану трасца.** Калі нейкі загад перадаецца па чарзе ніжэй і ніжэй, але ніхто яго ня выканае, а гаспадар мае на гэтым вялікую страту — «трасцу».

1255. **Слухай вухам, а ня брухам.** Жарт аб тым, хто няўважліва слухае, а потым перапытвае.

1256. **Смаку, як у пячоным раку.** Гіронія аб нясмачнай ежы.

1257. **Смалой лезя** або **смольлю лезя.** Калі нехта нечага назольліва просіць.

1258. **Смачна кашка ды рабіць цяжка.** Аб рабоце, дзе добра кормяць, але работа цяжкая.

1259. **Смачны жабя гарэх, ды зубоў Бог ні даў.** Калі нехта галіцца нешта важнае дабыць, але здольнасьці ня мае пазьней гэта скарыстаць.

1260. **Сонца па небя ходзя ды ні кожнаму даходзя.** Прыказвае той, хто ня змог усім дагадзіць.

1261. **Сон як у руку даў.** Кажа той, каму сон спраўдзіўся.

1262. **Сорам таму, хто ганя, сорам таму, хто хваля.** Аб такім, які можа кажнага бязь віны ганіць і без заслугі хваліць, і робе ўсё гэта для свае матар'яльнае карысьці.

1263. **Спагнаў ахвоту.** Задаволіў жаданьне.

1264. **Спадзіваўся дзед на мёд, ды і так спаць лёг.** Аб тых, што чакалі нейкае абяцанкі й яе не дачакаліся.

1265. **Спляснуў рукамі.** Калі нехта апынуўся ў роспачы.

1266. **Ссадзіў з ног.** Моцна ашукаў, прычыніў вялікую страту.

1267. **Старасьць ні радасьць і горб ні карысьць.** Прыказваюць старыя, калі пачынаюць слабець і горбіцца.

1268. **Старац, старац, сяло гарыць! — Ніхай гарыць! — я ў другоя пі-райду.** Аб тых, якія грамаду любяць толькі датуль, пакуль зь яе матар'яльную карысьць маюць.

1269. **Старац старца нінавідзя, а гаспадар ніводнага.** Старац старца ненавідзе, бо яны канкурэнты. Гаспадар абодвух ня любе, бо яны хочуць жыць з працы гаспадара. Прыказваюць, калі два акупанты між сабой б'юцца, бо кажны хоча сабе падбіць адну й тую самую краіну. А народ, які жыве на гэтай зямлі, абодвух гэтых акупантаў ня любе, бо яны роўныя ягоныя ворагі.

1270. **Старой бабца хораша й у шапца.** Даўней старыя беларускія жанчыны насілі каптуры — «шапкі». Старыя людзі хвасьлівых убораў не патрабуюць.

1271. **Старой бабя й на печы ўхаба.** Калі нехта бяз важнай прыгоды бяду нажыве.

1272. **Старому маніць, а багатаму красьці.** Няма каму аспрэчыць, калі стары маніць, бо ніхто ня помне таго часу, аб якім стары апавядае. Ніхто не павера, што багаты ўкраў, бо ў яго ўсяго шмат свайго.

1273. **Старое хвалі ды за плот валі. Маладое гудзь ды набудзь.** Выказваюцца аб старым працоўным статку. Жартам гэтак выказваецца й аб старых людзях. Гудзіць — ганіць.

1274. **Старцу сяло ні наклад.** Аб тым, хто на малым прыбутку ні спыняецца.

1275. **Стары вол баразны ня псуя.** Водклік аб старым фахоўцы, які мае багатую жыцьцёвую практыку й добра выканае сваю работу.

1276. **Стары з мусту, а бізь яго пуста.** Калі ў хаце ёсьць старая людзіна. Хоць яна да працы й ня здольная, але нейкую карысьць дае. Сэнс прыказкі: Старога карміць хлебам нібы й мус (з мусу), але ён карысны, бо хаты даглядае, у якой безь яго пуста.

1277. **Стары як малы.** На старога, калі ён у чым памыліцца.

1278. **Стаць дубам.** Калі конь станавіцца на заднія ногі.

1279. **Стаць дубка.** Калі сабака станавіцца на заднія лапы.

1280. **Стаць натарцá.** Калі нехта напружваецца ды гатовіцца да змаганьня.

1281. **Стаць рагача.** Калі нехта становіцца на галаве, а ногі трымае ўгору.

1282. **Стаячаму лапаць падшывая.** Калі нейкі вырванец у вачавідкі ашуквае.

1283. **Сто коп (збожжа) — на год хлеба, і капа — на год хлеба.** Ці гаспадар нажне сто коп, ці адну капу, — усёроўна хлеба мусе хапіць на ўвесь год.

1284. **Стол хлеба ні паесьць.** Кажа гаспадар, калі госьці яму заўважаць, што зашмат хлеба накроіў. Гэтым нібы кажыцца, што хлеб накроены не для стала, а для гасьцей, каб госьці не падумалі, што гаспадар скупы.

1285. **Стоць галавой.** Галавой проста ўніз.

1286. **Сто чартоў гэткага ліха ні наробяць, як адна п'яная баба.** Калі п'яная жанчына лаецца ці няпрыстойныя песьні пяе.

1287. **Стрыжэ вушамі.** Калі нехта пільна прыслухоўваецца.

1288. **Стыд ня дым — у вочы ня лезя.** Высьмейваюць таго, на каго сорам ня дзеіць.

1289. **Суджанаму дзеўка.** Вера ў лёс, быццам хлопцу на раду назначана, якую ён дзеўку возьме за жонку.

1290. **Супроць вады цяжка плысьці.** Прыказвае той, хто прымушаны, супроць свае волі, дзеіць паводля волі натоўпу.

1291. **Сухая ложка рот дзярэ.** Кажуць тыя, каму далі есьці посную страву.

1292. **Сходзя на пшык.** Аб тым, хто паступова бяднее.

1293. **Сыпнула з рукаўца, выкупіла малайца.** Калі нехта подкупам вызваліць свайго блізкога чалавека з рэкрутаў, вастрогу, ці іншай павіннасьці. Прыказка выводзіцца з народнай песьні.

1294. **Сыты галоднаму ні спагадая.** Прыказваецца ў значаньні даслоўным, аб ядзе, і часьцей у пераносным.

1295. **Сьвет вялікі, ды дзецца негдзя.** Прыказка бедных, якія сабе нідзе ня могуць знайсьці прыстанку.

1296. **Сьвет дзяўчыня завізаў.** Калі нехта зводзіў дзяўчыну, але замуж ня ўзяў або й ажаніўся, але нейдзе прапаў.

1297. **Сьвет клінам ні зышоў.** Прыказваюць, калі засватаная дзяўчына адмовілася выйсьці замуж або калі не ўдалося купіць аблюбаванай рэчы.

1298. **Сьвіньні ні да парасят, калі самую смалюць.** Адказ бацькоў бедных ці ў горы, калі ім заўважаюць, што сваіх дзяцей ня вучаць ці не даглядаюць.

1299. **Сьвіньня калі адыходзя ад карыта, дык хоць зарохкая.** Прыказваюць падлетку, які адышоўся ад сталага ды не падзякаваў за ежу.

1300. **Сьвяціць вачыма.** Калі з чужой віны трэба цярпець сорам.

1301. **Сьледам за дзедам.** Калі нехта жыве сьлепа па прыкладзе другіх ды ад іх запазычае ўсё, добрае й благое, а ня жыве сваім розумам.

1302. **Сьляпы сьляпому ні павадыр.** Калі нехта слухае парадаў непрактыкоўнага, як і сам, чалавека ды дзеля гэтага мае вялікую шкоду.

1303. **Сьмелы, хоць да жабы з колам.** Калі нехта палахлівы выхваляецца сваёй адвагай і сьмеласьцяй.

1304. **Сьмерць біз прычыны ні бывая.** Калі нехта шукае тых ці іншых прычынаў неспадзяванае сьмерці.

1305. **Сьмерць з трубамі ня ходзя.** Ніхто чалавеку не паведамляе, калі ён памрэ — ніхто ня трубе, што пара ўміраць.

1306. **Сьмерць і радзіны ні глідзяць добрай гадзіны.** Паява чалавека на сьвет і адыход зь яго не залежаць ад чалавечай волі. Прыказваюць, калі радзіны й сьмерць пападаюць у дрэннае надвор'е.

1307. **Сьмешна, алі ні пацешна.** Калі здарэньне й сьмешнае, але нам на шкоду.

1308. **Сьмяецца, як зялезца знашоўшы.** Сьмяецца дурным сьмехам.

1309. **Сьпераду цалуя, а ззаду кусая.** Калі нехта ў вочы падхлебліваецца, прыдобрываецца, а за вочы зводы робе, удае некаму.

1310. **Сьціражонага й Бог сьціражэ.** Гэтак перасьцерагаюць сваіх дзяцей, каб былі асьцярожнымі.

1311. **Сяджу, як на жары.** Прыказвае той, хто цярпіць незаслужаны сорам.

1312. **Сядзеў рускі месіц.** Калі нехта нейдзе доўга быў.

1313. **Сядзіць, як куцьця.** Сядзіць паважна, непарушна, спакойна.

1314. **Сядзь у нас, дома госьць будзіш.** Жартуюць, калі сусед прыйдзе да суседа пагаварыць ды не сядае.

1315. **Сяло біз канца ні бывая.** Гэтак разважаюць таго, каму даводзіцца апошняе з канца месца.

1316. **Сяло пірабег, дык болі ў мех.** У простым сэнсе гэта тарнуецца да старца. Жартам кажа той, каму трэба ў вёсцы ў кажную хату заходзіць.

1317. **Сярэдзіна колам стала.** Гэтак кажа жняя ці іншая работніца, ці работнік, калі даводзіцца цэлы дзень стаяць сагнуўшыся й тады ўвечары сярэдзіна ня хоча адгінацца, сталася сагнёная, як кола.

## Т

1318. **Табакерка растабакерчылася й вытабакерчылася.** Жартаўлівая гульня цяжкіх да вымовы словаў, скарагаворка. Азначае: табакерка апусьцела.

1319. **Тады дзіця трэба біць (вучыць), як перак лаўкі ляжыць.** Дзіця трэба прывучаць да добрых налогаў і паводзінаў з самых малых гадоў.

1320. **Тады маю, як у руках трымаю.** Прыказвае той, хто ня вера абяцанкам.

1321. **Такі сьвет настаў, што ні палажы, ні пастаў.** Гэтак старыя людзі даводзяць, што чым навейшы век, тым большае шальмоўства між людзей.

1322. **Так ні ўсяды, як на Дзяды.** Прыказваюць бацькі ці гаспадар, калі дзеці ці работнікі наракаюць, што харчаваньне пагоршылася.

1323. **Там Бог жыве.** Аб тых, дзе жывуць у вялікай згодзе.

1324. **Там добра, дзе нас німа, а дзе мы жывём — там пуга з вузлом.** Прыказваюць таму, хто наракае, што дрэнна жывецца, дзе ён жыве, а ўсюды далей добра.

1325. **Там талька, а там балька.** Калі ў нейкай пральлі нітка няроўная — дзе тонкая, а дзе таўстая.

1326. **Там ужо й Бог аступіўся.** Дзе няма ладу, няма згоды, няма жыцьця.

1327. **Танная мяса сабакі ядуць.** 1. Калі нехта хваліцца, што нешта танна купіў. 2. Прыказваецца і таму, хто танна прадае сваё сумленьне.

1328. **Танцаваў ды ні скланіўся.** Калі нехта добра выконваў сваю работу, але дрэнна закончыў.

1329. **Танцаваць трэба вучыцца, а работу гора навуча.** Гэтак жартуюць з тых маладых дзяцюкоў, дзяўчат, якія болей увагі аддаюць танцам, а работы ня ўмеюць.

1330. **Танцуй уража, як пан кажа.** Гэтак упікаюць таму, хто прадаўся чужынцу й працуе ў ягоную карысьць, а на шкоду сваім.

1331. **Тань, ды тавару ні гань.** Пры куплі можна й танна даваць за тавар, але ня трэба прыдумляць, што тавар хвальшывы.

1332. **Тапор у карчму папёр, а сякера дома сядзела.** Гульня словаў, жарт-прыказка й разам загадка. Тапор — гаспадар, сякера — гаспадыня. Гаспадар пашоў у карчму, а гаспадыня дома сядзела.

1333. **Татава хата.** Гэтак жартам называюць вязьніцу.

1334. **Тваё дзела цілячча: зьеў поіла ды атпруць у хлеў.** Прыказваюць дзецям ці падлеткам, калі тыя ўмешваюцца ў справы старэйшых.

1335. **Твой язык разам і таўчэ, і меля.** Калі нехта ў гутарцы аднача-сова хоча двум праціўным баком дагадзіць.

1336. **То бокам, то скокам.** Хто стараецца выкручвацца на розныя спо-сабы ў жыцьці, у рабоце, у гутарцы.

1337. **То за пень, то за калоду.** Прыказваюць, калі нехта ўхіляецца ад нейкай работы ці гутаркі.

1338. **Той госьць ізноў ёсьць.** Кажуць, калі зьяўляецца непажаданая асоба.

1339. **Той сабака ня брэша, што спатайка кусая.** Аб благім чалавеку, які спадцішка падкусвае — удае вышэй стаячым асобам, зводы робе.

1340. **Той сьмяецца, хто будзя сьміяцца апошнім.** А апошнім будзе сьмя-яцца тады, калі іншым будзе не да сьмеху.

1341. **Толькі тоя права й праў.** Калі адну й тую самую работу трэба паўтараць.

1342. **Трасецца, як асіна.** Калі нехта трасецца ад хваробы ці страху.

1343. **Трэба вехця й нажа, дык будзя добрая дзіжа.** Прыказваюць, калі нейкая хвароба ці пашкоджаньне паўстала ад неахайнасьці. З казкі: — У бабы папсавалася дзяжа й хлеб ня ўдаваўся. Яна папрасіла сьвятара адпра-віць над дзяжой малебен. Сьвятар заўважыў, што дзяжа абкарэлая гнілым цестам, дык правячы малебен ён сьпяваў: «Трэба вехця й нажа, каб была добрая дзяжа».

1344. **Трэба дуды ў мех зьбіраць.** Калі вясёлы час кончыўся й настае абыдзёншчына.

1345. **Трэба, каб быў воўк сыты й козы цэлы.** Калі даводзіцца дагаджаць двум супроцьлеглым баком.

1346. **Трэба, каб да Ср'я было сена й у дурня.** Трэба, каб і нядбалы гаспадар меў сена да 23 красавіка.

1347. **Трэба нос прытыкаць.** Калі да некага трэба зьвяртацца за патрэ-бай ці дапамогай.

1348. **Трэба так жыць, як набяжыць.** Трэба жыць, як выпадае, улічва-ючы розныя прыгоды.

1349. **Трэба так зрабіць, каб было што зьесьці й прапіць.** Калі трэба вы-находзіць розныя спосабы, ламаць галаву й прыдумляць, каб заладзіць усе бягучыя патрэбы ў гаспадарцы.

1350. **Трэба тым рогам часацца, якім дастаніш.** У гаспадарцы трэба кі-равацца так, як зручней.

1351. **Тунікі цёрці каля вуглоў.** Калі нехта халадуе каля вуглоў безь ніякай работы.

1352. **Ты бачыш пад лесам, алі ні бачыш пад носам.** Калі нехта чужыя хібы ці віну бача далёка, а ня бача сваёй.

1353. **Ты брат мой, а еш хлеб свой.** Кажны мусіць жывіцца з сваей працы.

1354. **— Ты валы карміў? — Карміў. — Паіў? — Паіў. — Дык ідзі-ж запрагаць. — А дзе-ж яны стаяць?** Прыказваюць, калі падловяць спрытнага манюку.

1355. **Ты мяне ў легца маіш.** Кажа той, каго ў вачавідкі паніжаюць, калі не дацэньваюць ягоных здольнасьцяў і магчымасьцяў.

1356. **Ты наша, а я ваша, — а хто-ж нам хлеба напаша?** Прыказвае малазаможны чалавек, калі да яго за дапамогай зьвяртаюцца гэткі самы малазаможны сваяк ці прыяцель.

1357. **Убіўся, як сучка ў расчыну.** Калі нехта ўблытаецца ў нячыстую справу, што й яму самому няпрыемна й сорамна.

1358. **У Бога веру, а Богу ня веру.** Аб тым, што сьлепа на нешта спадзяецца. З казкі: — Чалавек пашоў у царкву ў белым кажусе ды спадзяваўся, што Бог уважа на ягоны новы белы кажух ды ня дасьць дажджу. Але калі ён ішоў дамоў, дык пашоў вялікі дождж ды змачыў і змарнаваў кажух. Тады ён і сказаў: — У Бога веру, а Богу ня веру. Пасьля гэтага выпадку ён ніколі не надзяваў белага кажуха, калі ішоў у далёкую дарогу.

1359. **У бядзе жаласьнікаў шмат, а памагаць некаму.** У бядзе кажны спачувае, але толькі языком, але не матар'яльна.

1360. **У вас адпелі, а ў нас ад'елі.** Жартуюць гэтак з моладзі, якая позна прышла зь ігрышча ды спазьнілася на вячэру.

1361. **У восінь і вірабей багаты.** 1. Прымаўляюць гэтак бацькі, калі адкладаюць сыньня ці доччына вясельле на восень. 2. Гэтак прыказвае даўжнік, калі ў яго спаганяюць доўг, а ён прося адтэрмінаваць доўг на восень.

1362. **У гарачай вадзе купаны.** Гавораць на папырсклівага й нецярплівага.

1363. **У гаспадыні работа адна, трэба яе рабіці што дня.** Аб штодзённай цяжкай і аднастайнай гаспадынінай працы.

1364. **У гасьцях добра, а дома лепі.** Воля гасьця абмяжована воляй гаспадара. А дома кажны сам сабе гаспадар.

1365. **Удадзены, як забіты.** Прыказваюць, калі нявіннага па хвальшывых даносах вінавацяць.

1366. **У дастатку рыбку скоблюць, а ў нястачы з луской ядуць.** Прыказвае бедны, калі яму вайцяюць, што ягоная ежа блага прыгатаваная або калі ён несамавіта адзеты.

1367. **У двух — рада, а ў трох — зрада.** 1. Сакрэты толькі тады могуць захоўвацца, калі аб іх ведаюць усяго дзьве асобы. 2. Калі з сабой сябруюць дзьве асобы, яны будуць абмаўляць трэйцюю пабочную. А калі ў сяброўсьцьве тры, дык зышоўшыся з сабой дзьве асобы, будуць абмаўляць трэйцюю свае кампаніі, няпрысутную.

1368. **У добры час сказаць, а ў благі памаўчаць.** Прыказваюць сяляне, калі хочаць нешта сваё пахваліць, ды баяцца, каб не ўрачы.

1369. **У дурнога ўсё дурноя.** Лаюць таго, хто нешта благое зрабіў ці сказаў.

1370. **Ужо поўны вілачкі наклаў.** Прыказваюць, калі посьля колькіх удалых кражаў нейкага злодзея зловяць на гарачым учынку.

1371. **У зімы рот вялікі.** Прымаўка гаспадароў, калі яны зарыхтоўваюць харчы на зіму.

1372. **У злодзія цяжка ўкрасьці.** Майстру ў ягоным рамясьле цяжка ашукаць.

1373. **Узяліся за дзела, як вошы за цела.** Калі нейкую безгаспадарную маемасьць кажны сабе цягне.

1374. **У каго дочкі, той ходзя біз сарочкі.** Прыказка старасьвецкіх часоў, калі трэба было дочкам складаць палотны на пасагу. Калі яны выходзілі замуж — бацьком не хапала палатна на сарочкі.

1375. **У каго матка, у таго галоўка гладка.** Аб шчасьці тых дзяцей, якія маюць родную матку.

1376. **У каго сынкі, той пячэ блінкі.** Старадаўная прыказка. У каго было шмат сыноў, той шмат расьцярэбліваў пасекі, шмат сеяў пшаніцы й было з чаго бліны пячы.

1377. **Укарчме, лазьні, касьцеля й царкве ўсе людзі роўныя.** Даўней гэтыя будынкі ўважаліся за грамадзкія й у іх кажны меў права заходзіць. Паважны гаспадар уважаў няпрыстойным забараняць некаму мыцца ў сваей лазьні.

1378. **У кія два канцы.** Прыказваюць таму, хто пагражае самавольствам.

1379. **У кожнага свая біда, алі ні аднаго дня.** Разважаюць таго, у каго здарылася нейкая бяда.

1380. **Укрой — ня ўдой.** Адказвае гаспадыня, калі работнікі ці дзеці наракаюць, што мала сала ў ежу адпускаецца, а намагаецца малаком.

1381. **У кулак затрубіць.** На ўвесь голас заплакаць, загаласіць.

1382. **У Лагойску, як у войску, — лаўкі шырокі, ёсьць дзе сесьці, ды нечага есьці.** Сялянская насьмешка аб жыцьці ў месьце.

1383. **Улез, як сучка ў жбан.** Калі нехта ўлез у непатрэбнае месца ці ўблытаўся ў непатрэбную справу.

1384. **Улез як сьвіня ў рэпу.** Калі нехта нахабна ўлез туды, дзе яму неналежыла.

1385. **Улез, як у нерад, ні ўзад, ні ўперад.** Калі нехта ў нейкай справе заблытаўся, зь якое яму цяжка й выблытацца.

1386. **Улетку люблю цябе, дзедку, а зімою зьем хлеб зь сьвіньнёю.** Прыказка таму, хто хоча пазбыцца старога сваяка, калі гэты стары занямог, бо пакуль сваяк быў маладзейшым ды працаваў дарма, — гаспадар яго любіў. А цяпер той самы гаспадар разважае, што лепей гэты хлеб, што зьесьць стары, скарміць сьвіньнёй дык сала будзе мець.

1387. **Улетку праз тын ды ў рэпку, а ў зімку хаця-б націнка.** 1. У простым сэньсе перавага лета над зімой, калі ідзе пра гародніну. 2. Калі чалавек пераҗываў сваё лета, быў маладым, дык карыстаўся ўсімі жыцьцёвымі выгадамі. Калі-ж састарэўся, дык ён рад і таму, што з моладу адкідаў.

1388. **Улетку, улетку зраблю сабе клетку! — кажа сабака.** Калі нейкі гультай валацуга стане хваліцца, як ён некалі пабагацее.

1389. **У марцы зімы ня гоня, а ў запрэлі трава ні расьце.** Прыказваюць сяляне аб надта павольным набліжэньні вясны.

1390. **У марцы рана трашчыць, а ў дзень плюшчыць.** Прыказваюць сяляне аб надвор'і ў сакавіку, калі рана мароз, а ў дзень, як сонца нагрэе, адлега.

1391. **У марцы рыба хвастом лёд разьбівая.** У сакавіку лёд нятрывалы й трэба асьцерагацца ўзьяжджаць на яго возам, ці ўзыходзіць.

1392. **Умела, гаспадынька, гатаваць, алі ня ўмела падаваць.** Гэтак жартуюць госьці, калі гаспадыня падае на стол штораз лепшыя стравы. З казкі аб цыгане: — Гаспадыня падавала цыгану ўсё смачнейшыя стравы. Цыган-жа з самага пачатку аб'еўся й болей ня можа есьці, хоць гаспадыня ўсё падае. Дык цыган і вывайціў гаспадыні: «Умела, гаспадынька, гатаваць, ды ня ўмела падаваць.

1393. **Умірая ні стары, алі паравы.** Разважаюць гэтак таго, у каго ў радні памёр малады чалавек.

1394. **У мор намруцца, а ў вайну налгуцца.** Калі ў часе вайны апавядаюць хлусьлівыя прыгоды, якіх не магло здарыцца.

1395. **У мяне ёсьць партэчкі, а ў дому двоя. — Дык аддай-жа й моя, калі ў даму двоя.** Жарт. Прыказваюць таму, хто хвасьлівіцца пазычаным адзеткам. Гэтак быццам шляхціц хваліўся пазычанымі порткамі, а той гаспадар, у якога ён іх пазычыў, пасуліў вярнуць пазычаныя, калі дома мае двое сваіх.

1396. **У мяне зь ім чысты дабрыдзінь.** Прыказвае той, у каго дачыненьні зь кім-небудзь не сплямленыя. Ён сьмела можа яму сказаць «Дабрыдзінь».

1397. **Унадзіўся, як сьвіньня ў рэпу.** Калі нехта стаў часта заходзіць да каго-небудзь, хоць яго там і не далюбліваюць.

1398. **У нашай Польшчы кожны хоча быць большы.** Калі нехта хоча грамадзе накінуць свае пагляды. Прыказка бадай што яшчэ з часоў Рэчыпаспалітае.

1399. **Унашым куці вясельле чуці — торбачка зь мяшэчкам жаніціся будзя.** Прыказваюць, калі пачуюць нязвычайна сьмешную навіну.

1400. **Унучка, унучка, змані манючка, абы было гладка, дам табе авечачку й ягнятка.** Жарт, гульня словаў. Прыказваюць дзецям, дзеці-ж любяць перагаварваць гэткія жарты.

1401. **У няўмекі рукі калекі.** Аб тым, хто робе ня ўмеючы й псуе матар'ял.

1402. **У пана ласка да парога.** Хто хутка забываецца зробленае яму дабро, а калі другі раз крыху не дагадзіў, дык злуецца.

1403. **У пастўшкі німа служкі.** Калі нейкі гультай вымагае, каб яму прыслугоўвалі.

1404. **Урві ды падай.** Аб падшыванцы, які хапае, крадзе на ляту ды перадае гэткаму самаму другому.

1405. **У родным краі, як у раі.** Пашана й любось да роднага краю.

1406. **У сабакі вачэй пазычыць.** Аб тым, хто зь некім апастыліўся ды не пагадзіўшыся зь ім, ідзе да яго зь нейкай патрэбай.

1407. **У сабачыну пусьціўся.** Аб тым, хто вядзе амаральнае жыцьцё.

1408. **У сваей хатцы нечага баяцца.** Кажны гаспадар у сваей хаце.

1409. **У сваей хаце й вуглы памагаюць.** Прыказваюць, каб узахвоціць гаспадара бараніць сваю хату.

1410. **У сваей хаця й качарга маці.** У сваёй хаце ад нейкага злыдня й качаргой можна абараніцца.

1411. **У сваю скуру ня тоўпіцца.** Аб сытым, тоўстым чалавеку.

1412. **У сваю скуру ўшыўся.** Хто дрэнна сябе паводзе і нічыей парады ня хоча слухаць.

1413. **Усе чэрці з аднэй дзерці.** Прыказваюць таму, хто пачынае дзяліць на лепшых і горшых акупантаў-урадоўцаў ці партыйцаў.

1414. **Усе як у бубін б'юць.** Калі грамадою аб некім загаварылі й найчасьцей няпраўду.

1415. **Усім па сем, а гаспадыні восім.** Той, што дзеле нейкую ежу, мусе дастаць больш, як іншыя.

1416. **У скупа возьміш, а ў нета ня возьміш.** У скупога можна ўзяць, калі не па ласцы, дык ґвалтам, а ў таго, хто ня мае, нічога ня возьмеш.

1417. **У скупога купца ні грошы, ні тавару.** Прыказваюць, калі скупы купец абанкроціцца.

1418. **У скупога чорт шапарам.** Багацьцем скупога чорт апякуецца, ад яго нічога не дастанеш.

1419. **У старцы й пірогам ні ўвазваць, а з старцаў і кіям ня выгнаць.** Хто не пачынаў жабраваць, таму жабраніна страшная. Хто-ж да жабраніны прывык, таго ад яе цяжка й адвучыць.

1420. **Уставай, чалавеча, — ужо пятух кукарэча.** Гэтак жартам прыказваюць, калі некага будзяць.

1421. **У страха вочы па яблыку.** Кажуць, калі апавядаюць, як нехта настрашаны баяўся.

1422. **Уступі дурню — збавеньня заслужыш.** Угаварваюць таго, хто з дурнем спрачаецца.

1423. **Усякі цыган сваю кабылу хваля.** Калі нехта хвале свой дрэнны тавар.

1424. **Усякі дурань сабе цягня.** Калі нехта без развагі квапіцца навет на малавартасную чужую рэч.

1425. **У сяле, як у сіле; на адзіноця, як у злоця.** Аб перавазе земляробскага гаспадараньня на адзіноце над вясковай.

1426. **У таргу німа гняву.** Перапрашаць пры гандлі й пры сватаньні, калі пытаюцца аб дзявочай пасазе.

1427. **Утаропіўся, як баран на новыя вароты.** Калі нехта да нечага пільна прыглядаецца.

1428. **Уткні мяне, Божа, дзе мяне ня трэба.** Прыказвае сабе той, хто праз памылку папаў у непажаданае месца, дзе толькі сораму набраўся.

1429. **У тым самым пер'і застаўся.** Аб чалавеку, які пасьля нейкай падзеі ў сваім жыцьці ці ў гаспадарцы не зьмяніўся, — не пабагацеў, ані пабяднеў.

1430. **У хаця ёсьць вушак, у хаця бывая ўсяк.** У хаце могуць быць звадкі й сваркі, але навонкі іх выносіць ня трэба.

1431. **У хлеб уваліўся.** 1. Калі нехта знашоў добрую працу, якой будзе забясьпечаны на доўгія гады. 2. «У хлеб увалілася» дзеўка, калі выйшла ў добрую й багатую хату замуж.

1432. **У ціхім балоця чэрці водзюцца.** Кажуць аб ціхім, спакойным з выгляду, чалавеку, які спадцішка робе паклёпы, зводы.

1433. **Уцячэш, ні ўцячэш, а пабегчы можна.** Прыказвае той, хто ў бядзе ці ў небясьпечных выпадках робе нейкія захады, каб ратавацца.

1434. **Учора паштавая, а сёньня ні ўставая.** Аб дзяўчыне ці хлопцу, якія ўчора на ігрышчы спраўна насіліся, як паштовыя коні, а сяньня, калі трэба ісьці на працу, дык не ўстаюць.

1435. **У чужой царкве сьвячэй ні папраўляюць.** Прыказваюць да таго, хто хоча ўмешвацца ў справы чужой сям'і ці чужой грамады.

1436. **У чужоя шчасьця ня мухай упасьці.** Аб тым, хто нахабна далазе туды, дзе ён не пажаданы.

1437. **У чужую просу ня сунь носу.** Калі нехта пачынае ўмешвацца ў чужую гутарку ці чужыя справы.

1438. **У чужым баку вочы па кулаку.** У чужым баку трэба пільна прыглядацца да людзей і навакольля.

1439. **У чужым засьценку, дык і я за дзеўку.** Гэтак жартуюць з малапаважанага ці акіненага чалавека. Калі ён апынецца ў чужым асяродзьдзі, дез яго ня знаюць, дык там прызнаюць за паважнага чалавека.

1440. **У яго галаве віраб'і начавалі.** Аб пустой, дурной галаве.

1441. **У яго й зімой сьнегу ні дастаніш.** Аб вельмі скупым.

1442. **У яго толькі дамкоў, колькі ў зайца ламкоў.** Калі нейкі прайдзісьвет хваліцца сваім багацьцем, дамамі.

1443. **У яго толькі праўды, колькі ў рэшаця вады.** Аб манюку.

## X

1444. **Хавай сена да Міколы й ня бойся зімы ніколі.** Посьля Міколы, 9 травеня, зазімкаў ня бывае й ня трэба статак сенам карміць.

1445. **Халадно надзеўшы адно.** Адна адзежына, хоць і цёплая, але на вялікім марозе не сагрэе.

1446. **Хатняя думка ў дарозя ні прыгодна.** Дарожныя выпадкі й прыгоды могуць зьмяніць тыя пляны, што зробленыя дома.

1447. **Хату мяці, алі на вуліцу сьміцьця ні нясі.** Калі ў хаце трэба навесьці лад і парадак, дык часамі даводзіцца й пасварыцца, але ніколі хатняй сваркі ня можна выносіць на вуліцу, каб людзі аб гэтым гаварылі.

1448. **Хвароба ні дадае аздобы.** Па выглядзе твару можна заўважыць, што чалавек хворы.

1449. **Хвароба ўзвальваіцца пудамі, а выходзя залатнікамі.** Хвароба надыходзіць раптам, а выходзіць вельмі павольна.

1450. **Хвіліна, чуй дух.** Высьмейваюць гэтак таго, хто крыкам і пагрозамі хоча застрашыць іншых, каб яго баяліся.

1451. **Хітра бабка, дый сабе, зьела кашку, дый скрабе.** Калі нехта скарыстаў сабе маемасьць грамадзкага характару ды канцы пахаваў, каб і знаку не засталося.

1452. **Хлеб кажа да гаспадара: Кінь стрэльбу й вуду, тады з табой буду.** Калі гаспадар не працуе пільна на палявой рабоце, а ходзе із стрэльбай на паляваньні ды з вудай каля ракі, дык ад гэткага гаспадара й хлеб уцякае.

1453. **Хлеб на стале, а рукі свае.** Гэтак гаспадар запрашае да яды гасьцей, калі страва пастаўленая на стале, а госьці сядзяць, чакаючы на ўпросы.

1454. **Хлеб, соль еш і праўду рэж.** Прыказваюць да таго, каго хочаць пачастункамі падкупіць. Ад пачосткі ня трэба адмаўляцца, але й ад праўды не адступаць, а гаварыць заўсёды праўду.

1455. **Хлеб траякі: белы, чорны й ніякі.** Адказ беднага селяніна, калі ў яго пытаюцца, які ён хлеб есьць. Белы хлеб з чыстага, веенага жыта ён есьць на Вялікдзень і Дзяды. Чорны хлеб, з дамешанай мякінай, бывае часамі. А найчасьцей — хлеб ніякі, гэта значыцца бяз хлеба.

1456. **Хлеб трэба пакідаць к бобовому цвэту.** Прыказка бедных сялян, у якіх хлеба на ўвесь год не стае. Боб цьвіціць у пачатку ліпеня, калі стары хлеб канчаецца, а жыта на хлеб новы яшчэ не пасьпела. Тады самы галодны час.

1457. **Хлопіц на кані едзя, а дзяўчына родзіцца й яму згодзіцца.** Калі хлапец і старэйшы за дзяўчыну, гэта не перашкода для іхнага сужэнства.

1458. **Ховай Божа!** Кажуць пры адпіраньні, каб надаць павагі сваім словам. — «Ховай Божа! Я там ня быў!»

1459. **Ходзя духі падцягнуўшы.** Аб худой і запрацаванай жывёле, і аб худым, зайздрывым да работы, чалавеку.

1460. **Ходзя як на карачах.** Аб тым, у каго балючыя ногі, ды ён ходзе, ня зьгінаючы ног у каленях.

1461. **Ходзя, як тры дні ня еўшы.** Калі нехта марудна ходзе пры выкананьні свае работы.

1462. **Хоць ваўком называй, алі на дзень па барану давай.** Прыказка матар'ялістых, што на маральную абразу не зважаюць, а толькі сваю карысьць.

1463. **Хоць вох, ды ў двох.** 1. Прыказваюць два работнікі — хоць яны абодвы ня моцныя, але адзін аднаму будуць памагаць. 2. Прыказвае паджылая дзеўка з думкаю, што лепей выйсьці замуж за старога й слабога ці пакалечанага, чымся дзеўкай старыцца.

1464. **Хоць гаршком называй, алі ў печ ні стаўляй.** Такой бяды паніжэньне маральнае, але ня трэба чыніць крыўды фізычнае.

1465. **Хоць гол ды восьцір.** Аб тым, хто хоць бедны, ды рызыкант, сьмелы й адважны.

1466. **Хоць да касьцёла й пайду, алі паціраў ані шэпну.** Прыказвае той, каго некуды гвалтам заганяюць, і шчыра працаваць там ён ня будзе.

1467. **Хоць жывот нарушу, алі зьесьці мушу.** Гэтак жартуюць пры ядзе, калі страва смачная.

1468. **Хоць за вала, абы дома ні была.** Аб дзеўцы, якая стараецца выйсьці замуж за каго, абы не старэцца.

1469. **Хоць якая па́па, абы ні гуляла лапа.** Гэтак даўней казалі старыя, калі дзеці наракалі, што чорны хлеб (жыта зь мякінай).

1470. **Хоць і ні рад, ды гатоў.** Кажа той, хто прымушаны падпарадкавацца праву.

1471. **Хоць і ня родзя, алі насеньня ня зводзя.** Аб вельмі благой зямлі.

1472. **Хоць і па шэлігу луста, алі кішэнь пуста.** Хоць і танна прадаецца хлеб ці іншыя рэчы, але калі няма грошы, дык ня купіш.

1473. **Хоць і сто лет, алі сораму нет.** **Аб старой** працоўнай жывёле й старой людзіне. Старасьць ня ганьба, калі старая жывёла выконвае сваю працу, а старая людзіна свае абавязкі.

1474. **Хоць і сьмешна, алі ні пацешна.** Сьмех накіраваны супроць нас не дае ўцехі.

1475. **Хоць і трашчу, ды ні пушчу.** Гэтак кажа лёд у восень.

1476. **Хоць кажух застаўлю, алі на сваім пастаўлю.** Прыказвае ўпарты й настойлівы пры спрэчцы.

1477. **Хоць кішэнь пуста, алі душа чыста.** Хоць бедны, але з чыстым сумленьнем.

1478. **Хоць латáная, алі ні хватáная.** Прыказка сумленнага чалавека аб тым, што ён і бедны, але ня злодзей.

1479. **Хоць мы гультаі, алі й вы ні артаі.** Гэта адказ на абразьлівае слова «гультай», калі яго кажа той, хто мае яшчэ большыя недахопы.

1480. **Хоць ня ўежна, дык улежна.** Прыказвае той, хто мае хоць і малую плату, але за тое работа лёгкая

1481. **Хоць ні трашчу, алі пушчу.** Гэтак кажа лёд вясной.

1482. **Хоць ты й лыкам шыт, алі мой бацька быў.** Прызнаньне да свайго бацькі прастака. З казкі: Дачка гэтак галасіла-прыгаварвала па сваім памерлым бацьку.

1483. **Хоць украду, алі прывяду**. Кажа той, хто прыракае, што аддасьць доўг.

1484. **Хоць украў, алі добра схаваў.** Адказ таго, якога вінавацяць у нейкім злачынстве, але праўна ён чысты.

1485. **Хто ажаніўся, той каіцца, а хто ні ажаніўся, той галіцца.** Жанатыя часта зэйздруюць нежанатым, але-ж не зважаючы на гэта — нежанатыя жэняцца.

1486. **Хто арэ, хто барануя, — усіх Бог параўнуя.** Усе людзі памруць.

1487. **Хто бабы слухая, той сам баба.** Насьмешка над тым мужчынам, якім жонка кіруе.

1488. **Хто дбая, той і мая.** Аб рупным гаспадары.

1489. **Хто дужшы, той пружшы.** Хто мацнейшы сілай — перамагае фізычна, хто мацнейшы багацьцем — перамагае праўна.

1490. **Хто есьць нажом, той зьесьць ражон.** Бацькі-сяляне строга забараняюць дзецям і падлеткам карыстацца нажом пры ядзе.

1491. **Хто за каго, а поп за Каську.** Калі нехта вытыкае недахопы й праступкі толькі аднаго чалавека, які яму не падабаецца.

1492. **Хто зь язычком, той зь піражком.** Хто гаваркі, той хутчэй нешта выпрасе ці дастане нейкі магарыч.

1493. **Хто каго сагне, той таго наб'е.** Дужэйшы перамагае.

1494. **Хто капейкі ні шануя, дык той сам капейкі ні варты.** Раськідлівыя не карыстаюцца пашанай у народзе.

1495. **Хто коні міняя, у таго хамут гуляя.** Ахвотнікі мяняць часта бываюць ашуканыя.

1496. **Хто любіцца, той і чубіцца.** Найчасьцей прыказку ўжываюць жартам, каб пацешыць пакрыўджанага ці пабітага. Да гэтай прыказкі ёсьць і

казачка-жарт: — Дзяўчына прышла з вуліцы й скардзілася сваёй матцы з плачам, што яе хлопцы крыўдзяць. А маці адказала: — «Хто любіцца, той чубіцца!» — быццам хлопцы яе б'юць зь любасьці. Назаўтра вечарам дзяўчына прышла дамоў сьмяючыся й кажа матцы: — «Мама, мама! Вось мяне хлопцы любяць, бо як выйду на вуліцу, дык за кулакамі сьвету ня віджу».

1497. **Хто лусту нося, той есьці ня прося.** Гэтак бацькі заахвочвалі дзяцей, каб бралі з сабой хлеб, ідучы ў поле на работу.

1498. **Хто мала мая, той мала й дбая.** У каго малая гаспадарка, у таго й клопаты меншыя каля яе.

1499. **Хто мажа, той і едзя.** Хто падкупляе ўрадоўцаў ці суд, той і справу выйгрывае.

1500. **Хто ні радзіўся, той ні памрэ.** Прыказваюць на хаўтурох, каб пацешыць таго, хто плача па нябожчыку.

1501. **Хто ні цягне, таго выпрагаюць.** Благога работніка доўга ня трымаюць.

1502. **Хто ня ўмее араці, таму хлеба ні даці.** Хто на хлеб не зарабіў, таго й ня кормяць хлебам.

1503. **Хто па абедзя аддыхая, Бог думая, што сьвіньня здыхая.** Высьмейваньне гультая, што толькі есьць ды сьпіць.

1504. **Хто па абедзя аддыша, таго Бог за сьвіньню запіша.** Як і папярэдняя — насьмешка над гультаём.

1505. **Хто парася ўкраў, таму ў вушшу пішчыць.** Калі баязьлівы зрабіў нейкі праступак, дык яму здаецца, што ўжо ўсе гэта ведаюць.

1506. **Хто позна ходзя, той сам сабе шкодзя.** 1. Аб тым, хто спазьніўся на вячэру. 2. Аб дзяўчыне, якая позна ходзе па вуліцы, бо людзі будуць аб ей дрэнна адзывацца.

1507. **Хто пойдзя нацянькі, дык праходзя тры дзянькі.** Крывая абходная, але пэўная дарога, лепшая за простую карацейшую, але няпэўную, зь якое лёгка зьбіцца й заблудзіць.

1508. **Хто поля троя, той хлеб кроя.** Хто добра абрабляе поля, у таго парасьце добрае жыта, і ён будзе мець хлеб — будзе што кроіць.

1509. **Хто пытая, той ня блудзя.** Напаміны маладым людзям, якія ня маюць жыцьцёвай практыкі, каб яны слухалі парады старэйшых.

1510. **Хто рана ўстае, таму Бог дае.** Калі рупны чалавек устае рана, дык зробе шмат работы і будзе мець болей усяго. А ўсё, што чалавек мае, уважаецца за дадзенае Богам.

1511. **Хто сам такі — на другога кладзе знакі.** 1. Калі хто сам мае зладзейскую натуру, той знача свае рэчы, каб ня ўкралі, бо думае, што ўсе гэткія-ж зладзеі, як і ён сам. 2. Калі нехта сам мае ганебныя налогі, дык ён думае, што й усе людзі маюць тыя самыя заганы.

1512. **Хто стараіцца, той і мая.** Гэтак адклікаюцца аб старалым чалавеку.

1513. **Хто стараіцца, таму й Бог дае.** Прыказка аб старалым чалавеку.

1514. **Хто спяшыць, той людзей сьмяшыць.** Аб тым, хто сьпяшаецца ды работу псуе.

1515. **Хто табаку кура, той і вочы жмура.** Бо дым вочы есьць.

1516. **Хто табаку нюхая, той у пекла трухая.** Бо табака здароў'ю шкодзіць.

1517. **Хто топіцца, дык і за брытву хопіцца.** Калі нехта із страху ці з роспачы, уцякаючы ад адней небясьпекі, упадзе ў яшчэ горшую.

1518. **Хто ў леся ня злодзі, той дома ні гаспадар.** 1. Сялянская пагаворка. Гэткая кража часта бывала мусовай, бо патрэбнага концам селяніну дрэва ўласьнік лесу не прадае. 2. Селянін, крадучы дрэва, разважае й гэтак: — уласьнік лесу гэтага дрэва не садзіў, вырасла яно само, дык яно й мусе належыць таму, каму яно патрэбнае.

1519. **Хто ўлетку халадуя, той узімку галадуя.** Прыказваюць гультаю або летам, калі гультай гультуе, або ўзімку, калі ён просе дапамогі.

1520. **Хто хоча прапасьці, ніхай ідзе красьці.** Злодзей веку не дажыве, а калі й жыве, дык марнее ў вязьніцы.

1521. **Хто цягня, таго паганяюць.** Паслушнага заўсёды пасылаюць на цяжкую працу.

1522. **Хто чужога ні шануя, той свайго мецъ ня будзя.** Хто прывык да нядбайнасьці, калі працаваў на чужой рабоце, гэтак сама нядбайна будзе ён абыходзіцца й із сваёй маемасьцяй, і таму сваей гаспадаркі й не нажыве.

1523. **Худы, гарбаты, на сілу багаты.** Заўвага практычных людзей, якія па выглядзе чалавека ўгадваюць ягоную сілу.

## Ц

1524. **Цапу-лапу.** Калі нехта пры рабоце сьпяшаецца, хапаецца.

1525. **Цаца, цаца, ды ў кішэнь.** Аб тым, хто быццам для цікавасьці разглядае нейкую чужую рэч, а калі ніхто ня бача, дык у кішэнь хавае.

1526. **Цесіль уміраў, усім прабачаў, а яловаму суку ні прабачыў.** Ёсьць такія ворагі, якім і перад сьмерцяй ня можна прабачыць.

1527. **Цёмна, хоць пальцам у вока.** Довад абсалютнай цемені.

1528. **Ці вас поля насеіна?** Гэтак угаварваюць сваіх блізкіх, каб не сварыліся ці ня біліся, бо іх і так ня шмат.

1529. **Ці відзілі вы гэткага?** Калі нейкі дзівак вытварае нейкія вар'яцкія штукі.

1530. **Цігаў воўк, пацягнулі й ваўка.** Аб злачынцы, які крыўдзіў людзей, а нарэшце й сам папаўся.

1531. **Ці даўна тоя было, а ўжо й за ракой ведаюць.** Прыказвае той, навіна аб благіх паводзінах якога шпарка разышлася.

1532. **Ці-ж вочы драць, калі ня хоча браць?** Жартам адказвае дзеўка, якой ніхто ня сватае, калі ў яе пытаюць, чаму яна замуж ня ідзе.

1533. **Ціляты язык адажвалі.** Прыказваюць на дзяцей, якія ад сораму ці пагневаўшыся, ня хочаць гаварыць.

1534. **Цілілаіцца, як варона на калку.** Прыказваюць таму, хто сядзіць, дрэме й галавой цялілае.

1535. **Ці мне гэта піршыня?** Прыказвае той, каму не давяраюць выконваць нейкай работы ці справы.

1536. **Ці мой грош шчарбаты?** Кажа той, у каго ня хочуць браць грошы на аплату выдаткаў пры супольнай пачостцы.

1537. **Ці плач, ці галасі, дык рады ні дасі.** Аб безнадзейнай справе.

1538. **Ці саву аб пень — саве ліха, ці пнём саве — саве ліха.** Прыказваюць, каб сказаць, што спосаб катаваньня ці забойства ня робе розьніцы для таго, каго катуюць ці забіваюць.

1539. **Ці сьвет зышоў клінам?** Адказвае той, каму адмовілі ў сяброўстве.

1540. **Ціт, Ціт, ідзі малаціць! — Жывот баліць! — Ціт, Ціт, ідзі есьці! — А дзе-ж мая вялікая лыжка?** Жарт. Прыказваюць хітраму гультаю.

1541. **Ці ты зубы замаўляіш, ці мяне за дурня маіш?** Пытаньне таму, хто вядзе хітрую гутарку, каб ашукаць.

1542. **Ці ты кпіш, ці дарогі пытаіш?** Калі нехта пачынае хітрую й двузначную гутарку.

1543. **Ці ў калгас, ці ў Катлас.** Гаварылі ў 1930/31 гадох сяляне, калі іх заганялі ў калгасы, бо ў Котласе загінеш раптам, а ў калгасе будзеш гінуць паволі.

1544. **Ці цёпла ў вочы?** Гэткім пытаньнем саромяць дзяцей пры благіх учынках.

1545. **Ці цот, ці лішка?** Пытаньне пры гульні ў гарэхі. Цот — парны лік, лішка — няпарны.

1546. **Ціхая вада грэблю рыя.** Калі спакойны, ціхі чалавек вялікія справы пачынае рабіць, добрыя або благія.

1547. **Ціха, як аніл піраляцеў.** Калі раптам усе замоўкнуць.

1548. **Ціхая сьвіня глыбака рыя.** Прыказваюць на таго, хто спакойна, але бязупынку нейкую справу прарабляе.

1549. **Цура цурыць, а хлеб ляціць.** Калі цуру робяць з хлеба, дык хлеб з булкі хутка ўбывае. Цура — страва; хлеб накрышаны ў пасоленую ваду.

1550. **Цыган як галея, дык сьмялея.** Нястача адвагі дадае. Калі ў каго-небудзь недастаткі, дык ён тады адважваецца ісьці на далёкія заработкі, а іншыя навет і красьці.

1551. **Цынш да падатку ні належа.** Прыказваюць таму, хто зьмешвае дзьве розныя рэчы ці дзьве розныя справы.

1552. **Цэп любя галоднага, а каса сытага.** Даўней, калі малацілі цапамі, малаціць уставалі досьвіта ды да сьнеданьня змалачвалі. Касіць-жа заўсёды ішлі пасьнедаўшы на цэлы дзень.

1553. **Цябе дурны поп хрысьціў.** Кажаць гэтак на дзівака, які вырабляе вар'яцкія штукі.

1554. **Цябе толькі па сьмерць пасылаць.** Прыказка да таго, хто заўсёды позьніцца, бо калі-б ён замарудзіў сьмерць прывесьці, гэта было-б добра.

1555. **Цябе тут і мухі зьядуць.** Кажуць выканаўцу маруднай працяглай работы.

1556. **Цябе ўсюды поўна.** Аб тым, хто ўмешваецца ў кажную чужую справу.

1557. **Цягніцца, як кішка.** Лаюць таго, хто марудна ходзе.

1558. **Цягнуць, як жыдоўскія коні.** Прыказваюць да тых, што нясуладна працуюць. Калі аднаго каня сьцебануць пугай, дык ён дасьць у хамут

ды стане; сьцебануць другога пасьля гэтага, той гэтаксама дасьць у хамут і стане, а воз будзе стаяць на месцы.

1559. **Цяжка й будавацца, і прадавацца.** Прыказвае той, хто мае адну з гэтых цяжкасьцяў.

1560. **Цярпі Грышка — спасён будзіш.** Прыказваюць да таго, хто церпіць нейкае несправядлівае абвінавачаньне.

## Ч

1561. **Чаго баба хацела, тоя каза радзіла.** Калі тое збываецца, чаго нехта хацеў. Баба хацела, каб каза радзіла козачку й казялка.

1562. **Чаго баяўся, таго ні ўбаяўся.** Калі тое здарылася, чаго нехта высьцерагаўся.

1563. **— Чаго ты плачыш? — пытаюцца ў малой дзяўчыны. — Калі я выраcту й пайду замуж, дык у мяне будзя дзіця. Я зь дзіцям пайду малоць ды пасаджу яго на жарнах, а лопацінь адарвецца ды заб'е дзіця, дык мне будзя шкода.** Прыказка таму, калі хто па нечым надта загадзя бядуе.

1564. **Чакай цётка Пітра, сыр будзіш есьці.** Кажа той, хто мае цяпер вялікую патрэбу, а яго цешаць абяцанкамі.

1565. **Чакая, як вол доўбні.** Калі некаму нямінуча прыходзе нейкая бяда.

1566. **Чалавек спачатку ходзя на чатырох нагах, потым на двух, а нарэшце на трох.** Першае тарнуецца да дзіцячых гаоў, другое да сталых, а трэйцяе да вялікай старасьці, калі чалавек ужо кійком падпіраецца.

1567. **Чалавек чалавеку воўк.** Прыказваюць, калі нехта некага бязьлітасна пакрыўдзе.

1568. **Чаму госьць ня еў? — Бо ложкі ня меў.** Калі нехта зь хітрасьцяй строе кпіны. Прыкладам: не папрасіўшы на бяседу, робе вымову, што пагардзіў прыйсьці.

1569. **Чарачка-каток, кацiся ў раток.** Прымаўляюць пры выпіўцы.

1570. **Часам з квасам, а парой з вадой.** Прыказвае бедны, калі ў яго пытаюцца, як яму жывецца, чым ён жывіцца.

1571. **Чорт бы дзятла ведаў, каб ні яго ґлюґа.** Калі нехта празь неасьцярожнасьць наклiча на сябе бяду, калі выдасьць сябе праз свой язык.

1572. **Чорт даў, чорт і ўзяў.** Калі тую рэч украдуць, што крутнёй набытая.

1573. **Чорт ні бярэ, а Богу ня трэба.** Прыказвае той, каму нідзе няма прыпынку.

1574. **Чорт праўды ня любя.** Аб тым, хто злуе, калі яму скажаць праўду.

1575. **Чорт сваё, а поп сваё, — аддай маю малітву.** Калі два працаўнікі ўступаюць у бясконцыя спрэчкі й кажны свайго патрабуе.

1576. **Чорт чарта пазнаў ды на піва пазваў.** Калі двое людзей з роўна вялікімі хібамі ў натуры пасябруюць ці пажэняцца.

1577. **Чужая болька людзям сьмех.** Людзі чужой бядзе не спачуваюць, а часта навет і цешацца зь яе.

1578. **Чужая хата горы ка́та.** Прыказка тых, каму цяжка жыць у чужой сям'і ці ў чужой краіне.

1579. **Чужой ямы ніхто ні заляжа.** Прыказваюць тым, хто цешыцца з чужой сьмерці, бо на кажнага свая яма чакае.

1580. **Чужоя бокам вылазя (праз бок).** Ёсьць перакананьне ў народзе, што хто гвалтам забірае чужое дабро, яно пойдзе яму на хваробу.

1581. **Чужоя дабро ня грэя.** Няма карысьці з чужога багацьця.

1582. **Чужоя лычка рэміньчыкам плаціцца.** Хто пагаліцца на чужую танную рэч, той дорага за яе заплаціць.

1583. **Чужую бяду я й пальцам разьвяду.** Прыказваюць таму, хто не спачувае чужой бядзе й не дапамагае іншаму ў няшчасьці.

1584. **Чужы кусок дзярэ раток.** 1. Гэтак навучаюць дзяцей, каб не прагнулі чужога багацьця. 2. Прыказваюць гэтак сумленныя людзі, калі ім трэба спажываць тое, што нехта шкадуе.

1585. **Чужым розумам век ні пражывеш.** Аб тым, хто кіруецца ў жыцьці чужымі парадамі, а не сваім розумам.

1586. **Чужымі рукамі добра жар заграбаць.** 1. Кажаць тыя, што здалі нейкую работу рабіць іншаму, а той яе сапсаваў. 2. Прыказвае той, каго пасылаюць на цяжкую або небясьпечную работу, бо небясьпечную работу кажны валадар выконвае чужымі рукамі.

1587. **Чужыя грахі ліча, а сваіх ні бача.** Аб тым, хто пра чужыя малыя недахопы гавора, а сваіх вялікіх не ўспамінае.

1588. **Чуя звон, ды ня ведая дзе ён.** Прыказваюць таму, хто бярэцца сказаць нейкую навіну, але ня ведае яе сутнасьці.

1589. **Чый грэх, таго й пакута.** Ня варта абмаўляць чужыя правіны, бо ён сам адпакутвае за іх.

1590. **Чым багаты, тым і рады.** 1. Прыказвае гаспадар, калі запрашае гасьцей сядаць за стол. 2. Гэтак прыказвае бедны, калі цешыцца зь нейкай набытай маемасьці.

1591. **Чымся чужоя дзіця біць, дык лепі свой двор падмяці.** 1. Аб тым, хто ўмешваецца ў чужыя сямейныя справы. 2. Калі выбіўся з работы дома, дык знайдзі нейкую іншую, але ня ўмешвайся ў справы чужой сям'і.

1592. **Чым хата багата, тым і рада.** Прыказвае гаспадар, калі запрашае гасьця.

1593. **Чытана, пісана, кабыла лысая, а жарабя рабоя, — зьеў воўк абоя.** Жартаўлівая гульня словаў. 1. Прыказваюць аб бязсэнсовым чытаньні ці пісьме. 2. Аб самарослым паэце, які рымуе словы, але бяз сувязі.

1594. **Чыя-б кароўка рыкала, а твая-б маўчала.** Прыказваюць таму, хто вылічае недахопы іншых, а сам мае яшчэ большыя.

## Ш

1595. **Шалы да дабра ні давядуць.** Перасьцярога дзецям ці падлеткам, каб у вялікія жарты не заходзілі, бо часта яны канчаюцца сьлязьмі.

1596. **Шанаваць, як бруд на шчэпках.** Аб благім чалавеку, якога трэба шанаваць не дзеля таго, што ён заслужыў на пашану, а за тое, каб ён прыкрасьці не нарабіў.

1597. **Шануй адзежу дома, а адзежка цябе ў людзях зашануя.** Гэтак старэйшыя навучаюць дзяцей і моладзь, каб яны рупіліся аб сваей адзежы, бо калі адзежа будзе выглядаць прыстойна, дык і самую асобу будуць шанаваць, як паважнага чалавека.

1598. **Шастом галавы ні дастаць.** Аб ханабэрыстым чалавеку, які высака трымае галаву.

1599. **Шкадліваму кату хвост уцінаюць.** Прыказваюць, калі пакараюць збрадлівага чалавека.

1600. **Шкадуя, як стары конь мацяры.** Прыказваецца, калі нейкі бяссумленны прайдзісьвет гавора, што ён некага пашкадаваў ашукаць.

1601. **Шмат у мора вады ўвойдзя (пакуль гэта будзя).** Калі нехта на далёкія часы складае няжыцьцёвыя пляны.

1602. **Шопаты хату губюць.** Жартуюць, калі ў хаце прыхіляць галовы ды перашэптваюцца, быццам нейкую змову робяць супроць хатняга ладу.

1603. **Што будзя міру, тоя й бабінаму сыну.** Аб тым, хто найменш дбае пра нейкую грамадзкую небясьпеку.

1604. **Што вінін, дык аддаць павінін.** Прыказка пры спрэчках за даўгі.

1605. **Што дзень, дык кудзель, а ў суботу дзьве.** Жартуюць з таго, хто хваліцца, што шмат работы робе. З казкі: Дзеўка хвалілася дзяцюку, што шмат кудзелі спрадае: — «Што дзень, дык кудзель, а ў суботу дзьве». Калі дзеўка нейдзе адышлася, дзяцюк узяў ейныя ключы ад кубла ды схаваў у прасьніцы за кудзелю. Калі дзяцюк ізноў прышоў праз тры тыдні, дык дзеўка пачала наракаць, што ейныя ключы ад кубла прапалі тады, як гэты дзяцюк у яе быў. Тады дзяцюк залажыў руку ў кудзелю за прасьніцу, выняў тыя ключы ды аддаў дзеўцы.

1606. **Што галава, то й розум.** У дурной галаве дурны й розум. Прыказваюць таму, хто нейкую дурасьць скажа ці зробе.

1607. **Што год, дык удод.** Гэтак жартуюць, калі ў нейкай сям'і часта дзеці родзяцца.

1608. **Што занадта, таго й сьвіньня ні ядуць.** Калі нехта ў кампаніі ўжывае няпрыстойныя словы.

1609. **Што з возу ўпала — лічы прапала.** Ня варта траціць часу на пошукі таго, што безнадзейна загінула.

1610. **Што каму баліць, той тоя й студзя.** Калі нехта стараецца пазбыцца бяды ці няпрыемнасьці, што яму дакучае.

1611. **Што каму на ўме, той тоя й чаўпе.** Што каму болей рупе, той тое й успамінае, аб тым гавора.

1612. **Што край, то й звычай.** Кажны край мае сваe асаблівыя звычаі.

1613. **Што найбольшы пісака, дык найгоршы сабака.** Гэтак сяляне адклікаліся аб расейскіх пісарах урадоўцах.

1614. **Што ня міла самому, дык ня жыч і другому.** Навука сумленных бацькоў сваім дзецям.

1615. **Што пасеіш, тоя й пажнеш.** 1. У простым сэнсе аб добрым збожавым насеньні, зь якога гаспадар дачакаецца й добрага збожжа. 2. Калі будзем дабро людзям рабіць, дык і людзі будуць добра адплачваць.

1616. **Што ручкі зробюць, тоя плечкі зносюць.** Што для сябе зробіш, тое й мець будзеш.

1617. **Што торба, то ня мех; што праўда, то ня грэх.** Прыказка таму, хто крыўдзіцца, калі яму праўду ў вочы гавораць.

1618. **Што твэго, тоя й мэго, а што мэго, дык тобя ніц да тэго.** Прыказваюць таму, хто галіцца на чужую маемасьць, але сваю ўважае за незачэпную. Прыказка яўна гістарычная, у якой адбілася тое, як Палякі ставіліся да Вялікага Княства Літоўскага.

1619. **Што ты робіш на гарэ гразь.** Аб тым, хто выкрывае злачынствы ці злаўжываньні нейкага ашуканца, псуючы яму справу й робячы яму сорам.

1620. **Што ты ў старца кій адбіраіш.** Аб тым, хто крыўдзе бездапаможнага чалавека.

1621. **Што ты чаўпеш дуба смалянога.** Аб тым, хто відавочную хлусьню гавора.

1622. **Што ўбіў, тоя ўехаў.** Пры цяжкай, мазольнай настырлівай працы: Колькі калок у зямлю біў, толькі ён уехаў. Колькі каня пугай біў, толькі дарогі праехаў.

1623. **Што ў цьвярозага на вуме, тоя ў п'янага на язьіцэ.** Калі п'яны пачынае выказваць нейкія сакрэты.

1624. **Што ўлетку ножкай коп, тоя узімку ручкай хоп.** Аб гародніне й садавіне, якую летам ганьбуюць, а зімой ахвотна ядуць.

1625. **Што ўложа хам, дык ня выня й пан.** Нялёгка тое адрабіць, што папсуе нейкі злыдзень.

1626. **Што ў тэй чэсьці, калі нечага есьці.** Прыказвае галодны госьць, калі стол добра прыбраны й гаспадары ветліва запрашаюць, але на стале няма пажывы.

1627. **Шукая галава ґуза.** 1. Прыказваюць на дзяцей, калі яны лезуць у небясьпечнае месца, дзе могуць пакалечыцца. 2. Прыказваюць дзяцюком, калі яны на кірмашы заводзяцца біцца.

1628. **Шукай ветру ў полі.** Калі нароблена шмат шкоды, але няма ніякага сьледу, каб шукаць вінавайцаў.

1629. **Шыхалюцца, як сабакі каля разьніцы.** 1. Калі хлопцы-падлеткі бегаюць, мітусяцца каля карчмы ці каля тэй хаты, дзе ёсьць ігрышча, а іх туды ня пускаюць. 2. Калі нейкая банда ажыўлена рухаецца, мітусіцца.

1630. **Шыйся, бяліся, — заўтра Вялікдзінь.** Аб нядбайнай асобе, якая зацягнула работу за доўгі час да астатняга дня, і ей за кароткі час немагчыма выканаць, як немагчыма за адзін дзень да Вялікадня выбяліць палатна й пашыць сарочкі.

1631. **Шый, як зложана.** Гэтак прыказана, каб ня ўводзіць у жыцьцё навінаў і чужых звычаяў, а трэба жыць спрадвечнымі парадкамі й звычаямі свайго краю.

1632. **Шыла ў мяшку ня ўтоіш,** або **шыла зь мішка вылазя.** Калі нейкі сакрэт сам сабой выкрываецца.

1633. **Шэтар ды пэтар.** Калі нейдзе вясёлы гоман, шум, сьпевы, мітусьня, як на вясельлі ці вялікім балі.

## Ю

1634. **Юр'я гвазьдзіць, а Мікола масьціць.** Сялянская заўвага. На восенскае Юр'я, 26 лістапада, гразь замярзае й робіцца калючая, як гвазды. На восеньскую Міколу, 9 сьнежня, сьнег зямлю масьціць.

1635. **Юр'я кажа: — Я жыта раджу. Мікола кажа: — Я пагляджу.** На веснавое Юр'я, 23 красавіка, жыта адыходзе («кратаецца»), а на веснавога Міколу, 9 траўня, пад раньнюю вясну, жыта выплывае.

1636. **Юрка, Юрка! Вылазь з падпечча — да цябе знаёмы пан прыехаў.** Калі нехта блізкі па сваей дурноце наклікаў спатканьне зь непажаданай асобай. З казкі: За часоў прыгону гаспадар згледзіў, што да яго пан едзе. Ён схаваўся пад печ. Калі пан прышоў у хату ды папытаўся, дзе гаспадар, дык жонка ўзрадавалася, што да ейнага мужа аж сам пан прыехаў, ды клікала мужа гэткімі словамі: «Юрка, Юрка! Вылазь з падпечка — да цябе знаёмы пан прыехаў». Пан-жа прыехаў, каб пакараць селяніна за невыкананьне прыгону.

## Я

1637. **Я аб усім леся, а'ба мне ніякі беся.** Гэтак крыўдуе той, хто рупіцца аб грамадзкіх справах і чужых асабістых, а аб ім ніхто ні парупіцца, і навет не спачувае яму за турботы й працу.

1638. **Я болі забыўся, як ты ведаіш.** Калі нехта крыўдзіцца, што невук пачынае яго вучыць.

1639. **Я ведаю й біз папа, што ў нядзелю сьвята.** Аб тым, хто бярэцца выясьняць такую справу, якая ўсім добра ведамая.

1640. **Яго горла ўсё пажорла.** 1. Аб п'яніцы гайдамаку, які ўсю гаспадарку прапіў, прагуляў. 2. Аб ненажэрным ліхвяру, які абдзірствам і куцельствам перацягвае да сябе чужое багацьце.

1641. **Ягоныя ўсе козы ў золацця.** Аб шчасьлівым і задаволеным, якому ўсё ручыць, які аб нічым ня дбае, а толькі аб сваім шчасьці, хоць яно можа й часовае.

1642. **Яечня кісьня і ў грудзях цісьня.** Пры цякжой працы, пры цяжкіх думках-клопатах або пры хваробе, дык і самая лепшая ежа ня есца ды ў грудзях баліць. Яечня ў беларускай вёсцы ўважаецца за самую ласую ежу.

1643. **Язык біз касьці, што хочыш, тоя й мяньці.** Аб тым, хто бяз сораму гавора пры людзях розную брыдоту.

1644. **Язык і Кійіза дапытая.** Кажуць пасланцу, калі ён адмаўляецца ісьці ў дарогу, паясьняючы тым, што дарогі ня ведае.

1645. **Языком брашы, алі рукам волі ні давай.** Прыказваюць ахвотніку біцца, які мяркуе, каб ударыць.

1646. **Я йграю, як знаю, а ты скачы, як хочыш.** Прыказвае майстрарамесьнік ці мастак, калі яго нехта пачынае вучыць у ягоным таленьце ці мастацтве.

1647. **Яйцо курыцу вуча. Калі** падлетак пачынае вучыць старэйшых, як жыць.

1648. **Як асіна затрасецца, тады бычок напасецца.** Заўвага сялян аб тым, што калі на асіне зьявяцца першыя лісты, тады на траве напасецца ўжо бык.

1649. **Як бедны ў дарогу, дык вецір у вочы.** 1. Прыказвае той, каму ў дарозе здарылася няпрыемная прыгода. 2. У каго пры распачатай справе ці рабоце здарыліся нейкія няпрыемнасьці ці цяжкасьці.

1650. **Як Бог да Шлёмкі, гэтак і Шлёмка да Бога.** Калі багаты ашукае ці пакрыўдзе беднага, а бедны яму помсьціцца. З казкі-выпадку: — Шлёмка прасіў Бога, каб Бог дапамог выратавацца яму ад ракруцкага набору, але яго злавілі ды аддалі ў маскалі. Посьля гэтага Шлёмка ў сыботу схапіў тапор ды стаў дровы сеч. Калі яму заўважылі, што гэтак рабіць грэх, дык Шлёмка адказаў: — Як Бог да Шлёмкі, гэтак і Шлёмка да Бога.

1651. **Як-бы штося.** Прыказваюць, калі з чужой прычыны стала няпрыемна. «Яны лаюцца з жонкай, а нам, гасьцям, як-бы штося».

1652. **Як бяжыць, дык бяжыць, а як абваліцца, дык і ляжыць.** Прыказка аб тых конях, што гандлёўшчыкі прыганяюць на кірмаш на продаж ці мяняць.

1653. **Як гэта яно робіцца: ты посьля абеду вышоў ды на сьніданьня хочыш прысьпець?** Кажуць да таго, хто спазьніўся ды ў чарзе хоча заняць першае месца.

1654. **Як дбаім, так і маім.** Толькі ад нашай рупнасьці залежыць наш дабрабыт.

1655. **Як гол, так восьцір.** Бедны чалавек хутчэй ідзе на рызыку, бо яму няма чаго губляць.

1656. **Як гукнеш,** гэтак і адгукнецца. Як мы будзем ставіцца да людзей, гэтак і людзі да нас.

1657. **Як ем, дык глух і нем.** Гэтак даўней заўважалі старыя дзецям, калі тыя пры ядзе падымалі нейкую гутарку Стары звычай патрабаваў, каб за ядой ніякай гутаркі ня было.

1658. **Як естам, дык естам, а ўсё каля места.** Гэтак сяляне жартавалі зь мяшчан, якія не далюблівалі вёскі за цяжкую працу на полі.

1659. **Як жыта красуя, гаспадар галасуя.** Калі на жыце краса, дык у гэты час у гаспадара канчаюцца запасы старога хлеба, і гаспадар плача.

1660. **Як жыта наліваіцца, гаспадар умываіцца.** Калі ў жыце зьявіліся новыя зярняты, дык гаспадар мыецца, бо чакае новага хлеба, як самага лепшага гасьця.

1661. **Як жыта палавея, гаспадар шалея.** Гаспадар шалее з радасьці, бо зараз дачакаецца новага хлеба.

1662. **Як за сьцяну заваліўся.** Аб тым, хто перастаў выходзіць з дому й лучыцца да грамады.

1663. **Як з воч, дык і з мысіль.** Аб тым, хто хутка забываецца.

1664. **Як здароў, дык сем паноў, а як гніл, дык нікому ня міл.** Гэтак аб сабе кажа акінены й добры работнік, калі ён захварэў і ня можа працаваць.

1665. **Як з куста ляпнуў.** Калі нехта ў размове пры грамадзе ні з таго, ні зь сяго, скажа недарэчнае ці няпрыстойнае слова.

1666. **Які вышаў зь люлькі, такі будзя й да магілкі.** Пагляд аб прыродным характары чалавека.

1667. **Які госьць, такая й чэсьць.** Паважнага гасьця добра прымаюць і частуюць, а на няпрошанага не зьвяртаюць увагі.

1668. **Які дзень, такі й пажытак.** У сьвяточны дзень і харчаваньне лепшае.

1669. **Як ідзе арэнда, дык сын камэнда, а як падыходзя рата, дык глядзі ты, тата.** Прыказваюць бацькі-гаспадары, калі дзеці іх ашукваюць. Гутарка гэтта аб благім сыне арандатара. Калі трэба нешта збываць з гаспадаркі, дык сын прадае, а калі трэба плаціць за арандаваную зямлю дык сын напамінае, каб бацька пашукаў грошы.

1670. **Якія мы самі, такія нашы й сані. Аб характары** чалавека можна судзіць па ягоных рухах. рабоце й рэчах.

1671. **Як кот наплакаў.** Калі нехта хваліцца, што ён шмат зрабіў работы, а ён у запраўднасьці нічога не зрабіў.

1672. **Як кукамі зьбіты.** Як вылеплены з гліны. Прыказваюць да сытага, тучнага, моцнага чалавека.

1673. **Як мокрая гарыць.** Калі нехта марудна працуе.

1674. **Як мы былі козы, дык і ў нас былі рогі.** Гэтак старыя напамінаюць тым бацьком, якія забараняюць сваім дзецям хадзіць на ігрышчы, бо калі тыя бацькі былі маладыя, дык і самі хадзілі.

1675. **Як мы ў людзей ядзім, дык мы тады весіла глядзім, а як у нас людзі ядуць, дык у нас тады сьлёзкі цякуць.** Аб скупых і зайздрывых людзях. Калі ім дапамагаюць, дык яны вясёлыя, а калі трэба людзям дапамагчы, тады ім ня міла.

1676. **Як нам жаніцца, дык тады ноч мала.** Калі пры выкананьні важнай работы не хапае часу.

1677. **Якоя дрэва, такі й клін; які бацька, такі й сын.** Аб прыроднай спадчыннасьці бацькаўскага характару на дзяцей і аб выхаваньні. У сумленных бацькоў будуць сумленныя, выхаваныя дзеці.

1678. **Як памёрла матка, дык асьлеп і татка.** Калі памёрла маці, а бацька ажаніўся ізноў, дык ён мала ўвагі зьвяртае на дзяцей ад першай жонкі.

1679. **Як пасьцелішся, гэтак і высьпішся.** Як чалавек аб сабе паруліцца, тое ён будзе сабе й мець.

1680. **Як пашло з раньня, дык ідзе аж да вечара.** Прыказвае той, каму з моладу не шанцавала ды не шанцуе да самай старасьці.

1681. **Як пашоў, дык і плех знашоў.** Аб тым, хто некуды першы раз пашоў ды там нейкую бяду ці няпрыемнасьць нажыў.

1682. **Як просюць, дык жнуць і косюць.** Калі нехта просе пазыкі ці нейкай дапамогі, дык абяцае за гэта адгадзіцца, памагаць жаць і касіць, а посьля атрыманьня забываецца на свае абяцанкі.

1683. **Як прышло, так і пашло.** Калі нейкі прыбытак лёгка прыходзе дык ён марна й выдаткуецца.

1684. **Як пяюць, гэтак і адпіваюць.** Як мы будзем ставіцца да людзей, гэтак і людзі да нас.

1685. **Як робім, гэтак і маім.** Дабрабыт чалавека залежыць ад ягонай рупнасьці.

1686. **Як рукамі адняло.** Калі ад нейкага лячэньня чалавек раптам папраўіцца.

1687. **Як свая вош укуся, дык тады паруніцца.** Аб нярупным дзяцюку ці нярупнай дзяўчыне. Калі ён ажэніцца ці яна замуж выйдзе, ды будуць мець сваю гаспадарку й сваю сям'ю, тады стануць ашчоднымі й рупнымі.

1688. **Як сірата плача, дык ніхто ні бача, а як сірата засьмяецца, дык увесь сьвет здрыганецца.** Калі бедны гаруе, дык гэта нікога ня дзівіць. Калі-ж бедны пачне багацець, ці калі зь бядой папалам стаў выбівацца да лепшага жыцьця, дык усе із злосьцю пачынаюць яму зайздраваць і рабіць перашкоды.

1689. **Як сірбаў, так і сьцібаў.** 1. Калі чалавек быў добра накормлены, дык ён шмат і работы зрабіў. 2. Калі нехта быў добра падрыхтаваны ці навучаны да нейкай працы, ці справы, дык ён добра будзе выконваць свае абавязкі.

1690. **Як трывога, тады да Бога.** 1. Калі чалавеку пагражае нейкая небясьпека, дык ён тады пачынае маліцца. 2. Калі нехта жыве спакойна, дык ён да нікога не зьвяртаецца, каб падзяліцца сваімі дасягненьнямі. А калі яму стане нешта пагражаць, нейкая бяда ці небясьпека, тады ён ходзе, шукае дапамогі ці парады.

1691. **Як тут, так і там, па калені жупан.** Прыказваюць, калі хочуць давесьці, што ўсюдё аднолькава, як у хваленым месцы, так і тут.

1692. **Як у ступя ваду таўчы.** Аб пустой гутарцы, ці аб бескарыснай рабоце.

1693. **Як у сук.** Калі нехта сказаў слова вельмі да рэчы.

1694. **Як хто хоча, так па сваім бацьку й плача.** Прыказваюць таму, хто пачынае ўмешвацца ў чужыя асабістыя ці хатнія справы.

1695. **Яму жыць на сьвеця, як у чужой клеці.** Аб тым, хто ня мае ніякіх клопатаў аб пражыцьці, жыве на ўсім гатовым.

1696. **Яму й ня шум баравы.** Аб тым, хто аб нічым ня дбае.

1697. **Яму (ей) што поп, то й дзядзька.** Аб тых, якія хочаць быць знаёмымі з усімі, асабліва з паважнымі.

1698. **Я на яго вока ні маю.** Ня маю на яго ласкі.

1699. **Я табе пакажу, дзе ракі зімуюць.** Прыказваюць, калі пагражаюць пакараць ці адпомсьціцца.

1700. **Я табе з таго сьвету буду прыяць.** Абяцаньне ўміраючага. — «Калі вы, дзеткі, будзіця жыць у згодзя, дык я вам з таго сьвету буду прыяць».

1701. **Я такі поп, што бяру й боб.** Прыказвае прадавец тавараў, калі заміж грошы ў лік платы бярэ рознае збожжа.

1702. **Ятроўка — радоўка.** Ятроўкі мусяць зараўня працаваць у гаспадарцы або па радоўцы. Ятроўка — братняя жонка.

1703. **Ячніца, аўсяніца, — будзя добрая трасяніца.** Жартуюць, быццам старац, які іншых пацераў ня ўмеў, гэтак маліўся Богу за статак.

1704. **Яшчэ чэрці на кулачыкі ня біліся.** Кажа той, хто ўстаў надта рана, яшчэ да 12-ай гадзіны ночы. Ёсьць такое павер'е, што чэрці, пакуль разойдуцца з сваіх зборышчаў, дык б'юцца на кулачкі. А разыходзяцца яны, калі певень а 12-ай гадзіне запяе.

1705. **Я як п'ян, дык капітан, а як прыцьвіражуся, дык і сьвіньні баюся.** Прыказка п'янаму рызыканту.

1706. **Я яму пакажу па чым хунт ліха!** Пагроза ў будучыні няпрыемнасьцямі.

1707. **Я яму йізыка ні завяжу.** Няма магчымасьці забараніць яму гаварыць няпраўду.

1708. **Я яму пазьбіваю рогі.** Пагроза супыніць ліхадзейства.

1709. **Я яму ўтну рогі.** Пагроза абясшкодзіць нечыя благія намеры.

## ПРЫВІТАНЬНІ Й АДКАЗЫ НА ПРЫВІТАНЬНІ

1710. **Добры дзень** ці **Дабрыдзінь** кажуць пры спатканьні ці прышоўшы ў хату. Адказваюць на гэта: **Добры дзень** або **Дабрыдзінь.** Старыя часамі адказвалі **Наздароўя.**

1711. **Пахвалёны Езус**, адказ **На векі,** было пашыранае па каталіцкіх вёсках пры канцы XIX стагодзьдзя, уводжанае ці не каталіцкімі манахамі.

1712. **Нех бэндзя похвалёны Езус Хрыстус,** адказ **На векі векав, Аман,** сталі заводзіць у беларускіх каталіцкіх вёсках польскія ксяндзы. Але на працягу першых двух дзесяткоў гадоў XX стагодзьдзя, як старое рэлігійнае прывітаньне, гэтак і новае польскае сталі выводзіцца.

1713. **Здраствуйце,** гэтае расейскае прывітаньне стала ўводзіцца пры канцы XIX й пачатку XX стагодзьдзяў расейскімі ўрадоўцамі й праваслаўнымі сьвятарамі. У беларускай вымове зь яго паўстала **Здрасьцьвя.** У беларускіх каталіцкіх вёсках яго надта ня любілі. Калі гэткае прывітаньне сказаў чужы, няведамы чалавек, дык яго абыходзілі маўчком. А калі сказаў яго нейкі свой тутэйшы непаважны чалавек, дык на ягонае **Здрасьцьвя** яму насьмешліва адказвалі: **«Алі толькі-ж ні ў хаця»** або **«Выйдзі за ўгол»,** быццам гэты чалавек сказаў, што ён хоча на сваю патрэбу.

1714. Калі хто часамі, прышоўшы ў хату, казаў прывітаньне **Дзень добры,** дык яму жартам адказвалі: **«У сенцах вёдры»**, быццам ён пытаўся **«Дзе вёдры?».**

1715. **Добры вечар,** адказ **Добры вечар,** казалі на прывітаньне ўвечары. Дзеці ці моладзь, на прывітаньне **Добры вечар,** адказвалі часам жартам **Дарыць нечым** або **Добра біў, добра енчыў.**

1716. Суседзі й блізкія знаёмыя віталіся між сабой найчасьцей словамі **Як маішся? Як маіцція?** Адказвалі: **Дзякуй.** Часам нейкі жартаўнік замі́ж **Дзякуй,** адказваў прыказкай — **Як робім, так і маім.**

1717. Пры раньнім прывітаньні гутарлівыя суседкі часта давалі й свае дадаткі: **Як маіцція? Ці жывы й здаровы? Ці дужы, ці дасужы? Ці добра спалі, ці лёгка ўсталі?** А да дзяцей: **Ці суха ўсталі?**

1718. **Як маіцція? Жонка ці звонка? Дзеткі ці гудуць, кашку ці ядуць?** — гэткія дадаткі бываюць да прывітаньня гаспадара. Калі жонка крычыць «звонка», дык нечым нездаволеная, ёсьць нейкія нястачы. Калі дзеткі весела гудуць, дык напэўна кашкі пад'елі.

1719. Калі чужы чалавек прыдзе ў хату, скажа прывітаньне й стаіць ля парогу, тады гаспадар ці гаспадыня, адказаўшы на прывітаньне, дадае: **Ідзі далі, сядзь у нас.** Калі гаспадары скажаць толькі **Ідзі далі**, але не папросяць сесьці, дык госьць гумарыстычна дадае: **Я й так далёка.**

1720. Калі госьць, увайшоўшы ў хату, застане сям'ю за ядой, ён кажа: **Сыць вам, Сыць Божа, Сыць у застольле,** або **Сыць.** Гаспадары адказваюць: **Дзякуй! Проша да нас на сьніданьня (на абед, на падполудзінь, на полудзінь, падвячорак, вячэру).** Госьць дзякуе.

1721. Часам госьць ці гаспадар жартам прыкіне: **Просім ядзім, а падойдзіш — ложкай у лоб дадзім.**

1722. Калі ў хату зойдзе дзеўка ў пачатку яды, дык гаспадыня жартуе: **Твая сьвякроў яшчэ дужа!** А калі пад канец яды, дык яна кажа: **Твая сьвякроў нядужа, хутка памрэ.** А калі дзяцюк зайдзе ўхату у часе яды, дык гаспадыня кажа: **Твая цешча яшчэ дужая!** (калі ў пачатку яды). Калі-ж пад канец яды — **Твая цешча ледзь дыхае, зараз памрэ.**

1723. Пры абедзе прыказваюць шмат жартаўлівых прыказак. Калі госьць, на запрашэньне гаспадара на абед, адмаўляецца, бо толькі ад свайго абеду, гаспадар тады прыказвае: **Кій на кій шкодзя, а абед на абед ні зашкодзя.** Калі госьць сядзе за стол і есьць, а потым, устаўшы з за стала, дзякуе прыказкай: **Дзякуй за абед, што наеўся дармаед,** дык гаспадар дадае: **Дзякуй за полудзінь, ні сыт, ні голадзін.**

1724. Калі застаюць гаспадара за работай на полі ці дома, дык прымаўляюць: **Памажы Божа!** Гаспадар адказвае — **Дзякую!**

1725. Калі застаюць гаспадара на таку, у сьвірне, ці варыўні, пры парадкаваньні снапоў, збожжа, ці гародніны, дык прымаўляюць: **Спарыня,** або **Спары Божа!** Гаспадар адказвае: Дзякуй!

1726. Калі гаспадар гарэлку налівае, дык кажа да гасьця: **Здароў будзь!** А госьць адказвае: **Пі на здароўя!**

1727. Калі гаспадар зьбірае апошню пашню з поля ці току дык прымаўляе: **Радзі Божа налета болі за гэта.**

1728. Калі гаспадар бярэцца рэзаць жывёлу, дык прымаўляе: **Пасі, Божа, асталцо!**

1729. Калі на полі спатыкаюць гаспадара, які сее збожжа, дык кажуць: **Радзі Божа!** Гаспадар адказвае: **Дзякуй!**

1730. Калі сусед да суседа прыходзе ў лазьню, а там ужо мыюцца, ён прыказвае: **Пáрá, пáра, лёгкі дух!** Гаспадар адказвае — **Дзякуй!** — запрашае: **Разьдзівайся там!**

1731. Калі застануць жанчыну, што снуе кросны, дык прымаўляюць: **Ляцела сарока цірaз ток, што застанецца ад асновы, тоя на ўток!** Адказ: **Дзякуй!**

1732. Калі застаюць жанчыну, што кросны затыкае, дык кажаць: **Красенцы-сушэнцы, зівайця, як мачыха на падчырыцу або як сьвякроў на нявестку.** Ткальля адказвае: **Дзякуй!**

1733. Калі жанчына бярэцца затыкаць кросны, дык прымаўляе: **Мае красенцы, мае сушэнцы, зівайця, як сьвякроў на нявестку або як мачыха на падчырыцу.**

1734. Калі ўвайшоўшы ў хату застануць ткальлю за краснамі, дык кажаць: **Сьпех, калі наткала зь мех!** Ткальля адказвае: **Дзякуй!**

1735. Калі застаюць жанчыну за мыцьцём бялізны ці праньнем палатна, дык прыказваюць: **Бяло!** Яна адказвае: **Дзякуй!** А часамі, жартуючы, дадае прыказку: **Бяло, ні бяло, абы ў вадзе было!** — або **Ня сьлепа бяло, што ў вадзе было!**

1736. Калі дзякуюць малым дзецям за нейкую паслугу, дык кажаць: **Вялік расьці!** — або: **Вяліка расьці!**

1737. Калі сусед да суседа прыходзіў пагаварыць ды адыходзе дамоў, дык дзякуе словамі: **Дзякуй за гамонку!** А гаспадар на гэта: **Дзякуй, што прыходзіў!**

1738. Пры разьвітаньні госьць кажа: **Аставайціся здаровы!** — або: **Бывайця здаровы!** А часам: **Бывайця здаровы, жывіця вясёлы!** Гаспадар-жа адказвае: **Бывайце!** — або: **Пайдзі здаровы!** — ці: **Шчасьліва!**

1739. Пры разьвітаньні ў позны час кажаць: **Дабранач!** Адказваюць: **Дабранач!**

1740. **Калі ласка!** — зварот ветлівасьці пры просьбе. — **Калі ласка, пазычце мне гэтую кнігу на два дні.**

1741. **Сам, Сама, Самі,** — звароты ветлівасьці: — **А сам-жа надоўга прыехаў да нас? Чаго сама хацела? Адкуль-жа самі будзіця?**

## КЛЁНКА Й ЛАЯНКА

1742. Абрыда ты!

1743. А йдзі ты, хоць ты ў вір галавой!

1744. А йдзі ты ў катнія рукі!

1745. Бадзяка ты!

1746. Брухмель ты! Брухмелька ты! У цябе-ж бруха на нос лезя! (на цяжарную жанчыну).

1747. Брыда ты! Ты-ж з кожным чалавекам абрыджаішся! Абрыда Ты!

1748. Чаго ты крычыш, як сьвіня ў плот ушчаміўшыся!

1749. Гад над гадам, і ў роця чорна!

1750. Гіцаль ты! Гіцлёўка ты! Гіцлюк ты!

1751. Я празь дзіця руку дам! Я праз каня руку дам! Я праз карову руку дам! (Гэта прысяга-заклён. Хто гэтак заклянецца, а скажа няпраўду, дык ягонае дзіця памрэ або скацьцё здохне).

1752. Каб цябе халерыя аблажыла!

1753. Каб цябе лучынкай зьмерылі, як ты маю зямельку мерыш! (Лучынкай сталяры нябожчыка мерацьь, каб ведаць, якую яму труну зрабіць).

1744. **Каб цябе калядны пярун забіў.** (Уважаецца за адну з найстрашнейшых клёнкаў. Відаць, паходзіць з дахрысьціянскіх часоў).

1755. Каб цябе кароста ела, як ты мае лажкі па'бйідаў (спасьціў)!

1756. Каб цябе паляруш аблажыў, як ты аблажыў маю зямельку вялікім падаткам!

1757. Каб цябе пярун забіў, як ты б'еш мой статак!

1758. Каб цябе першая куля ня мінула! Клёнка на жаўнера.

1759. Каб цябе чэрві растачылі, як ты падточваешся пад маю гаспадарку!

1760. Каб цябе разанка рэзала, як ты парэзаў мае межачкі!

1761. Каб цябе скульля ела, як ты мой хлебіц еў!

1762. Каб цябе сьляпога вадзілі, як ты мяне за нос водзіш!

1763. Каб цябе на вяроўцы вадзілі, як ты майго коніка павёў!

1764. Каб цябе трасца калаціла, як ты акалаціў мае ігрушкі!

1765. Каб цябе трут еў, як ты аб'ідаіш маё дабрыцо!

1766. Каб цябе ванцаж кінуў, як ты пакінуў мяне ў горы! (Ванцаж — конская хвароба, але гэтак клянуць і людзей).

1767. Каб цябе заўшаніца аблажыла!

1768. Каб цябе жывот зьняў, як ты пазьнімаў мой плот з праслаў!

1769. Каб над табой ґруньнё ґраґала, як ты ґраґаіш на маіх дзяцей! (Ґруньнё ґраґае над непахованым нябошчыкам, калі яны дзяўбуць ягонае цела).

1770. Каб на цябе вады нагрэлі, як ты грэўся на маіх дроўцах! (Ваду грэюць на памерлага).

1771. Каб табе адсохла рука па самы локаць!

1772. Каб табе Бог Высокі ўпомніўся! Хоць праз сто лет, алі ўпомніўся! (Гэта надта страшная клёнка. Паводля народнага павер'я, калі нехта яе шчыра скляне, дык зямля на сем сажон упадзе).

1773. Каб табе ногі скруціла ў вяроўку, як ты мне скруціў пяць рубельчыкаў.

1774. Каб табе праз бок вылізла тоя, што ты маё зьеў!

1775. Каб тваё мяса пранцы елі, як ты ясі сіроцкую працу!

1776. Каб тваю кроў гужы (вужы) смакталі, як ты з нас смокчыш сьлёзы й кроў!

1777. Каб ты ад сарочкі ўцікаў, як ты цяпер ад мяне ўцікаіш!

1778. Каб ты астатні раз крычэў, як ты крычыш на маіх дзетак!

1779. Каб ты біз паміці бегаў, як я тады ад цябе ўцякаў, бегаў!

1780. Каб ты бокам езьдзіў, як тады мяне выгнаў у хурманкі, ды я месіц халодны й галодны езьдзіў!

1781. Каб ты хадой хадзіў! (Хада — прылада, якой малых дзяцей вучаць хадзіць у кружку).

1782. Каб ты гэтак аглядаў сваіх дзяцей, як ты мяне там бачыў!

1783. Каб ты каміням сеў, як ты сядзеў тады ў мяне за сталом!

1784. Каб ты на вяроўца скакаў, як ты скачыш, чужой гарэлкі напіўшыся!

1785. Каб ты крыцай сеў, як ты ўбіўся ды сядзіш у маей хаце!

1786. Каб ты па гарэ хадзіў ды сонца ні бачыў!

1787. Каб ты сарочкі баяўся, як мне тады прыходзілася цябе баяцца!

1788. Каб ты гэтак з носам быў, як гэта праўда!

1789. Каб ты трасцу наспаў, як ты дзень-пры-дні сьпіш!

1790. Каб ты выстагнаў тоя, што паеў чужоя!

1791. Каб ты запаветрыўся! (Каб захварэў на заразную хваробу).

1792. Каб ты сабак зводзіў, як ты тады мяне зводзіў! (Паводля народнага павер'я ёсьць такая псыхічная хвароба, калі за хворым сабакі бягуць і яго слухаюць).

1793. Каб табе ў Калядоўку печ парылася! (калі гліна замярзае), а ў Патроўку жонка абрадзілася (калі рабочы час).

1794. Каб зь цябе гэтак сьпекі віселі, як з гэтых снапкоў пустыя каласкі вісяць!

1795. Калі піргну, дык ты аж нагамі накрыішся!

1796. Калі шматану, дык ты як жыкаўка акруцішся!

1797. Крутадух ты! Круцель ты!

1798. Куды ты гоніш, каб зь цябе вантробы выгнала!

1799. Лупач ты! Лупеха ты!

1800. Лупазвон! Чаго ты сядзіш, лупы разьвесіўшы, як кілбасы!

1801. Ніхай яго зьверня ад нас!

1802. Ніхай іх, гэткіх сваіх, на ражнох папякуць!

1803. Ніхай ён на сухі лес!

1804. Нідарэка ты!

1805. Пабадзяй ты!

1806. Поскудзь ты! Паскуднік ты! Паскудніца ты!

1807. Пранцаватая мяса тваё!

1808. Пустальга ты! Пустыня ты! Пустабяка ты!

1809. Рапуха ты! (Лаюць гэтак малую ды таўстую жанчыну).

1810. Шчанётка пулятая! (Гэтак клянуць сабакаватых дзяцей).

1811. Што ты круцісься, як вужака!

1812. Што ты брэшыш, як сабака!

1813. Што ты ляпу расхляпіў, хоць ты калясьмі ўйіжджай!

1814. Трасца тваім бакам! Трасца ў бок! — Ты ляжыш, трасца бок, а коні ў ваўсе!

1815. Валацуга ты!

1816. Ведзьма кіяўская ты!

1817. Жаба ты карэлая! (Гэтак лаюць распусных дзяцей).

1818. Жаба ралейная! (Гэтак лаюць малую ці таўстую, жанчыну).

1819. Жаба зялёная! (Лаюць гэтак малых нецямкіх дзяцей).

1820. Жаніся, каб па табе вошы жаніліся!

## ЗАГАДКІ

1821. Адно кажа: — Зіма. Другоя кажа: — Лета. Трэйцяя кажа: — А мне ўсёроўна! (Сані, калёсы, конь).

1822. Адрэжу галаву, выню сэрца, дам піць, — пачне гаварыць. (Гусінае пяро да пісаньня).

1823. Адзін кажа: — Пабягу. Другі кажа: — Паляжу. Трэйці кажа: — Паківаюся! (Вада ў раце, камень у рацэ, дубец у рацэ).

1824. А як тоя завецца, што на верся кладзецца? (Кілбаса на падарунку калядоўшчыкам).

1825. Аснова саснова, а ўток саламяны? (Саламяная страха з латамі).

1826. А што бяжыць бяз поваду? А што гарыць бяз полымя? А што плача бязь сьлёз? (Вада, золата, іскрыпка).

1827. Бягуць чатыры браты й адзін аднаго ні даганяюць? (Колы ў калёсах).

1828. Бягуць у лясок, задраўшы насок? (Сані).

1829. Бяз рук, бяз ног, а хату вартуя? (Замок).

1830. Бяз рук, бяз ног, а працуя? (Вецер).

1831. Бізь языка, а мудра гавора? (Кніга).

1832. Біз вакон, бізь дзьвярэй, поўна хата людзей? (Гарбуз).

1833. Цалаваны, мілаваны, пад лаву схаваны? (Сплецены лапаць).

1834. Ходзя пан па страсе, стаіць на аднэй назе, жабы скачуць, уцікаюць, калі яго спаткаюць? (Бацян).

1835. Цягніцца нітка, а на клубок ні зматаць? (Дарога).

1836. Цірaз мора катоў хвост? (Почапка на вядры).

1837. Чаго праз хату ні піракініш? (Пірыны).

1838. Чорны сабака ня брэша й ні кусая, а хату пілнуя? (Замок).

1839. Чырвоны цьвік да зямлі прынік? (Бурак).

1840. Чырвоны дзедзя па жэрдцы едзя? (Агонь па лучынцы).

1841. Чырвоны колір, вінны смак, каменнае сэрца, што гэта так? (Вішня).

1842. Для мілага гасьця сьпяку пячэньня біз касьця? (Матка кормя грудзямі дзіця).

1843. Два валы да Бога раўлі? (Званы званілі).

1844. Дзьве жэрдачкі белых курэй (Зубы ў роце).

1845. Як ляжыць — ніжэй за ката, як устаня — вышэй за сабаку? (Дуга).

1846. Як ідзе ў лес, дык дамоў глядзіць, а як ідзе дамоў, дык у лес глядзіць? (Сякера на плячах у чалавека).

1847. Ехала сушка ў сямі кажушках, — хто забача, той заплача? (Цыбуля).

1848. Еду, еду, — ні дарогі, ні сьледу, шастом паганяю, на сьмерць паглідаю? (Плытнік плыве на плыце).

1849. Едзя пані ў белым жупані, пірад ей паненькі паськідалі сукенькі? (Пані — зіма, паненькі — дрэвы, сукенькі — лісьце на дрэве).

1850. Едзя пані ў чырвоным жупані, хто забача, дык заплача? (Цыбуля).

1851. Ішло хлопцаў дваццаць пяць, посьля зімы сьляды знаць? (Барана з зуб'ем).

1852. Качка ў моры, хвост у гору? (Мора — студнк, качка — вядро, хвост — почапка).

1853. Каля ямы ўсе зь кіямі? (Каля міскі з лыжкамі).

1854. Клоніцца, клоніцца, а прыдзя дамоў — пад лавай расьцягніцца? (Сякера).

1855. Коніцца кадушачка — ні зьвер, ні птушачка? (Яйцо).

1856. Колькі на небе зорачак, толькі ў зямлі дзірачак? (Аржоньне).

1857. Конік сталёвы, хвасток ляновы? (Іголка зь ніткай).

1858. Круць, верць, — у чарапку сьмерць? (Стрэльба).

1859. Крута-віта, хто адгадая — бочку жыта? (клубок).

1860. Крыж-на-крыж, а толькі ніхто ня ведае колькі (крыжоў)? (Клубок).

1861. Ляціць як пава, кладзецца як пані, топчуць як сабаку? (Сьнег).

1862. Ляціць бяз крыл у гадзіну сто міль? (Вецер).

1863. Ляціць птах цераз Божы дах і жаліцца: — Чаму мая праца гарыць? (Птах — пчала, Божы дах — бажніца, праца гарыць — сьвечы васковыя гараць).

1864. Ляціць — выя, сядзя — рыя? (Жук).

1865. Ляцеў кулітар, сеў на растапытар, пытаіцца ў кохаўкі: — Дзе твае пырхаўкі? (Кулітар — ястраб, растапытар — азяроды, кохаўка — курыца-пiськлятніца, пырхаўкі — піськляты).

1866. Ляжыць калода цiраз балота, ні гніе й ня сохня? (Язык у роця).

1867. Ляжыць — німа знаку, а як устаня — з сабаку? (Дуга).

1868. Ляжыць Рася расьцігняся, а як устаня, дык і неба дастаня? (Дарога).

1869. Ляжыць Рыгор сярод гор, капялюшом накрыўшыся? (Гарбуз).

1870. Лата на латцы, а зроду іголка ня была? (Качан капусты).

1871. Маленькая, кругленькая, да неба дакініш? (Вока).

1872. Маленькі, гарбаціпькі, хату вартуя? (Замок).

1873. Маленькі, крывенькі, усё поля абігая? (Серп).

1874. Маленькі, удалінькі, скрозь землю прайшоў, чырвоную шапачку знайшоў? (Падасінавік грыб).

1875. Малы-малышак, зваліўся з вышак? (Жолуд з дубу).

1876. Матка таўстуха, дачка цятуха, сын пірабор паляцеў на двор? (Матка — печ, дачка — комін, сын — дым).

1877. На падсьцеліны абрусік насыплю гароху й палажу акрайчык хлеба? (Абрусік — неба, гарох — зоркі, акрайчык хлеба — месяц-маладзік).

1878. На той сьвет ідзе — скача, а з таго сьвету ідзе — плача? (Вядро ідзе ў студню — скача, вядро ідзе із студні — плача).

1879. Навокал носу ўецца, ды ў рукі ні даецца? (Пах).

1880. На вадзе родзіцца, на вадзе вырасьця, а ў ваду пойдзя — узноў прападзе? (Соль).

1881. Ня сьпісана, ня зьлічана, колькі на дзяжы абручоў? (Клубок).

1882. Ні разьбіўшы гаршэчка, ні зьясі кашкі? (Гарэх).

1883. Ні рук, ні ног ні мая, а толькі адно бруха ды два вухі? (Цэбар).

1884. Ой, за лесам, лесам, ганчарова сучка брэша? (У церліцы труць мак).

1885. Пад адным парасонам чатыры браты? (Стол і чатыры ножкі).

1886. Пад прыпічкам грубяжы, хто ведая — ні кажы? (Пацеркі пад барадой).

1887. Па дзірачках, па дзірачках, дайця пана саламяна? (Снапы падаюць на азяроды).

1888. Паміж дубінкі, паміж ляшчынкі, вісіць кончык скурашынкі? (Цэп: ляшынка — цапілно, дубінка — бічоўка, скурашынка — раменная прывязка).

1889. Паненка тонка, грыміць звонка? (Стрэльба).

1890. Пані ў каморы, а косы на дворы? (Морква).

1891. Па саломя ходзя й ні шастая? (Сьцень).

1892. Пасярод хаты вісіць чорт лупаты? (Сьветач).

1893. Поўна бочачка віна — нігдзе ключыкаў німа? (Яечка).

1894. Поўна бочачка круп, а на версе струп? (Макаўка).

1895. Поўна хата курэй — ні вакон, ні дзьвярэй? (Гарбуз).

1896. Поўны падпечык белых авечак? (Зубы ў роце).

1897. Празь сьцяну вала пякуць? (Яйцо вараць).

1898. Пры боку каліта поўна золата наліта? (Пры печы копка з жарам).

1899. Разумны гаршчэчык, а ў ім сем дзірачак? (Галава).

1990. Сядзіць баба на ўзгорачку ў чырвоным каптурочку, хто ідзе, дык і паклоніцца? (Ягада суніца).

1901. Сярод лесу дзіжа кісьня? (Сьпелы яблык на яблыне).

1902. Семсот сарочак, семсот намётак, а як вецер павея, дык і цела відаць? (Пер'е на курыцы).

1903. Сем дзён маладзён? (Маладзік на небе).

1904. Сем варот у вадзін гарод? (Сем дзірак у галаве: два вухі, два вокі, дзьве храпіны ў носе й рот).

1905. Стаіць бычок, абсмаліны бачок? (Засланка ў печы).

1906. Стаіць дзед нізак, а на ім сто рызак? (Качан капусты).

1907. Стаіць Рыгор між гор палкаю падпёршыся, шапкаю накрыўшыся? (Грыб).

1908. Стары дзедзя, на дрэвя едзя, шастом паганяя, на сьмерць паглядая? (Плытнік едзе на плыце).

1909. Стукая-грукая, а нігдзе ні знайдзіш? (Гром).

1910. Сьпераду грэя, а з заду вецір вея? (Горан і мех у кузьні).

1911. Шах, мах, пад прыпічкам бах? (Венік).

1912. Што ў лазе на курынай назе? (Грыб).

1913. Тапор у карчму папёр, а сякера дома сядзела? (Тапор — гаспадар, сякера — гаспадыня).

1914. У доля блішчыць, а ў гарэ вісіць? (Блішчыць вада ў студні, вісіць крук над студняй).

1915. У лесе радзілася, а на вясельлі згадзілася? (Іскрыпка).

1916. У лесе сьцята, а ў камору ўзята, а возьміш у рукі, дык загавора? (Іскрыпка).

1917. У ліповым кусьце мяцеліца мяце? (У рэшаце сеюць муку).

1918. У маленькім гаршчэчку кашка смачненькая? (Зерне ў гарэху).

1919. У ваднэй ямя сто ям? (Напарстак).

1920. У ваднэй мацíры пяць сыноў? (Пяць пальцаў на руцэ).

1921. Вісіць сіта з злота літа, а хто гляня, дык заплача? (Сонца).

1922. Вісіць віха, а хода ходзя. Віха зваліцца, а хода зьесьць? (Віха — яблык, хода — дзіця).

1923. Воўны клачок, дрэва сучок, саломы пучок, рэміню шмацінка, — вось і цэлая снасьцінка? (Хамут).

1924. За белым бярэзьнічкам брэша талалайчык? (Язык у роце за зубамі).

1925. Зароў вол на сто сёл, на сто сьвечак, на сто печак? (Гром).

1926. Зімой і летам адным цьветам? (Елка).

1927. Жывуць два браты праз дарогу й адзін аднаго ня відзюць? (Два вокі).

1928. Жывы жывоя есьць і ў вочы глядзіць? (Мацi кормя грудзьмі дзіця).



## ПАМЫЛКІ ДРУКУ Ў КНІЗЕ 2-ОЙ «ЗАПІСАЎ»

На бачыне 140, прыказка № 80, апошні радок выгчыркнуць. Заместа яго трэба: -русаў: «Чакай, чакай, пойдзеш пад чырвоную шапачку».

На бач. 143, у прыказцы № 131, прапушчана слова «хрушч». Прыказку трэба чытаць: Благі грыб хрушч, а біз яго пушч.

На бач. 155, у другім радку прыказкі 340, заместа слова «ворцы» трэба чытаць «воранцы».

На бач. 169, у першым радку прыказкі № 586, слова «зьбіраў» трэба замяніць словам «абіраў».

# КНІГАПІС

**Голенищев-Кутузов И. Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). Академия Наук СССР. Отделение литератури и языка. Советский Комитет Славистов. Москва, 1963, б. 94.**

Гэта рэфэрат, чытаны ў верасьні 1963 году на міжнародным зьезьдзе славістых у Софіі. У працы разгледжаныя праявы гуманізму на землях Беларусі й Украіны ў XV-XVII стагодзьдзях ды кранутая справа тагачасных культурных дачыненьняў гэтых краёў з Маскоўшчынай. Самое пытаньне гуманізму на прасторах славянскае Эўропы для аўтара ня чужое, бо ў гэтым самым годзе паказалася друкам і ягоная большая праца аб італьянскім Адраджэньні ў славянскіх літаратурах, у якой агляд уплываў рэнэсансу на літаратуру паўдзённых і заходніх славянаў.[1] Папярэдняе дакладнейшае вывучэньне пытаньняў рэнэсансу ў літаратурах славянаў, а асабліва польскай і чэскай, аўтару яўна вышла на карысьць пры пісаньні новае працы. Ды ўсё-ж, калі ідзе пра культурныя працэсы разгляданае пары ў Беларусі, выказаныя ў працы пагляды даволі хаотычна, супярэчліва і яўна абапертыя не на самастойным вывучэньні крыніцаў, а, галоўна, на існуючай, пры тым даволі сьціплай, навуковай літаратуры.

Найперш важна падчыркнуць сьмелы, як на падсавецкія ўмовы, і па сваім характары даволі «гуманістычны» аўтараў падыход да тэмы, падыход пераважна вольны ад абавязваючага ў СССР навуковых працаўнікаў «марксыцкага» й вялікадзяржаўнага дагматызму. Склалася, відавочна, на гэта колькі прычынаў. Найперш, сам аўтар, як навуковы дасьледнік, рос і фармаваўся ў акадэмічнай лібэральнай атмасфэры вонках Савецкае імпэрыі. У СССР пераехаў ён толькі пасьля апошняе сусьветнае вайны. Далей — рэфэрат рыхтаваны на міжнародны зьезд, а перад прадстаўнікамі навукі народаў непадсавецкіх заўсёды выгадна дэманстраваць шырэйшы, «дэмакратычны» пагляд на гістарычныя працэсы народаў Усходняе Эўропы, а менш зручна зводзіць іх у залежнасьць ад гісторыі аднаго расейскага народу — схэмы, якая, як правіла, абавязвае цяпер у гістарычных публікацыях СССР. Бадай галоўнае тут, аднак-жа, «гуманістычнае» настаўленьне самога аўтара ды шырэйшыя, эўрапейскія, а ня вузка савецкія гарызонты, што, разам узятае, ня лёгка ўціскаецца й тоўпіцца ў афіцыйную схэму сучаснае расейскае падсавецкае гістарыяграфіі. Пацьвярджае гэта хоць-бы й гэткае характэрнае крытычнае асуджэньне аўтара падсавецкага ўзьвялічваньня Івана Грознага й ягонага крывавага панаваньня: «Даводзіцца дзівіцца, што выслаўляньне кала й эшафоту, як асноваў дзяржаўнага кіравецтва й „янычарскае дэмакрацыі", некаторыя нашыя літаратураведы аб-

---

[1] Голенищев-Кутузов И. Итальянское Возрождение и славянские литературы. Москва 1963.

весьцілі „прагрэсыўным" і навет „вольнадумным" (б. 26).

Свой спосаб падыходу да тэмы аўтар выказвае ў уводным разьдзеле працы. Найперш ён станоўка асуджае й адхіляе аднабокі падыход тых польскіх і расейскіх аўтараў, якія мала цікавіліся паглядамі й выказваньнямі пісьменьнікаў Беларусі пары Адраджэньня, а больш іхным веравызнаньнем, і ў залежнасьці ад яго ставіліся да іх прыхільна або варожа. Паводля аўтара, у XVI-XVII стагодзьдзях пісьменьнікі «належылі да ня менш, як трох рэлігіяў і ўсё-ж заставаліся Украінцамі й Беларусамі» (б. 4).

«Не саступаюць у шавінізьме» — адцемлівае аўтар — «прадстаўніком польскіх нацыяналістычных пагля-даў і некаторыя расейскія дасьледнікі XIX стагодзьдзя, якія, стаўшы ў вабарону «православия, самодержавия и народности» ў гісторыі Заходняе Русі (Беларусі й Украіны, С. Б.) XV-XVII стагодзьдзяў, бачылі толькі нясупынны ўціск Палякоў украінскага й беларускага жыхарства ды інтрыгі езуітаў. Гвалты пары караля Жыгімонта III яны прыпісвалі ўсім польскім валадаром бяз вынятку, забываючыся аб шырокай таляранцыі... у гады панаваньня апошніх Ягайлавічаў. Прамоўчвалі яны таксама тое, што ў сярэдзіне XVI стагодзьдзя не каталікі, а пратэстанты-земляўласьнікі (як польскія, так і літоўска-рускія) закрывалі праваслаўныя сьвятыні ў сваіх валаданьнях, і, што асновы праваслаўнае царквы ў Ліцьве захісталі найперш праваслаўныя паны, якія адракліся веры прашчураў, а таксама вышэйшае праваслаўнае духавенства, што пагразла ў распусьце й хцівасьці» (б. 4-5).

Аўтар далей абяцае, што ў сваім рэфэраце ён ня будзе «дзяліць украінскіх і беларускіх пісьменьнікаў на „чыстых" і «нячыстых" у залежнасьці ад іх веравызнаньня, тымбольш, што ў тую пару рэлігійнага замяшаньня й хістаньняў адна й тая самая асоба часта па два-тры разы мяняла веравызнаньне (як, прыкладам, Міхал Глінскі, Мялеці Сматрыцкі, Ігнат Пацей») (б. 6).

Праявы гуманізму ў Беларусі разгледжаныя найперш у разьдзеле «Гуманізм у Ліцьве». Адзначаная там шырокая нясупынная культурная лучнасьць Вільні й Вялікага Княства Літоўскага зь землямі Італіі ў пару Адраджэньня праз моладзь — дзяцей магнатаў, заможнае шляхты й меставога патрыцыяту — што студыявала на ўнівэрсытэтах Італіі. За панаваньня Жыгімонта Казімеравіча й ягонага сына Жыгімонта Аўгуста сувязі Вільні й Вялікага Княства зь Італіяй і яе рэнэсансавай культурай сталі асабліва жывымі й беспасярэднімі праз шматлікую італіянскую сьвіту каралевы Боны, якая любіла Вільню й даўжэйшы час у ёй прабывала. Вільня была тады поўная італьянскіх, розных зацікаўленьняў і прафэсіяў, гуманістых. Тады-ж, у трыццатых гадох XVI стагодзьдзя, паяўляюцца й першыя рэнэсансавыя пабудовы ў Вільні, найперш віленскі ніжні замак. Сярод прыбочных каралевы Боны ў Вільні знаходзіўся й паэта Джованьні Андрэо Валентыно, надворны лекар каралевы. Захоплены ягонымі, пісанымі палацінску, вершамі й элегіямі італьянскі гуманісты Калёна пісаў, што ён чуе песьні «італіянскіх музаў на палёх Вільні».

З выдатнейшых прадстаўнікоў гуманізму самое Літвы-Беларусі дадзенае пары аўтар адзначае найперш «рэнэсанснага кандат'ера», ведамага князя Міхала Глінскага, далей — Міхалёна Ліцьвіна (Міхала Тышкевіча), аўтара трактату «Аб звычаях Татараў, Ліцьвіноў і Маскоўцаў, а таксама Івана Перасьветава, іншага, падобнага да Глінскага, рэнэсансавага «напалову рыцара, напалову разбойніка», ды пералічае, як гуманістых, шмат дзеячоў пары рэфармацыі й рэлігійнае вуніі ў Беларусі канца XVI — пачатку XVII стагодзьдзяў. Аўтар, затое, не прыдзяліў чамусьці ніякое ўвагі дзяржаўнаму мужу, выдатнаму коэдыфікатару правоў Літвы, выдаўцу й галоўнаму рэдактару «Літоўска-

га Статуту» 1588 году, — канцлеру Льву Сапегу.

За найбольш яскравую фігуру «раньняга гуманізму» ў Беларусі аўтар, зразумела, уважае доктара Францішка Скарыну. Як відаць з працы, знаёмы, аднак-жа, ён з жыцьцём доктара Скарыны й ягонымі паглядамі даволі пабежна й не на падставе беспасярэдняга вывучэньня пісьменнае Скарынавае спадчыны, а толькі паводля выказваньняў іншых аўтараў. Час сьмерці доктара Скарыны аўтару ўсё яшчэ няведамы — «між 1542 і 1552 гг.» — хоць год гэтае сьмерці, 1540-вы, апошнім часам устаноўлены. Недакладная заўвага й аб мове Скарынавай Бібліі, як мове, у якой «мала палянізмаў, яшчэ менш чэхізмаў» (б. 21). У запраўднасьці-ж ёсьць наадварот: мала чэхізмаў, яшчэ менш палянізмаў. Аўтару вельмі простым і ясным здаецца й пытаньне веравызнаньня доктара Скарыны, хоць у скарынаведнай літаратуры яно, наадварот, вельмі складанае й дагэтуль канчаткова ня высьвенае. Сам аўтар уважае доктара Скарыну за каталіка, хоць існуюць паважныя довады на тое, што па выхаваньні й сваіх пераканаьнях быў ён якраз праваслаўным. Ды найбольшыя засьцярогі выклікае аўтарава тэза аб тым, што «Скарына зьяўляецца хутчэй „дагуманістым», як чалавекам Адраджэньня», ды лучэньне яго ў адну групу з такімі маскоўскімі «прадгуманістамі», як князь Андрэй Курбскі (б. 22).

Ужо па сваёй мэнтальнасьці й характары доктар Скарына быў якраз тыповым культурным дзеячом пары Адраджэньня. Да тыпова рэнэсансавых рысаў належыць найперш шматкірунковасьць ягоных здольнасьцяў і зацікаўленьняў. Сваімі студыямі й жыцьцёваю дзейнасьцяй доктар Скарына ахапіў тэалёгію, літаратуру, лексыкаграфію, мастацтва, права, астраномію, мэдыцыну, батаніку, друкарства. Дык гэта тыповы homo universalis пары рэнэсансу. Тыповая для рэнэсансавых дзеячоў і Скарынавая нязвычайная рухавасьць зь нясупыннымі пераездамі й падарожжамі, дзеля чаго й дадзеная была яму гісторыкам М. Грушэўскім мянюшка «вандроўнага гуманісты». Рэнэсансавая рыса й ягоны індывідуалізм ды самагордасьць як аўтара-выдаўца, якою азначаюцца прадмовы й пасьлясловы да ягоных кнігаў, ды якая выяўляецца й у факце аздабленьня кнігаў выдадзенай ім Бібліі аж колькімі партрэтамі свае асобы.

Вельмі важная й наскрозь рэнэсансавая рыса Скарынавага сьветагляду, гэта ягоная рэлігійная талярантнасьць. У пісьменнай спадчыне доктара Скарыны ня знойдзем ані рэлігійнага фанатызму, ані нейкае канфэсыйнае абмежанасьці, тыповых дзеячом схалястычнага сярэднявечча ды пазьнейшае рэфармацыі. У ягоных выказваньнях няма й сьледу ваяўнічае варожасьці да хоць якое веравызнавальнае формы хрысьціянства. Гэтая прыкмета асабліва яскрава характарызуе доктара Скарыну, як гуманіста.

Аўтарава памылковая клясыфікацыя Скарыны, доктара італьянскага ўнівэрсытэту рэнэсансавае пары, у нейкія ўсяго «дагуманістыя», ці, як гэта блізу сорак год перад гэтым чыніў М. Піотуховіч,[2] залічаньне яго навет да дзеячоў сярэднявечча, паўсталі дзеля звычайнага непаразуменьня, найперш на той падставе, што за галоўнае заданьне свае выдавецкае дзейнасьці доктар Скарына ставіў пераклад, «выклад», і друк Бібліі. Ды Біблію, кнігі Новага Запавету, перакладаў, паясьняў і выдаваў і адзін з выдатнейшых гуманістых Скарынавае пары — Эразм Ротэрдамскі, і ніхто дзеля гэтага не адмаўляе яму ягонага гуманістычнага сьветагляду. Помніць трэба, што галоўныя заданьні, якія свайму выданьню ставіў доктар Скарына, былі не царкоўна-дагматычныя, а сьвецкія, якраз гуманістычныя — пашырэньне ў народзе асьветы, веды й асноваў хрысьціянскае маралі. З прадмоваў відаць,

[2] Піотуховіч Міхал. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасьць. У зборніку: «400-лецьце беларускага друку». Менск 1926, б. 156.

што Скарына ўсьведамляў сабе добра, што Біблія мае вялікую вагу ня толькі як кніга царкоўна-рэлігійнага ўжытку, але й як багатая анталёгія старавечнае пісьменнасьці. Гэта было прычынаю таго, што Біблія мела вялізны ўплыў на мовы, літаратуры й культуры ўсіх хрысьціянскіх народаў сьвету, не гаворачы аб народзе жыдоўскім.

Важна, аднак-жа, ня выпускаць зь віду й таго, што сьветагляд і жыцьцёвая дзейнасьць доктара Скарыны ня былі тыпу рэнэсансу італьянскага, рэнэсансу сьвецка-паганскага, а рэнэсансу паўночна-эўрапейскага. Ягоны гуманізм — гуманізм Эразмавага хрысьціянскага складу. Гэта не перашкаджае таму, што ў Скарынавай выдавецкай спадчыне сустрэнем і некаторыя элемэнты рэнэсансу італьянскага, як, для прыкладу, аздабленьне кнігаў Бібліі заставіцамі й ініцыяламі з выбражэньнем мітычных постацяў антычнага культурнага сьвету — сатыраў, наядаў, сырэнаў, амураў. Дык на тое, што доктар Скарына быў па сваёй мэнтальнасьці й сьветаглядзе бясспрэчным гуманістым, довадаў існуе больш чым дастаткова.

Няма ніякіх асноваў і для гэтага, каб лучыць у вадно з доктарам Скарынам і гуманізмам у Беларусі маскоўскіх імігрантаў, Івана Хведаровіча (Фёдарава), князя Андрэя Курбскага, ці старца Арцемія, ды дашуквацца нейкага гуманізму ў Маскоўшчыне пары Івана Грознага наагул. Беларускія землі XV-XVI стагодзьдзяў знаходзіліся ў цывілізацыйным крузе Заходняе Эўропы й зь ёю перажывалі ўсе культурна-духовыя перамены й працэсы — гуманізм, рэнэсанс, рэфармацыю. На беларускіх землях шырака ўспрыймаліся й тагачасныя мастацкія стылі Захаду — рэнэсанс, барок. Маскоўшчына-ж аж да пары цара Пётры I, да пачатку XVIII стагодзьдзя, жыла вонках усіх гэтых духовых працэсаў, ізаляваная ад іх ды замкнутая ў сваім собскім культурна-духовым сьвеце. Паасобныя культурныя праявы Захаду калі й даходзілі да яе, дык прыпадкова й спарадычна. Дзеля гэтага й спроба зьліваньня ў вадну гістарычную плынь культурных працэсаў Беларусі XVI-XVII стагодзьдзяў з такімі-ж Маскоўшчыны-Расеі, гэта штучнае падтасоўваньне фактаў рознае гістарычнае рэчаіснасьці. У гэтым яўны адбітак сучаснае афіцыйнае расейскае падсавецкае тэндэнцыі рэтроспэктыўна канструаваць культурнае «адзінства» народаў Усходняе Эўропы з Расеяй у мінулым. Гэта ляжыць у васнове й намаганьняў сучасных падсавецкіх аўтараў дашукацца за ўсякую цану ў Маскоўшчыне XVI-XVII стагодзьдзяў эўрапейскага тыпу гуманізму, рэнэсансу, рэфармацыі, — намаганьняў, якія даводзяць да гэткіх яўных недарэчнасьцяў, як выкрываньне «гуманістых» сярод блізкіх памоцнікаў і дараднікаў крывавага Івана Грознага.

Няма ніякіх падставаў і для даводжаньня нейкіх «прагрэсыўных» ці «гуманістычных» уплываў на культурныя працэсы Беларусі вышэй названых маскоўскіх уцекачоў. Уплыў яны свой, бясспрэчна, мелі, але якраз ня ў кірунку ўмацоўваньня ідэяў гуманізму й талеранцыі на землях Беларусі й Украіны. Для прыкладу, важную, распачатую Скарынам, а працягваную Сымонам Будным ды Васілём Цяпінскім, справу заводжаньня беларускае мовы ў кнігах рэлігійнага зьместу на месца царкоўнаславянскае, маскоўскія ўцекачы намагаліся спыняць, навярачваючы назад да царкоўнаславяншчыны. Як сьветчыць гэтман Рыгор Хадкевіч у прадмове да заблудаўскага «Эвангельля учительнага» 1569 году, друкаваць кнігі беларускаю народнаю «простаю» моваю, як ён хацеў, адрадзілі яму «людзі мудрыя», і, відавочна, найперш сам Іван Хведаровіч. Такое-ж замацоўваньне ў пісьменнасьці царкоўнаславяншчыны, не бяз судзейнасьці гэтым разам і князя Курбскага, ішло й праз астроскія выданьні Івана Хведаравіча ды пасланьні старца Арцемія. Дык беларускі гуманізм ніякага падтрыманьня з Маскоўшчыны ня меў і мець ня мог. Затое ў Маскоўшчыну пісьменнасьць Захаду тае пары пранікала найперш зь Беларусі,

і правілна аўтар падчырквае, што беларускі гуманізм быў важным «трансфарматарам заходняе літаратуры» ў Маскоўшчыну (б. 74). Ды факт гэты заўважыў аўтар далёка ня перш. Аб шырокіх літаратурна-культурных уплывах Беларусі на Маскоўшчыну XVI-XVII стагодзьдзяў ужо блізу сто год таму пісаў ведамы славісты Пётра Бязсонаў.[3]

Немагчыма згадзіцца й з аўтаравым масавым улучаньнем да кола гуманістых Беларусі й Украіны дзеячоў пары рэфармацыі. Калі ў паасобных пісьменьнікаў-палемістых тае пары й даецца сьцьвердзіць тыя ці іншыя рысы свомыя гуманістым, дык усё-ж дзеячы рэфармацыі й контррэфармацыі, вуніі й супроцьвуніі, дзеячы із свомым сваёй пары рэлігійным фанатызмам ды сэктанскай абмежанасьцяй, далёкія ад шырокіх, талеранцыйных гуманістычных кругазораў.

Дык шмат аўтаравых паглядаў на характар культурных працэсаў Беларусі XV-XVII стагодзьдзяў яўна ня ўтрымаецца пры супастаўленьні іх з фактамі гісторыі. Не зважаючы на гэта, сама праца ўсё-ж цікавая вялікім абсягам закранутага ў ёй гістарычнага матар'ялу й фактаў, ды напісаная жыва, з талентам. Трэба спадзявацца, што ў ходзе далейшага вывучэньня пастаўленага сабе да разгляду пытаньня — гуманізму ў Беларусі й Украіне — само сабой адпадуць і важнейшыя хібы гэтае першае спробы.

**С. Брага**

## Немировский Е. Возникновение книгопечатания в Москве. Иван Федоров. Москва, 1964, б. 404.

Кніга — плод дзесяцігодніх досьледаў аўтара. Гэта даволі грунтоўная з гледзішча навуковага абаснаваньня праца, абапертая на вывучэньні вялікага ліку рукапісных і друкаваных кнігаў ды перагляду вялізнай літаратуры. Праца ілюстраваная шматлікімі рэпрадукцыямі кнігаў і іхных графічных аздабленьняў. Галоўная ўвага накіраваная на абаснаваньне правільнасьці пастаўленае яшчэ ў 1874 годзе А. Е. Віктаравам гіпатэзы аб тым, што не «Апосталам» 1564 году Івана Хведаровіча (Федорова) й Пётры Мсьціслаўца пачалося маскоўскае друкарства, а што ўжо колькі год перад гэтым у Маскве была дзейная друкарня, зь якое, праўдападобна, вышла 7 ведамых сяньня літургічных кнігаў, кнігаў «бязвыхадных», паколькі на іх не пададзены час, месца выданьня, ані іх выдаўцы.

Шмат пільнае ўвагі прыклаў аўтар пры вывучэньні «ананімных» выданьняў з гледзішча іх друкарскае тэхнікі й графічнага афармленьня ды супаставіў іх зь вялікім лікам тагачасных лацінічных і кірылічных друкаў, і, асабліва, беларускіх стэрадрукаў Фіёля, Скарыны, Буднага, Цяпінскага. Шмат з аўтаравых дагадак і выснаваў у далейшым дасьледным вывучэньні пытаньня напэўна ня ўтрымаецца, ці, найменш, будзе выпраўлена ды удакладнена. Ды, судзячы з прыведзенага ў працы дадовага матар'ялу, само існаваньне друку ў Маскве год колькі перад выхадам «Апостала» 1564 году стае быццам ужо й даведзеным фактам. Не ўстаноўленым застаецца, аднак-жа, і далей дакладны час паўстаньня гэтае друкарні. Найраней магло гэта стацца ў 1553 годзе, але, праўдападобна, першая друкаваная ў ёй кніга выйшла год ці колькі, пазьней.

---

[3] Безсонов Петр. Белорусския песни. Москва 1871.

Побач галоўнага заданьня працы — абаснаваць канчаткова факт існаваньня друкарні ў Маскве год дзесяць перад годам 1564-м — аўтар у ёй сіліцца давесьці, што навуку друку ў Маскоўшчыну ніхто ня прынёс звонку, а што яна разьвілася там самабытна з тэхнічных і графічных традыцыяў маскоўскае рукапіснае кнігі. На гэтую «самастойнасьць» Масквы ў друкарскай галіне пакладзены ў кнізе асаблівы націск. Ставіцца гэта блізу за справу нацыянальнага гонару й амбіцыі, што майстэрства друку маскоўцаў ніхто ня «вучыў», што дайшлі да яго яны самі. З другога боку аўтар прызнае, што друкары ананімнае друкарні, як пазьней і Хведаровіч ды Мсціславец, добра зналі й друкі Фіёля, Скарыны, друкароў паўдзённаславянскіх ды некаторыя заходняэўрапейскія лацінічныя друкі. Уважае ён, аднак-жа, што іхныя ўплывы былі мала важныя й невырашальныя. Аўтар пярэчыць і выказаным некаторымі дасьледнікамі дагадкам аб тым, што навуку друку ў Маскву прынёс Беларус Пётра Мсьціславец, які, быццам, сам вучыўся друкарства ў Скарынавай друкарні ў Вільні. Калі сам гэты факт аўтар і запярэчвае, дык, адначасна, ён прызнае існаваньне яўных скарынінскіх уплываў на форму й крой некаторых літараў ананімных выданьняў (б. 184). Дык бяз узьдзеяньня Скарынавага друку тут напэўна не абыйшлося.

Важнай выдавецка-друкарскай дзейнасьці доктара Францішка Скарыны Няміроўскі прыдзяляе даволі шмат увагі. Найбольш аб Скарыну ў падразьдзеле працы «Пачатак беларускага друку» (б. 89-98). З навейшай літаратурай аб Скарыну аўтар знаёмы ня блага. Адзначае ён найперш ведамы «вельмі высокі ўзровень паліграфічнага выкананьня Скарынінскіх друкаў» (б. 93) ды важнейшыя заслугі доктара Скарыны ў галіне разьвіцьця кірылічнага друкарства. Скарына першы ў кірылічных кнігах завёў загаловачныя лісты, першы нумараваў балонкі, першы багата ілюстраваў кнігі вялікім лікам мастацкіх дрэварытаў. У першага яго знайходзім і бязхварбныя водціскі тэкстаў, гэтак званы «сьляпы друк».

Важны, драматычны эпізод Скарынавае біяграфіі — падарожжа да Масквы ды публічнае спаленьне тамака ягоных кнігаў, — у аўтара атрымала, аднак-жа, бясспрэчна хвальшывае асьвятленьне. Характэрна, што гэтая падзея расейскімі навукоўцамі ўжо сто год яўна абмінаецца, замоўчваецца. Сам дакумэнт, у якім ёсьць вестка пра паленьне ў Маскве на загад маскоўскага князя Скарынавае Біблії, быў апублікаваны Я. Фідлерам у зборніку Венскае Акадэміі Навук яшчэ ў 1862 годзе (Няміроўскі памылкова падае год 1860-ты). Хоць праца Фідлера сваім ужо загалоўкам — «Спроба паяднаньня расейскае царквы з рымскай у XVI стагодзьдзі» —павінна была зьвярнуць увагу найперш тагачасных расейскіх гісторыкаў, ніхто зь іх справы паленьня кнігаў Біблії ў Маскве тады не камэнтаваў.

І прайшло цэлае чверць веку, пакуль на дакумэнт зьвярнуў у канцы ўвагу чэскі гісторык Язэп Пэрвольф. Не зважаючы на тое, што заўвага Пэрвольфа была зробленая ў працы друкаванай парасейску ды выдадзенай расейскім Варшаўскім унівэрсытэтам, і яе напэўна мелі ўсе ўнівэрсытэцкія ды важнейшыя іншыя навуковыя бібліятэкі тагачаснае Расейскае імпэрыі, і гэтым разам ніхто з расейскіх славістых і гісторыкаў узьнятага Пэрвольфам пытаньня ў навуковай літаратуры не падхапіў і справа ізноў была забытая, цяпер на роўна поўстагодзьдзя. Толькі пры канцы 1930-х год праскі гісторык А. Флароўскі заўвагу Пэрвольфа й, за ёй, публікацыю Фідлера, нанава «адкрыў» ды шырэй аб гэтым паведаміў, першы раз у 1938 годзе на міжнародным зьезьдзе гісторыкаў у Цюрыху, посьле, у 1940 годзе, у праскім часапісе „Slavisches Rundschau“, ды яшчэ раз у зборніку працаў Чэскае Акадэ-

мii Навук, што вышаў у годзе 1946-м.[1] Хоць ад гэтае пары прайшло больш дзесяці год, у падсавецкім расейскім друку й цяпер факт паленьня Скарынавае Бібліі ў Маскве звычайна моўчкі абмінаецца. Гэтак, у вялікім двутомным выданьні «400 лет русского книгопечатания», што зьявілася ў Маскве ў 1964 годзе, і ў якім у «русское книгопечатание» загорнены й друк усіх нерасейскіх народаў Савецкае імпэрыі, улучна з друкам беларускім, аб паленьні ў Маскве Скарынавых кнігаў няма й спаміну.

Прызнаць трэба, што Няміроўскі факту паленьня ў Маскве Скарынавых кнігаў ужо не абмінае, але пры гэтым ставіць сваё дапушчэньне аб тым, што кнігі ў Маскву прывёз не Скарына: «ідзе гэта, найбольш праўдападобна, аб падарожжы не самога Скарыны, а ягонага фінансіера й мэцэната, віленскага купца Багдана Онкава (Анкевіча)» (б. 65), які, паводля ведамых архіўных дакумэнтаў, каля 1526 году накіраваўся да Масквы ды каля Вялікіх Лукаў быў аграблены падданымі маскоўскага князя. Гэтае дапушчэньне Няміроўскага ня мае абаснаваньня ў ведамых нам фактах. Найперш, з дакумэнтаў, у якіх апісаная справа аграбленьня, зусім ня вынікае, што Багдан Анкевіч да Масквы тады наагул даехаў. З актаў відаць, што галоўная мэта падарожжа Анкевіча да Масквы была справа спагону даўгоў ад северскіх князёў Мажайскага й Шэмячыча, якія былі яму вінаватыя 900 коп «шырокіх грошаў». На гэта ён меў ад іх «запісныя лісты», гэта значыць расьпіскі. Маскоўскія рабаўнікі, разам з грашыма ды таварамі, забралі ад Анкевіча й «запісныя лісты». Бяз «запісных лістоў», бяз грошаў, бяз тавараў, Анкевічу ня было чаго й за што ехаць далей да Масквы. Ён вярнуўся да Вільні ды пачаў чыніць энэргічныя захады ў справе звароту зрабаванае маемасьці, грошаў ды «лістоў», праз караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча.

Першы раз справу аграбленьня Анкевіча ў Маскве перад вялікім князем маскоўскім Васілём Іванавічам, ужо ў восені 1526 году, падымаюць літоўскія паслы, ваявода полацкі Кішка дый маршалак і пісар Вялікага Княства Багавіціновіч. Другі раз дамаганьне зрабаванае маемасьці ды пакараньня рабаўнікоў, на аснове «перамірнае граматы» 1522 году, якая гарантавала незачэпнасьць купцоў і іхнае маемасьці, ставіць маскоўскаму князю Жыгімонт Казімеравіч вясною 1527 году праз паслоў маскоўскіх. Пра зрабаваньне нейкіх кнігаў у Анкевіча датычныя дакумэнты наагул нічога не спамінаюць, хоць кнігі ў тыя часы былі вельмі дарагім таварам і іхная страта, калі-б яна зайшла, напэўна была-б у дыпляматычных лістох адзначаная. Да ўсяго трэба дадаць, што Анкевіч фінансаваў, найменш часткова, толькі Скарынавыя праскія выданьні. Няма, затое, ніякіх дадзеных на тое, каб ён памагаў Скарыне фінансава й у ягоным віленскім выдавецтве, дзе друкарняй Скарыны апякаваўся другі мэцэнат, віленскі бурмістр Якуб Бабіч. Калі-б і ў Вільні была нейкая дапамога з боку Анкевіча, Скарына напэўна не замарудзіў-бы адзначыць гэтага ў сваіх кнігах, як гэта зрабіў аб бурмістру Бабічу ды, у кнігах праскага друку, і аб самым Анкевічу.[2]

Дык падставаў на тое, каб уважаць Багдана Анкевіча, а ня доктара Франьцішка Скарыну, за таго друкара й выдаўца Бібліі, які, паводля архіўных вестак, павёз свае кнігі ў Маскву, а там іх публічна спалілі, няма ніякіх дакумэнтных асноваў. Беспадстаўная й думка Няміроўскага аб тым, што «інфармацыя Анрэ Тэвэта аб спаленьні ў Маскве шрыфтоў, прывезеных з Польшчы, датычыць эпізоду з Багданам Анкевічам, а не да

---

[1] Дакладней справа гэтая апісаная ў адмысловай працы: Брага Сымон — Доктар Скарына ў Маскве. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью Ёрк — Мюнхен 1963. Праца друкавалася й у кнізе 2-ой «Запісаў» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1963, б. 9-36.

[2] Тамсама, б. 22.

разгрому друкарні Івана Хведаровіча» (б. 65). Наадварот — Тэвэт выразна кажа, што здарылася гэта «ў шэсьцьдзесятых гадох» XVI стагодзьдзя, — „mil cing cens foixante“, —дык гутарка тут быць можа толькі пра друкарню або Хведаровіча, або маскоўскую «ананімную», а ў ніякім выпадку не датычыць паленьня Скарынавых кнігаў, якое адбылося год трыццаць раней.[3]

На заканчэньне варта адцеміць сам парадокс паявы кнігі Няміроўскага ў 1964 годзе, пры шырокім адзначаньні ў СССР 400-годзьдзя расейскага друку: праца накіраваная на тое, каб давесьці, што «Апостал» 1564 году, гэта ня першы маскоўскі друк, а Іван Хведаровіч, праўдападобна, ня першы расейскі друкар, а, значыцца, і ўсе шумныя юбілейныя ўрачыстасьці ня маюць пад сабою гістарычнага грунту.

**С. Брага**

## A Bibliography of Slavic Dictionaries. Compiled by Richard C. Lewanski. Volume II. Belorussian, Bulgarian, Czech, Kashubian, Lusatian, Old Church Slavic, Macedonian, Polabian, Serbocroatian, Slovak, Slovenian, Ukrainian. The New York Public Library. New York, 1962, б. XVIII + 366.

Гэта другая кніга трытомнае бібліяграфіі славянскіх слоўнікаў, першы том якое вышаў у 1959 годзе й абыймае бібліяграфію слоўнікаў польскіх, а трэйці, надрукаваны ў 1963 годзе, слоўнікі мовы расейскай. Праца апублікаваная ў выданьні Публічнае Бібліятэкі Нью Ёрку.

У другім томе — бібліяграфіі слоўнікаў дванаццацёх славянскіх моваў. Беларуская часьць займае ў ім бачыны 9-26. У ёй — 86 чародных рэгістрацыйных пазыцыяў. Разам з пасьлейшымі дапаўненьнямі, ды, бяручы на ўвагу тое, што ўсе 24 тэрміналягічныя слоўнікі Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску гадоў 1922-1931 дадзеныя пад адным нумарам (№ 80), бібліяграфія ў запраўднасьці рэгіструе 123 беларускія слоўнікавыя пазыцыі. Назовы беларускіх слоўнікаў пададзеныя не паводля прынятае Публічнай Бібліятэкай Нью Ёрку схэмы трансьлітэрацыі беларускіх кірылічных тэкстаў, а беларускай лацініцай, што, бясспрэчна, правілна. На бачыне XVI памешчаная й табліца беларускіх лацінічнага ды кірылічнага альфабэтаў з паданьнем вымовы паасобных літараў.

Беларускі разьдзел бібліяграфіі раскрываецца рэпрадукцыяй загаловачнае бачыны Насовічавага слоўніка 1870 году. Сама бібліяграфія складзеная ў тры групы — слоўнікаў аднамоўных, двумоўных і шматмоўных. Першая група разьбітая на падразьдзелы: слоўнікі афарызмаў, біяграфічныя, дыялекталягічныя, этымалягічныя, гістарычныя, моўныя, анамастычныя, артаграфічныя, тэрміналягічныя. Група слоўнікаў двумоўных абыймае слоўнікі ангельскія, гэбрайскія, лацінскія, польскія, расейскія. Слоўнікі шматмоўныя дзеляцца на слоўнікі агульныя й спэцыяльныя. Прыканцы бібліяграфіі пададзеныя паказьнікі аўтараў, моваў і прадметны. У сваей беларускай часьці бібліяграфія найбольшая зь існуючых. З раней складзеных бібліяграфіяў слоўнікаў беларускае мовы ведамая боль-

[3] Шырэй аб аграбленьні Багдана Анкевіча ў Маскоўшчыне ў той-жа працы С. Брагі «Доктар Скарына ў Маскве» (глядзі вышэй), б. 11-13. Там-жа пададзеныя й тэксты адпаведных дакумэнтаў.

шая, але й на сваю пару далёка не камплетная, адна: бібліяграфія зьмешчаная ў працы «Матар'ялы да беларускае бібліяграфіі» 1927 году.[1]

Апошнімі гадамі ўсё часьцей зьяўлюцца беларускія слоўнікавыя выданьні, і, склалася гэтак, што бібліяграфія Р. Леванскага ў сваёй беларускай часьці ня ўсьпела ахапіць двух вялікіх новых двумоўных слоўнікаў, якія паказаліся з друку якраз у годзе паявы другога тому бібліяграфіі. У 1962 годзе, у вапрацаваньні Інстытуту Мовазнаўства Акадэміі Навук Беларускае ССР, быў выдадзены «Беларуска-рускі слоўнік», у якім каля 90 000 словаў.[2] У тым самым годзе ў Варшаве вышаў «Падручны польска-беларускі слоўнік», у якім каля 40 000 словаў.[3] Абодвы гэтыя слоўнікі зарэгістраваныя ў бібліяграфіі, але толькі пры канцы трэйцяга, расейскага, тому, у «дапаўненьнях», і мала хто іх там зацеміць. У 1963-м ужо годзе быў апублікаваны слоўнік, у які ўходзяць словы старое беларускае мовы,[4] ды анамастычны слоўнік беларускіх «хрышчоных імёнаў».[5] Рыхтуюцца да выданьня й слоўнікі іншыя. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва мае ўжо гатовы да друку краёвы слоўнік Лагойшчыны (каля 8 000 словаў); у вапрацаваньні слоўнік Вялейшчыны ды ангельска-беларускі слоўнік.

Паводля вестак менскага пэрыядычнага друку, Інстытут Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР вядзе збор матар'ялаў для чатыратомнага тлумачальнага слоўніка сучаснай беларускай мовы й для слоўніка старабеларускай мовы XIV-XVIII стагодзьдзяў. Той-жа Інстытут, сумесна з катэдрай беларускае філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, рыхтуе да выданьня беларуска-польскі слоўнік. Адначасна менскае выдавецтва «Народная асьвета» рыхтуе да друку «Тлумачальны слоўнік беларускае мовы» й «Руска-беларускі слоўнік».

Зачаткі беларускае лексыкаграфіі й слоўнікаў губляюцца ў пары рукапіснае пісьменнасьці XIII-XV стагодзьдзяў, калі перапісчыкі кнігаў сталі даваць ці то ў тэксьце, ці на бялюгох бачынаў, свае паясьненьні незразумелых словаў. Перакладаў і паясьненьняў чужых словаў асабліва шмат даваў беларускі першадрукар, доктар Франьцішак Скарына. У кнігах Біблii ягонага перакладу й выданьня, «на боцех», а часта й у прадмовах, ёсьць колькісот «глёсаў» — беларускіх перакладаў-паясьненьняў царкоўнаславянскіх ды іншых чужамоўных словаў. Скарынавыя пераклады пазьней пераймаліся іншымі выдаўцамі друкаваных і рукапісных кнігаў, якія іх зьмянялі, дапаўнялі, удакладнялі.

Калі Лаўрэньці Зызані ў 1596 годзе ў Вільні друкаваў першы беларускі слоўнік «Лексіс», дык у яго ён пераняў і шмат із Скарынавых «глёсаў». «Лексіс» Зызанія гэта ўжо запраўдны, альфабэтычна складзены, двумоўны слоўнік, у якім дадзены пераклад 1061 царкоўнаславянскага слова. Слоўнік Зызанія, як першы, у сваю пару быў вельмі папулярны. Яго перапісвалі й дапаўнялі далей ня толькі на землях Беларусі, але й Маскоўшчыны дый Украіны. Трыццаць і адзін год пасьля паявы «Лексіса», на яго аснове новы, большы слоўнік, апрацаваў Памва Берында. Першае выданьне ягонага «Лексыкону», у якім ужо каля 7 000 словаў, паказалася ў 1627 годзе ў Кіяве. Другое вы-

---

[1] Матар'ялы да беларускае бібліяграфіі. Том IV. Этнографія. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1927, б. 72-76.

[2] Беларуска-рускі слоўнік. Пад рэдакцыяй К. К. Крапівы. Масква, 1962, б. 1048.

[3] Падручны польска-беларускі слоўнік. Пад рэдакцыяй А. Обрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы. Варшава, 1962, б. XVI + 1084.

[4] Будовниц И. У. Словарь русской, украинской, белорусской письменности и литературы до XVIII века. Академия Наук СССР. Москва, 1962, б. 398.

[5] Станкевіч Ян. Хрышчоныя йімёны вялікалітоўскія (беларускія). «Запісы», кн. 2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1963, б. 95-127.

шла ў 1653 годзе ў Беларусі — у Кутэйне на Віцебшчыне.

Як Берында ў пасьляслове да свайго «Лексыкона» сьцьвярджае, у васнову, у «пачаткі», свайго слоўніка паклаў ён віленскі «Лексіс» Зызанія: «Стуль бо пачатак узяў я...» («Оттуду убо начало взем аз...»). Праз «Лексіс» Зызанія, а таксама й беспасярэдня, у «Лексыкон» Памвы Берынды былі перанятыя й Скарынавыя «глёсы» зь ягонае Бібліі. Дык «Лексыкон» — плод эвалюцыйнага працэсу разьвіцьця беларускае лексыкаграфіі ад Скарынавых зачаткаў на пачатку XVI стагодзьдзя, і дзеля гэтага, хоць у сваім першым выданьні ён і быў друкаваны ў Кіяве, — у ім тысячы словаў, якія й сяньня бытуюць у жывой беларускай мове. Беларускі моўны элемэнт у ім праявіўся яскрава й у факце зафіксаваньня шмат чыста беларускіх фанэтычных асаблівасьцяў, між імі й аканьня ды яканьня.[6]

І вось гэтага слоўніка, у якім тысячы словаў у іх беларускай фанэтычнай вопратцы, не знайсьці ў беларускай часьці бібліяграфіі Р. Леванскага. Відавочна на той падставе, што першае выданьне слоўніка Берынды зьявілася ў Кіяве, ды што ў ім ёсьць і бяспрэчныя ўкраінскія словы, складальнік бібліяграфіі ўлучыў яго толькі ў слоўнікі ўкраінскія, хоць трэ' было падаць напэўна, і найперш, у часьці беларускай. Неадзначаньне ў беларускай часьці бібліяграфіі «Лексыкону» Берынды, найбольшага слоўніка старое беларускае мовы, вельмі паважны хіб беларускай часьці бібліяграфіі.

Другая важная загана бібліяграфіі тая, што ў ёй ня ўзятыя на ўвагу тыя слоўнікі із слоўным матар'ялам старое беларускае мовы, у назове якіх не адзначана, што яны абыймаюць і мову беларускую. Для прыкладу, у гадох 1893-1903, у Пецярбурзе, у выданьні Акадэміі Навук, вышлі тры вялікія тамы слоўніка «древнерусскаго языка» І. І. Срезнеўскага, складзенага на аснове пісаных памятак.[7] Слова «русскаго» Срезнеўскім тут ужытае ў значаньні «ўсходнясла-вянскага», бо ў слоўніку рэгістраваныя ня толькі словы старое расейскае мовы, але й моваў беларускае дый украінскае XII-XVII стагодзьдзяў. Відаць гэта з дадзеных пры канцы тамоў сьпісаў тых рукапісных крыніцаў, па якіх слоўнік быў складзены. Зь беларускіх рукапісных памятак Срезнеўскі, пачынаючы ад надпісу на ведамым полацкім крыжы сьвятое Афрасіні Полацкай 1161 году, выкарыстаў шырака й акты ды граматы беларускіх местаў Полацка, Віцебска, Смаленска й іншых; граматы вялікіх князёў літоўскіх — Вітаўта, Ягайлы, Сьвідрыгайлы, Казімера, Жыгімонта; лісты-пасланьні япіскапаў Беларусі, беларускія летапісы, юрыдычныя памяткі, старую рэлігійную літаратуру. Дык соткі беларускіх рукапісных крыніц ляглі ў васнову слоўніка Срезнеўскага, як, адначасна, і вялікі лік рукапісных памятак украінскіх. Тымчасам, гэтага слоўніка не знайсьці ані ў бібліяграфіі слоўнікаў беларускіх, ані ўкраінскіх. Пададзены ён толькі ў трэйцім томе бібліяграфіі, у ліку слоўнікаў расейскае мовы. Дык сабраныя ў ім беларускія й украінскія слоўныя багацьці укладаньнік прыдзяліў аднэй мове — мове расейскай. Падобных слоўнікаў, якія пад назовам «русскі» абыймаюць і словы старое беларускае мовы, ёсьць і больш. Усе яны, нажаль, выпалі з поля ўвагі Р. Леванскага пры ўкладзе беларускае часьці слоўнікавае бібліяграфіі.

Тое самае, што із слоўнікам Срезнеўскага, здарылася й з слоўнікам А. Брукнэра „Die Slavischen Fremdwörter im

---

[6] Шырэй аб «Лексыконе» Берынды, Скарынавых у ім глёсах, дый беларускіх словах наагул, глядзі ў працы: Суднік М. Р. — Гісторыя ўзьнікненьня і этапы разьвіцьця беларускай лексыкаграфіі старажытнай пары. Працы Інстытута Мовазнаўства АН БССР. Выпуск IV. Мінск, 1957, б. 62-122.

[7] Срезневский И. И. Материалы для словаря древне-русскаго языка по письменным памятникам. Том I-III. Санктпетербург, 1893, 1895, 1903. Слоўнік перавыдадзены ў 1958 г. у Маскве фотадрукам.

Litauischen".[8] І яго ў беларускай часьці бібліяграфіі няма дзеля той, відавочна, прычыны, што ў назове яго беларуская мова не зазначаная. Дый у прадмове да гэтага слоўніка Брукнэр кажа: «у часе дасьледнае працы мне стала ясным, што не да расейскае мовы, як крыніцы запазычэньняў, трэба зьвяртацца, але найперш да блізкае, суседняе літоўскай, беларускай мовы». Брукнэр адзначае й памылковасьць цьверджаньня ведамага польскага моваведа Я. Карловіча аб тым, што „z krewickiego wzięła Litwa dużo, mniej wszelako niż z polskiego". Было якраз наадварот. Пазьней сваімі грунтоўнымі досьледамі пацьвердзіў гэта лятувіскі мовавед К. Буга, які выявіў, што з чужых словаў у мове лятувіскай найбольш беларускіх, а куды менш польскіх ды расейскіх. Буга кажа: «Ад мовы Беларусаў ці Крывічоў, ня толькі лятувіская, але й латыская мова, атрымала найбольш чужых элемэнтаў».[9] Р. Левански гэты слоўнік Брукнэра падаў толькі ў вагульным «славянскім» разьдзеле свае бібліяграфіі. Тымчасам ніякіх слоўных запазычэньняў з моваў паўдзённаславянскіх, з моваў чэскае й славацкае, ды з мовы ўкраінскае, лятувіская мова ня мае. Дык гэта зусім не «агульна славянскі» слоўнік, а рэгістраваць яго трэба найперш у беларускай часьці бібліяграфіі. Неадзначэньне слоўнікаў Брукнэра ды Срэзнеўскага паказвае на слабы мэтадалягічны бок бібліяграфіі Р. Леванскага, а пайменна на тое, што рыхтаваная яна была галоўна на аснове толькі самых назоваў слоўнікаў, бяз глыбейшага крытычнага ўгляду ў іхны зьмест, ці, хоць-бы, у прадмовы ды паясьненьні іхных аўтараў.

Зь іншых, драбнейшых недаглядаў, трэба найперш адцеміць яўную памылку на самым пачатку, калі кніга «Пісьменьнікі савецкай Беларусі» (№ Іа) ўлучаная не ў разьдзел слоўнікаў біяграфічных, а трапіла ў слоўнікі «афарызмаў». Што-ж да афарызмаў, дык і тут відавочная непасьлядоўнасьць: калі зарэгістраваны тут слоўнік «крылатых словаў і афарызмаў зь беларускіх літаратурных крыніц» Янкоўскага (№ 2), дык няма ніякіх падставаў на тое, каб не падаваць побач і шматлікія выданьні «крылатых словаў» беларускае народнае мовы — альфабэтычных зборнікаў беларускіх народных прыказак і прагаворак, найперш М. Фэдэроўскага (каля 10 000 прыказак), І. Насовіча (больш 3 000), і колькідзесяці меншых публікацыяў «крылатых» народных афарызмаў, а між імі й «Прыказкі прымаўкі, фразэалягізмы» таго-ж Янкоўскага.

Некаторыя шматмоўныя тэрміналягічныя слоўнікі ў бібліяграфіі ўсяго пералічаныя, без паданьня ў якіх, апрача беларускай, мовах, яны складзеныя (прыкладам, слоўнікі матэматычны, літаратурны, геаграфічны, лёгікі й псыхалёгіі, нэўралёгіі, — усе пад № 80). Гэта паважны недагляд, паколькі паказаньне моваў, у якіх слоўнікі складзеныя — адна з найбольш асноўных інфармацыяў падобнае біліяграфіі. Бібліяграфія не выяўляе й некаторых, хай сабе й невялікіх памерамі, слоўнікаў спэцыяльных, калі яны публікаваныя не асобным выданьнем, а дадзеныя пры нейкім іншым, большым слоўніку. Гэтак, пры канцы «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» В. Ластоўскага (№ 58) памешчаныя тры меншыя слоўнікі: у мовах расейскай і беларускай «Крыўскі (беларускі) іменьнік», у якім каля 300 імёнаў; у мовах лацінскай, расейскай і беларускай «Назовы птахаў», у якім каля 200 назоваў, ды, мовах расейскай, лацінскай, беларускай «Іменьнік расьцін», у якім каля 300 назоваў. Трэ' было-б паказаць гэтыя цікавыя слоўнікі — першы ў слоўніках анамастычных, два іншыя ў слоўніках тэрміналягічных. Падобных выпадкаў ёсьць і больш. Дык бібліяграфія яў-

[8] Die Slavischen Fremdwörter im Litauischen, von Alexander Brückner. Weimar, 1877, b. 207.

[9] Buga K. Die litauisch-weissrussischen Beziehungen und ihr Alter. „Zeitschrift für Slavische Philologie". Band I. Leipzig, 1925, b. 26.

на не раскрывае ўсяго публікаванага ў галіне слоўнікаў беларускае мовы.

Не зважаючы на вышэй адзначаныя паважныя заганы, трэба прызнаць, што бібліяграфія ў сваёй беларускай часьці найбольшая й найбольш сучасная зь існуючых. На гады яна будзе карысным дапаможнікам для ўсіх тых, каму спатрэбіцца даведка ў галіне слоўнікаў беларускае мовы. Тое, што бібліяграфія выдадзеная ў мове міжнароднага засягу й значаньня, у мове ангельскай, чыніць яе даступнай для асабліва шырокага, сусьветнага, кола навуковых працаўнікоў. Заслуга й гонар за яе ўклад і выданьне застаецца за публічнай Бібліятэкай Нью Ёрку, і, галоўна, зразумела, яе ўкладаньніка — Рышарда Леванскага.

Р. Максімовіч

**Жукевич В. А. Происхождение географических названий (топонимика) Белоруссии. Издательство Белгосуниверситета имени В. И. Ленина. Минск, 1961, б. 80.**

Гэтая, сьціплая памерамі, кніжыца прысьвечаная вельмі важнай, вялікай тэме — пытаньню паходжаньня геаграфічных назоваў Беларусі. У ўводным разьдзеле працы пададзена, што падыход да пастаўленага пытаньня ў ёй ня моваведны, а «геаграфічны». Аўтар намагаецца склясыфікаваць геаграфічныя назовы Беларускае ССР паводля іх сэнсавага значаньня ды чыніць спробу, шляхам статыстычным, выявіць «законамернасьці» тапанімікі Беларусі. Трэба адцеміць, што назова працы не адказвае яе засягу. Праца не абымае тэрыторыі «Белоруссии», а толькі тую яе частку, што сяньня ў межах БССР. У ёй ня ўзята на ўвагу колькідзесят тысячаў беларускіх геаграфічных назоваў Беласточчыны, Віленшчыны, Смаленшчыны, Пскоўшчыны ды іншых моўна-этнічных беларускіх прастораў, што сяньня паза межамі Беларускае ССР. Дык у кніжцы ў запраўднасьці разгляд не тапанімікі Беларусі, а толькі — БССР.

Праўду кажа аўтар у ўводзінах, што на афіцыйных царскіх і савецкіх расейскіх картах геаграфічныя назовы Беларусі здэфармаваныя й пазьменіваныя, бо «па старых інструкцыях тапаграфы муселі падаваць мясцовыя назовы згодна з нормамі расейскае мовы й дзеля гэтага вельмі шмат мясцовых назоваў зьявілася на картах у зусім няправільнай транскрыпцыі» (б. 5). Заўвага вельмі трапная ды, пры далейшым пераглядзе ўводзінаў і самое працы, выяўляецца, што аўтар, усьведамляючы заганы «афіцыйных» русыфікаваных формаў тапанімікі Беларусі, працу сваю абапёр не на арыгінальных беларускіх спрадвечных народных назовах, а якраз блізу выключна на «афіцыйных» расейскіх, якія ён браў з расейскіх каталёгаў рэкаў і азёраў Беларусі, расейскіх сьпісаў населеных пунктаў БССР ды расейскіх картаў (б. 10). З навуковага гледзішча гэта вельмі паважны хіб, які ўжо сам не варожа ўдачы ў нялёгкім заданьні выясьненьня паходжаньня беларускіх геаграфічных назоваў, бо-ж для правільнага зразуменьня паходжаньня паасобных назоваў ключова важным ня раз бывае дакладнасьць у пераданьні кажнае літары.

У навуковым сьвеце Захаду ўважалі-б гэта проста за лягічную недарэчнасьць, калі-б нехта тапаніміку Англіі вывучаў па нямецкіх картах або тапаніміку Нямеччыны па картах ангельскіх. На русыфікаваным унівэрсытэце «імені Леніна» ў сталічным месьце Беларусі гэта сяньня, відавоч-

на, найбольш мадэрны «марксыцкі навуковы» мэтад.

Што да «геаграфічна-статыстычнага» падыходу аўтара, дык ён палягае на спробе склясыфікаваць геаграфічныя назовы БССР — усіх 26 689 — на паасобныя групы паводля тыпу іх паходжаньня, азначыць працэнтна вялічыню кажнае з групаў ды парабіць тыя ці іншыя з гэтага выснавы. Гэткую клясыфікацыю аўтару ўдалося правесьці да блізу 75% «расшыфраваных» па сэнсавым значаньні геаграфічных назоваў БССР. Решта, у тым ліку каля 75% назоваў рэк і азёраў, засталася ў групах назоваў нявыясьненых.

Сам агляд назоваў рэк, азёраў і населеных пунктаў Беларускае ССР дадзены ў трох разьдзелах кніжыцы. У першым разгледжана 870 назоваў большых рэк БССР, з чаго расшыфраваць паходжаньне аўтару ўдалося толькі 204 назоваў, ці 23%. 666 назоваў засталося нявыясьненымі. Клясыфікацыйныя групы рэк аўтара гэткія: 1. Назовы рэк, што паходзяць ад назоваў зьвяроў, як Тур'я, Баброўка, Лань, Выдрыца, Мядзьведка. Налічыў іх аўтар больш 40-ка. 2. Назовы ад расьлінаў, як Бяроза, Бярэзіна, Ельня, Алешня, Вярбоўка, Клёнаўка; іх каля 20-ці. 3. Назовы, што паказваюць на якасьці рачное вады, як Чорная, Чарнянка, Сіняя, Іржаўка; іх каля 20-ці. Назовы, у якіх адбітыя асаблівасьці ракі ці грунту, як Каменка, Пясчанка; іх 18. 5. Назовы балцкага паходжаньня.

Пры разглядзе назоваў рэк, аўтар, выходзячы з расейскіх формаў геаграфічных назоваў Беларусі, сам неаглядзіўся, як дагаварыўся да недарэчнасьці. Ён цьвердзіць, што сярод назоваў рэк «нерасшыфраваных», вялікую групу, больш ста, становяць назовы з канчаткамі «на **чь,** або **ть** (радзей **дь**)» (б. 17). Гэта яўная няпраўда. Беларускіх геаграфічных назоваў з гэткімі канчаткамі няма й быць ня можа, бо беларуская мова ня ведае гукаў **чь, ть, дь,** свомых мове расейскай. Існуюць затое беларускія тапанімічныя назовы з канчаткамі **ч, ць, дзь.** Расейскія канчаткі, на іх месца, зьявіліся толькі ў «афіцыйнай» транскрыпцыі, якую аўтар сам на пачатку працы асуджае. Няма ў запраўднасьці й беларускіх назоваў **Вілія, Неман, Вілейка.** Гэта чужыя формы арыгінальных беларускіх назоваў **Вяльля, Нёман, Вялейка.** Ня існуюць і беларускія прозьвішчы на **-ій, скій,** як памылкова цьвердзіць аўтар, а ёсьць і могуць быць толькі прозьвішчы на **-і, -скі** (б. 21).

У чародным разьдзеле разгледжаныя назовы 899-ці азёраў БССР (азёраў паверхні больш 10-ці гэктараў), з чаго расшыфраваць ды склясыфікаваць па значаньні аўтар змог усяго 252, ці 28%. Расшыфраваныя назовы згрупаваныя ў: 1. Назовы, што паказваюць на асаблівасьці возера, як Доўгае, Глыбокае, Малое, Крывое; іх ёсьць 30. 2. Назовы ад расьлінаў, як Арэхаўскае, Альшанскае, Крушынаўка, Асотнае; іх 64. 3. Назовы ад зьвяроў, рыбаў, як Гусінае, Селява, Акунёўка, Карасіна; іх 34. 4. Назовы паводля блізкіх селішчаў, як Гомельскае, Лукомльскае, Браслаўскае. 5. Назовы рэлігійнага й легендарнага паходжаньня, як Сьвятое, Князь. 6. Назовы балцкага паходжаньня.

Найбольш сярод тапанімічных назоваў — назоваў населеных пунктаў. Іх узята ў працы на ўвагу 24 920. З гэтага паходжаньня аўтар «расшыфраваў» 19 598, ці 75%. Нявыясьненых засталося 5 322. Зразумела, гэта далёка ня ўсе геаграфічныя назовы тэрыторыі БССР, а толькі тыя, што сустракаюцца на картах ці афіцыйных сьпісках, якімі карыстаўся аўтар. Па-за полем ягонай увагі засталіся назовы меншых рэк, азёраў, селішчаў, назовы рачных парогаў, лясоў, пушчаў, бароў, гаёў, балотаў, гораў, палёў, шнуроў, урочышчаў. Усіх гэтых назоваў на тэрыторыі Беларусі міліёны. Гэта вялізны, несабраны, незапісаны ды дасьледнікамі нявыкарыстаны тапанімічны скарб Беларусі, скарб першараднае навуковае вагі для высьненьня шмат якіх пытаньняў зь гісторыі, культуры, этнаграфіі й быту беларускага народу і, асабліва, пытаньняў беларускае мовы.

Назовы населеных пунктаў БССР аўтар склясыфікаваў у дзесяць групаў: 1: Назовы дадзеныя ад прыродных асаблівасьцяў мясцовасьці. 2. Назовы ,што характарызуюць эканамічныя зьявы. 3. Назовы, што паказваюць на характар самога селішча. 4. Назовы ад прозьвішчаў і імёнаў. 5. Назовы ад рэк і азёраў. 6. Назовы рэлігійнага паходжаньня. 7. Назовы новыя, савецкія. 8. Назовы неславянскія. 9. Назовы нявыясьненыя, але часта сустраканыя. 10. Назовы нявыясьненыя.

Ужо ў уводзінах аўтар, як нейкую навіну, падае, што частая ў Беларусі назова «Прыбарова» паходзіць не ад фізычнага ці іншага, расейскага «прибору», а ад беларускага «бору», і значыць — селішча пры бары. Або, што назова вёскі «Ігрушка» не паўстала ад расейскае «игрушки» — забаўкі, цацкі, — а паходзіць ад беларускае «ігрушы», пладовага дрэва (б. 4). У разьдзеле, дзе разгляд назоваў селішчаў Беларусі, аўтар ізноў не бязь некаторага зьдзіўленьня адкрывае, што тыя геаграфічныя назовы Беларусі, якія паходзяць ад рамясла, перадаюць гэтае рамясло не парасейску, а пабеларуску: «Кавалі (а не Кузнецы), Муляры, (а не Каменшчыкі), Кушняроўка (а не Скорняковка), Папераўцы (а не Бумажнікі)» (б. 41). У іншым месцы, як нешта асаблівае, аўтар адцемлівае, што на ўсёй тэрыторыі Беларусі ня сустрэнем расейскае «Мельница», а толькі беларускія «Млын», «Млынок», якіх больш 18-ці (б. 43).

Гэтае «адкрываньне», як нейкага дзіва, факту, што на беларускай тэрыторыі беларускія, а не расейскія, геаграфічныя назовы, кідае яскравае сьвятло на ўзгадаваньне й настаўленьне аўтара, гадунца менскага ўнівэрсытэту, ды, калі судзіць па прозьвішчы, Беларуса найменш па паходжаньні. Насуперак свайму «навуковаму адкрыцьцю» й факту, што тапаніміка Беларусі беларуская, а не расейская, аўтар усё-ж ня раз, а разоў колькі, кажа, што геаграфічныя назовы Беларусі маюць «русския» карані (б. 62), або заве іх проста «русскими» (б. 63). На бачыне-ж 68 ён дагаварваецца ўжо й да таго, што беларуская мова «наречие». Гэтая вялікадзяржаўна-чорнасоценная тэрміналёгія пары царскага самадзяржаў'я XIX стагодзьдзя ў аўтара другой паловы стагодзьдзя XX, яскравае сьветчаньне таго, у якім духу выхоўваюць сяньня маладое пакаленьне навукоўцаў на менскім унівэрсытэце. У сьвятле гэтага зразумелым стае й чаму праца такое спэцыяльна беларускае тэматыкі, зьвязаная асабліва цесна зь беларускаю мовай, у сталіцы Беларусі, на беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, пішацца й выдаецца не пабеларуску, а парасейску.

З выдзеленых аўтарам назоваў селішчаў цікавая, у сучасных падсавецкіх абставінах, найперш група «назоваў культавога й рэлігійнага характару». Хоць шмат з гэтых назоваў камуністычны рэжым у Беларусі й зьмяніў на назовы новыя, прапагандныя, ды ўсё-ж на тэрыторыі БССР захавалася яшчэ больш ста такіх назоваў, як Грамніцы, Калядзічы, Пакроўка, Хрыстова, Сьвяціцы. Прыклады пераіменаваньняў: Ігумен на Чэрвень, Папоўка на Леніна, Сьвяты Дух (у Ашмяншчыне) на Будзёнаўка.

Для груп новых савецкіх назоваў тыповыя назовы Леніна, Кірава, Будзёнічы, Акцябр, Новы Шлях. Іх у БССР 340, з чаго толькі каля 20-ці на землях былое Заходняе Беларусі, што ў міжваенную пару была пад Польшчай. Толькі вельмі невялікі лік новых савецкіх назоваў гэта назовы селішчаў новапаўсталых, як, прыкладам, Салігорск. У бальшыні-ж яны дадзеныя на месца старавечных беларускіх назоваў. Найбольш партыйна-прапагандных пераназваньняў было зроблена падчас прымусовае калектывізацыі ў гадох 1930-1932. Аўтар адцемлівае, што апошнімі гадамі савецкія «рэвалюцыйныя» назовы павялічваюцца вельмі паволі. Пры канцы кніжыцы В. А. Жукевіч заклікае да таго, каб большы лік старавечных геаграфічных назоваў Беларусі пад-

мяніць назовамі прапагандна-палітычнымі.

Цікавыя лікі групы назоваў неславянскага паходжаньня. На тэрыторыі БССР аўтар налічыў каля 590 селішчаў з назовамі балцкімі, з чаго 550 лятувіскіх і каля 40 латыскіх. Раськінутыя яны галоўна ўздоўж мяжы БССР з Польшчай, Лятувіскай і Латвійскай ССР. Але сустракаюцца яны й у раёнах Баранавіцкім, Наваградзкім, Лепельскім, Магілеўскім, Аршанскім, Полацкім, Слуцкім, Чэрвенскім, — на тэрыторыі паловы раёнаў БССР. Няма іх зусім у раёнах Бабруйскім, Брагінскім, Давід-Гарадоцкім, Добрускім, Драгічынскім, Гомельскім, Кобрынскім, Лунівецкім, Ляхавіцкім, Мазырскім, Рагачоўскім, Столінскім, і шмат іншых — найперш у раёнах паўдзённа-ўсходняе БССР. Трэба мець на ўвеце, што прасторы з найбольшым загушчэньнем балцкіх тапанімічных назоваў — Дзьвіншчына, Віленшчына, Беласточчына, — засталіся за межамі БССР.

Куды менш на тэрыторыі БССР назоваў селішчаў туркска-татарскага паходжаньня, як Мірзава, Шайтарова, Арда, Султанка. Іх на тэрыторыі БССР больш 80-ці. Назовы гэтыя пераважна паказваюць на месцы пасяленьня татарскіх каляністых.

Незразумела, чаму аўтар у сваю 9-ю групу «назоваў нявыясьненых, але што заканамерна паўтараюцца на тэрыторыі БССР» (б. 54), вылучыў гэткія ў беларускай мове кажнаму зразумелыя па сэнсавым значаньні назовы, як Буда (усіх 140), Баяры, Волька, Рубяжы, Рэчыца, Мачулы, Мачулішча ды падобныя — усіх больш паўтысячы назоваў. Для кажнага ведаючага беларускую мову яны не загадка.

Яшчэ больш дзівіцца трэба з таго, што ў 10-ю групу назоваў «нявыяўленага сэнсавага значаньня» аўтар далучае й больш тысячы назоваў селішчаў «даволі яснага сэнсавага значаньня» толькі таму, што яны не падыходзяць да ніводнага з устаноўленых аўтарам тыпаў (б. 70). Мае гэта аўтар на ўвеце гэткія назовы, як Пятніцы, Суботнікі, Дымава, Валасова, Разумова, Сьвісьцёлкі, Сотнічы, Дзевяткі, Калена. Мяшаць у вадно назовы яснага значаньня зь нерасшыфраванымі — яўная лягічная непасьлядоўнасьць і яна нявечыць у вялікай меры навуковую вартасьць усіх клясыфікацыйных натугаў аўтара.

З прыведзеных у кніжыцы прыкладаў назоваў «нявыясьненага сэнсавага значаньня» выяўляецца, што аўтару незразумелыя навет і гэткія шырака ведамыя словы беларускае мовы, як істопка, бёрда, махры. Ня дзіва, што пры клясыфікацыі беларускіх геаграфічных назоваў з гэтак слабою ведай беларускае народнае мовы ў ліку нерасшыфраваных назоваў апынулася больш пяці тысячаў. Прычына шмат якіх нерасшыфровак ясная: да выясьненьня паходжаньня беларускае тапанімікі аўтар прыступіў зь некатораю ведай сучаснае «афіцыйнае» беларускае мовы, якое цяпер вучаць у школах БССР, але затое нестае яму грунтоўнае веды жывое гутарковае мовы беларускага народу, без чаго выясьніць значаньне й паходжаньне беларускіх тапанімічных назоваў, паважна бяручы, немагчыма.

У замыкальным разьдзеле працы ёсьць цікавае прыраўнаньне геаграфічных назоваў тэрыторыі БССР з такімі-ж назовамі трох прастораў Расейскае СФСР. Аўтар сьцьвярджае, што назовы беларускіх рэк, азёраў і селішчаў часта адзінакавыя з назовамі Пскоўскай, Ленінградзкай і Ноўгарадзкай акругаў РСФСР. Тамака аўтар знайшоў больш 140 аднаіменных геаграфічных назоваў з назовамі тэрыторыі БССР, у гэтым 20 назоваў рэк (б. 73). Скуль выводзіцца гэтая аднаіменнасьць, лёгка дагадацца. Гэтыя тэрыторыі, гэта прасторы калішняга пасяленьня й калянізацыйнае экспансыі беларускага племені Крывічоў. У меншай меры за прычыну ідэнтычнасьці геаграфічных назоваў гэтых тэрыторыяў можа быць факт супольнага гэтай прасторы і паўноч-

нае часьці БССР этнічна-моўны фінскі субстрат.

Ня цяжка высьніць і факт існаваньня ідэнтычных геаграфічных назоваў з назовамі ў Беларусі на паўдні Расеі — у Арлоўшчыне, Куршчыне, Белгародзкай і Ліпецкай акругах, прасторы шматвяковае колішняе калянізацыі другога беларускага племені — Вяцічаў. Знайшоў там аўтар 20 аднаіменных зь беларускімі назоваў селішчаў і 3 назовы рэк (б. 75). Куды цяжэй высьніць факт аднаіменнасьці з назовамі Беларусі каля 40-ку назоваў селішчаў і 4 назовы рэк на прасторах верхняе Волгі, за Масквою, у акругах Яраслаўльскай, Іванаўскай і Валадзіміраўскай (б. 74). Ці не сьляды гэта старавечнага калянізацыйнага руху ўніз па Волзе тых-жа Крывічоў, пасяленьні якіх ахоплівалі верхавіны Волгі. Як ведама, беларуская моўная прастора і цяпер даходзіць да Волгі на вышыні Ржэва.[1] Другая магчымасьць, што гэта сьляды пазьнейшых пасяленьняў Беларусаў падчас частых масавых дэпартацыяў беларускага жыхарства маскоўскімі князямі й царамі. Ведама, для прыкладу, што беларускае жыхарства Смаленску, пасьля захопу яго ў 1514 годзе Масквою, было дэпартаванае ўглыбкі Маскоўшчыны. Тое самае сталася й з больш як 10 000 тых палачанаў, што ацалелі ад масавай разьні маскоўскім войскам Івана Грознага пасьля заняцьця ў 1563 годзе Полацку. Дык факт аднаіменнасьці тапанімікі гэтае прасторы з назовамі Беларусі можа мець падобнае высьсьненьне, што й паява ў XIX-XX стагодзьдзях беларускіх геаграфічных назоваў на прасторы Заходняга Сібіру ды паўночнага Казахстану, дзе, у выніку масавых перасяленьняў царскім урадам Беларусаў, паявіліся мясцовасьці з назовамі Магілеўка, Быхаўка, Мядзельскае, Карпілаўка й падобныя (б. 75).

Падыходзячы да агульных высноваў аб кніжцы В. А. Жукевіча, важна найперш падчыркнуць, што аўтар у ёй у запраўднасьці не дае ніякіх сваіх высьсьненьняў паходжаньня гаеграфічных назоваў Беларусі. Ён намагаецца толькі клясыфікаваць паводля свае схэмы тыя назовы, сэнсавае значэньне якіх само сабой яснае й высьсьненьня не вымагае. На жаль, клясыфікацыя ягоная неканс экзвэнтная, блытаная, хаотычная, што відаць хоць-бы з вышэй прыведзенага прыкладу, калі тысячы назоваў яснага паходжаньня аўтар лучыць разам з назовамі нявысьсьненымі толькі на той аснове, што яны ня месьцяцца ў ім-жа ўстаноўленыя групы. Навуковую вартасьць працы моцна абніжае й яўная слабая веда жывое народнае беларускае мовы ды нястача моваведнага падрыхтаваньня наагул. Найгоршае-ж з усяго, гэта праводжаньне клясыфікацыйнае працы не на аснове арыгінальных беларускіх назоваў тэрыторыі, а па назовах русыфікаваных, узятых з расейскіх картаў ды адміністрацыйных сьпісаў. Як гэта аўтара бянтэжыць, відаць з такога яскравага прыкладу: у Сьвірскім раёне ёсьць вёска з чыста беларускаю назоваю «Выгаленяты». Назова паказвае на тое, што селішча паўстала на высечаным калісьці зь лесу — «выгаленым» — месцы. Польская адміністрацыя на сваіх картах падавала гэтую вёску пад палянізаванай назовай як Wyholenięta. На гэтай падставе расейскія ўраднікі й картаграфы назову парасейку зафіксавалі як «Выголенента». В. А. Жукевічу, які сваю працу абапёр на расейскіх афіцыйных назовах тапанімікі Беларусі, гэтая назова здалася гэткаю экзатычнаю, што ён яе клясыфікаваў як «лятувіскую» (б. 62). І падобных выпадкаў у аўтара напэўна сотні. Чаго добрага аўтар і паходжаньне Наваградка, які праз польскі Nowogródek, на расейскіх, а таксама падсавецкіх беларускіх картах стаў «Навагрудкам», «расшыфроўвае» й выводзіць не ад «гарадка», «граду», а ад «груды».

У выніку вышэй прыведзеных кардынальных мэтадычных заганаў і

---

[1] Глядзі Карский Е. Ф. — Этнографическая карта белорусскаго племени. Выданьні 1903 і 1919 гадоў.

фактычных памылак праца В. А. Жукевіча з навуковага гледзішча выпала яўна нездавальняюча. Карысьць ейная невялікая й найперш тая, што на парадак дня яна ставіць вельмі важнае нераспрацаванае беларусаведнае пытаньне — справу паходжаньня тапанімікі Беларусі. Самою сваёй паявою яна прыгадвае вялікую вагу распрацаваньня гэтае праблемы для пытаньняў гісторыі й дагісторыі Беларусі, пытаньняў этногенэзы беларускага народу, ягонае этнаграфіі, матар'яльнае й духовае культуры, і, асабліва, беларускае мовы. Каб пакласьці асновы далейшым грунтоўным досьледам у гэтай галіне, неабходна найперш скласьці й выдаць беларускі геаграфічны слоўнік — слоўнік тапанімікі Беларусі, слоўнік, які падаваў-бы назовы не ў русыфікаванай ці палянізаванай форме, а ў іхным старавечным арыгінальным беларускім выглядзе. Войстрая патрэба гэткага слоўніка й адчуваецца, пераглядаючы Жукевічаву сьціплую кніжыцу. Як ведама, рэклямаваная Масквою за межамі як цалком «суверэнная» БССР, за блізу поў стагодзьдзя свайго існаваньня гэтага слоўніка не змагла выдаць, а, паколькі ведама, ні Акадэмія Навук, ні нейкая іншая навуковая ўстанова БССР, за гэтую, першараднае навуковае вагі, працу, яшчэ й не ўзялася.

**А. Багровіч**

## Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы. Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут Мовазнаўства імя Якуба Коласа. Выдавецтва Акадэміі Навук БССР. Менск, 1963.

«Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы» — гэтая багатая зьместам, прыгожая вонкавым выглядам і старанна апрацаваная двухтомная навуковая праца, рыхтаваная цэлай групай моваведаў ад 1950 году. Ужо на аснове абеглага агляду гэтае працы можна цьвердзіць, што гэта першае такое багатае навуковае выданьне ў БССР.

Усёй падрыхтавальнай працай у складаньні Атласу ад самага ейнага пачатку кіраваў сябра-карэспандэнт Акадэміі Навук СССР Р. І. Аванесаў, ён-жа прыймаў беспасярэдні ўдзел у рэдагаваньні картаў і камэнтароў да іх. Апрача яго, аўтарскі калектыў складалі: доктар філялягічных навукаў Ю. Мацкевіч, кандыдаты філялягічных навукаў А. Арашонкава, М. Бірыла, Н. Вайтовіч, І. Гайдукевіч, А. Груцо, А. Крывіцкі, А. Мурашка, Я. Рамановіч і малодшыя навуковыя супрацоўнікі З. Краўчанка, А. Чабярук, В. Шэлег.

У Атласе скартаграфаваныя дыялекталягічныя матарыялы 1027 населеных пунктаў БССР. Гэтыя матарыялы зьбіраліся ў ваенаўным на працягу 1950—1955 гадоў паводля «Праграмы па вывучэньню беларускіх гаворак і зьбіраньню зьвестак для складаньня Дыялекталагічнага Атласу беларускай мовы», выдадзенай у 1950 г. З часткі гэтых матарыялаў была выдадзеная ў 1962 годзе ў Менску вельмі каштоўная «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі».

Першая частка Атласу зьмяшчае сем дапаможных картаў, што датычаць розных пэрыядаў гісторыі Беларусі й беларускай мовы, і 338 картаў сучаснае беларускае мовы. Усе карты каляровыя, вельмі выгадныя для арыентацыі ў іх і вялікага фармату. Яны адлюстроўваюць моўныя зьявы з усіх галінаў моўнае сыстэмы — фанэтыкі, флексыі, словаўтварэньня, сынтаксу, лексыкі й сэмантыкі. Другая частка Атласу, што

абыймае 972 бачыны друку, зьмяшчае ўступныя артыкулы, даведныя матарыялы й багатую бібліяграфію, а таксама падрабязныя камэнтары да кажнай карты.

«Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы», зразумела, ня ёсьць поўным і практычна ня мог-бы ім быць, бо тады ўсе ягоныя 338 картаў прыйшлося-б памножыць на не малую вялічыню. Таму можа быць пастаўленае пытаньне не аб ягонай паўніні, а адно аб ступені правільнасьці й мэтазгоднасьці падбору моўнага матарыялу, што адлюстраваныя ў Атласе, інакш гаворачы, аб тым, якія й у якой ступені найважнейшыя й найбольш тыповыя дыялекталягічныя зьявы нашае мовы знайшлі адлюстраваньне ў Атласе, а якія ня ўзятыя на ўвагу. Ды й гэтае пытаньне, з прычыны абмежаванага разьмеру гэтага агляду, мы змушаныя абмінуць, абмяжоўваючыся адно агульнымі заўвагамі аб гэтай працы. Тым ня менней, удзячным заданьнем нашых мававедаў было-б прааналізаваць Атлас і з гэтага гледзішча, чым была-б зробленая бясспрэчная ўслуга для беларускай дыялекталёгіі. Кажучы агульна, «Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы» — гэта каштоўны здабытак для навуковага вывучэньня беларускае мовы. З гэтага гледзішча, беларускім мавазедам, што апрацоўвалі Атлас, належыцца поўнасьцяй заслужаная прызнаньне й удзячнасьць.

Аб'ектыўна падчыркваючы дадатныя якасьці Атласу, нельга не адзначыць і ягоных заганаў. Тым больш, што заганы гэтыя зьявіліся, праўдападобна, ня зь віны ўкладальнікаў Атласу.

Дармо што праца мае назоў «Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы», яна абыймае адно беларускую мову ў межах сяньняшняй БССР. Праўда, у гістарычнай часьці Атласу зьмешчаныя дыялекталягічная карта беларускае мовы, складзеная й выдадзеная ў 1903 годзе акадэмікам Я. Карскім, і карта беларускай мовы паводля «Дыялекталягічнай карты расейскай мовы ў Эўропе», эрыхтаванай у 1914 годзе Маскоўскай Дыялекталягічнай Камісіяй. Абедзьве карты абыймаюць усю беларускую моўную тэрыторыю, куды шырэйшую за тэрыторыю БССР.

У другой часьці разгляданага намі Атласу пазытыўна ацэньваецца праца праф. П. Бузука «Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі», выдадзеная ў 1928 годзе, і даецца кароткі агляд кажнай з 20-ёх картаў гэтае працы. Але нідзе няма й напаміну, што праф. Бузук не абмяжоўваўся на ўсходзе Беларусі межамі БССР, а йшоў датуль, дакуль сягала разгляданая ім дадзеная моўная зьява.

У 1960 годзе выйшла ў Маскве 3-яе выданьне працы праф. П. С. Кузняцова «Русская диялектология». Праца гэтая зацьверджаная Міністэрствам для настаўніцкіх інстытутаў. На прыкладзенай да гэтай працы дыялекталягічнай карце ўсе тэрыторыі беларускае мовы, не абнятыя картамі разгляданага намі Атласу, паказаныя, як моўна беларускія. Гэтаксама й на карце, прыкладзенай да 3-яга выданьня (Масква, 1962) «Исторической граматики русского языка» праф. П. Я. Чэрных, адзначаныя ўсе беларускія моўныя тэрыторыі вонках БССР. На загалоўнай вокладцы й гэтае працы адзначана: «Пособие для педагогических институтов».

Факт зацьверджаньня Міністэрствам Асьветы РСФСР абедзьвюх працаў у якасьці навуковых дапаможнікаў для вышэйшых навучальных установаў дастаткова сьветчыць аб тым, што і ў пытаньнях тэрытарыяльнага абсягу беларускае мовы гэтыя працы атрымалі афіцыйную апрабату з боку расейскага ўраду. З гэтага сам сабой напрашваецца высnaў, што расейскія вучоныя могуць у некаторых бяспрэчных пытаньнях, што датычаць Беларусі, быць аб'ектыўнымі. Затое беларускія вучоныя ў вывучэньні сваёй бацькаўшчыны імі быць ня могуць. Ведамы стары ленінскі прынцып, што расейскія камуністыя павінны быць за дзяржаўную незалежнасьць і права на аддзяленьне ад Расеі нерасейскіх народаў, затое камуністычныя прадстаўнікі гэ-

тых народаў павінны быць супраць скарыстаньня з гэтага права. Як яно не недарэчна, але выглядае, што гэты ленінскі палітычны прынцып пашыраны сяньня й на галіну навукі аб нерасейскіх народах.

На 338-ёх картах «Дыялекталягічнага Атласу беларускай мовы» бярэцца адно тэрыторыя сучаснае БССР, а ўсе сумежныя зь ёю тэрыторыі прадстаўляюць сабой белую пляму. Паза абсягам беларускае мовы пакідаецца гэткім парадкам вялікая беларуская тэрыторыя на поўначы, на ўсходзе ўся Смаленшчына, за выняткам тэй маленькай ейнай часткі (Амсьціслаўшчына), што ўсё-ж апынулася ў складзе БССР, на паўдні Браншчына й паўночная Чарнігаўшчына, што ўваходзяць цяперака ў склад РСФСР. Таксама белым абазначаная на картах Атласу беларуская Беласточчына, перададзеная пасьля апошняе вайны Польшчы. Як ведама, пасьля прылучэньня Заходняй Беларусі да БССР у 1939 годзе гэтая тэрыторыя разам зь невялічкай часткай чыста польскай тэрыторыі (Ломжыншчына й інш.) належала да БССР, а горад Беласток уважаўся навет сталіцай Заходняй Беларусі. Бяссумлейную беларускасьць гэтае тэрыторыі сьцьвярджае ўжо хоць-бы й той факт, што й сяньня там працуюць беларускія школы ды разгортваецца шырокая беларуская культурная дзейнасьць. Не абазначаная на картах Атласу й беларуская частка Віленшчыны, што разам зь Вільняй уваходзіць сяньня ў склад Літоўскай ССР, ані прылучаная яшчэ пастанаваю Рыскага трактату ў 1921 годзе да Латвіі беларуская Дзьвіншчына разам зь Дзьвінскам.

«Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы» зрэдагаваны гэтак, што на ягонай аснове навет спэцыялістыя мавазеды, але ня спэцыялістыя ў галіне славянскіх і беларускай моваў, могуць атрымаць зусім хвальшывае ўяўленьне аб тэрытарыяльным абсягу беларускае мовы. У іх лёгка можа стварыцца ўражаньне, быццам дзяржаўныя межы БССР ідэяльна пакрываюцца зь беларускімі этнаграфічна-моўнымі межамі. У беларускім савецкім друку паведамлялася, што пад канец 1964 году мела выйсьці з друку ў выдавецтве «Навука й тэхніка», праца калектыўнага аўтарства «Нарысы па беларускай дыялекталогіі». Можа быць траха пэўным, што гэтая нязвычайна патрэбная праца будзе збудаваная паводля тых-жа прынцыпаў, што й «Дыялекталагічны Атлас беларускай мовы». Гэткае абмяжоўваньне Беларусі й Беларусаў адно да тэрыторыі БССР пасьлядоўна праводзіцца ня толькі ў дачыненьні да беларускай мовы, але гэтаксама й у дачыненьні да гісторыі Беларусі, этнаграфіі Беларусі й наагул усіх зьяваў, што датычаць тэрыторыі Беларусі. Гэтак, прыкладам, у выдавецтве «Навука й тэхніка» выйшла ў 1964 г. у Менску праца В. Бандарчыка «Гісторыя беларускай этнаграфіі канца XIX ст.» Пры пісаньні гэтага агляду праца В. Бандарчыка ня была нам даступная. Але з рэцэнзіі на яе А. Мальдзіса даведваемся, што «абышоў увагай аўтар і этнічныя тыпы паўночных і ўсходніх ускраін Беларусі».*

Гэткім парадкам, як у «Дыялекталагічным Атласе беларускай мовы», гэтак і ў іншых навуковых працах пра Беларусь, што датычаць ейнае этнаграфічнае або гістарычнае тэрыторыі, выразна выяўляюцца палітычныя савецкія тэндэнцыі. Гэтак намагаюцца замацаваць сяньняшні палітычна-адміністрацыйны падзел Беларусі, стараючыся, наўсуперак навуковым дадзеным і элемэнтарным навуковым прынцыпам, стварыць уражаньне, быццам сучасная БССР абымае ўсю этнаграфічную тэрыторыю Беларусі.

**Ст. Станкевіч**

---

* Адам Мальдзіс. Дасьледуецца ўпершыню. «Полымя», № I, 1965, бач. 187.